**ЖНІВЕНЬ**





Мінск, 1971

Выдавецтва ЦК КП Беларусі

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3) і фота **В. Ждановіча** (стар. 93).



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Пятрусь **БРОЎКА**
- Уладзімір **ПАЎЛАЎ**
- Марк **СМАГАРОВІЧ**
- Мар'ян **ДУКСА**
- Алесь **НАЎРОЦКІ**
- Людміла **ЗАБАЛОЦКАЯ**
- Яўген **ВЕРАБЕЙ**
- Змітро **БЯСПАЛЫ**
- Надзея **ЗВЕРАВА**



● Пятрусь БРОЎКА





## *Вясновае*

Толькі, як гром прагучыць,
Зазелянее трава —
З ранку да самай начы
Поўна надзей галава.

Сэрца імкнецца з грудзей—
З ранку да самай зары.
— Хто ж цябе ўразіў і дзе? —
Можа спытаюць сябры.

— Хто ж гэта, што за яна?
Цікавіць нас выбар твой.
Я адкажу ім: Вясна!
Захоплены я Вясной!

Колькі пра гэта мар
Ткалі зімовыя сны —
Сонечны, ясны твар
У прыгажуні Вясны.

Вунь яна, поўная сіл,
Вочы — магутней зор,
Ажно па небасхіл
Ярка-зялёны ўбор.

Ходзіць паміж палёў,
Ходзіць, зазыўна пяе,
З цёплых, ласкавых вятроў
Доўгія рукі яе.

Кожны маленькі птах,
Музыка яе і наш,
Скрозь па шумлівых садах
Чуецца звонкі марш.

Дык бачыце, што за яна,
Які сёння выбар мой —
Мяне захапіла Вясна,
Захоплены я Вясной!



●

Мой шар зямны!
Ты ўвесь у поце —
Усіх карміць і апрануць,
Цябе ж снарадамі малоцяць
І бомбамі няшчадна б'юць.

Чакаю вельмі
Дня такога,
Каб сціхла скрозь. Не сплю начэй...
Бяда! Не меншыцца трывога,
Зямлю катуюць балючэй.

Зямля
Нас сілай надзяляе,
І нам з адною ёю жыць,
Калі ж надыдзе моц такая,
Каб гэты здзек магла скарыць!

## *Змаганне з тугою*

Ад самай раніцы смуга —
Згрызоты несціханыя,
Бывае, з'явіцца туга,
Зусім табой нязваная.

Туга. Адно сказаць магу,
Яна падобнай чуецца —
На бабу тую, на Ягу,
Ну, што з мятлой малюецца.

Адкуль наскочыць на мяне
У ранне бездакорнае
І так за сэрца ціскане,
Што стануць сцены чорныя.

Бывае, дзень — няма ярчэй,
Але тугой сурочыцца,
Яна нахлыне да вачэй,
Што ажно плакаць хочацца.

Як нейкі д'ябальскі павук
Па-над табой закружыцца,
Так растрывожыць галаву,
Аж валасы варушацца.

Глядзіш, туга як той удаў,
Як той каршун над хатаю...
. . . . . . . . . .
Ды я ніколі не даваў
Сябе зламаць праклятае.

Яе за горла смела браў.
Паганую і збродную,
Яе я ўранку адганяў
Рачной вадой халоднаю.

Вада тугу так скалане,
Што знікне за адхонамі,

Вятры ж узбуджвалі мяне
Шурпатымі далонямі.

І бачыў я— цвітучы дол
Са срэбрам-ручаінамі,
Бярозак сем'і навакол
З зялёнымі хусцінамі,

Узлёты ўзгоркаў і разгон
З імглістымі сасёнкамі,
Чуў неба незмаўкальны звон
Пад жаўрукамі звонкімі.

І песня родная здалёк
Мне чулася, віднелася,
Мой станавіўся цвёрдым крок,
І крочыць так хацелася.

Здавалася, твая вясна
Ізноўку набліжаецца...
А старасць што?—
Тады яна
Зусім не ўспамінаецца.

## Вішня

Ах, як ты ўся жывеш увішна,
Сваёй здзіўляеш пекнатой.
За ноч адну ты ўспыхнеш, вішня,
І ўся на ранку пад фатой.

Пад марш вясельны пчол з чмялямі
Бялюткім полымем гарыш...
Пасля вяселля ты вачамі
Зялёнымі на свет глядзіш.

Чым далей — чырванееш болей,
А лета стрэнецца з табой —
Панаразвешваеш на голлі
Без ліку кропелек з крывёй.

А іх сарвуць. Журботнай стаўшы,
Не разгубляешся ў жыцці,
Бо, ўсю красу людзям аддаўшы,
Ты марыш зноўку расцвісці.



Касмічных спраў майстры —
Сусвету
Скарылі сёння далягляд,
Іх розум абляцеў з ракетай
Вакол Венеры мнагакрат.
Цябе ж і не кранула гэта:
Ты недалёка бачыш, брат,—
Да столі толькі
І назад!



## Ты для мяне...

З адным не параўнаю—
З хлебам!
А так за ўсё,
За ўсё ты больш:
Ты для мяне
Зямля і неба,
Цяплынь і спёка,
Золь і дождж!

Калі ты ёсць,
Ну што мне трэба?
З цябе
Я не спускаю воч,
Ты для мяне
Зямля і неба,
Святло і морак,
Дзень і ноч!

Ідзі ж са мной
І мной не грэбуй,
Са мною
Не зазнаеш ран,
Ты для мяне
Зямля і неба,
Рачулка,
мора,
акіян!

Чытайце ў вераснёўскім нумары
вершы
Анатоля Вярцінскага,
Васіля Макарэвіча,
Рамана Тармолы,
Віктара Яраца

Уладзімір ПАЎЛАЎ



Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# НАС ПОЛЕ НЕ НАСЕЯНА

АПОВЕСЦЬ

## ЗАБЫТЫЯ БЫЛІ



Трапяткія язычкі свечак, уваткнутых перад абразамі, што віселі ў куце над сталом, трымцелі і кідаліся з боку ў бок у такт нягучнаму, працяжнаму — «...і ат агня, і ад мяча, і ад злога духа» і дружнаму, усё нарастаючаму прыпеву жанчын: «Госпадзі, памілуй... госпадзі, памілуй... го-о-оспа-адзі, па-а-амі-луй!»

Уперадзе, ля стала, стаяў сухенькі, акуратны ў сваёй невысокай паставе дзед Янка. Час ад часу ён схіляў клінок сваёй бародкі над тоўстай, у скураной вокладцы кнігай, якую трымаў у руках, чытаў далей малітву, ззаду яго адкашліваліся ў перадыху або выціралі кончыкамі хусцінак вусны пеўчыя, найбольш галасістыя маладзіцы. Дзед Янка праз нейкі момант клаў цяжкую кнігу на стол перад сабой, ускідваў перахрысціцца правую руку — і ўся хата да самай печы і расчыненых дзвярэй у сенцы пачынала шамрэць у цеснаце рукавамі — таксама хрысцілася. Гэты шорхат даходзіў яшчэ толькі да сянец, а ўперадзе зноў чуўся слабы, але чысты, як у дзіцяці, голас дзеда Янкі і адразу ж патанаў у хоры пеўчых.

Тады найбольш калыхалася полымя свечак.

Здавалася, што не толькі зыркія язычкі, а і самі жоўтыя васковыя цырубалкі пачынаюць матляцца, што іконы ў залачоных рамах, ахінутыя белымі ільня-

нымі наміткамі і ручнікамі, вось-вось не вытрымаюць хістання цяжкага, гарачага духу хаты і ўпадуць.

У хаце дзеда Янкі было душна, як і кожнае нядзелі, калі збіраліся амаль усе Дабрыні на маленне. Але той дзень выдаўся коўзкі, адлыжны, і вокны на двор былі адчынены насцеж. Гэта, можна сказаць, і ратавала Віцю ад задухі. Баба Васіліса прыйшла на маленне амаль не першай, прывёўшы за руку ўнука, і ўсадзіла «сваю сіраціну», як гаварыла яна, на лаве за сталом, пад самымі абразамі.

Віцю, хлапчуку гадоў дзевяці, з чорнай, пастрыжанай ножнамі ў радкі галавой, было мулка стаяць на каленях на цвёрдай лаве, і ён перамінаўся раз-пораз, але не ўставаў, не вылазіў, а глядзеў аддана на абразы, адкуль пазіралі на яго багі; расшчэпліваў з жывата рукі, калі пачыналі падводзіць прыпеў пеўчыя: «госпадзі, памілуй... госпадзі, памілуй... госпадзі, памілуй», яшчэ больш задзіраў бледны твар і тры разы асяняў сябе крыжам. Ён рабіў гэта са шчырасцю чалавека, які верыць, што яго чуюць і спагадаюць яму, а таму і яго малітва выратуе «ат агня і мяча, і злога духа» і яго самога, і бабу Васілісу, і бабіну хату, у якой ён жыве, і цётку Вольгу, і — самае галоўнае! — дзядзьку Алеся і яго, Віцевага, бацьку Міхаіла, бабіных сыноў, а цёткі Вольгі братоў, якія «мусібыць, не склалі недзе сваіх галовак, жывуць, б'юцца, калі нямчурэча праклятая брала-брала ету Маскву, а яна, гэнам, усё стаіць...» Так гаворыць баба.

Які ён, яго бацька, Віця лічы што і не помніць. Толькі калі пачынае расказваць баба, седзячы вечарамі з ім удваіх ля коміна ў цёмнай хаце, што маці Віцева памерла, нарадзіўшы яго, а «бацька прывёз малюпасенькага цябе — аж страшна падступіцца было — на мае рукі», ён нібы згадвае бацьку. Маці — дык не, як ні сіліцца. Таму аж да нядаўняга часу мамай ён называў бабу Васілісу, пакуль не адвучыла яго ад гэтага цётка Вольга. А бацьку — бацьку, здаецца, згадвае, бачыць, як цераз палатно: стройны камандзір у зялёнай гімнасцёрцы, перахопленай накрыж рамянямі, падкідвае пад столь ваўкаватага свайго сына, значыць, яго, Віцю, і ён усё наравіць вылузацца з бацькавых рук. Тады бацька апускае яго на ложак і гаворыць: «Скажы слова — рубель дам».

Той рубель ды новыя чаравікі — вось і ўсё, што засталося ў памяці Віці аб бацьку. Іншы раз хлапчук думае разважна: чаму гэта тата не прывёз аж некалькі пар чаравікаў? Навырост, на ўсю вайну каб хапіла. Тады баба Васіліса не аддала б амаль новыя вайсковыя боты, што засталіся пасля таго апошняга бацькавага прыезду перад вайной, дзядзьку Платону. Дзядзька Платон з аднаго бота пашыў Віцю даволі прасторныя такі чаравікі, пра якія баба гаварыла, што ім і зносу не будзе, а з другога — чаравікі сваёй, меншай гады на два за Віцю, дачцы Тані. «От, гэнам, і ўся плата і ўся страта,— сказала баба, вярнуўшыся ад шаўца.— Затое чаравікі, што каменні». Гэтыя «каменні», праўда, баба два разы ўжо насіла падбіваць усё таму ж Платону. Апошні раз, угарнуўшы ў хусцінку паўдзесятка яек, яна ўзяла выскаленыя Віцевы абноскі, сказала яму грозна: «Думала яечка вечарам даць, а так, гэнам...— трасцы! Во яны,— паказала на разяўленыя насы чаравікаў,— з'елі. Не румзай, бяры хлеб, ачарпні карэц вады ды — на печ. Ніякай вуліцы, гэнам. Сядзі дома, як рудая мыш у нары. Не выводзь мяне, гэнам, з сябе, не пагляджу, што без маці, без бацькі...»

А цяпер зноў яго чаравікі «просяць кашы». Віця сядзіць на каленях на мулкай лаве, перамінаецца. Адчувае пальцамі ног нешта вострае і ў адным і ў другім чаравіку. Шкарпэткі, звязаныя бабай з воўны, за зіму прадраліся, і голымі пальцамі ног, бы рукамі, адчуваюцца



цвікі. Гэта адчуванне аднак прыходзіць не часта, бо малы ўважліва слухае дзеда Янку і пеўчых, старанна хрысціцца. Ён нават не паварочваецца, ведае і так, што ў яго бок, а, значыць, і на яго, пазірае ўся хата і ў першую чаргу баба Васіліса, якая стаіць каля стала.

Раптам пабег ад сянец па хаце — шу-шу-шу-шу! — лёгкі пошумак, быццам вецер прайшоў поверху ўмёрзлага ў балота чароту. Вось вецер дакаціўся да пеўчых, да дзеда Янкі, да бабы Васілісы, да Віці...

— Немцы!

Перш чым хапіцца з лавы ўслед за бабай, якая ўжо тармасянула яго за калашыну: «бяжым, унучак», хлапчук паспеў вытыркнуць у акно стрыжаную галаву і сапраўды ўбачыў: немцы! Усё ж, мабыць, больш было паліцаяў, бо на тых некалькіх машынах, што хутка мільганулі на фоне плота і вішанніку пры вуліцы ўслед за прысадзістым зялёным бранявіком, іх аж чарнела ў кузавах, быццам гарлапастых гракоў на ліпах каля школы. Але лічыць машыны ці разважаць, хто ў іх, не аставалася часу — баба схапіла яго з лавы, адзела чорную куфайку з падкасанымі рукавамі, якую насіў унук, і пацягнула яго на двор, на вуліцу,— услед за людзьмі.

Усе стараліся подбегам, навыперадкі — хутчэй да свайго двара. Хто жыў з краю вёскі, а не ўсярэдзіне, як баба Васіліса з Віцем, ці не ў тым, другім ад дзеда Янкі канцы, кідаліся ў свае двары, як птушкі перад дажджом у гнёзды.

Машыны праехалі, зніклі за паваротам вуліцы, і аж да саменькага павароту людзей, здавалася, ветрам несла. Але там яны прыцішвалі хаду. З гэтай нагоды каго-нікаго, у тым ліку Платоніху з Таняй і старога Ігната, Віця з бабай усё ж дагналі. Ігнатаў двор быў якраз на заваротку вуліцы, і ён, бы ашпараны, шмыгануў у веснічкі, толькі кінуў цераз плячо некалькі вострых, асцярожных позіркаў на вуліцу: што будзе далей?!

Трымаючыся бліжэй да плота, асцярожна, як па гарачых вугаллях, людзі стараліся хутчэй прайсці страшнае месца, бо адразу ж за паваротам пасярод вуліцы стаяў зялёны бранявік, а вакол яго падковай, адзін паўз аднаго — паліцаі. Машын не было відаць. З бранявіка, высунуўшыся напалову, нешта гергетаў немец, а перакладчык, які стаяў унізе, каля напаўадчыненых дзверцаў машыны, перакладаў тую гергетню паліцаям. Ні немец, ні паліцаі не звярталі ўвагі на рэдкі ланцужок людзей, які абцякаў іх,—пэўна, спынялі першых і пыталіся, адкуль валіць столькі народу.

Затаіўшы дыханне і моцна ўчапіўшыся за бабіну руку, праслізнуў паўз плот і Віця. Праслізнуў, і — нібы гара з плячэй звалілася, хоць трывога хлапчука зусім не пакінула. Ён ведаў, што яго бацька і дзядзька б'юцца з немцамі на фронце, а бацька ў дадатак чырвоны камандзір. Так што калі трапіш немчуры ў рукі, «то, гэнам, скуру злупяць і нацягнуць на барабан». Барабанам, вядома, баба палохае, але Віця не хоча, каб немцы рабілі нават і першае — лупілі з яго, як з той авечкі, скуру.

Баба Васіліса пайшла ў хату, кінуўшы напаследак: «ты ж, гэнам, глядзі», і Віця застаўся на вуліцы. Так ужо ўсталявалася, што калі ў вёсцы немцы ці паліцаі, то дамоў яму дарогі няма. Трэба знайсці кампанію хлапчукоў і гуляць з імі, цікуючы ўвесь час за хатай, не заходзячы дамоў, бо там якраз можа і робяць той «барабан» фашысты. І як ні шкада было яму бабы і цёткі Вольгі, як ні сціскалася сэрца, ён павінен быў знаходзіцца на вуліцы, сінець ад холаду ў бабінай куфайцы, стукаць нага аб нагу ў калісьці «каменных» сваіх чаравіках, аж пакуль няпрошаныя госці не выберуцца з вёскі. Такі для яго быў

парадак. Не парушыў яго Віця і цяпер. Застаўшыся на вуліцы, ён убачыў недалёка, насупраць Платонавай хаты, Ігнатавага Петрака і яшчэ некалькі хлапчукоў і падаўся да іх.

...Дзеці трохі пакідаліся снежкамі, трохі паштурхаліся адзін аб аднаго, каб сагрэцца. Паспрабавалі зляпіць снегавіка, ды так і кінулі вялікі ком снегу — як папхнуць удвух — каля плота. Усе цікавалі: што робіцца на вуліцы? З таго канца вёскі, куды паехалі машыны, чуваць было фырканне матораў ды ўсё нарастаючае жаночае галашэнне. Каля браневіка тым часам таксама засталося некалькі паліцаяў, астатнія разышліся ў розныя канцы вуліцы. Купка паліцаяў шыбавала і ў напрамку Платонавай хаты, перад якой гулялі дзеці.

Хлапчукі прыціхлі.

Двое паліцаяў завярнулі ў двор да Платона, астатнія пайшлі далей. Насустрач ім выпаўзала з-за вялізнай гурбы машына з паднятымі бартамі. Уперад і абапал бартоў высоўвалі галовы каровы.

Кароў забіраюць!

Тыя двое паліцаяў, што падаліся на падворак да дзядзькі Платона, былі неаднолькавага росту. Адзін быў дзябёлы дзяцюк, шынель на іх плячах ледзь не раздзіраўся... Другі — так сабе, ніштаваты хлопец. «Як Іван Трахімаў»,— параўнаў яго ў думках Віця і спалохаўся. А раптам хто здагадаўся, што ён падумаў пра Івана, сына іх суседа дзеда Трахіма, а раптам злавілі яго думку паліцаі?! Іван, калі прыходзіць з партызанаў да цёткі Вольгі гуляць, дае яму патрымаць вінтоўку. Праўда, разраджаную, бо баба і цётка Вольга жахаюцца, каб чаго не выйшла. З-за гэтага «каб чаго не выйшла» Віцю сотню разоў уталкоўвалі трымаць язык за зубамі пра тое, што ён чуў і бачыў. У Дабрынях гэта ні для каго не была тайна, ды і не адзін Іван партызаніць. Але Віця не маленькі, не выдасць.

Той, меншы паліцай, падобны на Трахімавага Івана, пастукаў у пярэдняе акно Платонавай хаты, ляпнуў фарбаванай аканіцай, мабыць, для таго, каб лепш яго пачулі ў хаце, і патупаў услед за дзецюком, які не спыняючыся папраставаў да ганка.

На ганак хуценька выйшаў дзядзька Платон. Ён быў такі ж мажны, як і той дзябёлы паліцай, што ўжо тупаў ля ганка, падкідваў за спіну вінтоўку, якая ўсё адно спаўзала з крутых ягоных плячэй. Паліцай гэты трошкі адышоўся, пастукваючы рукамі ў цёплых рукавіцах, быццам на дварэ была халадэча і ён грэў так пальцы. Гаворку аб нечым — з вуліцы не чуваць — пачаў меншы. Ён пазіраў на дзядзьку Платона знізу ўверх, і дзядзька змікіціў, што з панам паліцэйскім размаўляць так непачціва,— зашлэпаў у чырвоных бахілах на босую нагу з прыступак на снег. Дзядзька Платон паспеў, як бачна было, пераабуцца, бо ён заўсёды хадзіў у дабрэнных ботах, а тут, перад паліцаямі, з'явіўся ў бахілах на босую нагу. Пашытыя з шыняля і перафарбаваныя ў чорнае суконныя штаны, расхрыстаная на грудзях даматканая кашуля, чырвоныя бахілы, што аж ступні ў іх, здавалася, таксама павінны быць чырвонымі, памарожанымі гусінымі лапамі,— увесь дзядзькаў выгляд выдаваў такім няшчасным і кіслым, што шкада рабілася, гледзячы на яго.

Малы паліцай штосьці ўсё гаварыў. Не маўчаў і дзядзька. Ён паволі, неўпрыкмет падступаў да паліцая, працягваў да яго грудзей руку, бы збіраўся — цаца-цаца! — пагладзіць. Але вось меншы паліцай адвёў дзядзькаву руку і штосьці сказаў свайму напарніку. Той як бы толькі і чакаў каманды — пакінуў дзядзьку, прутка павярнуўся і пайшоў да хлява. Дзядзька Платон кінуўся за ім наўздагон, заскочыў напярэймы і штосьці сваё: ду-ду-ду-ду! — хуценька так, не разабраць, пачаў угаварваць. Тады вялікі паліцай нечага раззлаваўся, адштурхнуў яго і гучным басам, які нібы адпавядаў яго магутнай фігуры, злосна, з раздражненнем сказаў:

— Адчапіся са сваёй самагонкай! І без яе моташна. Рабі, што загадваюць!

Усе трое падаліся ў хлеў. Цётка Агапа да гэтай хвіліны сачыла з хаты праз шыбу акна за мужыком і паліцаямі. Але як толькі расчыніліся вароты хлява і ўсе схаваліся ў чорнай яго зеўры, выскачыла на двор і кінулася ўслед. За маці выбегла на ганак і Танька. Спынілася на ганку, пазірала то на іх, хлапчукоў, што стоўпіліся каля варотаў на вуліцы, то ў бок хлява.

У хляве пачалася нейкая валтузня, затым пачулася галашэнне цёткі Агапы, аж Танька на ганку таксама зарумзала і, адступаючы, боязна пасунулася ў сенцы.

А здаравейшы паліцай выводзіў ужо залыганую дзядзькаву цялушку. Ён цягнуў яе на вяроўцы. Цялушка круціла галавой і не хацела выходзіць на двор. За рукавы паліцая, за вяроўку, на якой валок ён цялушку, хапалася цётка Агапа — прасіла злітавацца, «не пускаць іх з торбай па белым свеце».

Нарэшце цялушку павялі цераз двор. Прыкладам падганяў яе пад бок меншы паліцай. А побач з ім ступаў і дзядзька Платон і таксама нешта даказваў, прасіў.

Каля ганка цётка кінулася на калені перад паліцаем, перад цялушкай, але здаравяка бы і не заўважыў яе, абышоў стараной. Тады наперад забег дзядзька Платон.

— Стой! Не дам, не пушчу! — рашуча выгукнуў ён.

Да дзядзькі падскочыў меншы:

— Сыдзі з дарогі! З дарогі сыдзі, табе гаворыць, а не то і карову зараз выведзем!

Ля двара ўжо стаяла машына і нецярпліва сігналіла. Некалькі кароў стаялі ў яе кузаве, злосна фыркалі. З адкінутага задняга борта з'язджалі наўскасяк на зямлю дошкі. Абапал бакавых бартоў стаяла па немцу, гатовых прыняць вяроўку з цялушкай. Адзін смяяўся, гледзячы на тое, што адбываецца ў Платонавым двары, а другі маўчаў, надзьмуўшыся, як сыч, і толькі камандаваў раз-пораз паліцаям: «Пуф! Пуф!». З дальняга канца вёскі неслася бязладная страляніна, і немец-сыч бы падахвочваў яе і тут: «Пуф! Пуф!»

Да першай машыны падпаўзала другая, гружоная. Таксама сігналіла.

Абодва немцы азірнуліся. Злы сыч раз'ятрыўся не на жарт ад бесталковай валтузні на двары, зароў амаль дзікім голасам на паліцаяў:

— Шысэн! *

Паліцаі, цялушка, Платон з Агапай — усе ўжо вылузваліся з расчыненых веснічак на вуліцу, як дзядзька Платон апошні раз заскочыў наперад большаму паліцаю:

— Ты не бярэш... не бярэш, у каго трэба,— душыўся ён гневам і слінаю.— Вунь краснага камандзіра хлеў! Ты быў у ім? А маё, маё кроўнае з двара — валачэш?!

У Віці пахаладзела ўсё ўсярэдзіне, калі пачуў ён гэтыя нечаканыя словы, калі ўбачыў, як узмахнулася Платонава рука і паказала на бабін хлеў, дзе стаяла іх карова. Праўда ці не, а здалося яму, што перажагнуўся Пятрок Ігнатаў і бы стаў на момант, апруцянеў меншы паліцай. Прымоўклі і немцы на машыне, з непаразуменнем зірнулі ў той бок, куды паказаў дзядзька Платон.

* *Шысэн!—страляй!* (ням.)

Меншы паліцай аднак хутка акрыяў, падскочыў, як певень, да разгневанага дзядзькі, закрычаў:

— Ты што ж, адкормленая твая морда, сядзіш у запечку, а вялікая армія Адольфа Гітлера пад Сталінградам крывёю абмываецца!.. Камандавац яшчэ нам будзеш?!

Немцы ў кузаве, пачуўшы пра Гітлера і Сталінград, згодна заківалі галовамі, залапаталі штосьці сваё. Злы сыч у дадатак каўзануў з грудзей пад паху аўтамат. Але яго апярэдзіў большы паліцай. Ён неяк самавіта апусціў напятую вяроўку, перадаў яе ў рукі меншаму, паволі ступіў да Платона і — ррраз! — з усяго размаху. Не паспеў дзядзька ўсчопацца на калені, як ён яму другі раз — ггэх! — аж юха з носа!

Дзіка загаласіла цётка Агапа. Кінулася да мужыка, пачала падымаць. А ён ужо і сам уставаў. Зачарпнуў пяцярнёй снегу з-пад ног, паднёс да твару. Снег у яго руках адразу набрыняў, зрабіўся чырвоным. Па руцэ са жмені да локця пацякла брудная сурога. Кроў капала на кашулю, на штаны, на чырвоныя, уздзетыя на босую нагу, бахілы.

Хлапчукі, утрапёныя, сядзелі на лаўцы ні жывыя ні мёртвыя. Пазіралі, як прымоўклая цётка Агапа паштурхала свайго гаспадара ў хату, і не заўважылі, як падскочыў да лаўкі немец-сыч. Ён замахнуўся цыбатай нагой па іх вераб'інай чародцы, быццам касой па радку травы.

Віця не памятае, як зарыўся носам у снег, нібы дзядзька Платон ад удару большага паліцая. Хлапчук падхапіўся на ногі і стрымгалоў памчаў даганяць Ігнатавага Петрака з астатнімі хлапчукамі, якія ад страху несліся па вуліцы навыперадкі далей ад гэтага месца.

Вярнуўся дамоў Віця толькі падвечар, калі бранявік, машыны з каровамі і паліцаямі пакінулі вёску.

— Ну, гэнам, паглядзеў цырк? — баба ўжо ведала, як «касіў» іх немец-сыч. Схапіла Віцю за руку, не даўшы нават распранушца, задрала куфайку і — трапкача, трапкача! — «каб ведаў, гэнам, як пад рукі злыдням лезці! Каб ведаў! Каб ведаў!» — і — трапкача...

Адбараніла цётка Вольга, сілком вырвала ў маці. Распранула, выцерла слёзы, адаслала, заплаканага, на печ.

Такая «прафілактыка» ўчынялася Віцю не першы раз. І ён хныкаў толькі так, дзеля прыліку, каб паказаць, што ўшчунулі яго ўсё ж дарэмна, што баліць тое месца, куды дасталося трапкачом, хаця балець перастала тады, калі баба кінула яго хвастаць. І Віця хныкаў, не пераставаў. Ужо і баба, і цётка Вольга кідалі нездаволеныя позіркі ў яго бок: «Перастань, гэнам!», «Даволі, Віця. Вялікі хлопец, а плачаш». Віця аднак не пераставаў. Цяпер ён ужо зарабляў на хлеб. Хоць печ і цёплая і добра на ёй пасля дзённых прыгодаў, але ў дадатак хацелася есці.

Нарэшце цётка Вольга здагадалася падаць яму за комінак міску крупніку і лусту хлеба.

Пад'еў — павесялеў. Крыўды як і не было. Усё забылася. Цяпер ён з цікавасцю пазіраў на занятак бабы і цёткі. А тыя паздымалі са сцяны зашклёныя рамкі з фотакарткамі, расклалі на стале, нешта там перабіралі: «Гэту выняць трэба». «І гэту. А гэта няхай застанецца».

— Баба, во баба, навошта вы карткачкі чапаеце?

Ніхто яму не адказаў.

— Цётка, во цётка, што вы робіце?

Адказала баба.

— Заходзіць, гэнам, да нас паліцай... Пакінь, Волька, пакінь Валодзеву. Ён жа яшчэ ў Манголі, царства яму нябеснае... Можа не прычэпяцца... Пахадзіў, гэнам, па хаце, на картачкі зірнуў. «А гэта хто?» — пытаецца і тыцкае ў картачку твайго бацькі. «Гэнам,— адказваю,— сын мой, Міша. На хронце недзе». Зірнуў ён на мяне, на Вольгу. «Зняць,— кажа,— трэба. У скрыню пакласці...» Вось мы і знімаем.



Віця слухае расказ бабы і дзівіцца: хіба толькі дзеля гэтага заходзіў у іх хату паліцай? Той, меншы, што забіраў у дзядзькі Платона карову. Віця бачыў, як заходзіў. А чаго? Нават баба і цётка Вольга не ведаюць. Адно толькі ясна для бабы:

— Усё ж, гэнам, і сярод іх людзі ёсць...

Гэта для Віці баба Васіліса — Васіліса, для ўсіх астатніх у Дабрынях яна Кастыніха. Яе мужык, а Віцеў дзед, зваўся Кастынам. Дзеда застрэлілі некалі кулакі з абрэза проста на прыгуменні. Ад дзеда засталася добрая памяць у людзей, як гаворыць баба Васіліса Віцю, ды прозвішча падворнае — Кастынавых. Вольгу завуць Кастынавых дзеўкай, Віцю — Кастынавых хлапчуком, а бабу дык стары і малы — Кастыніхай. «Хадзем бо к Кастынісе пагуляем». Альбо: «Занясіце дзіця Кастынісе, няхай пашэпча, жывоцік і паправіцца».

Якая з бабы шаптуха — Віця ведае. Зусім яна не знахарка, як гаворыць Ігнатаў Пятрок. Віця неаднойчы бачыў бабчына «дактараванне».

Асабліва добра лечыць яна жываты. Прынясе, бывае, якая цётка сваё малое, а яно, спавітае, верашчыць, аж заходзіцца. Баба падыдзе да яго, адхіне пакрывала з тварыку, пацмокае языком, пазабаўляе. Глядзіш, малое на мінуту і аціхае. А баба тым часам у шахаўцы перастаўляе ўжо гладышкі, шукае патрэбны, у якім на гэтую хваробу зёлкі і карэнні прыхаваны. Выме чыгунок цёплай вады з печы, укіне пучок травы, накрые чыгунок зверху скавародкай, каб лепш упарылася тое зелле. Пакуль яно ўпарыцца, баба распране малое, пакладзе на засланы палок. «Глядзі бо, гэнам, каб не ўпало»,— загадае маладзіцы. А сама ўжо ціскае ў пальцах хлебны мякіш, скачвае яго ў галушачку. Налівае з чыгунка настою ў ступку, знаходзіць лыжку ў шуфлядзе стала. А дзіця аж енчыць. Стрыжэ ножкамі. Малы тварык збіраецца ў маршчыны. Сама маці, здаецца, вось-вось заплача над ім. Але не плача, трывае. Пазірае: што там робіць баба Кастыніха, ці скора яна прыйдзе пасобіць?!

Тады наступае самы ўрачысты і чарадзейны момант.

Баба Васіліса тупае ад загнетка, дзе яна налівала настой, да палка, да малога крыкуна. Зачэрпвае лыжкай са ступкі гарачую вадзіцу, прыўзнімае лыжку і цэдзіць булькатным струменьчыкам назад у ступку. Фф-у-у! Фф-у-у! — студзіць на хаду. У руцэ, якой яна трымае ступку,— і той шарык хлебнага мякіша. Баба аддае настой маладзіцы, загадвае студзіць яшчэ, бо «гэнам, дзіця малое, не тое, што мы, яму і гэнага хопіць, каб апячыся».

Маладзіца старанна студзіць гарачую вадзіцу. Баба загольвае жывоцік яе дзіцяці, цмокаючы языком над малым. А рука яе з хлебным мякішам усё ніжэй, усё ніжэй апускаецца, быццам да раны. І вось хлебны шарык пакаціўся. «Качу, качу па тваіму жывату. Каб заўсягды — ні ліха, ні біды. А хваробу тваю — на сухі лес, на галоднага воўка, у чыстае поле. Амінь!» З усяго загавору магічным і загаворным словам толькі і было хіба апошняе: «Амінь!». Баба Васіліса паўтарае сваю малітву некалькі разоў. Дзіця паступова перастае крычаць, услухоўваецца. Ножкамі ўжо не стрыжэ бязладна, а спрабуе прутка

выцягнуць, сагнуць іх — у залежнасці куды: уверх ці ўніз, да галоўкі ці да ножак пакаціўся пад бабінай рукой хлебны шарык. «Астудзіла?» — пытае яна маладзіцу. І калі тая згодна ківае: «Астудзіла, астудзіла, бабко», загадвае: — «Дай яму лыжачкай, час ужо». Маладзіца расчэплівае малому рот і ўлівае настой. Дзіцё моршчыцца, круціць галоўкай. Папярхнуўшыся, пачынае плакаць...

Зноў коціцца хлебны шарык, зноў прыгаварвае баба: «Качу, качу па твайму жывату... Амінь!» Гаворыць да маладзіцы: — «Набяры лыжку ды дай мне. Галоўку прыпадніміі, а то, гэнам, і захлынуцца можа... Качу, качу...» — а лыжка з вадзіцай ужо каля бяззубага роціка малога. Во яно выпрастала ножкі, хаўкнула ад задавальнення, і ў гэты момант некалькі кропель з лыжкі капнулі на яго пунсовыя дзясны, пацяклі ўніз. Дзіця каўтанула горкую ваду, зморшчылася. Але заплакаць не заплакала. «Качу, качу...» — і зноў тое ж самае...

Пакуль тры лыжкі настою не ўліе баба Васіліса малому, не адступіцца. Няважна, будуць тыя лыжкі поўныя ці няпоўныя, але — тры, не менш. «Такі, гэнам, закон, каб тры».

Баба гаворыць апошняе «амінь!», затульвае малому жывот кашулькай, а зверху — лёгенька, каб не націснуць — пялёначкай. «Хай паляжыць, пройдзе»,— гаворыць яна, а сама ідзе прыбіраць чыгунок з загнетка, ладаваць гладышкі ў шахаўцы.

І праўда, боль у жывоціку дзіцяці, мабыць, атухае, бо яно, супакоенае, ні то спіць, ні то дрэмле. Шчаслівая маці не адводзіць ад яго вачэй...

Так працягнецца колькі часу ў маўчанні, а затым баба загадае маладзіцы спавіць дзіця як належыць, панасіць па хаце. Жанчына паслухмяна ўсхопіцца і: «чукі-чук, чукі-чук!» — пайшла па хаце. Трохі раскатурхаецца і малое, павесялее. Глядзіш, а яно пацягнулася ўжо ручкай да маміных валасоў.

«Дзякуй бо вам, бабко. Вялікі дзякуй!» — дзякуе маладзіца, збіраючыся дамоў... «Хай, гэнам, здаровенькае будзе. Ідзі ўжо, ідзі... Мяняй пялёнкі, гэнам»...

Пойдзе маладзіца, а з ёй і новая бабіна слава: «Ты скажы! — Кастыніха хваробу як рукой здымае!..»

Баба Васіліса прынесла аднаго разу святое пісьмо. У тым пісьме было напісана, што адзін чалавек бачыў у сне прарока, размаўляў з ім. Прарок страшна абураўся, што людзі забылі бога. Адсюль — і вайна, і хваробы, і розная немач. Калі блудныя авечкі («Пра людзей, гэнам», — растлумачвала баба) адумаюцца, то няхай пакаюцца. Бог раскайным даруе. Тады — і вайне канец! Дзеля гэтага і святое пісьмо трэба дванаццаць разоў перапісаць і раздаць дванаццаці чалавекам.

Хто-хто, а Віцева баба хацела канца вайны, як ніхто іншы. Адно падводзіла — грамата. Баба ледзьве чытала па складах, дзе ўжо ёй перапісваць дванаццаць разоў тое святое пісьмо! Не мог выручыць і Віця. Меўся ён увосень ісці ў школу, а летам — вайна! Выбачай, ягамосць, Аляшкевіч Віктар, вось я, вайна, скончуся, тады і вучыся грамаце, калі ласка!.. Заставалася цётка Вольга. У яе за спінай—сем класаў.

Баба і падступілася да Вольгі. Спачатку сказала тонам загаду: «Пісьмо гэна перапісаць трэба, як там напісана». Але ў Вольгі, на тую бяду, не аказалася пад рукой алоўка. Тады баба стала на лаву, памацала недзе за абразамі і з такім выглядам, нібы дзядзька Платон Віцю ігрушу даваў, падала агрызак алоўка цётцы Вользе. Аловак знайшоўся, дык жа не знайшлося часу — трэба карову даіць. Баба Васіліса сама пайшла ў хлеў, абы толькі Вольга перапісвала пісьмо. Баба пайшла, а цётка Вольга — лахі пад пахі, падміргнула Віцю ды... следам за дзедам, за бабай, значыць. Гуляць пайшла. От табе і ўся пісаніна!



Назаўтра баба паспрабавала ўзяць Вольгу ласкай: «Перапішы, доню, пісьмо гэна». Дык жа ў цёткі Вольгі не аказалася на гэты раз паперы. А дзе ты яе возьмеш, тую паперу, калі крамаў няма, сшыткаў ніхто не прадае. Баба Васіліса ўзлавалася не на жарт: «Калі, гэнам, Іванавы афішкі пра Сталінград перапісваць, дык у цябе і папера, і аловак ёсць, а калі святое пісьмо — у цябе нічога няма. Рукі, гэнам, пададпадаюць!..» «Дурасць гэта, мама»,— адказала цётка Вольга. «Глядзі, гэнам, у мяне,— пагразілася баба.— «Дурасць!» Гэна абарона наша, а не дурась...» «Абарона наша, мама, на фронце ды ў лесе,— запярэчыла цётка Вольга.— А пра афішкі вы дарма гаворыце. Не перапісвала я».

Перапісвала, перапісвала, Віця сам бачыў. Хай не маніць!

Пісьмо паляжала некалькі дзён у хаце некранутым, а пасля баба некаму яго аддала. На тым і скончылася.

Затое ў новай святой справе папускацца яна ўжо не збіралася.

Навокал па вёсках рабілі вялікія драўляныя крыжы і ставілі па абодва канцы вуліцы — на ўездзе і выездзе. На крыжах прымацоўвалі распяцце або ікону, ахінал ручнікамі, абвязвалі пярэднічкамі, жмутом саломы, як сноп перавяслам. Крыж укопвалі раніцой, да ўсходу сонца. Да гэтага часу ўсё мелася быць гатовым: святы хлеб, спечаны да сонца, ручнікі і пярэднічкі, спрадзеныя і вытканыя таксама да ўсходу сонца. Баба тлумачыла Віцю, што ноч — «гэна святы час». А калі сонца ўстане, тады людзі пачынаюць грашыць. Цікава было Віцю: навошта ж кожны дзень бог выпускае на неба сонца, хіба ён хоча, каб грэшнікаў станавілася больш? Але баба адказала, што думаць так — таксама грэх, і адправіла яго спаць: — «Заўтра, гэнам, пабуджу раненька, прасці будзем».

— Дык жа я чула, што мужчынам нельга на святыя наміткі прасці. Грэх,— умяшалася цётка Вольга.

— Ён яшчэ не мужчына. А працаваць на святую справу — які, гэнам, грэх?!

Пабудзіла Віцю цётка Вольга:

— Уставай, папрадуха! Скора сонца ўзыдзе...

Спачатку ён не сцяміў, што да чаго. Пасля ўспомніў: з бабай трэба прасці на святыя наміткі.

У хаце было яшчэ цемнавата. Неба ў вокнах, бы нейкае млоснае, зацягнутае нерухомай хмарай, святла сеяла мала. Мабыць, збіраўся дождж.

Віця аж сцепануўся ад думкі, як будзе золка на дварэ пасля цёплай пасцелі. Аднак падхапіўся, пабег.

На дварэ і сапраўды было халаднавата, нібы стаяў не канец лета, а сярэдзіна восені. Халодная сцежка пяклася ў пяткі. Неяк волка, хоць і без расы, сцебануў па каленях бульбоўнік. Цёплай была толькі нядаўна вывернутая сырая зямля ўскрай загона. Відаць, нядаўна цётка Вольга капала тут маладую бульбу на сняданак. Ага, яна! Бо калі Віця выскачыў на двор, цётка намывала бульбу ў цэбрыку каля плота. Эх, што за яда будзе са свежым расолам!

Адразу ж, як толькі вышмыгнуў на двор, ён пачуў і пах свежага хлеба. Мабыць, Ігнаціха пякла святую перапечку. Пах бы слаўся понізу. Лез у нос, у грудзі, дыхаць неяк станавілася лягчэй. Гэты дух, выпараны з Ігнатавага коміна нязвыкла рана, заслаў нібы ўсё нава-

колле пахам падышоўшага цеста, падгарэлага кляновага лісту, кіслай дзяжы.

Хлеб у Дабрынях,— калі было з чаго,— саджалі на лапатах на чыста вымецены, раскалены да белага под печы. Зачынялі юшку, прыстаўлялі чым-небудзь засланку, каб не выходзіла цяпло. Але хіба ўтрымаеш чым-небудзь хлебны пах!.. Недзе падчас абеду хлеб вымалі. Гарачыя скарынкі мазалі яечным жаўткам або заваранным загадзя крухмалам. Каб кулідкі блішчэлі, аж ясніліся! Каб хлеб сам у рот прасіўся. Сіняватага крухмалу на далонь — і па скарынцы: шорх-шорх-шорх... Ах, горача! Ах, яшчэ тры перапечкі засталося... Дзве... Адна... Усё! Тады за хлеб — ды за дзверы, у камору. Няхай стыне... З гэтай нагоды ўсе сенцы ў Дабрынях,— да каго ні зайдзі! — аж распірае ад хлебнага паху. Як камору дзядзькі Платона ад садавіны.

Віця кінуў позірк у бок дзядзькавага саду. «Гэта ж думаць,— успомніў ён жальбу цёткі Агапы бабцы Васілісе: — нашай Таньцы яблыка ў рот не ўбіць, а ад чужых дзяцей адбою няма, хоць махалам махай». Гэта ж думаць, смаркатая Танька як запанела! Быў бы ў Віцевай бабы такі сад, то паглядзелі б, як трэба «ў рот убіваць». Рраз! — толькі й бачылі той яблык ці ігрушу. У бабы на прыгуменні растуць сліва і некалькі вішань. То Віця ўсе іх галінкі ведае, як свае пяць пальцаў. А яна, Танька тая, яблыкаў не хоча...

У Платонавым садзе свісталі івалгі. Хораша гэтак, адрыўна. Яны кожнае раніцы свішчуць. Мабыць, вядуцца там. Недзе ў засені іх гнёзды, бо абапал межаў, з аднаго і з другога боку, жывым плотам абступаюць сад высозныя кляны і ліпы. Івалгі любяць высокія дрэвы. Каб ніхто ім не перашкаджаў, каб ніхто не дастаў. Вунь і на ліпе за Ігнатавым агародам таксама гняздо івалгі. Хлопцы не раз бачылі там жоўтую, прыгожую птушку. Слухалі, як спявае. А Пятрок Ігнатаў з зямлі — трэба ж! — разгледзеў цераз галіны, цераз лісце і гняздо. На самай макаўцы высокай ліпы. У гняздзе, як праверылі, аказалася яечка. Кожны дзень хлопцы лазяць цяпер на гледзіны. Ліпа—нічыя. Значыць, кожнаму можна. Іншы раз, праўда, Петраку бывае не пад каўтун, ён сцвярджае, што ліпа іх, паколькі расце за іх агародам. Але гэта бывае нячаста. Лезь, у каго штаны цэлыя, пазірай на тое гняздо, пакуль не пазелянееш.

У хаце,— калі Віця вярнуўся,— баба прала ўжо. Белы, з серабрыстым адлівам кужаль пад яе рукамі ўмомант наматваўся ніткай на ручайку. Нітка тоненькая, як волас, а перарваць — паспрабуй перарві, калі яна скручаная дай божа як, калі яна цягнецца за ручайкай і звініць, як струна.

Баба сядзіць на прасніцы на лаве. Левай рукой прытрымлівае пачатак ніткі ў барадзе кужалю, каб не абарвалася, а правай ставіць у прыпол ручайку. Вялікім пальцам — пстрык! — знімае вузельчык з кончыка верацяна. Затым гэтым кончыкам: круць-круць-круць! Ручайка і закруцілася, намотваючы нітку. Правай рукой баба адвяла ўжо нітку за сябе і пасабляе ёй намотвацца. Наматалася да самай куклы кужалю. Тады нітку між двух пальцаў — во так, так, сагнуць, верацяном туд-сюд падчапіць, і — ручайка завязана. Самаробны нітачны аплічок не дасць ёй распусціцца.

Пальцы, якімі баба скубе кужаль, белыя, з далікатнай скурай, як на ступнях у малога дзіцяці. Яна іх наслініць,— ад чаго, бывае, у куточках губ астаецца каліва кастрыцы, гэта тады, калі кудзелю прадзе, — і з барады кужалю: скуб-скуб-скуб! — аж прасніца пагойдваецца. А ручайка ўжо звініць. Даволі бабе крутнуць яе некалькі разоў у пальцах, як яна аж свішча: цці-і-шш-ш! Усё ніжэй, ніжэй да падлогі. Стукнулася. Тады баба не адварочваючыся нахіляецца, па нітцы знаходзіць верацяно і — зноў у прыпол. Зноў наматвае нітку...



— Ідзі бо, унучак, ідзі. Не бойся. Скоранька ўсё рабі. Я, гэнам, і верацяно табе запрала.

Пад бок тугой кужэльнай куклы і праўда — бачыць Віця — падаткнуты жмут рыжай кудзелі. Які работнік, такі і матэрыял, нічога не зробіш. Ды Віця і не крыўдзіцца. Не прасці ж яму, мужчынам быўшы, увесь век. Няхай гэта робяць жанкі. Яго абавязак знасіць тое, што спрадуць, выткуць ды пашыюць. У той год, як пачалася вайна, зняла баба Васіліса прасніцу з гарышча, пачала прасці. Затым і кросны паставіла, палатно пачала ткаць. Як паглядзеў Віця, з чаго яму абноўкі будуць шыць, запярэчыў, зарокся: «Не буду штаноў з нітак насіць!» «Насіцьмеш, гэнам. Крамнае перавялося, а голым целам страміць мяне не будзеш». Пагарачыўся тады Віця, што ні кажы. Насіў і носіць усё з бабінага палатна. Ды і таго не набрацца, калі на ім усё па жывому ляціць, як гаворыць баба.

Віця вымае запрадзенае і заткнутае за куклу кужалю верацяно, пачынае смыляць сваю кудзелю.

Уваходзіць з чыгунком намытай бульбы цётка Вольга. Завіхаецца каля печы. Пасмейваецца з Віці:

— Адзяўчурышся. Не ўгледзіш і калі адзяўчурышся за прасніцай.

За Віцю заступаецца баба:

— Вот не кажы, гэнам, абы-чаго. Хай і яго нітка будзе. Яго ж, а не чые бацька і дзядзька — там! — баба ківае за акно, на двор, некуды далёка-далёка...

Удзень, калі знеслі з усёй вёскі, хто колькі напраў да сонца, пачалі снаваць наміткі. Прынеслі вялікую, як пустую раму, сноўніцу з убітымі драўлянымі крукамі па ўпарочынах і пачалі снаваць. Клубок быў у руках Ігнацíхі. Яна хадзіла ўзад і ўперад за бабай каля сноўніцы, і клубок увесь час круціўся. Былі і яшчэ жанчыны — памагатыя. Хто змотваў ручайкі ў клубок, а хто, як цётка Агапа,— на калаўроце ў маткі. Круцíць Віцю калаўрот — адна маркота. Толькі тое і рабі, што спыняйся, каб цётка Агапа звязала парваныя ім канцы нітак. Кросны меліся паставіць надвечар, а яму ўжо надакучыла гэта жаночая праца, і таму ён з ахвотай паслухаўся цёткі Агапы пайсці пабегаць.

Хлапчукоў ён убачыў на вуліцы. Яны некуды збіраліся. Мабыць, да ліпы з гняздом івалгі. Яны ўсё лета хадзілі туды, і цяпер гужолкай зноў падаліся за Петраком у той бок.

Віця бегма, з падскокам кінуўся даганяць.

— Ну, у каго штаны цэлыя, той можа лезці,— сказаў Пятрок, калі падышлі да ліпы і пасталі паўкругам.

Хто шмаргануў носам, хто калупнуў босай нагой зямлю, а хто, змерваючы ліпу, задраў галаву ўверх. Хоць лезці хацелася кожнаму і кожны не раз ужо лазіў на ліпу, але трэба спярша абдумаць, ці варта, ці не канчацца каму-небудзь і сённяшнія агледзіны івалжынага гнязда лупцоўкай дома за новую дзірку? Вунь колькі латак на штанах у кожнага. І кожная латка помніцца. Так што...

...Лезці падахвоціўся Віця.

Яго падсадзілі. Затым Пятрок падставіў сваё плячо, і Віця стаў на яго. Абхапіўшы, колькі мог, ліпу рукамі, ён падцягнуў пад сябе ногі. Бы скурчыўся, ашчаперыўся імі. А затым пружыніста разагнуў спіну ўверх. Раз, другі. А там і першая галіна. Далей усё пайшло, як у малпы,— спрытна і лёгка.

— Ну што там? — пытаецца знізу Пятрок, калі Віця далез да гнязда.
— Гняздо! — адказвае ён.
— А яечка ляжыць?
— Ляжыць...
Унізе нешта заспрачаліся, загаварылі, але Віцю чуваць кепска. Ды ён і не ўслухоўваецца. Зверху далёка відаць. Незвычайна ўсё, цікава. Асабліва, калі верхавіна ліпы разам з табой хістаецца, як той маятнік ходзікаў.
— Памацай, ці цёплае! — ляціць нарэшце каманда з зямлі.
Віця памацаў. Гняздо і жаўтаватае яечка ў ім былі халодныя.
— Як лёд! — крычыць ён уніз хлопцам.
— Тады забірай і апускайся ўніз.
Лёгка сказаць — забірай! Проста з моста, а ў чым ты яго данясеш да зямлі, як спусцішся? У кішэні — раздушыцца. I за пазухай нельга. Хіба што ў рот? Ну, канечне.
Віця кладзе халоднае яечка ў рот, асцярожна спускаецца. Вось і апошняя галіна. Усё робіцца цяпер у адваротным парадку: ногі аб'язджаюць, стульваюць камель ліпы, апускаецца тулава, затым рукі. А во і плячо Петрака. Хлопцы мітусяцца, пытаюцца пра яечка. А як ты скажаш, калі яно ў цябе ў роце. Пачакайце трохі.
Скок на зямлю! I адразу ж: ффу! — як пагана! Ад саскоку яечка раздушылася. Ад тухлага, здавалася, не было чым дыхаць. Хлапчук скурчыўся, бы з жывата вырывала апошнія шлункі, пачаў адплёўвацца, харкаць.
Хлопцы зразумелі, у чым справа, толькі тады, калі ўбачылі на зямлі жоўтае шалупінне. Пасмяяліся з Віці, паспачувалі яму. А больш расчараваліся: прападаў адзін з іх штодзённых заняткаў хадзіць да ліпы, наладжваць агледзіны гнязда. Каму яно патрэбна цяпер, пустое!? Расчараваныя, пайшлі за Петраком да хатаў. Можа там што цікавейшае знойдуць?
Вінаватым адчуваў сябе Віця. Гэта ж трэба раздушыць! Ды дзе? На самай зямлі! Ён ішоў следам за сябрамі і ўсё адплёўваўся. Але нешта трэба прыдумаць, знайсці нейкі занятак. Тым больш, калі ты вінаваты.
— Хлопцы, давайце ў хованкі! — нясмела гукнуў ён ззаду.
Хлопцы не ўсе нават спыніліся, настолькі нецікавай здалася ім Віцева прапанова. У хованкі і «ў вайну» яны гулялі кожны дзень і па некалькі разоў.
Але Віцю так проста не хацелася здавацца.
— Пойдзем к Трахімаваму гумну!
Гэта было цікавей. Па вачах сяброў ён убачыў, што цікавей. Можна каля гумна пагуляць. Можна і ў гумне, балазе, яно адчынена. Схаваешся за торп жыта або залезеш на круг коннай малатарні — паспрабуй знайдзі!
Накіраваліся да гумна. Вырашылі гуляць «у вайну» — у «чырвоных» і «немцаў». Але вось бяда: ніхто не хацеў быць «немцам». Не захацеў і Віця. Яшчэ чаго не ставала! Ён першы прапанаваў, і яму быць за «немца»? Дулю!
Тады Пятрок сказаў:
— Ладна, у «чырвоных» і «немцаў» не будзем. Будзем гуляць у «партызанаў» і «паліцаяў».
Сказаў, як звязаў. Калі немцам ніхто не захацеў быць, то хто стане «бобікам», хаця б і ў гульні?!
Так і не вырашыўшы, хто з іх хто, падышлі да гумна. Кругом, як





аббегчы, яно было абстаўлена снапамі абабітага лёну. Лён стаяў пры сценах ужо некалькі дзён. Віця гэта заўважаў і раней. А прапанаваць такую забаўную схованку надумаўся толькі сёння. Каб гэта шчаслівая думка прыйшла не цяпер, а тады, калі ён убачыў лён, то дзеду Трахіму лён і церці на церніцы не спатрэбілася б. Хлопцы — уга! — перацерлі б яго так, што адна кастрыца і засталася б.
— Тррр-тррр! Та-та! Та-та-та-та! — затрашчалі языкамі хлапчукі і кінуліся — хто хутчэй дабяжыць — да гумна. Неўзабаве там такая «страляніна» ўсчалася, хай бог бароніць! Хто каго шукае, хто ў каго страляе,— разбярыся паспрабуй. Аднаму гавораць, што ў яго ў першага стрэлілі, што ён — забіты. А «забіты» не хоча быць забітым,

хоць ты яго загрудкі бяры. Адскоквае на пару крокаў ды ў таго, хто яго «забіў», — паф-паф! От і той ужо забіты. І той падаць павінен.

Але ніхто не падае, не ляжыць. Зноў пашыліся ўсе пад снапы.

Дзед Трахім, які нешта рабіў у гумне і забавіўся, выйшаў, калі хлапчукі сама шыліся пад снапы. Выйшаў сярдзіты,— аж белыя вусы тапырацца,— з нейкай поплёскай.

— Акыш, ліха вашай матары! — замахнуўся ён направа.

Хто там быў — кінуліся ўрассыпную.

Страціўшы «правы фланг», харобрае хлапечае войска не разгубілася — абабегла гумно і кінулася на «левы фланг». Толькі яно сабралася заняць «баявыя парадкі», пашылася пад снапы, а дзед Трахім ужо ідзе зноў у атаку:

— Акыш, ліха вашай матары! Гэта вы будзеце мне тут лён бэрсаць! Акыш! — і ўсіх пагнаў перад сабой.

Толькі ж даўно вядома: дзеду за хлапчукамі не ўгнацца. Яны ўжо далёка адбегліся. Пасталі, адсопваюцца. Трэба ж так здарыцца! Сама ўвайшлі ў смак, а дзед Трахім — тут як тут.

Сэрца Віці моцна калацілася. Не ад хуткага бегу, не ад страху, якога нагнаў дзед Трахім! Ад знаходкі! Ад незвычайнай знаходкі, якую ён нагледзеў у адным месцы ля сцяны пад снапамі лёну. Здаравенная скрыня там ляжыць. Во — такая! Каб мог паказаць пры ўсіх, то раскінуў бы рукі, паказаў. Але пры ўсіх нельга. Трэба падзяліцца навіной хіба што з Петраком. Ён большы, разумнейшы. Ды і складанчык у яго ёсць у кішэні — Віця ведае. А там жа пад снапамі такі файны зялёны раменьчык да скрыні прымацаваны. На дваіх з Петраком хопіць, калі адрэзаць. А адрэзаць можна. Скрыня чужая, адразу бачна. Каб дзед Трахім ведаў пра яе што-небудзь, то ці ён бы пакінуў тую скрыню на дварэ. Ён бы зацягнуў яе ў гумно. Канечне зацягнуў бы, каб ведаў. Не ведае,— у тым і сакрэт! А скрыня ляжыць. Нікому не патрэбная. Толькі яму, Віцю. Ды Петраку, калі згодзіцца чвальнуць сваім складанчыкам той плецены зялёны раменьчык. Папружкі выйшлі б — любую падпяканку ці абойму патронаў выменяць можна. Толькі, калі разабрацца, навошта Віцю тая падпяканка. У яго што, сваёй няма? І пораху — хай толькі захоча! — будзе ў яго больш, чым у каго. Дзядзька Іван не такі скупы і злы, як яго бацька дзед Трахім, ён Віцю столькі патронаў дасць, колькі Віця папросіць. А вось раменьчыка такога і ў дзядзькі Івана няма. Віця сагне з дроту спражку, ушые яе ў адзін канец, з другога папраколвае цвіком ці відэльцам дзіркі і — прашу, пане дабрадзею, на штаны! Чым не папружка?!

Адазваўшы ўбок Петрака, Віця расказвае яму пра знаходку. Пятрок загарэўся. Дзе можна пажывіцца, там Пятрок не ўпусціць нічога. Адрэзаць нейкі пасак на папружкі? Ну, вядома, ён згодзен! «Толькі во мальву адшыць трэба»,— гаворыць ён Віцю, бы роўнаму. Нібы ўчора і самога Віцю не называў Пятрок «мальвой».

Ён падыходзіць да прыціхлых у цікаўнасці да іх шэптаў хлопцаў, цвыркае цераз зубы — маўляў, усё: табака справа, абыякава гаворыць:

— Я і забыўся... Віця напомніў во. Нам жа трэба ісці малоць у жорны. Удвух. Спачатку яму змелем,— паказвае на Віцю,— затым — мне.— А рукі — шась-шась па кішэнях — шукаюць складанчык.

Хлапчукі пайшлі ў вёску. За імі пацяліліся і Пятрок з Віцем. Ішлі — нага за нагу чаплялася. Бачна было, што ім соладка тое мліва, як чэснаму чалавеку паліцыя.

Дайшоўшы да Віцевага вішанніку, зусім спыніліся. Паселі ў бульбоўнік.



Тут яны агледзеліся, ці ніхто за імі не сочыць.

Паблізу нікога не было. І хлапчукі паўзком па разоры, па разоры — назад да гумна. Усхапіліся, пабеглі. Віця, а за ім і Пятрок пападалі ў тым месцы, дзе стаяла скрыня.

Не паспеў Віця агледзецца, як Пятрок складанчыкам адхапіў той раменьчык ад скрыні, і — на ногі! У бок школы. Цяпер ужо Віця даганяў Петрака.

Школа была закрыта. Спрабавалі немцы адкрыць яе, толькі нічога ў іх не выйшла, і памяшканне пуставала. Вокны былі павыбіваны, на падлозе раскідана цэгла ад разабраных печак. Пад падлогай асталяваліся мышы, а на гарышчы — совы.

Не адну саву злавілі хлапчукі на гарышчы. Удзень совы сядзяць, надзьмуўшыся, у жалабах пад шалёўкай. Сядзяць і нічога не бачаць. Нездарма ж гавораць: сляпы, як сава. Ціхенька падкрадзіся, працягні руку — і яна твая. За галаву толькі не хапі, бо інакш як дзюбане! — сёмаму закажаш.

Навакол савінага седала чаго толькі няма: і крыльцы майскіх жукоў, і костачкі з вішань, і нейкае пакулле, і вераб'іныя кіпцікі. Асабліва шмат гэтага «дабра» ў адным куце, дзе больш за ўсё цёмна.

Туды і палезлі Віця з Петраком, пераступаючы цераз бэлькі ды лежакі каміноў. Там Пятрок разрэзаў пасак на дзве часткі: сабе ўзяў большую, а Віцю даў меншую. Паколькі сам ён меншы, то і жывот меншы. А значыць, і папружка меншая. Віця не пакрыўдзіўся ні на такое разважанне Петрака, ні на яго ўчынак. Ён быў рады, што так спрытна ўсё атрымалася, што ў яго зараз ёсць сапраўдны вайсковы раменьчык. Хай пакуль без спражкі і дзірачак. Але гэта дробязь, справа нажыўная.

...Хлапчукі былі рады абодва. Ад адчування, што зроблена імі нешта прыемнае, што іх аб'ядноўвае цяпер агульная тайна і адна справа, яны забыліся на час: гойсалі па цёмным гарышчы, палохалі соваў у жалабах. Ісці дамоў хапіліся толькі тады, калі над зямлёй быў вечар...

З самай раніцы неба было замурзанае, але за дзень на дождж так і не сабралася. Звечарэла хутка, цемната загусла, хоць вока выкалі. Цёмна было і на зямлі. Па хатах дзе-нідзе бліскалі газоўкі, ды за аселіцай успыхвалі час ад часу бліскавіцы.

Недзе перакачвалася перунамі навальніца. Але далёка яшчэ ад Дабрынёў, ад Трахімавага гумна, паўз якое ішоў Віця, ад бабінага вішанніку, да якога набліжаўся.

Грымоты былі нясмелыя, глухія.

Ён ішоў нячутнай хадою па разоры між падвяўшага, шмат дзе пасохлага бульбоўніку. Ішоў, навастрыўшы слых. Хлапчук не тое каб баяўся цемры — больш за ўсё ён баяўся немцаў і паліцаяў,— але яго сцепала ад думкі наступіць нечакана на гідкую жабу-рапуху, якія толькі і чакалі ночы, каб выпаўзці на жыраванне і трапіць пад ногі...

Быў ён амаль ужо дома, як неспадзявана напароўся ў вішанніку на людзей. Падышоў так блізка, што ўбачыў і пачуў іх шэпт аднначасова. Ад нечаканасці Віця прысеў у разору. Мільганула страшнае: засада! Яго зловяць і задушаць. Ціха, без шуму. Каб нікога не папярэдзіў. Ні бабы, ні цёткі Вольгі, ні Трахімавага Івана, калі той захоча прыйсці гэтай ноччу.

Віця прысеў і падаўся трохі назад. Схаваўся амаль з галавой у бульбоўніку. Знізу, як ні цёмна, усё-такі разгледзець, што дзе робіцца, можна лепш. І ён пачаў углядацца...

Не, гэта была не засада! У вышэйшай постаці Віця хутка ўгадаў

таго ж Трахімавага Івана, пра якога толькі што падумаў. Вось Іван варухнуўся, папраавіў за спінай аўтамат. «Ух ты! — ужо аўтамат замест вінтоўкі»,— адзначыў Віця. Што гэта быў аўтамат, ён не сумняваўся. Карацейшы ж за вінтоўку, куды карацейшы. У чым-чым, а ў зброі Віця толк ведае, разбіраецца... Значыць, аўтамат.

Іван з аўтаматам.

А хто ж з Іванам?!

Прыгледзеўся Віця яшчэ пільней і рот разявіў ад здзіўлення. Мамачкі мае родныя, дык гэта ж цётка Вольга! Яна!.. Цалуюцца!.. Далібог, цалуюцца! Ён аж заплюснуў вочы. Хутчэй адсюль, хутчэй! Тут, калі заловяць, дабром для яго не кончыцца.

Ён забыўся на жаб, на іх начное жыраванне, на тое, што можна дакрануцца да гідкага стварэння, а пасля на тым месцы, якім дакрануўся, вырасце бародаўка... У разоры ён упаў на жывот і папоўз. Лавіце цяпер!

Ззаду, чутно, нешта сказаў дзядзька Іван. Шчоўкнуў засцерагальнік яго аўтамата. А цётка Вольга супакоіла шэптам: «...кот, мабыць!..»

Нагуляешся, набегаешся за дзень, і надта ж смачная тады дома вячэра. Асабліва, калі баба паставіць на стол не астылую яшчэ бабку, нальe ў ступку цёплага сырадою, а сама сядзе насупраць, падапрэ кулаком шчаку і пазірае на цябе, быццам пытаючыся: ну, як, смачна? Угу! Тут і адказаць лепш не адкажаш, бо повен рот.

...Віця сядзеў за сталом, канчаў вышкрабаць у гаршку прыгаркі ад бабкі, як у хату зайшла цётка Вольга.

У парозе яна пацепнулася плячамі, як бы ў хаце было халадней, чым на дварэ. Пацепвайся, пацепвайся. Ведаем, як табе холадна!

Цётка Вольга прайшла на хату. Скінула з сябе жакетку. Ды так зухавата, што ледзьве не патушыла газоўку. Агеньчык завіхляўся, заскакаў, перагнуўся над кнотам: мірг-мірг!

Зноў Віцеў конь угруз бы, каб патухла газоўка. Бляшанку ў рукі і — гайда да суседзяў вугалькоў пазычаць!.. Але агеньчык не пагас.

Баба Васіліса з цікаўнасцю зірнула на дачку. Дзе гэта яна была, што вясёлай такой дамоў вярнулася?! Ад бабы нічога не схаваеш. «Гэнам, я бачу, хто чым дыша»,— гаворыць яна. Так што, будзь ласкавы, прызнавайся як на духу: дзе быў, што рабіў?

Аднак цётка Вольга так і прызнаецца, што стаяла з хлопцам. Ды — падумаць страшна! — ца-ла-ва-ла-ся!

Яна хітрыць, хавае ад бабы вочы. Віця бачыць, што хавае. Маўчыць і хавае. Бо сказаць няма чаго. Бо цалавалася ж.

Нарэшце, каб з нечага пачаць гаворку, цётка Вольга чэпіцца да яго:

— Ты шкрабі-шкрабі, ды дзіркі не прашкрабі.

Ага, так лёгка ён табе і паддасца. Не на таго натрапіла! Варта толькі аднойчы паддацца, то будзе й заўсягды, як на дзяды,— гузакоў насіць не перанасіць.

Віця сабе пашкрэбвае ў гаршку і, нібы яго гэта ніколечкі не цікавіць, абыякава пытае ў цёткі Вольгі:

— У Івана наш аўтамат ці нямецкі?

Прама ў цэль!

Цётка бы аслупянела ад нечаканасці. Не можа нічога адказаць.

Адчуўшы нешта-нейкае, адарвалася ад прасніцы і баба. Гаворыць разважліва:

— У яго ж, гэнам, стрэльба, здаецца?



— Не, аўтамат ужо... Во няхай цётка Вольга скажа.

Баба ўзняла вочы на дачку, нібы пытаецца: «Іван прыходзіў, ці што? Нешта ж я не бачыла...»

Цётка Вольга чырванее. Хоць і цемнавата ў хаце, але Віця і так ведае, як загарэліся макавым цветам шчокі ў цёткі Вольгі.

Яна буркнула штосьці неразборлівае, адвярнулася да ложка. Падушкі папраўляць. «Ага, папраўляй,— усміхаецца Віця.— Цэлы дзень некранутыя ляжалі, а як спаць класціся, дык яна падушкі папраўляць узялася».

— Гэнам, Іван быў? — перапытвае баба ў цёткі Вольгі.

— Быў, быў! — ахвотна адказвае за яе Віця: хай ведае цётка Вольга на другі раз, як пасміхацца з яго!

Цётка Вольга кінулася да Віці, а ён — на печ! Зláві паспрабуй! Пры такой гаворцы Віця не расседзіцца на лаве сляпой савой. Вуха трэба трымаць востра. Чуць што — шусь на печ! А можна і ў падпечак. Адтуль яго пернікам не выманіш і качаргой не выграбеш.

— Гэнам, быў, кажаш? — ужо ў яго з цікаўнасцю пытаецца баба.

— Быў, бабо, быў,— пацвярджае Віця.

— Маўчы! — падскочыла бліжэй цётка Вольга. Стукае кулаком па стаўпцу печы: — Маўчы!

— Ой, баяцца цябе буду!

— Пабаішся, як штаны здзяру ды трапкача ўсырычу.

Ну, тут справа ясная! Тут хоць і трэба было змоўчаць і больш не гаварыць нічога, не змоўчыш. Абражана сама мужчынская годнасць! Якая можа быць міравая?!

— Раскажы, раскажы бабе,— цяпер ужо не гаворыць, а выкрыквае Віця, злосны за цётчыну абразу,— раскажы, як вы з Іванам цалаваліся ў вішанніку!..

Цётка Вольга ўскрыквае. Так, як быццам вось-вось заплача:

— Ой, што ён гаворыць!..

Яна падае ніцма на палок, на рукі. Сорамна, мабыць, ёй, калі вочы рукамі закрывае.

— Цалаваліся?! — здзіўлена і баба.

— Цалаваліся, цалаваліся,— з печы зноў пацвярджае Віця.

— Ну, я ж табе дам!

З гэтымі словамі цётка Вольга ўскаквае з палка і — на печ, па Віцеву душу.

Толькі так ты яе і схопіш! Ён прадбачыў і гэта. Цётка па яго на печ, а ён — за комін. Не лезь далей, а то скочыць во на падлогу, нагу зломіць. Пабачым тады, каму больш перападзе на арэхі.

Віця, мусіць, і скочыў бы, бо цётка Вольга вось-вось за калашыну цапнула б. Але апярэдзіў трапкач. Доле, каля печы, стаяла ўжо баба, выганяла яго з-за коміна:

— Ты куды, гэнам, намерыўся, га?! Забіцца, гэнам, хочаш, шыю скруціць? — і трапкачом, трапкачом...

Вось і ведай другі раз, што можна гаварыць, а чаго — нельга.

Навальніца падступае бліжэй к Дабрыням: вуркатанне грому ўсё больш выразнае, начное неба раз-пораз абмываецца чырванню бліскавіц. У кароткіх сполахах бачны тады ў акне чорныя Трахімавы кляны. Яны хістаюцца і стогнуць пад ветрам, гатовы, здаецца, паламацца, грымнуцца вобзем.

Бліскавіцы ўспыхваюць і тухнуць. Тады ў шыбах нічога не бачна, апрача непрагляднай густой чарнаты, якая змыкаецца яшчэ больш. Вецер не ўціхае. Ён, наадварот, мацнее, гудзе, аж пакуль зможацца,

сыпануўшы першыя буйныя кроплі, аж пакуль зусім не сціхне, даўшы волю спорнаму, з глухім шалясценнем дажджу.

Раскаленыя да белага бліскавіцы зноў выхопліваюць Трахімавы кляны. Іх яшчэ больш расхіствае ветрам, ажно не кладзе верхавінамі на зялёную страху хаты. А дажджу ўсё няма і няма. Яго і праўда, можа, перагоніць, бо, як гаворыць баба, з вялікай хмары — малы дождж, так толькі пакрасае, як Трахім крэсівам, пастраляе, пастрашыць ды дзеля прыліку пакрапіць трохі зямлю. Навальніца будзе сухая.

Віця слухае гэту сухую навальніцу. Ляжыць на печы, паклаўшы рукі пад бараду. Пазірае з-за коміна ў акно, у верхняй шыбе якога азараюцца раптоўна выхапленыя з цемры кляны.

Ён не плакаў зусім, калі баба нашпарыла яго трапкачом. Павойкаў трохі, пахныкаў, каб цётка і баба ўбачылі, што яму баліць, што ён атрымаў сваё,— каб адчапіліся. А зараз ляжыць во, як пан, на сваім законным месцы, пазірае ў акно. Баба з цёткай нешта робяць, пра штосьці гавораць. Яму да іх няма больш ніякай справы, бо ён недзе далёка адсюль са сваімі думкамі і развагамі.

Апоўначы, калі ноч ясная, неба не зацягнута хмарамі, цераз галлё і лісце Трахімавых кляноў у бабіну хату зазірае планета Марс. Што гэта Марс, Віця ведае ад бабы. Марс ачэрчвае паўдугу ў верхняй шыбе, пакуль не хаваецца знадворку за сцяну. Каб убачыць увесь шлях Марса, трэба не спаць паўночы. Віця, канешне, не бачыў, але ён уяўляе паўкруг Марса, ён верыць бабе на слова, што так яно і ёсць.

З-за гэтай планеты і вайна на свеце і гора, што не мінае бабінай хаты. Кожнай пагоднай ночы чырвонае вока сноўдае па небасхіле. Так і наровіць з-за лісця, з-за галін улузнуцца ў прасветліну, каб зазірнуць: а хто там яшчэ астаўся ў бабы Васілісы? І колькі ўзыходзіць Марс — столькі цягнецца і вайна. Яна, пэўна, не перапынялася ні на адзін дзень, бо заўсёды ўзыходзіла і падоўгу стаяла над бабінай хатай гэтая зорка.

Вечарамі баба расказвала Віцю, што кожны чалавек мае сваю зорку-планіду. Яму ўяўлялася яна то нейкім таямнічым духам, што ведае пра Віцю, паколькі яны бы родныя, то самым звычайным светляком у небе. Баба гаварыла яшчэ, што калі патухае ў небе планета, то памірае і той чалавек, з якім яна была заручонаю...

Ён не аднойчы наглядаў, як зрывалася раптам нейкая зорка, чыркала аб другія, якіх на небе было безліч, і з зыркім хвастом ляцела ўніз, пакуль не рассыпалася бясследна. Віця тады ўздыхаў. Маўчалі толькі зоркі. Яны спакойна пераміргваліся, не больш і не менш жалобна, чым да таго, як у небе згарэць адной з іх, а на зямлі памерці чалавеку.

«Хай бы хоць адна ўрэзалася ў Марс! Хай бы збіла яго з месца і ён, расцякаючыся гарачым прысакам, схаваўся за небасхілам»,— думаў Віця. Калі будзе гаснуць яго зорка, ён абавязкова накіруе яе ў Марса. Абавязкова. Тое самае зрабілі б тыя яго дзядзькі, а бабы Васілісы сыны, зоркі якіх ужо згарэлі. Зрабілі б, калі б іх планіды былі трохі бліжэй да Марса. А то ж так далёка, што і не відаць адсюль. Расказвала баба Васіліса, што зорка дзядзькі Валодзі ўпала ў пясчаны курган у Манголіі. Віця нават не ведае, у якім баку тая Манголія... А вось дзядзька Іван спіць у сваёй зямлі. Недзе пад Ваўкавыскам. Ён загінуў, калі ішлі нашы аслабаняць ад паноў сваіх братоў. Віця пакуль не разумее, якіх братоў хадзіў аслабаняць дзядзька Іван — усе ж яго браты, а Віцевы дзядзькі, жылі дома, акрамя яго бацькі. Яго бацька быў чырвоным камандзірам. А які можа быць пан



над камандзірам?! Баба Васіліса на гэта мае аднак сваю думку: «Якая была, гэнам, тая польская вайна, а і яна забрала майго Ваню».

Побач з карткай дзядзькі Івана ў агульнай раме пад шклом, пакуль не павымалі іх баба з цёткай, была і фотакартка дзядзькі Хведара. Дзядзька Хведар стаяў на ёй па камандзе смірна. У шылаватай будзёнаўцы. Са значком на ланцужку. Віця падоўгу, бывала, глядзеў на той значок. Пазіраў у вочы дзядзьку Хведару, бы ад самога яго хацеў даведацца: дзе тая лінія Манергейма, якую рваў дзядзька Хведар і на якой загінуў?..

І вось зноў, калі толькі выясніцца ноч, у верхнюю шыбу зазірае Марс. Стаіць над хатай і зазірае: а хто там яшчэ астаўся ў бабы Васілісы?!

Думка пра планіду, пра дзядзькоў і свайго бацьку паступова гасне. Пераскаквае з аднаго на другое. Шуміць на дварэ вецер, азараецца ўсплёскам бліскавіц акно насупраць закомінка. Недзе ўверсе, траха не над самым комінам, скаланае гром.

Віця на момант расплюшчвае вочы, і зноў яго агортвае дрымота, бо гэта зусім і не гром, а яны з Петраком лупяць каменнямі ў дашчаную перагародку ў пустой школе. А во Пятрок смачна есць ігрушы і хваліць Віцю: «Малайчына, мальва́, што не папаўся». Ён пасылаў па ігрушы ў Платонаў сад яго ж, Віцю. Віця нажахаўся, пакуль налаташыў за пазуху тых ігруш, а Пятрок, нябось, нават і не падумаў пра яго. Чакаючы, сядзеў увесь час на лавачцы, курыў крадком з рукава ды цвыркаў слінай цераз зубы. Калі паявіўся Віця, устаў, па-гаспадарску, нібы ўсе ігрушы былі яго, працягнуў руку. «Вытрасай, вытрасай, а не то дзядзьку скажу»,— пужаў яго Пятрок.

Віця на момант прахопліваецца ад страху, нібы гэта адбываецца цяпер, а не тады, калі, на яго бяду, і сапраўды ішоў па вуліцы дзядзька Платон.

«Дзядзька Платон!» — гукнуў Пятрок.

Віця адчуў, як у яго адарвалася сэрца і памкнулася некуды ўніз. Ну, зараз...

«Дзядзька Платон, паспытайце, якія смачныя ігрушы. Не горш за вашы».

Платон узяў ігрушу, хрумснуў, пасмакаваў. «Ноле, быдта мае. Дзякуй, Пятрок».

З гэтымі словамі ён пайшоў далей, да свае хаты.

Увесь час размовы Віця стаяў ні жывы ні мёртвы. «Добра, што не было дзядзькі дома, залавіў бы ў садзе і паабрываў бы вушы»,— мільганула думка. А Пятрок падышоў да Віці, даў у лоб пстрычку і сказаў: «Вось так, мальва́...»

Ігнатаў Пятрок — ого! Пальца ў рот яму не кладзі.

Неспадзявана неяк Віця апынуўся на лузе. Каля зарослай, зацягнутай зялёным жабурыннем канавы. Хацеў пакупацца. Скочыў. А вада ў канаве стаячая, затхлая. Аж дыхаць няма чым.

Ён сонна павярнуўся ў закомінку. Прыўзняў галаву, чхнуў ад цёплага духу, у якім перамяшаліся пахі насохлай гліны, падсіненага мелу, вытканых бабай кудзельных дзяружак. Сцяміў, што зусім ён і не купаўся ў канаве. Гэта ж сенажаць. Чуваць нават, як нехта клепле касу. Лясь-лясь-лясь! — цокае малаток па бабцы. Да бабкі, бы да магніта, прыляпілася каса дзеда Трахіма, а па краёчку яе бяжыць з-пад малатка блішчастая палоска. Стукае, стукае жалеза аб жалеза. Стук не перарываецца, не гасне ў сне, а наадварот, бы тармосіць яго. Яшчэ

спрасонку, але Віця чуе, як баба Васіліса подбегам кінулася ў сенцы адчыняць дзверы.

На запытанне: «Хто там?» незнаёмы голас адказвае знадворку: — «Свае!». Пайдзі разбярыся цяперашнім светам, хто свой, а хто чужы. Усе адказваюць аднолькава: «Адчыніце, свае!». І свой ён ці чужы, той, што чакае за дзвярыма,— усё роўна адчыняць трэба.

Баба яшчэ барзджэй спяшаецца назад у хату. Хрысціцца на хаду. Трымае на грудзях рукі і, каб не заўважыў той, хто ідзе за ёй, хрысціцца дробнымі крыжыкамі.

З-за коміна добра відаць, што за бабай ідзе паліцай. І яшчэ хтосьці. Той «хтосьці» астаецца ў сенцах, а паліцай пераступае парог, няшчыльна прыкрывае за сабой дзверы, дае «добры вечар».

Яму адказваюць. Баба паспешліва, з падкрэсленай шчырасцю ў голасе, быццам спала і ў сне бачыла, каб так далікатна павітацца з «бобікам». Цётка Вольга стрымана, з трывогай.

Паліцай моўчкі прайшоў па хаце. Зірнуў на рамку на сцяне, з-пад шкла якой баба з цёткай павымалі многія фотакарткі, усміхнуўся.

Віця пазнаў яго. Гэта быў той, меншы, які забіраў зімой у дзядзькі Платона цялушку. Які пасля заходзіў у бабіну хату і параіў павымаць з-пад шкла фотакарткі, на якіх зняты людзі ў вайсковай форме.

— А дзе гэта ваш Міша? — раптам спытаў паліцай.

Цётка Вольга пазірала на яго як сама не свая, бы не чула пытання, не ведала, што ад яе патрабуюць.

Перасмыкнуў плячамі на печы і Віця. Быццам муляў яму рубец кашулі — паліцай пытаў пра яго бацьку.

Знайшлася што адказаць баба.

— А дзе яму, гэнам, быць цяпер? — пытаннем на пытанне пачала яна.— Ваюе...

Яна не сказала, што Віцеў бацька, а яе сын, чырвоны камандзір, лейтэнант, што дзе ж яму яшчэ быць, як не на фронце! Яна адказала: «ваюе», а ты, «бобік», калі ведаеш што сам, то навошта пытаешся?

Паліцай усміхнуўся куточкамі вуснаў. Трасянуў за спінай вінтоўкай. Падышоў да дзвярэй. Сказаў туды:

— Хопіць людзей пужаць... Заходзь у хату...

Пасмейваючыся, цераз парог пераступіў... Трахімаў Іван.

— Добры вечар вам! Не чакалі?

Чакалі Івана ці не, яму ніхто не адказаў. Цётка Вольга залілася гневам, адвярнулася да акна. Не хацела бачыць ні Івана, ні яго жартаў. А баба як стаяла каля палка са складзенымі на грудзях рукамі, так і абсунулася на яго. Яна не разумела яшчэ, што адбылося. Але зразумела галоўнае: страх мінаваў. Калі з паліцаем суседаў Іван — няма страху.

Іван перастаў смяяцца. Ён убачыў, што зрабіў кепска. Пачаў супакойваць, што гэта жарт. Што ён не хацеў так напалохаць. Але ён быў вінаваты: хіба гэтак жартуюць?

Ніякавата адчуваў сябе і паліцай. Ён маўчаў. Стаяў пасярод хаты як укапаны. Зіркаў то на палок, дзе сядзела баба Васіліса, то на ложак — на цётку Вольгу, то на печ — на Віцю.

Іван прасіў «цётку Васілісу», каб даравала, абяцаў так больш не рабіць. Але Віцева баба маўчала, бы і не было перад ёй Івана. Яна трымала цяпер рукі на каленях у прыполе, і яны прыкметна дрыжалі. На вачах стаялі слёзы.

Не захацела слухаць Івана і цётка Вольга. Яна крутанулася са злосцю, калі Іван падышоў да яе і хацеў узяць за плячо.

— ...Ды ён жа свой хлопец. Яй-богу, свой,— гаварыў тым часам



пра паліцая Трахімаў Іван.— Вось толькі адзежу іншую яшчэ не прыдбалі. Ды калі прыкінуць, на чорта яму тая іншая адзежа, бо ў гэтай «бобікі» да яго здалёк не прынюхваюцца, да сябе падпускаюць... Гена! — звярнуўся ён да таварыша.— Скажы ты ім, што — свой! — І зноў да бабы, да цёткі, нават да Віці: маўляў, скажы хоць ты, угавары баб: — Свой ён хлопец, яй-богу! І тады, у паліцыі, ён быў наш, савецкі... Ён расказваў мне, як і да вас у хату заходзіў... Ды кіньце вы, цётка Васіліса, яй-богу...

Нарэшце баба ачомалася. Устала з палка. Уздыхнула. Пашкрэбала да печы. Узялася за нейкую работу. Мабыць, над нечым схілілася, бо голас прагучаў бы з натугай. Так гаворыць чалавек, калі нагнецца над чым-небудзь.

— То адкуль, гэнам, вы ведаеце нашага Мішу?

Баба спытала, не падымаючы галавы. Але «свой паліцай» зразумеў, што пытанне да яго. Заспяшаўся адказаць:

— Ды мы, маці, некалі разам вучыліся з ім у дзесяцігодцы... Пасля школы я на настаўніка падаўся, а ён — у вучылішча... Вось так і ведаю... Даўно збіраўся да вас... Паглядзець Міхасёву хату, папытаць пра яго. Ды раней, маці, часу не знайшоў, ну а пасля — вайна... Служба...— на гэтым слове «свой паліцай» усміхнуўся, перакінуўся вострым позіркам з Іванам, які ўсё не адыходзіў ад цёткі Вольгі. — Зайшоў толькі, калі кароў у вас забіралі. Як сказаў той міраед («Гэта пра дзядзьку Платона»,— у думках зазначыў Віця), чаму ў сям'і «чырвонага камандзіра не берыцё», у мяне і здагадка прыйшла: а раптам гэта пра Міхася? Зайшоў да вас, убачыў фотакарткі на сцяне і пазнаў яго. Толькі адкрыцца вам, маці, рана было... Так і пайшоў з хаты чужым... Бачыў, як вы пазіралі на мяне. Усе людзі, каторыя чэсныя, так пазіралі...

«Свой паліцай» гаварыў доўга. Яго ніхто не перапыняў. Неспадзяваны паварот справы з візітам «паліцая» збянтэжыў. І збянтэжанасць гэту кожны выказваў па-свойму, але, акрамя «свайго паліцая», усе маўчалі. Баба ладавала чыгункі пад прыпечак, цётку Вольгу займаў Іван. Але яна адмахвалася ад Івана, бы ад якой назолы.

Радаваўся неспадзеўцы Віця. Так нечакана ўсё павярнулася! «Во законна абхітрылі немцаў партызаны,— думаў ён.— Сваіх хлопцаў у паліцыю паслалі. За такога паліцая, як гэты, што гаворыць з бабай, можна і самому быць, калі ў вайну гуляць... Выведаў у гарнізоне ўсё, пераказаў партызанам. Партызаны з лесу, а ты з тылу па немчуры: тррр-рт! — і капут! Во законна...»

Не магла звыкнуцца адразу, што перад ёю свой чалавек, баба. Але і яна, калі загаварыла,— адчуў Віця,— падабрэла. Голас быў мяккі. Пачала пра Платона:

— Не пашанцавала, гэнам, таму чалавеку. Вы забралі цялушку, а праз тыдзень Коўзік і карову з хлява выгнаў...

— Хто такі? — спытаў «свой паліцай». Ён спытаў гэта больш у Івана, чым у бабы, бо павярнуўся ў яго бок.

Адказала баба:

— Да вайны падаткі збіраў, а цяпер, кажуць, партызан. Хто яго, гэнам, ведае...

— Партызан,— пацвердзіў Іван.— У Лазука аддзялёным ходзіць. Я чуў пра гэту гісторыю... Паслалі яго бліжэй да гарнізона паліцэйскіх кароў забраць. А ён — тут, дзе спакайней. Яму за гэта ледзь шыю не намылілі. Але ён, брат, хлопец вёрткі. І нашым і вашым: і радавым і начальству добры. Пакуль разабраліся, ад каровы адны

капыты засталіся. Ну а ён добраахвотна на заданне напрасіўся тым часам. Нават руку яму шкрабанула там. Так што крывёю змыў...

Віця паспеў ужо злезці з печы і цёрся цяпер каля Івана. Хадзіў кругом каля яго і цёткі. Пазіраў, як кот на каўбасу, што вісіць на насіле, на аўтамат на Іванавым плячы. Можа, Іван і даў бы яму патрымаць аўтамат, пэўна даў бы, бо быў вінаваты перад усімі імі, але Віцю адагнала баба:

— Чаго ты, гэнам, круцішся тут як уюн на патэльні. Марш на печ!

Адышоў нарэшце ад цёткі Вольгі і Іван. Сеў на лаву каля стала. Услухоўваўся ў гамонку бабы Васілісы і «свайго паліцая». Сядзеў моўчкі. Думаў пра нешта сваё.

— Ад чаго ў цябе настрой такі замылены? — нарэшце падала свой голас цётка Вольга, звяртаючыся да яго.

Гэта былі першыя словы, якія сказала яна за час, што былі ў хаце Іван з былым паліцаем.

Іван усміхнуўся. Трохі падвесяліўся. Значыць, даравала жарт,— так, пэўна, падумаў ён. Але хутка зноў сядзеў заклапочаны, задумны. Рэдка ўстаўляў слова ў гаворку.

Партызаны пабылі ў хаце яшчэ колькі часу. Зноў успомнілі Віцевага бацьку і ўсіх, хто на фронце... Пачалі збірацца. Перад адыходам Іван папрасіў раптам у бабы, каб яна дала ім пусты мяшок. Калі баба спытала, навошта ён ім, Іван адказаў, што ад дажджу.

— Пад адным мяшком удвух, гэнам, ад дажджу не схавацца,— справядліва заўважыла баба.

А цётка Вольга падкалола:

— Адзін пыльным мяшком удараны. Так што — хопіць...

І зірнула на Івана.

Абодва — Іван і Гена — засмяяліся. Іван узяў пад паху скручаны ў рулончык мяшок, і яны выйшлі з хаты.

У цёмнай начы стагнала сухая навальніца.

Гэты выпадак добра запомніўся Віцю. Сваёй нечаканасцю. А яшчэ, мабыць, тым, што Іванаў таварыш Гена быў апошні, каго ён бачыў у паліцэйскай форме, бо немцы з паліцаямі ў Дабрыні больш не наведваліся. Партызаны не пусцілі іх сюды і ў зімовую блакіроўку. А цераз зіму на лета прыйшлі нашы.

Чацвёрты сын бабы Васілісы Аляксандр загінуў у сорак трэцім пад Старой Русай. Пра гэта напісаў Віцеў бацька ў першым жа пісьме, што прыйшло пасля вызвалення.

Чытаць пісьмо збеглася амаль паўвёскі. Набілася поўная хата жанок. Зайздросцілі бабе Васілісе, цётцы Вользе. Камлычылі Віцевы валасы. Віншавалі. Пакуль цётка Вольга не прачытала тых страшных слоў.

Баба Васіліса загаласіла. Не бачачы нікога і нічога, пайшла па хаце, натыкаючыся на людзей, як сляпая. Рвала на сабе валасы.

— О-ой, сыночак мой!.. О-ой, Алесік мой!.. Кветачка мая!..

Выйшла з хаты на двор. Зноў вярнулася. Упала побач з Вольгай на ложак.

— О-ой, сыночак мой!.. О-ой, крывіначка мая!..

Жанчыны супакойвалі іх абедзвюх. Угаворвалі, уцешвалі. Расказвалі пра свае няшчасці, быццам бабе і цётцы магло паменшаць ад гэтага іх гора.

— Сціхні бо, сціхні, Васіліса... Перастань, Вольга... Плачам з зямлі не ўзнімеш. Перасільце сябе. Дзіця не мучце... Вунь жа і яно ў запечку плача,— гаворыць цётка Агапа.

— О-ой, Алесік мой!.. О-ой, сыночак!

— ...Яшчэ невядома, хто з нашых дамоў вернецца. Яшчэ ўсім слёз хопіць... Паслухайцеся Міхася, яго просьбы не ўбівацца. Маліцеся богу за яго, што жывы... Перастаньце...

Жанчыны, каторыя яшчэ засталіся ў хаце, смаркаліся ў хусцінкі. Выціралі ражкамі хустак слёзы, угаворвалі.

Але баба і цётка Вольга іх бы і не чулі.

— Няхай паплачуць. Пакінь іх, Агапа... Такая наша доля...

Некалькі жанчын засталося ў хаце. Пры бабе з цёткай Вольгай. Віцю і Таню, якая была тут, выправадзіла яе маці, цётка Агапа, на двор. «Няма чаго вам слухаць пакуль. Хопіць і на вашу долю»,— сказала яна.

Знадворку, з самай вуліцы чуў Віця асіплае бабіна галашэнне, гаману ў хаце...

...З таго часу «свайго Алесіка» ўспамінала баба кожны дзень. Часцей, чым іншых сваіх сыноў. Надта свежая была рана. Надта вялікая. Пяцёра сыноў выгадавала яна, і чатырох ужо не было. Яе сакалікі ўжо ніколі не пераступяць родны парог, не пасядуць за стол, не папросяць есці.

Баба неяк на вачах змізарнела. Пачарнела ў твары. За адну ноч, здаецца, пасівела. Была сівізна і раней. Пракідаліся валасы, нібы белыя ніткі, нібы тонкі бабін кужаль з ручайкі. Белыя ніткі ў густых каштанавых валасах... А тут устаў Віця назаўтра раніцай і бачыць: галава ў бабы спрэс белая...

Віцеў бацька слаў пісьмы часта. Пра сябе ў іх расказваў мала: жывы, ваюю. Хутка канец вайне, прыеду, убачымся. Найбольш пытаўся ў пісьмах, як яны жылі, як жывуць цяпер. Радаваўся за яго, Віцю, падахвочваў добра вучыцца. Абяцаў, як вернецца, пакатаць на сваім камандзірскім танку. Прасіў прыслаць картачку. Толькі дзе ты яе возьмеш, тую картачку?.. Паведамляў, што атрымаў на фронце пісьмо ад земляка, дзядзькі Платона. (Праўда, брала аднаго разу цётка Агапа адрас бацькавай палявой пошты). Дзядзька Платон пісаў Віцеваму бацьку, што наглядзеўся на фронце пабітых і пакалечаных, абяцаў, калі вернецца з вайны жывы-здаровы, што ўсё жыццё будзе памагаць сіротам. «Як вы там жылі пад немцам?» — у каторы раз і ў каторым пісьме пытаў бацька...

Пісьмы адпісвала цётка Вольга. Адпісвала яна і Трахімаваму Івану, які таксама быў на фронце. Звычайна, пакуль яна была занята гэтымі двума пісьмамі, Віця пісаў сваё. Бацьку на фронт. На вырваным з даваеннай малочнай кніжкі, палінеенным удоўж і ўпоперак лістку. Вялікімі літарамі. Пісаў, каб бацька бязлітасна біў фашыстаў, а ён, Віця, тут не падкачае.

...Затым была перамога.

Сонечны майскі дзень. Ні хмурынкі ў небе, ні воблачка. За вокнамі ціўкалі вераб'і. Паветра аж звінела ад парнасці і іх стракатання. Звінелі, здаецца, і шыбы ў вокнах. Хацелася хутчэй на двор. Дачакацца перапынку і — на двор! А тут сядзі і крамзоль у сшытку, зробленым з газеты.

Хтосьці прабег па школьным двары паўз вокны. Да ганка. Ускочыў у доўгі калідор, абапал якога былі пакоі-класы, і закрычаў не сваім голасам. На ўсю школу:

— Пабеда!!!

Урокаў больш не было. Уся школа — настаўнікі і вучні — калонай хадзілі з чырвонымі сцягамі па вуліцы. З аднаго канца ў другі. Урачыстыя, радасныя. І старыя і малыя высыпалі на вуліцу пагля-дзець на шэсце. Плакалі людзі, смяяліся. Цалавалі адзін аднаго.

Віця ішоў са сваім класам у хвасце калоны. Але паўз сваю хату, паўз бабу і цётку Вольгу, якія таксама былі на вуліцы і пазіралі на гэта шэсце, ён прайшоў так зухавата, так хвацка, быццам быў у самым перадзе, быццам гэта ён вёў калону, ён зрабіў такое вялікае свята людзям. Спахмурнеў толькі, калі ўбачыў, што і баба і цётка Вольга плачуць. Чаго плакаць! Перамаглі ж фашыстаў! Вайна скончылася. Хутка вернецца яго бацька. І Іван Трахімаў прыйдзе. Няхай, калі захоча, нават у іх хату...

Вярнуўшыся з шэсця, калі распусцілі ўсіх па хатах, Віця застаў бабу на каленях перад абразамі. Цёткі Вольгі дома не было. Некуды пайшла. А баба малілася.

Перад залачоным абразом гарэла свечка. Баба Васіліса шаптала малітву. Хрысцілася. Узнімала ўгору перад сабой рукі, пазірала на свечку, на маўклівага бога на абразе, дзякавала. Скончыла:

— Дзякуй табе, усемагутны і міласэрны. Хоць аднаго майго сыночка дачакаюся. Амінь!..

Многа вяскоўцаў пагінула на вайне. Многім у Дабрынях чакаць не было каго. Пакуль ішла вайна, боль страты,— якім бы цяжкім ні быў,— здаваўся бы аддаленым, не такім адчайным. Бы нейкае спадзяванне ліпела ў людскіх душах. А можа — не, можа, памылка якая?.. Вось скончыцца вайна, і яны адшукаюцца, вернуцца...

Перамога!

Радасна, шчаслівая! І страшна да нематы. Падведзена рыса. Для адных — абяцанне надзеі, сустрэчы... Для другіх — усё, канец...

Праз многа гадоў зразумее Віктар, чаму ў калодачцы медаля Перамогі два колеры побач: урачысты — бронзавы і...— чорны.

...Нідзе няма столькі белапеннай чаромхі, як у кустах за Дабрынямі. Толькі-толькі адцвіце жоўтая лотаць, спадзе вада ў балацявінах і адскочаць з маладой травы першыя парасткі зязюльчыных слёзак, як забуяе чаромха. Расце яна звычайна там, дзе гусцей, месціцца сярод вербалозавых кустоў і алешніку. Староніцца людскога вока. Нібы дзяўчыне з адметнай красой, чаромсе і ганарліва і боязна завабна махаць белай хусткай квецені кожнаму сустрэчнаму-папярэчнаму.

Дзявочая краса расцвітае адзін раз на вяку. Але і таго хопіць, каб заўважылі і ацанілі яе; даволі, каб паланіла яна не адно сэрца. І няхай чаромха цвіце штогод, кожны раз яе гордая непадступнасць тоіць спадзяванне на чалавечыя дабро і ласку... Але ўжо стаіць канец вясны. Вось-вось зашахкаюць косы. У гнёздах папіскваюць ужо галышы-птушаняты, а бацькі іх выкідваюць дзюбамі пустое, непатрэбнае цяпер шкарлупінне ад яек... Цвісці, цвісці!

На Дабрыні наплывае ад кустоў, ад лесу дзівосны пах. Звечара, калі выпадае раса, і да самай раніцы — вёска ў густым водары маладога лета. Тады хоць не спі ў хаце. Здаецца, з лугу нахлынае не малодзіва туману, а паволі коцяць белыя воблакі белага цвету.

У кожнай хаце ў Дабрынях, дзе ёсць дзяўчына ці маладзіца, стаіць на стале гладыш з чаромхай. Цэлымі бярэмямі носяць яе з кустоў у вёску хлапчукі. Балазе яны вольныя. Навучальны год у школе скончыўся. А бульбу калгасную акучваць яшчэ рана. Кволымі храсткамі яна яшчэ толькі-толькі прабіваецца з барознаў, і вольнага часу ў хлапчукоў — хоць адбаўляй!

...Сонца садзілася. З пашы ішлі каровы. Валюхалі поўнымі вымямі малака. Адна за адной. Па вытаптанай у мураве сцежцы... Цені кла́ліся доўгія, касыя. Ад кароў і ад людзей, што цягнуліся за негустым статкам.

Хлапчукі дыбалі побач з дзедам-пастухом. Неслі поўныя абярэмкі чаромхі.

Быў сярод іх і Віця.

З заходам сонца пасвяжэла. Трава халадзіла босыя ногі. І ён не падаўся напрасткі цераз поплаў, цераз свае соткі дамоў. Пайшоў разам з усімі па вулачцы. Па ёй збягалі ўвесну раўчукі. Там было многа перамытага жаўтапеску. Перакапычаны, нагрэты за дзень пясок яшчэ не астыў...

Выйшлі на вуліцу. Недалёка ўперадзе сябе Віця ўбачыў цётку, якая разносіла ў Дабрынях пошту. Ён дагнаў яе. Забег трохі наперад, каб цётка пазнала, чый ён, запытаў, ці няма ім пісьма.

Цётка пазнала яго. Ён не раз купляў у яе газеты, каб зрабіць сшыткі. Не раз аддавала яна яму бацькавы пісьмы. Але цяпер яна неяк дзіўна зірнула на Віцю і нічога не адказала... Вядома, пісьма не было.

Чым жа так заняты бацька, што не піша? Пасля дня Перамогі вунь колькі часу прайшло, а пісьма — ніводнага! Яго павіншавалі з Перамогай,— Віця сам складаў тое пісьмо,— а бацька хоць бы слова ў адказ!.. А можа, ён ужо едзе дамоў? А раптам дома? Сядзіць, чакае, пакуль вернецца з чаромхай яго сын.

Хутчэй, хутчэй!

Віця абмінуў цётку і падбегам кінуўся ў свой двор...

Баба секла ў цэбрыку сырую бульбу. Сякач так і мільгаў уніз-уверх у яе руках. Бульба — карове. Каб малака больш дала. Каб хапіла яго і Віцю, і Платонавай Тані, і ўсім, хто папросіць... Карова ўжо чакала прысмаку. Раз-пораз совала пысу да цэбрыка. Баба секла. Адганяла карову. Не даваць жа ёй непасечаную бульбу: падавіцца можа.

На ганак выйшла цётка Вольга. Ён і пайшоў да ганка. Хацеў аддаць чаромху ці спытаць, куды яе паставіць.

Каля вуліцы стукнулі веснічкі. Ён азірнуўся. У двор уваходзіла паштарка.

Баба адарвалася ад работы. Удзячна зірнула ў яе бок. Сам позірк гаварыў: даўно, даўно, маладзіца, чакаем цябе.

Цётка Вольга апярэдзіла бабу. Пайшла насустрач паштарцы. Узяла працягнутае пісьмо. Пакруціла, павярцела. Быццам чужое яно было, не ім адрасаванае. Быццам не сваё прозвішча ўбачыла цётка Вольга на канверце.

Баба падсунула нагой цэбрык пад пысу карове, накіравалася да дачкі...

Першым аднак каля цёткі Вольгі аказаўся Віця. Чаромху ён трымаў яшчэ ў ахапку. «А паштарка хітрая. Баіцца, каб пісьмо не прапала. Не аддае малым. Толькі які ж я малы?»,— падумаў так і закрыўдаваў на паштарку.

Паштарка аддала пісьмо і пайшла з двара. А цётка Вольга ўсё круціла ў руках шэры канверт. Адрас на ім значыўся правільны.

І палявая пошта знаёмая. А почырк — чужы. Чужы! Казённае пісьмо трымала яна ў руках. З казённага дома, як гавораць варажбіткі. А ці многім прыслаў харошыя пісьмы той казённы дом?!

Падышла баба.

— Чытай, гэнам...

А сама паднесла да грудзей пярэднік. Прыклала да сэрца. Каб не выскачыла, калі што якое... Яе мацярынскае сэрца чула ўжо, што́ ў тым пісьме. Цётка Вольга ўсё не адважвалася разарваць шэры канверт. Пальцы яе мітусіліся. А твар бабы Васілісы бялеў.

— Чытай, гэнам... Чытай...

Цётка Вольга разарвала канверт. Хуценька выхапіла адтуль паперку. Нібы тая паперка была гарачай. Пачала чытаць. Скоранька, глытаючы словы. Быццам цётку Вольгу біла ліхаманка. Быццам зуб на зуб не трапляў ад холаду...

— ...на фронце барацьбы... савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі... праявіўшы пры гэтым стойкасць і гераізм... ваш сын і брат гвардыі маёр Аляшкевіч Міхаіл Канстанцінавіч паў...

Абедзве — і баба, і цётка Вольга — як стаялі, так і абсунуліся, пахіліліся адна на адну. Плячо да пляча. Галава да галавы. Стогн — працяжны, цяжкі — варухнуўся ў бабы ўсярэдзіне. Бы далёкі, далёкі, як з-пад зямлі. Цётка Вольга падхапіла яго. Ускінула галаву, і вырваўся з яе грудзей захліпісты, даўкі камяк:

— О-о-ой!.. А бра-а-ацік мо-ой!..

Віця рассыпаў чаромху пад ногі.

Яшчэ не верачы ў самае страшнае, яшчэ спадзеючыся на нейкі цуд, ён падняў з зямлі выпушчаны цёткай шэры лісток. Пачаў чытаць. Паволі. Па складах — наколькі дазваляла грамата. Тое! Тое, што прачытала і цётка Вольга. Ніякага цуда! Нічога, акрамя тых страшных слоў. Унізе толькі дата. І назва чэхаславацкага горада. Назва адразу ж выпала з памяці. А дату нібы хто красянуў маланкай: «11 мая 1945 года». 11 мая!

Ён адчуў, быццам некуды падае. Бы птушанё, выкінутае з гнязда.

Ён усхліпнуў і ўткнуўся няроўна стрыжанай галавой між бабы і цёткі. Ён абхапіў рукамі іх абедзвюх.

...Шмат дзе ў нізінах яшчэ трымалася зіма. Спрасаваныя колішнімі маразамі, а цяпер падточаныя сонцам, аб'язджалі ў нізкае брудныя крыгі лёду. Зачарнелі пагоркі. Зямля на іх парылася. Міражлівае трымценне калыхалася, калі пазіраць на пагоркі насупраць сонца. Здавалася, быццам хтосьці паздымаў з разгарачаных, узмакрэлых галоў цёплыя шапкі.

Над размытай, набрынялай зямлёй ляцелі дзікія гусі. Паважныя, размашыстыя ланцугі іх напаўнялі тугім шалясценнем вечаровае неба, кудзелілі волкі ранішні туман. Над хатамі гусіныя кліны праплывалі моўчкі. Падасць прарэзлівую каманду важак: не адставай, падцягніся! — і толькі свіст паветра далятае да зямлі. Бы ад разгайданых арэляў. Затое, калі ланцуг міне вёску, во тады радасці і пахвальбы — слухай не перапслухаеш. А як жа! Вёска, небяспека засталіся ззаду. Уперадзе — абсохлыя пагоркі, густыя кусцікі зялёнай азіміны.

Ляцяць дзікія гусі. Сваімі крыкамі трывожаць не адно сэрца. Надаюць клопату. Іх гагаканне, больш чым вясна, вярэдзіць душу. У небе — дзікія гусі! Дзікія, не чые-небудзь свойскія. Тут, лічы, што тваё. Тваё! Толькі не праспі золак, не паленуйся — і гаршчок не будзе нішчымны.





Аднаго дня дзядзька Зміцер — Камісар, як завуць яго па-вулічнаму,— рабіў набоі. А назаўтра цётка Кацярына, дзядзькава жонка, скубла гуся. Самага сапраўднага. Дзікага. У небе быў ён нічый, а стаў іхнім. Важна выбраць удалае месца, закідаць ламаччам, лапкамі елак — чакаць. Важна, каб будан не спудзіў дзікіх птушак. Паляўнічая ўдача тады не абміне.

Камісар — паляўнічы што трэба! І ўсё ў яго наогул — што трэба. Усё па плане, як любіць гаварыць ён.

Ёсць у дзядзькі Камісара старая пачарнелая стрэльба. Але ён яе не памяняе і на новую. Няважна, што яна цяпер з самаробным ложам і не такая акуратная, як папрывозілі многія з вайны. Затое б'е трапна. Атрымаў яе дзядзька Камісар перад вайной у Маскве на сельскагаспадарчай выстаўцы, куды ездзілі яны з цёткай Кацярынай як стаханаўцы... Усё павінна рабіцца так, як належыць. Складам і ладам. Па плане. І ўсё будзе ўакурат. Хоць бы вось і з гусем. Зрабіў дзядзька будан, падрыхтаваў набоі, цікаваў з вечара і — удача!

Паляваць на дзікіх гусей можна, кажуць, і іншым спосабам. Але зноў-такі не наскокам, а з усёй падрыхтоўкай. Спярша трэба напражыць гароху. Каб пах меў прыемны. Затым гарох добра вымачыць у гарэлцы. Патрымаць дзён са два, каб насмактаўся гаркоты. А пасля рассыпаць звабную прынаду па азіміне. На тым, загадзя нагледжаным месцы, куды найчасцей садзяцца жыраваць гусі. Рассыплеш вечарам, а раніцай можаш вязаць у вязанку сп'янелых птушак.

У каморы ў Камісаравых гароху хлопцы не знайшлі. Не было яго і ў бабы Кастыніхі, дзе мог бы раздабыць Віця. Паляўнічы план стаміўся пад пагрозу. І гэта тады, калі пра няўдачу і падумаць ніхто не падумаў бы. Калі гагакала дзікімі гусямі ўсё наваколле. Трэба было шукаць выйсце, нешта прыдумаць. Прыдумаць хаця б у апраўданне, што голь на выдумку здатная. Няма гароху? Толькі той і бяды! Затое быў боб. Не знайшлося крамнага разліўнога спірту-сырцу, дык была цэлая пляшка першаку. Цётка Кацярына шчадзіла яго на націранне ад раматусу. Чаго варта тое націранне?! Вязанкі дзікіх гусей — гэта не абы-што.

Камісаравы хлопцы Рыгор і Вова, а з імі і Віця Кастынавых збіраліся на паляванне. На дзікіх гусей.

Апошнім часам Віця моцна здружыўся з Камісаравымі хлопцамі. Дружба пайшла ад самага таго дня, калі вярнуўся іх бацька.

У той дзень паглядзець на яго, як на дзіва, сышлася поўная хата жанок. Віншаванняў, гаманы, плачу колькі было! Дзе быў, каго сустракаў са сваіх? Як там людзі, у той Германіі, з-за якой узгарэўся свет?..

Дзядзькавым расказам, здавалася, не будзе канца.

Акрамя іх, прынёс ён з вайны поўны рэчавы мяшок. Як завязаць. Было ў тым мяшку пара бляшанак амерыканскай свіной тушонкі, мыла, табака, белая мука ў малым мяшэчку. Ды такая пытлёўка, што калі цётка Кацярына развязала той мяшэчак і ўзяла яе ў пальцы, дык у муцэ засталіся ўмяцінкі. А мука ў пальцах зліплася, як крухмал. Ад заціркі з такой мукі, мабыць, за вушы не адцягнеш... І яшчэ адзін мяшэчак. З цукрам-пяском. Што да мыла і мукі, то з іх карысці хлопцам не было. Іншая справа цукар. Ён так зваблівa іскрэў, што нельга было адвесці вачэй. Іскрэў, быццам сухі снег пад сонцам. Так і прасіўся ў рот.

Пра гэта падумаў, мабыць, не адзін Віця. Не адзін ён глытаў сліну. І цётка Кацярына не абмінула нікога. Яна разрэзала на скібкі



адну з дзвюх буханак, пасыпала скібкі цукрам. Раздала дзецям. Смачнейшага ласунку і не прыдумаеш.

Дзіўныя былі і пузатыя цыгары ў доўгім і глыбокім карабку. Іх дзядзька прывёз як трафей. Цыгары тоўстыя. Каб і хацеў скруціць такую, то наўрад ці скруціў бы. У Дабрынях многія ўмелі рабіць самакруткі. Часам з добры палец. А то і таўсцей. На самакруткі ішоў свой уласны мультан і ладны кавалак газеты. А тут ніякай газеты! Туга скручаныя тытунёвыя лісты былі і за табаку, і за газету. Думалася, што цыгары растуць такімі самі па сабе. Скручваючыся, як капусныя лісты...

Ляжалі яны шчыльным радочкам, адна ля аднае. Пасярэдзіне кожнай — залатая жуковіна. Нібы тоўстыя жываты падпяразаны раменьчыкамі. З танчэйшага канца — таксама залаты абадок. Толькі даўжэйшы. Тым канцом бралася цыгара ў рот... Адным словам — заглядзенне. А калі дзядзька Камісар сказаў, што точна такія курыць і Чэрчыль, ім і цаны не стала.

Усё лепшае, што знайшлося ў хаце і ў каморы, цётка Кацярына ставіла на стол. Запрашала гасцей садзіцца. Меншыя госці — хлапчукі — пачаставаліся ўжо. Іх месца — на вуліцы.

Яны пабеглі. Тым, хто не чуў, пераказвалі дзядзькавы расказы. Ды з такімі неверагоднымі падрабязнасцямі, што ў іх расказах дзядзька Камісар быў не менш як героем.

Пасля гулялі ў мячык ля сцяны хаты.

Надакучыла.

Рыгор і Віця паўзлазілі тады на стары пахілены каштан, што рос у двары. Неўзабаве прыджгаў да іх і Вова, які непрыкметна некуды быў знік, калі гулялі ў мячыка. Узлез на дрэва да Рыгора і Віці. Усеўся на галіну. Аддыхваўся. Па-змоўніцку зіркаў на хлопцаў. Нешта ўтойваў. Але не хацеў адкрывацца, пакуль яго не запытаюць. Рыгор і Віця таксама схітравалі. Не гаворыш ты пра нешта, а нам яно зусім і не цікава. Маўчалі. Вова хутка не вытрываў. З тым жа змоўніцкім выглядам палез за пазуху. Маўляў, што вы скажаце на гэта? І выцягнуў адтуль... чэрчылеўскую цыгару. «Во!» — горда пахваліўся ён. Паглядзеў уніз: ці ніхто за ім не сочыць. Унізе нікога не было. Тады Вова зноў жа з-за пазухі выняў пласцінку запалак з зялёнымі галоўкамі. Узяў залатым канцом цыгару ў рот,— як яна толькі і памесцілася! — адламаў запалку, чыркнуў, пачаў смактаць-прыкурваць.

Курылі па чарзе. Спачатку, вядома, Вова. За ім — Рыгор. А пасля і Віця. Дым быў горкі. Пякучы, аж вочы на лоб вылазілі. І мала выходзіла з рота таго дыму. Быццам яго і зусім не было. Цыгара тоўстая, а дыму з яе, як з тарана наедку,— ніякага. І ўсё-такі хлопцы курылі. Такія ж цыгары смаліў сам Чэрчыль. Дык хіба яны горшыя за таго Чэрчыля?!

Вова трохі пачакаў, пакуль пасмокчуць Рыгор і Віця. Затым па праве завадатара забраў цыгару назад. Віця не шкадаваў ніколечкі. Хочаш — забірай. Падумаеш, шчасце такое! Вова забраў і запыфкаў. Пацягне ротам і — пыффф! Пад лісце каштана, каб ніхто не заўважыў. Можна было і не маскіравацца. Дыму ж ад цыгары амаль не было. А які і быў, то Вова глытаў. Нарэшце здаволіўся. І накурыўся: пабялеў з твару, захістаўся на галіне, як п'яны. Цыгара выслізнула з пальцаў. А Вова за ёю — бум-м з галіны! Пад каштанам было мноства ўрослых у зямлю каменняў. Як гарадскі брук. І Вова — пяткамі на брук! «Авой-авой-авой!» — і памчаў у хлеў, высока падкідваючы ногі.

Рыгор з Віцем таксама пасаскаквалі. Пабеглі за ім. У хляве знай-

шлі Вову. Ён ляжаў на тачкý. Дрыгаў нагамі: «Авой-авой, трывога ў нагах!..» «Будзе табе зараз баявая трывога, калі дазнаецца маці,— засмяяўся Рыгор.— Яна пакажа Чэрчыля».

Праз нейкі час у хаце бабы Васілісы, акрамя Віці, з'явіліся яшчэ два мужчыны. Першы — Іван. З цёткай Вольгай яны пажаніліся, калі Іван вярнуўся з вайны... А праз год нарадзіўся ў іх Лявонка. Праўда, з мужчын у хаце пастаянна бываюць Віця з Лявонкам, Іван працуе ў МТС на трактары і ў свой калгас трапляе не часта...

...У школе на вясновыя канікулы вучняў адпусцілі трохі пазней звычайнага. Тады, як хлынула вялікая вада. І хлопцам такая затрымка анігадкі. Сама ляцелі дзікія гусі.

Сябры прыйшлі на світанні. Цётка Вольга раскатурхала Віцю: «Уставай!» Ён, можна сказаць, і не спаў. Які там сон, калі звечара дамовіліся ісці на паляванне... Ён чуў, як цётка Вольга ўстала да Лявонкі, што закрактаў у калысцы. Чуў, як пастукалі знадворку хлопцы ў шыбу, як Рыгор гукнуў: «Віця!»

Віця ўмомант падхапіўся. Сон як рукой зняло. Знайшоў у пячурцы анучы. Дастаў з печы боты. Учора былі яны, як квачы, а цяпер ссохліся, бы косткі. Ніяк не хацелі ўзлазіць на ногі. Віця прытупнуў і раз, і другі. Перасцярожліва паглядзеў у бок калыскі. І нездарма.

— Разбудзі мне дзіця,— ціха сказала цётка Вольга,— то будуць табе гусі...

Нарэшце сяк-так усцягнуў боты. Памыўся. Выбег з хаты.

Хлопцы нездаволена тапталіся пад акном. Быццам Віця не хацеў, каб скарэй. Быццам наўмысна затрымліваў.

Ішлі спорнай хадою. Маўчалі. Так і належыць паляўнічым: не палохаць цішыні.

За вёскай рассцілалася поле. За полем — тарфяное балотца з кустамі. А далей — азіміна на ўзгорках.

Туды і бралі кірунак. Рыгор і Віця трохі ўперадзе. Вова адставаў ад іх. Пад пахай ён нёс торбачку з вымачаным бобам, і яму, мабыць, нязручна было абірацца сушэйшым, пераскакваць з крыгі на крыгу.

Над зямлёй слаўся нізкі туман. Той, пра які гавораць, што есць снег. Ён быў густы, як дым ад кастра. Узыдзе сонца — і туман падымецца ад зямлі, рассеецца. Дзень тады будзе парны. З першым жаўранкам над раллёй, з гагаканнем дзікіх гусей на пагорках. Але сонца яшчэ не ўставала. І гэта радавала хлопцаў. Думка, што не заспалі, бадзёрыла іх, прыдавала надзеі на ўдачу.

Каля балотца ледзьве не пагрузлі. Рыгор, а за ім і Віця з расквашанай, але ўсё ж цвёрдай пад нагамі каляіны падаліся на абочыну. Хацелі абысці лужыну. Ступілі на раллю, дзе, здавалася, барозны ачахлі, а там наадварот: зямля — бы цеста, так і паехала. Ледзьве павыцягвалі з калатушы ногі. Павярнулі назад. Пайшлі па лужыне. Не было б шчасця, дык няшчасце паможа. Вось і боты абмыюцца. Але боты абмыліся збольшага. Наліплая да халяў кірзачоў гразь уелася ў поры, давялося адшароўваць. А вада халодная. Аж рукі заходзяцца. Кінулі мыць боты. Што толку? Па-першае, шкада часу. А калі ўлічыць, што сёння гразі ім мясіць не перамясіць, дык глянец той і зусім непатрэбны.

Перайшоўшы лужыну, прыпыніліся. Паляскалі, прытупваючы ботамі. Ногі ў іх былі ўжо мокрыя.



Хлопцы ўзіраліся ў туман. Чакалі Вову. У шэрым тумане цьмяна хісталася яго фігура. А во быццам і зусім прыпыніўся, убачыўшы, што яго чакаюць.

Рыгор з Віцем не сталі марнаваць часу. Падаліся ў абход балотца. Толькі калі абагнулі яго, выбіліся на азіміну. Прыпыніліся. Месца было някепскае. Збоку цямнела купка кустоў, уперадзе ўгадваўся знаёмы пагорак. Можна было атабаравацца на дзень і адсюль весці назіранне. А цяпер — хуценька рассыпаць па азіміне боб! Але дзе ж Вова?! Яго і не відаць нідзе.

— Вова! Вова! — прыцішана гукнулі хлопцы.

Яго не было.

— Вова! Вова! — пагукалі мацней.

І зноў ціха. Можа, загрузнуў ці заблудзіўся ў тумане? Вось недарэка! Не выспаўся ён, ці што?

У тым, што Вова не загрузнуў і не заблудзіўся, Рыгор з Віцем не сумняваліся. Інакш бы ён пагукаў іх сам.

Нарэшце паказалася цьмяная постаць. Насуперак чаканню, яна не спяшалася. Валюхалася з боку ў бок. Быццам Вова ішоў не на паляванне, а, скажам, малоць у жорны. Быццам сонца будзе чакаць, пакуль Вову не надакучыць мясіць гразь на месцы. Ён і сапраўды прыпыніўся. Убачыў, што яго чакаюць, і стаў. Тады не вытрымаў Рыгор. А мо здагадаўся пра штосьці, бо рашуча кінуўся насустрач брату. Пахлюпаў у той бок і Віця.

Трывога была недарэмнай. Вова еў боб! Развязаная торбачка вісела ўжо на шыі спераду, а ён запускаў туды руку і — як нічога ніякага! — жменю за жменяй кідаў боб у рот.

— Ах ты, гусятнік няшчасны! — падскочыў да яго Рыгор. Даў аднаго таўхаля, другога. Брат паляцеў у гразь. Раззлаваны Рыгор надаваў бы і больш, каб Вову не заступіў сабой Віця. Што яго біць? Ён і так ледзьве на нагах трымаецца.

— Х-хопіць і г-гус-сям! — ікнуў Вова ў сваё апраўданне.

Хопіць не хопіць, а трэба было ратаваць тое, што засталося ў торбачцы. Рыгор адабраў торбачку. Зазірнуў усярэдзіну. Незадаволена пакруціў галавой. Разам з Віцем пайшлі яны на ўзгорак. А Вова ўстаў на ногі і пайшоў да кустоў, дзе яму загадалі чакаць.

Боб рассыпалі па самым узгорку. Віця паспрабаваў адно каліва на зуб. Яно набрыняла ад гарэлкі. Ажно лопалася лупінка. Горкае, як чэмер. Гусь схопіць і ўпадзе. І сумнявацца не трэба.

Вярнуліся ў кусты. Залезлі ў самы гусцеж. Паселі. Доўга чакалі. Узышло сонца. Адарваўся ад зямлі і паплыў угору туман. А яны цярпліва сядзелі ў мокрых і голых па-вясноваму кустах. Падпільноўвалі здабычу. Але гусі праляталі воддаль. А калі які ланцуг і заварочваў сюды, то, пакружыўшы і, здавалася, гатовы вось-вось апусціцца на ўзгорак, узмываў у неба. Трывожны гусіны гвалт далятаў да хлопцаў... Паспрабуй тут не пагадзіся, што чакаць і даганяць — дзве найнепрыемнейшыя рэчы! Час нібы спыняецца. Адзіны тады паратунак — астацца сам-насам, у думках апынуцца побач з нечым прыемным, з некім блізкім. Ну, хаця б з бабай Кастыніхай ці з дзедам Трахімам...

...Дзед Трахім, іх сусед,— сухі прыгорблены стары. З сівой барадой і вусамі. І галава ў яго сівая. Калі ён ходзіць па сваім двары, то бачна толькі белая галава. Усяго астатняга засланяе частакол плота. Хлопцы часта заходзяць да яго на падворак. Дзед умее віць вяроўкі,

рабіць граблі, скручваць адмысловыя дудкі... Лепш падлічыць, чаго дзед не ўмее. Але такога, здаецца, і на свеце няма. У дадатак дзед Трахім ведае шмат казак і вершаў. І калі ён не злосны, як той раз каля гумна з ільном, хлопцаў ад сябе не гоніць, як дзядзька Платон. Бегае дзедаў сцізорык жвава, спрытна. Жых-жых — і пад рукамі нараджаецца нешта цікавае. Віця і Камісаравы хлопцы строяць здагадкі, спрачаюцца, што майструе дзед. Можа, свісцёлку, можа цацку якую ці яшчэ што, дагэтуль ім не вядомае. Ножык у дзедавых руках — жых-жых! А сам ён тым часам нібы пытаецца ў каго: «Скажы-тка, дзядзя, то ж нядарам Масква, спалённая пажарам?» Або: «Хопіць спаць, мужычок. Уж вясна на дварэ...» І пайшоў, і пайшоў дзед. Да якога ён «дзядзі» звяртаецца, да якога «мужычка» — аднаму яму вядома. Цікава было б зірнуць на дзедавага дзядзьку, які ён. Мабыць, яшчэ старэйшы за дзеда Трахіма і жыве, пэўна, недзе далёка-далёка, што ні разу не быў на Трахімавым двары, бо хлопцы ніколі яго не бачылі... «Да, былі людзі ў наша ўрэмя, багатыры — не вы»... А ножык — жых-жых...

Колькі і помніць Віця дзеда Трахіма, той заўсёды нешта робіць, некуды ідзе. Мацае кавенькай вуліцу, паклоны кожнаму аддае. Старым і малым — каго сустрэне. «Дзень добры вам!» — і пакланіцца нізка. Амаль да самай сваёй кавенькі. Калі ў дзеда на галаве шапка, ён абавязкова здымае яе вольнай рукой. У нядзельны дзень, калі на лавачкі высыпаюць людзі, а па вуліцы ідзе дзед Трахім, то шапка яго ўсё ў руцэ ды ў руцэ...

— Дзень добры вам! — яшчэ ад самых варот вітаецца дзед Трахім, заходзячы ў іх двор.

— Дзень добры, Трахімка. Дзень добры,— адгукаецца ад парога баба Васіліса.— Праходзь, гэнам, сюды, Трахімка. Не стой ля варот,— ласкава запрашае яна.

Дзед Трахім мацае кавенькай зямлю. Паволі падыходзіць. Яшчэ раз вітаецца. Пераступае з нагі на нагу. Мерыцца нешта сказаць, а не адважваецца. Нарэшце:

— Хацеў папытаць... Мая рабенькая кура не нясецца дома... Можа, у тваім хляве, Васіліска, яна яйкі кладзе?..

— Можа, Трахімка,— адказвае баба.— Гэнам, прысачыць трэба, Трахімка.

— Ну але, ну але, прысачыць,— пагаджаецца дзед.

Баба на ганку лушчыць у макацёр фасолю. Дзед стаіць побач. Трохі маўчыць. Затым паведамляе:

— Прыслаў мой Іван пісьмо. З Манжурыі... Піша, што вайна скончана, што дамоў скора прыедзе...

Баба ўздыхае. У вочы ёй набягаюць слёзы. Балюча бабе: ёй няма каго чакаць з вайны. Пяцёра сыноў было, а цяпер — ніводнага. Горка.

Заўважае гэта і дзед. Няёмка топчацца на месцы. Ён не хацеў пакрыўдзіць. Але ж яго Іван прыйдзе. Не сёння, дык заўтра. Што тут таіць... Ведае пра гэта і баба і бачыць збянтэжанасць дзеда Трахіма. Пры чым жа ён? Ён не вінаваты. Каб пасобіць суседу справіцца з няёмкасцю, яна ўсё ж перасільвае сябе, запрашае:

— Прысядзь бо, Трахімка. Я во адсуну гэны снапок, а ты прысядзь. У нагах, кажуць, праўды няма.— Калі дзед апусціўся на прыступку ганка, баба ўздыхнула: — Дык што, гэнам, яшчэ піша твой Іван?

— Піша, што вайна скончана пераможна... То мы пра гэта і самі ведаем. А яшчэ піша, што аслабанілі ўсіх, каторыя ў няволі былі...



Што іх, нашых, значыць, тамтэйшыя людзі за гэту помач траха не на руках носяць. Але-але... Я ведаю тых людзей. Колькі кітайцаў перабачыў, калі ў Порт-Артуры ваяваў... Харошыя людзі былі. Працу любяць. І нас любілі. Мы іх Мішамі звалі, бо імёны ў іх не такія, як нашы,— запомніць цяжка... А яны афіцэраў нашых — скрозь капітанамі. Хоць там і федфебель які, а па-кітайску ўсё адно — капітан. Але-але... Трохі зноў памаўчаўшы, дзед успамінае: — А кітайцы тыя,— ці паверыш, Васіліска,— нейкіх чарвякоў з мора ядуць. Нейкіх спецыяльных. Далікатная, кажуць, тая ежа...

Баба Васіліса моршчыцца.

— Не кажы, гэнам, Трахімка, перад вечарам. Яшчэ сніцца будзе.

— Але-але,— пагаджаецца дзед.— Я не думаў абы-чаго. Проста так... Дык аслабаніў мой Іван тых кітайцаў. Аслабаніў і дамоў едзе.

— Дзякаваць богу,— гаворыць баба.— Хоць ты, Трахімка, радасці дачакаешся.— Выцірае пярэднікам вочы.

Дзед Трахім устае, збіраецца ісці. Баба абяцае яму, праз слёзы:

— Я, гэнам, высачу, Трахімка, тваю рабенькую. Высачу...

Праз усю тую даўнюю ноч сеяўся надакучлівы хлісткі дожджык, не перастаючы і ўранні. А Трахімаў Іван не пабаяўся ні асенняй бездаражы, ні начной цемры. Злез з поезда на станцыі, дзе была МТС, і — прама ў Дабрыні. Сярэдначы і датупаў да вёскі. Пра гэта ведае Віця з Іванавых расказаў.

Дзед Трахім памёр, і Іван прадаў сваю старую хату, перабраўся жыць да іх. Віця шмат чаго наслухаўся ад дзядзькі Івана. Цяпер, праўда, ён і для Віці проста Іван. Так ён загадвае сябе называць. І цётка Вольга кажа, каб не зваў цёткай, а Вольгай. Якая яна цётка, калі старэйшая ўсяго на які дзесятак гадоў? Але няёмка неяк. Язык не паварочваецца так адразу — прывык.

Дык вось... Іван расказаў, што як прыйшоў сярэдначы з вайны да бацькі ў родную хату, так і не заснуў да раніцы ні на хвіліну. Чакаў. Каб да Вольгі хутчэй прыбегчы. І прыбег. Ні свет ні зара. Яшчэ яны і ў печы не падпальвалі. Яшчэ цёмна было ў нудных ад дажджу вокнах. Як раптам дзверы расчыніліся і: — «Дазвольце далажыць?! Гвардыі сержант, кавалер двух ордэнаў Славы... у ваша распараджэнне!» Ад нечаканасці ніхто не знайшоўся, што сказаць, а Іван прайшоў у хату, пацалаваў цётку Вольгу. Яна зачырванелася. Мабыць, баялася, што будзе сварыцца баба. А каб баба не сварылася, то Іван пацалаваў і яе. Віця сядзеў на палку, абуваўся. Збіраўся ў школу. Іван падаў і яму руку: «Здарова, піянер!» і так страсянуў, што ў самога медалі ды тыя два ордэны Славы зазвінелі на грудзях.

Вечарам, помніцца, калі частаваліся ў іх, дзядзька Платон спытаў у Івана: «Дык чаму ты, братка, не поўны кавалер? Гэта ж, лічы, Героем быў бы. А Героям цяпер — о-о!» — прыцмокнуў ён языком. «Мы, дзядзька, за Героем не гналіся. «Слава» сама знаходзіла. На трэцюю толькі часу не хапіла — вайна рана скончылася». Іван засмяяўся, а баба перахрысцілася на абраз: «Свят, свят... Што, гэнам, ты гаворыш?»

Па сваіх ордэнах на той час Іван мог ехаць куды хочаш. Хоць у Маскву. Толькі не выбраўся нешта. Гаварыў, шмат работы ў МТС, куды ён пайшоў працаваць трактарыстам. А так, калі б быў час, едзь, калі ласка. Бясплатна. Такое права было. Нават памог па сваіх ордэнах дастаць білет дзядзьку Камісару. У самую Маскву, дзе ў Камісаравых жылі сваякі. І той ездзіў. Булак прывёз пасля з Масквы.

Мабыць, з таго разу так упадабаліся тыя булкі дзядзьку Камісару, што ён ездзіць па іх і цяпер. Толькі ўжо бліжэй, у Мінск. А пасля дзядзька Іван узнагароды свае аддаў насіць Віцю. Усе хлапчукі насілі, у каторых бацькі з вайны вярнуліся. Насіў і Віця, хоць бацька яго і загінуў.

...Чакаць надакучыла. Хоць ніхто пакуль не сказаў пра гэта, але сядзець у кустах, сагнуўшыся ў крук, агоркла. Хлопцы больш не дбалі пра маскіроўку. Навошта яна, калі з самай раніцы не знізіўся над імі ніводзін клін. Хлопцы павылазілі з куста. Атрапаліся. Патупалі, пападскаквалі, даючы волю здранцвелым нагам. Анучы ва ўсіх намоклі і непрыемна гарачылі ногі. У дадатак хацелася есці. Добра Вову. Ён пад'еў раніцай бобу. Няхай і горкага, а ўсё ж бобу.

Вова першы азваўся, калі хлопцы павылазілі з куста. Прапанаваў вяртацца дамоў. З ім згадзіліся.

Моўчкі папляліся ў вёску...

Пры самых хатах сустрэлі Ігнатавага Петрака. Ён з бацькам некуды ехаў на падводзе. Звесіў між лёстак ногі — яны амаль даставалі да зямлі — і задаваўся. Свіснуў, паказаў у неба. Дурні, маўляў, і толькі. Хлопцы нічога не адказалі. Каб Пятрок быў адзін, то яны не змоўчалі б. А так, канешне, Петраку можна свістаць. Можна закідваць галаву і смяяцца. Ведама, пры бацьку...

Пайшлі да Камісаравых. А тут — іх маці. Яна ўжо хапілася бобу і націрання. За папругу і — да сыноў! Віця мог бы даць драла, але няёмка таварышаў у бядзе пакідаць. Схаваўся за грубку. Перачакаў навальніцу. Яна, праўда, доўга і не грымела, тая навальніца.

Быў абедзенны час. Цётка Кацярына з дзядзькам Зміцерам выкідвалі са стайні гной. Дзядзька пайшоў ужо з абеду. Хлопцы яго не засталі. І шчасце іх, як сказала цётка Кацярына, што хаця яна затрымалася. А то да вечара ім галодным быць бы... Напомніла цётка пра яду, і аж пад лыжачкай засмактала.

Яна наліла ў вялікую гліняную міску булёну, паставіла на стол. Прынесла з каморы пляскатую кулідку хлеба, які дзядзька Зміцер прывозіць у мяшках з Мінска, адрэзала тры лусты. Астатак зноў панесла ў схованку ў камору. Вярнулася. «Ну, ідзі і ты да стала,— сказала яна Віцю.— Разам жа мо хадзілі? Ідзі, ідзі, не аднеквайся, не дзякуй, не еўшы. Дзякаваць будзеш, як пад'ясі. Ідзі! Баба Кастыніха, мабыць, не варыць такіх смачных крышаноў...»

Цётка Кацярына — за дзверы, а Віця — за стол. Да Рыгора і Вовы. І праўда, сма-ачныя былі крышаны, звараныя з камсою! Такіх смачных Віця не еў зроду. Куды дзікаму гусю да гэтых крышаноў!..

Паабедаўшы, хлопцы занялiся сваімі справамі. Вова пабег на вуліцу гуляць у пеклю. А Рыгор з Віцем селі маляваць. З картачкі перамаляваў Рыгор свайго бацьку. У школе ён афармляе насценгазету, піша перад святамі плакаты. Настаўнікі не нахваляць Рыгора за яго ўмельства. І бацьку яго не раз гаварылі, што такія здольнасці трэба развіваць. Трэба, каб Рыгор канчаў дзесяцігодку, і адпраўляць яго ў інстытут, на мастака. Дзядзька Зміцер у такіх выпадках звычайна круціць галавой ды гаворыць, што не выцягне. У дзесяцігодцы ж плаціць за навучанне трэба. А дзе ён возьме тых грошай?! Хаця б на хлеб хапіла. Ды на камсу.

Аднаго разу намаляваў Рыгор Сталіна. З карціны, дзе Сталін у Крамлі стаяў над картай з чырвонымі стрэламі. Цудоўна намаляваў Рыгор. На зайздрасць усім хлапчукам, што збегліся глядзець.



Пакуль бацькі былі на калгаснай працы, Рыгор павесіў партрэт у куце ля абразоў. Пад самай столлю. А прыйшла маці і загадала павесіць партрэт ніжэй. «Бач, што ўдумаў! Вышэй іконаў павесіў!»

Моцна пакрыўдзіў Рыгора ўчынак маці. І Віцю пакрыўдзілі цётчыны словы.

У дзядзькі Дарафея поўная хата дзяцей і больш, чым у каго ў Дабрынях, працадзён у ведамасцях у канторы. Меншыя бегаюць у школу ў адных і тых жа бахілах. Балазе розныя класы і школа займаецца ў дзве змены. Адно прыбягае са школы, скідае бахілы. Іх абувае другое і бяжыць на ўрокі. Большыя дзядзькавы дзеці працуюць у калгасе. Зарабляюць хлеб. З году ў год стараюцца, каб выгнаць больш працадзён. Ідуць на любую працу, куды загадае брыгадзір. З году ў год цешацца надзеяй на лепшае, на папраўку калгасных спраў. Абяцаюць папраўку і новыя старшыні, якіх прывозяць з раёна кожнай зімы. Справы ж у калгасе ішлі цераз пень калоду...

Меншыя дзядзькавы дзеці сяк-так пракідаюцца зіму да лета. Ім — у чым ёсць, у тым і добра. Клопат з большымі. З дзяўчаткамі яго. Год-два міне — і не заўважыш, як нявестамі стануць. Трэба выводзіць у людзі. Ой, як трэба!

Чалавек, як рыба. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. А калі ты яшчэ і бацька, то хіба не дабра жадаеш сваім дзецям? Хіба чужы паспрыяе ім лепш, чым ты? Трэба ў горад! Кажуць, ахвотна бяруць маладзенькіх дзяўчатак у нянькі. От бы прыладкаваць і яго абедзвюх старэйшых у нянькі. Хай бы папрацавалі год-другі. Агледзеліся. А там — свет не без добрых людзей! — памогуць і на сталую працу паступіць. Прафесію набыць. Няма прафесіі — няма кавалка хлеба ў руках. Во як у Дабрынях. Пакуль што людзей выручаюць бульба са сваіх сотак ды гуркі з грады. Дзе які лапік зямлі — усё засеяна. Нават агародчык пры вуліцы. Пад вокнамі буялі калісьці настуркі, мята, вяргіні. Дыхнуць здаравей было, калі акно адчыніш. Цяпер там расце бульба... У горад, толькі ў горад!

— Віктар, пачакай, братка, супыніся! — гукае дзядзька Дарафей.

Віця едзе на пошту. Вязе пісьмо ў рэдакцыю раённай газеты. Пра «цудоўную кветку Цянь-Шаня», як называюць у газетах кок-сагыз.

Ён спачатку пачуў векліч. А во і дзядзька выходзіць са свайго двара. Віця злазіць з веласіпеда.

— Здароў быў,— вітаецца дзядзька. Падае руку. Як даросламу, як раўні сваёй.— Шпаркі, халера, твой матацыкл. Бегае добра.—Ён ляпае па сядле веласіпеда.— У мяне справа да цябе. Вось якога толку...

Пачынае гаварыць пра сваіх дзяўчатак. Пра тое, што трэба ім у горад. А старшыня не дае даведку для атрымання пашпарта. Без пашпарта ж куды падасіся? Дома сядзі. Дома ж мала высядзіш. Іншым, у каго і меншыя сем'і, падаваў даведкі. А ў яго сям'я ў Дабрынях самая вялікая і — ніводнай. Несправядліва! Трэба пароўну, па-чэснаму. Каб не атрымлівалася так, што хто скарэй прыцёрся к новаму старшыні, той і наверсе. Чым ён, Дарафей, прытрэцца, калі гол як сакол?

— Ды ты напішы, братка. Па-баявому, па-камсамольску. Ад майго імя.

Віця тлумачыць, што ніякая пісаніна тут нічога не дасць. Як зробяць мясцовыя ўлады, так і будзе. Ён шмат пісаў розных пісьмаў па просьбе аднавяскоўцаў. І ўсе яны вярталіся на рэагаванне ў калгас, сельсавет або раён.

— Яно, канечне, на чужой барадзе лягчэй вучыцца брыць. І ў тым, братка, і загваздка, што воўк пакрыўдзіць—ваўку і тваю скаргу адсылаюць. На расправу,— пачухаў патыліцу дзядзька Дарафей.— Але нічога — перазімуем! А там, глядзі, і новая скура нарасце. Будзе скура, будзе і поўсць,— зводзіць ён на жарт гаворку.— Як думаеш, перазімуем?—пытаецца ён і сам упэўнена адказвае:— Выкідаемся!

Ляпае па сядле веласіпеда, ідзе назад у двор.

...Паспрабуй разабрацца ў жыццёвых складанасцях: аднаму булка з макам, а другому, такому, як дзядзька Дарафей,— кукіш. Віця не раз задумваўся над гэтым, шукаў адказу. Была вайна,— гаварылі, што ўсё ад вайны: і крыўды і боль. Нагараваліся, намучыліся. Здавалася, дай толькі мір — і ўсё загудзе. Людзі будуць жыць, як браты. Канечне, пабіта і спалена кругом. Трэба аднаўляць. Трэба намацваць чарговую дзірачку на папрузе. Але чаму не паменшала крыўды ў людзей? Чаму — адзін на аднаго? Чаго рвацца ў той горад? Трэба працаваць тут. Дружна. Усё ж у сваіх руках. Захацеў — зрабіў. Выявіў няпраўду — падказаў, пакрытыкаваў. Адкрыта і прама, як у іх у школе на камсамольскіх сходах. І трэба самому ўсё і ўсюды! Адкінуць звычку шукаць заступніцтва. Каб нехта за цябе зрабіў, напісаў. Былі б непісьменныя, дык іншая справа. Дык не ж! Проста перамагае нейкая кулацкая хітрасць: пішы ты, рабі для мяне ты, лезь першы ты, а я цябе падапхну ззаду...

Па дарозе на пошту і дома, калі вярнуўся, увесь вечар не пакідалі яго гэтыя блытаныя і супярэчлівыя думкі. Ён прыпамінаў многія падобныя выпадкі, і яго разбірала злосць. У іх, у такіх просьбах, было адно агульнае: памажы, ратуй... Хоць гаварылі розныя людзі. І па характары і па дастатку. Але ўсе чамусьці былі пакрыўджаныя і ніхто — вінаваты. Хоць бы дзядзька Платон. Хата яго пры вулачцы. Ну і соткі, вядома, побач. Дык за тры-чатыры гады ён так звузіў тую вулачку, прыворваючы кожнай вясны да свайго пляцу па пары баразён, што карове прайсці стала цесна. І штогод у канцы поплаву яшчэ прыдзіраў. Быццам без тых баразён паміраў дзядзька Платон з голаду. Жыве ж сама лепш у Дабрынях. Дзядзьку Платона паслухаць, дык, не ведаўшы, світку апошнюю знімеш і аддасі яму,— такі небарака. І ён забярэ. Забярэ і не ўхмыльнецца.

Віктар прыпомніў яго, дзядзькаў Платонаў, выпадак.

Абрэзалі дзядзьку Платону соткі з поплаву. Адсунулі бліжэй да хаты, як была і раней, вулачку. Зрабілі так, як было па шнуравой кнізе.

Вось тут і пачаў ён жаліцца мужчынам, якія сабраліся надвячоркам пакурыць на вуліцы. «Охо-хо,— уздыхнуў ён.— Дзень скончыўся. Зноў вячэраць трэба. Гам картофул, хлэм картофул. Картофул і картофул...» Мужчыны нічога не адказалі. Хто нагнуўся прытаптаць акурак, хто адвярнуўся. Быў пры гэтым і Пятрок Ігнатаў. Ён і пеканўў: «Не прыбядняйцеся, дзядзька. Загадайце цётцы Агапе, няхай сала да бульбы пашукае. Ды старога, жоўтага. Яно ўсё на тук збягае». Мужчыны зарагаталі. Хацеў прытупнуць на Петрака дзядзька Платон. Але змікіціў, што́ выгадней, і сам зарагатаў.

Мужчыны пакурылі, пачалі разыходзіцца. Дзядзька Платон затрымаў Віцю. Пачаў гаварыць пра свае абрэзаныя соткі. Ён іх не шкадуе. Не. Закон ёсць закон. Хай будзе па законе. Але хай будзе і па-гаспадарску. Атрымліваецца ж наадварот. Абрэзаць абрэзалі, а што атрымалася? Пустуе той кавалак, што ад поплаву. І сам не гам і табе не дам. Во як! Хто ж гэта бачыў, каб уробленая зямля пуставала? Тут не звычайная безгаспадарчасць, а шкодніцтва. Наўмыснае шкодніцтва. І калгасу і калгаснікам. Толькі зірнуць на гэта трэба з належнага боку.

Дзядзька хітрыў. Віця бачыў, што хітруе Танін бацька. Віця пагаджаўся з ім наконт безгаспадарчасці. Праўда тут на яго баку. Пагаджаўся, што нельга заплюшчваць вачэй на той кавалачак ля поплаву. Кавалачак да кавалачка — з малога складваецца вялікае. Узяць хаця б Дабрыні. Не ў аднаго дзядзькі абрэзалі соткі. Вунь Ігнат хацеў соллю вочы засыпаць камісіі, калі перамервалі яго загон. Той, каля ліпы, дзе вялася некалі івалга.

Трэба пісаць пра гэтыя абрэзкі. Пра лебяду, што расце на іх. Але пісаць «з належнага боку». Толькі не з таго, з якога хоча дзядзька Платон, а са свайго. Аддай сёння дзядзьку Платону яго абрэзак каля поплаву, і ён замоўкне. Палічыць, што праўда ўзяла верх. Яго праўда. На наступны год ён прыарэ яшчэ дзірвану. Затым яшчэ і яшчэ. Каб было не менш, чым у Ігната. Не менш, чым у іншых, а больш. Тады ён будзе задаволены, будзе лічыць, што не паддаўся, каб яго абышлі, абхітрылі...

Не, Віця не напіша заметкі пра абрэзкі. Хай пустуюць, ліха з імі. Не будзе пісаць, не будзе ўступацца за праўду дзядзькі Платона. Бо няпоўная яна, а толькі кавалак. Хай лепш Віцева праўда саступіць на гэты раз. Можа, яна і выйграе, і больш карысці будзе.

Дзядзька Платон не адступаўся. Пераконваў Віцю, што маўчаць нельга. Пахваліў яго: «У кожным нумары заметка. Ноле, а то і дзве. Праз нейкі час, глядзі, быдта і ў абласной надрукуюць. А там і ў Мінску»... Гаварыў і адчуваў, што гаворыць лішне. Бачыў, што хлопец зацяўся — пісаць не будзе. Думае штосьці сваё. Слухае і думае. Ці, можа, зусім не слухае яго, Платона. Яму і самому надакучыла ўгаворваць. Не напіша, дык навошта распінацца. «Смаркач, а за́даецца»,— падумаў Платон, а сказаў іншае, дыпламатычнае:

— Даўно, Віктар, да нас не заходзіў. Прыйшоў бы пагуляць. Тані ўрокі падсобіў бы зрабіць. Экзамены ж скора.

Сказаў і развітаўся. Пайшоў у двор. Усміхнуўся хітранька. Віця ўбачыў усмешку і зразумеў яе. Таня была першай вучаніцай у школе, і не яму, Віцю, памагаць ёй. Няважна, што ішоў ён на клас вышэй. Таня выдатніца. А значыць, не раўня яму...

Дома яшчэ не клаліся спаць. У вокнах ярка зырчэла святло. Віця зайшоў у хату і ўбачыў: у іх госць. У пярэдняй палавіне хаты — Іван падзяліў яе канню на два пакоі яшчэ раней — сядзела на палку баба Васіліса і гайдала на назе Лявонку. Малы смяяўся ад задавальнення. Дзверы ў другую палавіну былі адчынены. Там за сталом сядзелі. Спінай да дзвярэй — Іван. А насупраць яго — нехта чужы. Калі Віця зайшоў у хату, той, чужы, хістануўся, каб з-за Івана ўбачыць, хто зайшоў. Сядзела за сталом і Вольга.

— Госць у нас,— сказала баба Васіліса, хоць Віця ўбачыў ужо і сам.— Ідзі павітайся, гэнам.

Віця зайшоў, павітаўся. Незнаёмы ўстаў, падаў пульхную руку. Паціснуў нямоцна і сеў. З цікавасцю паглядзеў на Віцю. Паціснуў Віцю руку і Іван. Але нават не зірнуў у яго бок. Вольга запрасіла за стол, прапусціла Віцю на покуць. Сама села на ранейшае месца, побач з Іванам.

Твар незнаёмца — гэта быў, як зразумеў з далейшай размовы Віця, дырэктар МТС Коўзік — расчырванеўся ад цяпла і выпітай самагонкі. На стале стаяў напалову апарожнены графін. Налілі ў шклянкі зноў. Коўзік прапанаваў выпіць і Віцю, але той адмовіўся. Выпілі без яго. Вольга сваё не дапіла. Зморшчылася, закрыла рот даланёй, а астатак выплюхнула цераз плячо, і па шпалерах нібы пырснуў дожджык.

— А гарэлка — вада мераная,— нібы дакараючы Вольгу за тое, што яна выплюхнула недапітае, сказаў Коўзік. Сказаў так, бо гаворка з прыходам Віктара перарвалася, і цяпер нешта некаму трэба было сказаць. Не шкада ж яму сапраўды Іванавай самагонкі. Коўзік пажаваў сала, адсунуў ад сябе да графіна пустую шклянку.

Загаварыў Іван:

— ...Вось так, Мітрафанавіч, і душу чалавеку можна скалечыць. І не аднаму яму...

Гэта быў працяг, мабыць, той, перарванай гаворкі.

Віця вячэраў моўчкі. Умешвацца без запрашэння ў чужую гаворку нягожа. Усё роўна што падглядваць употай. Але ты за сталом, побач з людзьмі, якія гавораць і не тояцца ад цябе. Не запрашаюць прыняць удзелу ў гаворцы, але і не тояцца. Тады хоць з пятага на дзесятае будзеш ведаць, пра што гавораць.

— Ну, наконт іншых не скажу, а ў самога яго душа даўно запратакаліравана. І заверана... Не нашай толькі пячаткай,— запярэчыў Коўзік.

Вочы яго блішчалі, калі ён пазіраў на субяседніка. Расколаны прадаўгаватай ямкай падбародак падцінаўся. Чырвоны, з залысінамі, лоб блішчаў, бы памазаны тлушчам. Увесь твар выдаваў ад гэтага круглым.

Коўзік даводзіў сваё, а Іван не пагаджаўся, пярэчыў:

— Памылка тут выйшла з Генадзем. Трэба разабрацца, вярнуць чалавека.

— Там не памыляюцца,— узняў халодныя вочы Коўзік.— І адтуль не вяртаюць.

Зноў загаварыў Іван:

— ...Помню, неўзабаве, як перайшлі яны з паліцыі групай на чале з ім, падпольшчыкам, да нас, мы з ім на чыгунку хадзілі. Во з гэтай хаты. Міну ў мяшку неслі. Так здарылася, што іначай да яе не прыладзіцца. Ну, у мяшок — і гайда. Цяжкая, халера. Ды з гэтым мірыцца можна было. Цяжкая — не бяда. Муляе — ратунку няма. Рагі скрынкі вытыркаюць, як рэбры ў худога каня. «Нясі, нясі,— гавару яму,— адгуляўся ў паліцыі — нясі. Ведай, як ноччу па лесе хадзіць». А ён як ускіпіць... Думаў, біцца кінецца... Сам і ставіць на насып палез. Ну, мы і рванулі. Агонь і дым. І бы туман нейкі пайшоў... Аказваецца, муку немцы везлі ў тым эшалоне. Як шарахнулі, дык мне здалося, што летам зіма наступіла. Казалі пасля, што лес на вярсту ад узрыву мукой быў прыпарушаны...

— Паліцаем быў, паліцаем і застаўся,— не здаваўся Коўзік.— Хто дакажа, што ён па заданні ў паліцыі быў?

— Даказаць цяпер цяжка,— пагадзіўся на гэты раз Іван і ўздыхнуў. — Начальнік разведкі — сам ты, Мітрафанавіч, ведаеш — загінуў. З ім і дакументы прапалі, у якіх значылася, што свой ён хлопец, што па заданні ў паліцыі быў...

— Як сказаць, — не пагадзіўся Коўзік. — Тут, брат, тайна. Тайна, пакрытая мракам. І я не веру, што ён быў наш, калі служыў ім. — Пры гэтых словах ён кіўнуў галавой некуды ўбок. — Па-мойму, так: служыў у паліцыі — паліцай! Будзь ласкавы — адказвай. А душа ў яго, Іван Трафімавіч, скажу табе, наскрозь паліцэйская. Ты ведаеш куды ён меціў? А-а?! Вось бачыш... У сакратары нашай зanальнай партарганізацыі. З дырэктара школы — у сакратары! Перабраў, адным словам. Зарваўся. Забыў, кім быў у вайну. Тут і капанулі. Ды так, што ў Варкуце апыніцца... Бач ты яго, замахнуўся! Скажу табе, калі справа датычыць улады, бі прама ў галаву. І ён хацеў ударыць першы. Ён... Навука іншым пільнымі быць. Ты ведаеш, чуў, што класавая барацьба не заціхае, а разгараецца з новай сілай?

— Вы гаворыце, Мітрафанавіч, «класавая барацьба». Якія ж класы могуць быць у нас, калі ў нас — селянін ды рабочы? Адзін працоўны клас, так сказаць.

— Так, клас трудзяшчыхся... Інцілігенцыю ты толькі забыў. Хто яна? Ніхто! Праслойка. Ні нашым ні вашым, значыць. Паміж небам і зямлёй, адным словам. К кіпцю яе, Трахімавіч, к кіпцю, каб пад нагамі не блыталася. З-за яе, скажу табе, і сякія-такія ўпушчэнні бываюць,— Коўзік пакруціў растапыранымі пальцамі ў паветры.— А ўпушчэнні трэба ліквідаваць.

— Мітрафанавіч,— Іван зірнуў яму прама ў вочы,— вы ж таксама інтэлігент...

— Я?! — Коўзік хмыкнуў, адкінуўся спінай да сцяны. Непранікальны пагляд яго гаварыў: не так проста, скажу табе, мяне ўзяць.— Я не інцілігент. Я — кадравы работнік. Кіраўнік. Вось хто я, Іван Трахімавіч. Сакратар наш, Прахазаў, што гаворыць? А-а?! Галоўнае, гаворыць,— кіраўнік. Яму сама цяжэй, бо яму кожную секунду кантраляваць сябе трэба. Трэба ведаць, дзе ўсміхнуцца, дзе ў ладкі запляскаць — прыклад падаць. А дзе быць як з граніту. Каб ніводная жылка не затрымцела... Скажу табе, Іван Трахімавіч, як чалавеку заслужанаму, са стажам: грошы за так не плацяць. Кіраўніка знайсці не так проста.

— Харошага, канечне, цяжка знайсці,— памяркоўна зазначыла Вольга.— Але калі пашукаць... Вось жа знайшлі вас.

Коўзік паглядзеў на Вольгу, прыкідваючы, які сэнс хаваўся за яе словамі. Не знайшоўшы аднак нічога падазронага — наадварот, як здалося яму, пахвальбу,— ён бы скамянеў на хвіліну, затым загаварыў зноў:

— Многія думаюць, што турнулі ўчора на сходзе Коўзіка. Знялі з пасады дырэктара МТС, дык прапаў Коўзік. Не, скажу табе, зусім не прапаў. Сакратар наш, Прахазаў, падзякаваў напярэдадні за работу. Падтрымаў у непрыемную хвіліну. Ты, кажа, Мітрафанавіч, не адчайвайся, што ў цябе пад бокам вораг жыў. Усяго адразу не ўбачыш. А ворагі былі і будуць. Станавіся, кажа, на раённую культуру. Мы з табой, кажа, яшчэ папрацуем. Тры дні на ўтруску і — у раён, на культуру. Вось я і ўтрасаю сёння ў вас адзін з тых трох дзён... Дык як разумееш: паніжэнне ў мяне ці наадварот — выдзвіжэнне? — ён зноў, не міргнуўшы, паставіў вочы правуком на Івана...

Віця павячэраў. Падзякаваў. Вылез з-за стала. Хацеў ужо ісці на палок класціся спаць. І тут да яго звярнуўся Коўзік. Агледзеў яго халоднымі вачыма, правёў рукой па сваіх залысінах:

— Малайчына ты, хлопец, скажу табе. Малайчына, Віктар Аляшкевіч. Чуў пра цябе. Чытаў. Баявы камсамолец. У дзядзьку ўдаўся, мабыць?

— У бацьку,— паправіла Вольга і ўздыхнула.— Бацька такі быў.

— І ад дзядзькі штосьці ёсць, скажу табе. Яршыстасць,— першы раз за вечар усміхнуўся Коўзік і зірнуў у бок Івана. Усмешка слізганула па твары і тут жа знікла. Нібы асенняе сонца выблісне з-за хма-

ры і схаваецца. Не нагрэе, а толькі абнадзеіць.— Ёсць, ёсць штосьці і ад Трахімавіча. Харошы ты, Трахімавіч, чалавек, хоць мяккацелы, праўда. І пляменнік твой міравы хлопец. Такія нам патрэбны. На месцах. Як апора, разумееш?! Таму і сяджу ў вас у хаце і выпіваю гэту...— ён пстрыкнуў па графіне, і шкло затрымцела.— Таму і выпіваю, што з абы-кім за адзін стол не сяду... Хаця ў сённяшнім маім становішчы і не паложана за гэтым сталом сядзець... Ну, за вас! За тых, хто нам на змену ідзе,— зноў зірнуў на Віктара.

Віця лёг спаць. За сталом працягвалася гаворка. Баба зачыніла дзверы, каб галасы не будзілі Лявонку. Чуваць далей было неразборліва. Віця і не ўслухоўваўся. Ён зразумеў, што да чаго... Зразумеў, што ўзялі нядаўна таго «свайго паліцая», які ў вайну заходзіў да іх. Першы раз — каб папярэдзіць бабу Васілісу і цётку Вольгу не трымаць картачак вайскоўцаў у раме пад шклом. А другі раз быў ён з Іванам. «Свой паліцай» Гена, як называў яго Іван. Той, што вучыўся разам з яго бацькам. Той, што нёс у мяшку міну. «Так здарылася, што іначай да яе не прыладзіцца»,— успомніліся Іванавы словы. Віця ведае, як гэта было. Стаялі снапы ільну паўз сцены гумна. А пад ільном ён знайшоў цяжкую скрыню з зялёнымі раменьчыкамі. Раменьчыкі яны з Петраком абрэзалі, вярнуўшыся назад пасля таго, як папраганяў іх дзед Трахім. Абыходлівы і добры дзед папраганяў іх тады ад гумна, ад ільну. Вось яно што?! Ён ведаў, значыць, пра міну! І партызаны, пэўна, днявалі ў гумне. Дзед і папраганяў хлопцаў, каб яны не ўбачылі Івана і Гену, каб незнарок не прагаварыліся. Мала што магло здарыцца. Маглі наскочыць у вёску немцы ці паліцаі, і тады — бяда. А міна была пры сцяне пад снапамі. Хто падумае шукаць яе на двары, амаль на відавоку... Вострыя рагі міны ў мяшку. Перакласці міну на другое плячо. Перавярнуцца на другі бок. Цёмны лес. Ціхі пошум дрэў. Чорныя цені патрулёў на насыпе. Да насыпу дзвесце метраў. На дзвесце метраў абапал чыгуначнага палатна лес высечаны. Каб не падкраліся неўпрыкмет партызаны. Па карчэўі паўзе да чыгункі партызан Гена, Іванаў таварыш, учарашні падпольшчык. Асцярожна падцягвае за сабой мяшок. У некалькіх кроках ззаду — Іван. Аўтамат напагатове. Вось Іван спыняецца. Насып блізка. Ставіць міну паўзе адзін Гена. Час не бяжыць, а марудна цягнецца. Адна секунда — вечнасць... Нарэшце ўсё гатова. Адпаўзаюць у лес. Пад першымі дрэвамі аддыхваюцца. Падаюцца трошкі назад і чакаюць... Вось ён. Ляціць! Узрыў! Агонь! Паравоз падскаквае ўгару. Становіцца амаль старчма. Са страшным скрыгатам валіцца з насыпу. Разагнаныя вагоны ляцяць, напіраюць. Куляюцца. Трашчаць, бы хтосьці ломіць сухія косткі. Мёртвыя сполахі ракет. Страляніна. У дрыготкіх водсветах, як ахапіць вокам, на цёплую зямлю, на зеляніну лесу, на цені дрэў спадае белы-белы снег. Мяккі-мяккі. Ціхі...

Віцю агарнула дрымота. Ён не пачуў, калі пайшоў Коўзік, якому прапаноўвалі пераначаваць, а ён адмовіўся, бо ля калгаснай канторы яго чакала машына.

Віця адчуў, што над ім хтосьці стаіць. Расплюшчыў вочы. Каля палка стаяў Іван. Убачыў, што Віця не спіць, загаварыў. Спытаў спачатку:

— Не спіш?

— Засынаў,— прызнаўся Віктар.

— Ты ведаеш, за што цябе пахваліў Коўзік? Не? А я думаў, што здагадаўся. Як ты лічыш, хто нам соткі ўзарэ — баба, Вольга, Лявонка? А можа, ты? Ты ж на ўсё спец, яй-богу. Дык чаму чакаў, пакуль я прыганю трактар з калгаснага поля ды ўзару наш загон? Пайшоў бы папрасіў у брыгадзіра каня і — у плуг. Араць, акучваць умееш. Неываліўся б з рукі плуг і на гэты раз. А ты чакаў, калі я на трактары прыеду ды ўзару. А пасля выкрыў. Заметку ў газету напісаў. Коўзікаву падзяку заслужыў. Радуйся! Ён факты правяраць прыязджаў...

Цётка Вольга ўздыхнула. Яна прыбірала са стала. Сказала:

— Нашаму Віцю ўсё проста. Усё лёгка. Як дурню з гары збегчы.

Заварочалася на печы і баба Васіліса. А пад Віцю бы хто вару падліў. Так было яму горача, непрыемна.

— Ты ў нас разумны. Яй-богу, разумнейшы за ўсіх,— гаварыў далей Іван.

Кроў прыліла Віцю ў галаву. Стала непрыемна. Млосна. Быццам ён штосьці краў, а яго злавілі. Прынізілі перад людзьмі. Насмяяліся над самым святым.

Захацелася плакаць. Але не, ён не заплача. Не заплача, хоць яму балюча да слёз. Лепш Іван ударыў бы па твары, прыдушыў бы тут, на палку. Было б лягчэй.

Іван выгаварыўся. Пайшоў на тую палавіну хаты, дзе быў стол. Дзе стаяў іх з Вольгай ложак. Віця пачуў, як Іван сказаў пра яго ўжо там, Вользе:

— Кідаў бы сваю пісаніну, яй-богу. З яе хлеба есці не будзе. А галаву ў пятлю ўстраміць лёгка... Ішоў бы да мяне плугавіком...

Доўга-доўга не мог заснуць Віктар пасля такой гаворкі. Чаму ніхто не разумее, што робіць ён дзеля дабра? Каб усё ішло па законе. Па плане, як гаворыць дзядзька Зміцер. Без падману, без хцівасці. Па-брацку. Па-прынцыповаму. Калі будзе так, знікнуць скаргі, знікнуць пакрыўджаныя. Чаму не робіцца так, як напісана ў кнігах, як гавораць ім у школе?!

Цяжка. Думалася раней, што людзям патрэбен толькі прыклад. Яго, Віцеў, прыклад. І добрыя намеры... Убачаць, што ён хоча перавярнуць гару, падставяць свае плечы... Эх, сябар мой харошы, Рыгорка! Каб ты ведаў, як мне цяжка. Няма цябе побач, у Маскве працуеш. Ужо год, як няма. Адзін ты зразумеў бы мяне. Зразумеў бы, як і тады, калі мне не цярпелася хутчэй атрымаць свой камсамольскі білет. Калі ты, школьны камсорг, а дакладней, камсорг сёмага класа, у якім толькі і былі камсамольцы, рэкамендаваў мяне ў камсамол...

Тады — гэта было гады два назад — Віктара прынялі ў камсамол, хоць яму на той час і не хапала пару месяцаў да чатырнаццаці. Боязна было ісці ў райком камсамола: а раптам знойдуць тыя два месяцы? І сябар яго, Рыгор, абнадзеіў. Ён і павёў Віктара за дваццаць пяць кіламетраў у горад.

Спачатку здавалася, што туды даляцець можна на крылах. І сапраўды, утаміліся мала. У райкоме ўручылі білет. Пацiснулі руку...

Зямля тады была ўкавана марозам. Снег пазнiўся. І яна была цвёрдая, як ток. Ногі сталі цяжкія. Здавалася, ступаць даводзілася на гарачую патэльню.

На паўдарозе дамоў іх нагнала фурманка. І Рыгор пачаў упрошваць кабеціну, якая сядзела на фурманцы, падвезці іх. Жанчына не згаджалася. Гаварыла, што конь не зусім здараўчаны, сам можа прыстаць у дарозе. Тады Рыгор упрасіў падвезці Віцю.

І калі жанчына дазволіла сесці, падсобіў ускараскацца. Сам, трымаючыся за біла, ішоў побач. Праехалі так з кіламетр, не болей. Далей трэба было збочваць на прасёлак. Віця скочыў на ўмёрзлую зямлю і ледзьве не ўпаў. Ногі былі як не свае... Дадыбалі да ветрака. Паселі ў зацішку палуднаваць. Сядзелі даўгавата, каб астыла ўтома. А яна

не астыла, а толькі яшчэ больш разышлася. Лепш бы і не садзіліся. Папалуднавалі б на хаду.

Калі прыйшлі да сваіх агародаў, апошнія дзвесце метраў, здалося, не прайсці ніколі. «Ляж на спіну, паднімі над сабой ногі. Няхай адхлыне кроў»,— сказаў Рыгор. І першы лёг на ўмёрзлы поплаў, паказаў, як гэта трэба рабіць.

Успамінае Віктар, варочае памяць і быццам з вока на вока размаўляе з Рыгорам: «Я іду па тваіх слядах, сябар. Хачу быць такім, як ты. Прыносіць радасць. Вось і апошні свой ганарар аддаў на пазыку. Увесь. Прынёс у хату аблігацыю. Пахваліўся. А Вольга і кажа: «Лепш за тыя грошы сарочку сабе купіў бы». «Сарочку купім за бацькаву пенсію»,— адказаў я. «Бач, распарадчык знайшоўся,— адказала Вольга і дадала: — Вельмі ты правільны. Як сасна прамая. Глядзі, зрэжуць...» Дык хто я, што я?..»

Тое, што называюць першым, прыходзіць аднойчы і на ўсё жыццё. Яно, бы зерне, схаванае ў раллі, якое чакае цяпла, чакае свайго часу, каб праклюнуць набрынялую абалонку і прабіцца нясмелым парасткам насустрач сонцу. Прабіцца і замерці ад здзіўлення: які прыгожы свет! Гэта адчуў Віктар, калі канчаў дзесяты клас.

У Тані доўгія каштанавыя косы. Яны спадаюць да пояса. І, мабыць, цяжкія, бо галаву Таня трымае прама. Горда і незалежна.

Часта, калі ідуць са школы, Таня падплятае косы. Перакідвае іх з-за спіны наперад. Яны двума ручаямі сплываюць уніз, абягаюць прыкметныя грудочкі пад кофтай. У такіх выпадках кніжкі ў Тані пад пахай. А пальцы хутка-хутка мільгаюць. Падпляце касу і спрытным узмахам рукі перакіне назад за спіну. Падпляце другую — і перакіне. А ўвагі — ні на кога. Што тут ёсць хлопцы, што няма — ёй усё роўна. У іх бок яна не пазірае. Размаўляе з сяброўкамі. А Віктар цікуе за ёй. Ідзе воддаль з хлопцамі і ловіць кожны яе рух, не адводзіць вачэй, хоць і трымціць небяспечнае: а раптам яго позірк хтосьці заўважыць... Тут не выпнешся, не будзеш неадрыўна пазіраць услед. Але і вокамгненных позіркаў даволі. Віктар чуў і чытаў недзе, што калі пазіраць на чалавека ззаду, ён адчуе твой позірк і абавязкова азірнецца. Таня ж азіраецца даволі рэдка. І кожны позірк яе застае Віктара знянацку. Сэрца яго замірае, кроў прылівае да шчок, бы цябе захапілі за нечым непрыстойным і няма куды дзецца ад сораму. У такіх выпадках ён таксама азіраецца назад, быццам штосьці забыўся ў школе ды ўспомніў. Быццам яго аклікнулі. Таня азірнецца, кіне погляд у яго бок. Ледзь прыкметна варухне плячыма, бы скідаючы з сябе лішні груз. А лішні груз для яе ў гэту мінуту — Віктараў позірк. Так думае ён. Вочы самі талопяцца долу, страшна ўзняць іх, каб зноў не сустрэцца з праніклівым Таніным позіркам. А хацеў жа злавіць яго, хацеў!

«Хто сёння прыйдзе вечарам гуляць у Таніну хату? — раптам думае Віктар.— Можа, Вова Камісараў? Ён прыехаў нядаўна з Мінска, дзе вучыцца ў школе ФЗН. На Вову ладны чорны шынель з пятліцамі. Моцныя чаравікі, фарсістая фуражка з блішчастым брыльком. Задавакам стаў Камісараў Вова! Але Тані ён патрэбны гэтак жа, як і ён, Віця. Во Пятрок Ігнатаў — іншая справа! Пятрок ужо самастойны хлопец. Яго год служыць у арміі. А Петрака чамусьці камісавалі. Затое ў Дабрынях ён першы хлопец. Старшыня халасткома, як любіць гаварыць ён сам пра сябе. Так, Пятрок, мабыць, і сёння завітае да дзядзькі Платона. Зноў будзе падлабуньвацца да Тані. Пінжак у Петрака — наапашкі. З кішэні штаноў — каб бачылі яго далікатнасць — вытыркае ражок насоўкі. І ўвесь выгляд Петрака ўпэўнены, задаволены. Трымаецца ён і з дзядзькам Платонам, і з цёткай Агапай самавіта.

...На парозе на сонейку сядзела баба Васіліса. Тут жа, ля ног на зямлі квактуха вадзіла свой вывадак. У бабы ў прыполе стаяў сподак з просам, і яна высыпала час ад часу па шчопці зерня. Квактуха распускала крылы, надзімалася і квохканнем склікала куранят. Пульхныя жоўтыя камячкі сыпаліся да яе з усіх бакоў. Гэта надта цешыла малога Алесіка, другога сына Вольгі і Івана. Ён кідаўся іх лавіць. Смешна разводзіў рукі і нязграбна нагінаўся. Кураняты выпырхвалі, а Алесік шлёпаўся на зямлю. Падскаквала да яго квактуха. Тады баба Васіліса адганяла курыцу доўгай арэхавай палкай, якая дзеля гэтай нагоды ляжала на ганку.

Алесік пачуў, як ляснула брамка, і ўбачыў Віктара. Кінуўшы занятак, пакаціўся на кароткіх ножках да яго. Здалёк працягнуў ручаняты. Гэта значыць падхоплівай яго і падкідвай угару. А ён будзе смяяцца і камандаваць: яшчэ, яшчэ! Віктар кладзе сумку з кнігамі на бервяно пры плоце. Нагінаецца. Ловіць малога. І — у-ух! І — у-ух! — падлятае ўгару Алесік. Дрыгае ножкамі. Заходзіцца ад страху і задавальнення. Ну, хопіць, хопіць. Цяпер табе павесім сумку цераз плячо. Вось так. І на руках у дзядзькі ты вяртаешся са школы. Зусім вялікі. Пакажы, які ты вырас? Ой-ё-ёй?! Давай яшчэ руку ўгару падцягнем. Во так! Глядзіце, баба, які вялікі будзе ў нас Алесік! Во малайчына! Ну, бяжы на парог да бабы. Ідзі палаві куранятак. Ну, ідзі ж, ідзі.

Да Віктара выбягае аднекуль з агарода і Лявонка. За апошнія гады ён выцягнуўся ўгару, схуднеў. Сама расце хлопец. Цяпер і зусім дарослы. Скончыў нядаўна першы клас. Цэлымі днямі не стыкаецца дома, бо Вольга прымушае яго пільнаваць Алесіка. А хіба ахвота большаму гуляць з такой драбязой, як Алесік, яго меншы брацік?! Лявонка хітруе. Робіць так: калі прыходзіць са школы Віктар, тады і ён дома. Няма дома Віктара, то і Лявонку шукай на дзесятым двары. Амаль увесь клопат па доме, па гаспадарцы на плячах бабы Васілісы. Іван вяртаецца дамоў позна. Бывае, вядома, што і раніцай прыходзіць. Але гэта з начной змены. Чалавеку ж трэба хоць гадзіну якую паспаць.

Ходзіць у калгас на работу і Вольга. Сёння яна, праўда, дома. Пачула галасы ля парога, заявілася туды і сама.

— Паглядзеў бы дзяцей. Нам ухаджацца трэба,— гаворыць яна Віктару.

— Няхай бо, гэнам, адпачне трохі,— уступаецца баба.— І так унь як зняхеджаў.

— Паспее адпачыць,— бурчыць Вольга.— Хай досвіткаў не страчае каля Платонавай хаты, спраўнейшы будзе.

Віктар чырванее. Але адказваць нічога не адказвае. Ідзе ў хату. Следам за ім — Лявонка.

— Віця, пакатай на веласіпедзе, га? Павазі, добра, га?

— Добра, добра — паважу.

...Надвячоркам Віктар з Лявонкам паехалі катацца. У гэты час у калгасным садзе палівалі тытунёвую расаду. Сонца спадала, і можна было не баяцца, што яна папрэе. Віктар бачыў: з вядром туды пайшла і Таня...

Сёння або ніколі! — вырашыў ён. Сёння ён скажа Тані, што любіць яе. Прызначыць вечарам спатканне і — скажа.

Мабыць, чалавек, які ідзе на самаахвярны подзвіг, адчувае ў сабе такое пачуццё. Вялікая рашучасць і супярэчлівая асцярожнасць агарнулі і Віктара. Круг за кругам на веласіпедзе рабіў ён вакол саду і не спыняўся. У самы апошні міг пакідала адвага. Яшчэ раз аб'еду, яшчэ... Ну, во зараз!

Праскочыўшы паўз яе рады, яны з Лявонкам, які сядзеў на раме веласіпеда, бы віхор, ехалі далей. Хлапчук быў задаволены. Ён нешта гаварыў Віктару. Віктар адказваў. А думкі яго былі там. Позірк быў там, каля яе. Калі толькі заварочвалі, Віктар адразу знаходзіў яе. Во яна бярэ ваду. Набрала. Пайшла між радоў. У адной руцэ вядро, у другой, адстаўленай убок для раўнавагі,— зялёная эмалевая ступка.

Круг, яшчэ круг!

Нарэшце Таня дайшла да дарогі. Спынілася. Усе, хто паліваў тытунёвую расаду, трошкі адсталі. Вось той момант, дзеля якога Віктар з Лявонкам круціліся вакол саду цэлы надвячорак! Ну, цяпер або ніколі!

Віктар спыняецца. Злез з рамы і Лявонка. Віктар аддаў яму веласіпед: — на, патрымай! — а сам ступіў да Тані. Сунуў у кішэнь руку і выняў нейкую паперку. Хуценька працягнуў Тані...

Яна, вядома, заўважыла веласіпедыстаў раней, бачыла, як шалёна лятаді яны вакол саду, як замаруджвалі хуткасць, пад'язджаючы да яе радоў. Яна адчувала, што гэта нездарма. Амаль здагадвалася, што Віктар выпільноўвае яе. І, калі прызнацца, то і яна невыпадкова першай закончыла свае рады, абагнаўшы астатніх. Невыпадкова апынулася адзін на адзін з Віктарам.

Таня ўзяла паперку. Прачытала. І быццам апяклася, адкінула паперку ад сябе. Віктару пад ногі. Збянтэжылася. Нібы яе моцна абразілі. Рашуча павярнулася назад. Ступка ў вядры шкрабанула па дне, зашаргацела...

А Віктару здалося, што яго ганьбу бачылі ўсе, хоць ніхто і не звяртаў увагі на іх. Ён падумаў, што ўсё на зямлі замерла, спынілася на гэты момант, што ўсё чуе стук яго сэрца, бачыць, як кінула Таня яго запіску, а сама пайшла прэч. Ён хуценька падняў паперку з зямлі. Сунуў назад у кішэню. Таня адыходзіла. І зямля, здавалася, вось-вось выслізне з-пад яго ног і таксама некуды паляціць, знікне. І ён набраўся мужнасці на самае апошняе, што мог. Каб не страціць яе, каб не страціць сябе зараз і навечна.

— Я буду чакаць,— сказаў ён.

Сказаў так, каб пачула яна.

Падышоў да веласіпеда. Пасадзіў на раму Лявонку. Некалькі разоў адштурхнуўся нагой ад зямлі, другую трымаючы на педалі. Хацеў сесці. Веласіпед пахіснуўся, і яны траха не ўпалі. Нарэшце паехалі. Усю дарогу ногі былі непаслухмяныя. Бы ватныя...

За агародамі на поплаве, якраз пасярэдзіне паміж вёскай і чаромхавым прылескам, стаіць адзінокая вярба. Была яна тоўстай і разгалістай. Цяпер вярба нахіленая долу, як баба над кійком. Сярэдзіна ў дрэва амаль выгніла, а яно ўсё стаіць. Адкуль толькі і сілы бяруцца ў вярбы не зламацца пад ветрам?

А сілы, пэўна, ад крынічкі, што выбілася між яе каранёў. Крынічка не надта вялікая. Ціхая, спакойная. Вада ў ёй чыстая, як сляза. Вакол крынічкі даволі вільготна, бо месца тут роўнае, сцякаць вадзе няма куды, і яна ідзе назад у зямлю паіць вербныя карані. Тут ахвотна расце трава. У самы санцапёк, калі выгарае ўсё навокал, трава тут зялёная, як мур. Але па завядзёнцы, якая нікім не ўстанаўлівалася,





але жыве ў Дабрынях, кароў да вярбы пастухі не падпускаюць. Гэта каб не збэрсаць травы, не апаганіць крынічкі. Вакол таго месца, дзе з белага пяску выбіваецца жывы гарбок вады, хтосьці паклаў цэментавае колца. Яно невялікае, як напіцца чалавеку. Пад вярбой звычайна спыняюцца на перакур касцы. Кладуць на траву косы, а самі па чарзе прыпадаюць над колцам. Тады сонца ў колцы тухне. Вада цям-

нее, і знізу, з неглыбокага донца, пазірае на чалавека яго ўзмакрэлы, разгарачаны твар...

Тут, пад вярбой, Віктар і чакаў Таню. Прыйшоў ён першы, як і належыць хлопцу. Спачатку пабавіўся на вуліцы. Прайшоў ад аднаго гурту дзяўчат да другога. Дзяўчаты сядзелі на лавачках і спявалі песні. Былі там і хлопцы. Але Віктар быў пахмурны. Яго не займалі сябры. Ён думаў пра сваё. Рваўся да крынічкі, дзе прызначыў першае сваё спатканне. Пахадзіў, пачакаў, пакуль добра прыцямнее. Вулачкай папаўз плот, каб ніхто не заўважыў, падаўся на поплаў.

Ля вярбы нікога не было. Цішыня панавала над усім наваколлем. Толькі дзявочыя песні ды салаўі трывожылі яе. Але трывожнасць гэта была шчаслівай. Яна нібы дапаўняла і саму цішыню, і Віктараву радасць. Нібы гаварыла: глядзіце, як спакойна і добра на зямлі.

Віктару было ўсё адно як холадна. Мабыць, ад хвалявання. Калі яшчэ падыходзіў да вярбы, яго неяк бы працялі дрыжыкі. Думаў, што Таня ўжо там. Чакае. Але яе не было. І нібы абрадаваўся Віктар, што Тані яшчэ не было, што момант сустрэчы адкладваецца. Падумаў так, і стала нядобра. Чаго адкладваць, калі гэта іх сустрэча павінна адбыцца? Абавязкова павінна. Дык чаму заўтра, а не сёння? Можа, Таня не прыйдзе? Можа, не захоча? Можа, не кахае яго? Шчымлівы камячок таргануўся ўсярэдзіне. Стала горка. Як некалі малому, калі яго крыўдзілі.

Віктар прыпаў да вярбы. Нібы хацеў уціснуцца ў дупло. Каб і тут ніхто не заўважыў ні яго самога, ні крыўды, якую амаль ужо адчуваў.

У вёсцы спявалі дзяўчаты. Ноч была цемнаватай. Толькі чарнела на далягглядзе блізкая града хатаў і прысадаў. Адтуль ён чакаў яе. Вунь яе хата. Сад. Івалга спявае ў іх садзе. Засвішча, перадыхне і зноў рэзка: — вжжяяа! — і прыгожа, тонка: фю-ціу-ліу! Як флейта.

...Нарэшце ён убачыў яе. Спачатку цьмяную постаць, што рухалася ад вёскі цераз поплаў. Радасна здагадаўся: Таня! І чым бліжэй падыходзіла яна, тым больш ён пазнаваў Таню. Роўны высокі стан. Горда ўзнятая галава, белая касынка на плячах. Таня трымала яе за адтапыраныя ражкі. Рукі, сагнутыя ў локцях, былі адведзены трошкі ўбакі. Таня набліжалася і паволі замаруджвала крок. Яна не бачыла яго ля вярбы. А можа, падумала, што насміяўся хлопец. Спынілася. Хацела павярнуць назад. І ён адарваўся ад дрэва. Спрытна і лёгка пайшоў ёй насустрач.

— Таня!

Яна стаяла перад ім. Маўклівая. Апусціўшы галаву. Толькі пальцы перабіралі ражкі касынкі.

— Таня!

І ціхае, сарамлівае:

— Што-о?

Ён узяў яе за пальцы. Нібы хацеў павітацца. Узяў і спалохаўся, што яна выслабаніць іх. Таня і сапраўды выслабаніла. Толькі не адразу, а даўшы адчуць яму той момант вітання, ад якога Віктар ледзьве не захлынуўся. Яна нічога яму не адказала. Пайшла па вільготнай траве. І ён пайшоў побач. Хацеў нешта гаварыць, пра нешта спытаць. Пераскакваў у думках з аднаго на другое і не мог ні за што ўхапіцца. Ён быў шчаслівейшы чалавек на свеце. А можа, і Таня. Яны ўдваіх! І нікога, нікога навокал...

— А калі б я не прыйшла? — нечакана спытала Таня і прыхілілася да вярбы.

Яго збянтэжыла Таніна пытанне. Каўтануў камяк, што падступіў да горла. Перарывістым голасам адказаў:



— Я... ведаў, што ты прыйдзеш... Адчуваў, верыў...

Яна перасмыкнула плячыма. Расцягнула, бы крылы, ражкі касынкі. Адхілілася ад вярбы і зноў пайшла па траве, задумёная. Раптам спынілася. Спалохана войкнула:

— Вой! Сюды хтосьці ідзе.

Яны хацелі бегчы, яна і Віктар. Але куды ты пабяжыш, калі той, хто ішоў ад вёскі, ужо заўважыў іх і прыставаў да вярбы. Віктар утрымаў Таню. Дзяўчына толькі войкала ды наравіла адступіцца далей, за Віктара. Сорамна было, што яе ўбачаць з хлопцам,— самае страшнае, чаго яна баялася. Той, «нехта», падыходзячы да іх, заспяваў:

Не любі, Валодзінька,—
Я яшчэ малодзінька.
Мяне палюбіць Пецінька,
Калі прыйдзе лецейка.

Па голасе пазналі Ігнатавага Петрака. Ён быў без шапкі, пінжак, як заўсёды, вісеў наапашкі.

Віктар ступіў наперад да Петрака.

— Маё прыв-вітанне! — Пятрок страсянуў чубам.— А я думаў, яна да фабзайца, да Вовы Камісаравага пайшла,— сказаў ён да Тані.— Ажно: — Віць, Віць, Віць!..

Ён хацеў злавіць Таню. Ужо растапырыў рукі.

Яна адхінулася за Віцю. Напалоханая, збянтэжаная.

— Не лезь,— усё ж сказала Петраку Таня.

Віктару зрабілася сорамна, прыкра за сябе. Ён злосна засоп, натапырыўся. Як шпак перад вераб'ём, які хоча захапіць яго гняздо. Хай пасунецца толькі далей, хай яшчэ раз паспрабуе зачапіць Таню...

Віктар бы ўзгарэўся. Ён быў гатоў кінуцца цяпер на Петрака, няхай то быў і таварыш.

Пятрок адчуў Віктараву рашучасць. Дражніцца не стаў. Сказаў прымірэнча Тані:

— Ідзі дамоў. Там маці з ног збілася, цябе шукаючы.

Сказаў, нібы плюнуў яшчэ раз у душу Віктара. Той стаяў, як акамянелы. Не ведаў, што рабіць, як сябе паводзіць у такіх абставінах. Ці то трэба было кінуцца біцца, ці словы Петрака перавесці на жарт.

Таня сарвалася з месца і пабегла. Для яе выпрабаванне скончылася. Пятрок зноў памкнуўся злавіць яе. Прабег нават некалькі крокаў. Не дагнаў. Шпурнуў напярэймы пінжаком і прамахнуўся. Свіснуў наўздагон, засмяяўся. Падышоў да пінжака, падняў. Атрос ад расы, накінуў на плечы. Спакваля пайшоў назад у вёску. Заспяваў песню.

Гэта было іх апошняе лета перад выраем. Яны не ведалі, што апошняе. Здавалася, росныя вечары пад вярбой, адсырэлае сена ў пракосах, па якім яны не раз хадзілі басанож, сад з раннімі жытнікамі, са свістам івалгі над галавой — усё-ўсё будзе вечна, як і яны самі. Будзе заўсёды, як і ў першы іх вечар, злучаць думкі і пачуцці. Яны яшчэ не сказалі, не прызналіся, што кахаюць адно аднаго. Яны баяліся гэтага слова. Было добра і без яго. Нават неяк лепш. Бо яно, вялікае і значнае, заставалася недзе наперадзе.

Віктар скончыў школу, падаў дакументы ў Мінск ва ўніверсітэт. Мелася ехаць вучыцца ў Мінск і Таня. Яна, праўда, хацела давучыцца апошні год у школе, але бацька вырашыў уладкаваць яе ў гандлёвы тэхнікум, балазе там знайшоўся нейкі знаёмы. «Цяперашнім светам,— разважаў ён,— бяры тое, што даюць. Што з таго, што ты выдатніца?

Цяпер і выдатнікі не паступаюць — вялікія конкурсы». І Таня асабліва не ўпарцілася: яны ж будуць разам у Мінску. Яна і Віктар.

Віктар здаў усе сем экзаменаў. Здаў, але ведаў: па конкурсе ён не пройдзе. Адзнакі былі не ўсе выдатныя.

Назад з Мінска вяртаўся ён на падарожных машынах. Дамоў прыйшоў пад раніцу. Паляпаў клямкай, каб пачулі ў хаце. Адчыняць выйшла Вольга. «Ну як?» — спытала яна. «Не паступіў»,— адказаў Віктар. Яна ўздыхнула: «Людзі будуць чакаць студэнтаў, а мы — салдата».

«...Тах-тах, тах-тах!» — спяваюць колы. Цэлы састаў вагонаў-цялятнікаў шыбуе цераз аснежаныя прасторы, цераз гарады і вёскі, лясы і пералескі. Вязе цягнік астрыжаную пад нулёўку братву ў невядомы край, у невядомае месца пачынаць самастойнае жыццё. У адным з вагонаў і Віктар. Ён ляжыць на нарах. Нары, «буржуйка» пасярэдзіне вагона, «лятучая мыш» на круку пры дзвярах — усё мерна пакалыхваецца ў такт колам. Віктар ляжыць на верхніх нарах і думае.

Пра многае думае Віктар, а больш — пра Таню. Як яна там?..

## ХМАРЫ НА МАЧТАХ

Шчанюк круціўся каля плота. Малы, таўсматы, на кароткіх і шырока пастаўленых лапах. Хвост у яго таксама быў кароткі, заўсёды стаяў тарчком, і, здавалася, з-за гэтага тарчка ў Разбойніка — так звалі шчанюка — і здараліся ўсе непрыемнасці, бо ён, загуляўшыся, не мог цахнуць за хвост сваёй куртатай, бы асечанай, пыскай.

Разбойніку, бы малому дзіцяці, не сядзелася на месцы, не цярпелася, не займеўшы якой-небудзь справы. А яго, як на зло, накарміўшы, саджалі ў будку. Будка стаяла ля паркана. Раскошная, абітая зверху бляхай, з круглай дзіркай-лазам. Малы Разбойнік стаў паўнапраўным і адзіным нашчадкам раскошнай будкі.

У будку пасадзіла яго Антоля Аляксандраўна адразу ж, як толькі прынесла ранічкай з недалёкага рынку. Тлумачыла яна гэта тым, што шчанюк будзе расці злым, а калі вырасце, то нікога чужога не падпусціць да двара і блізка. Тады, прынёсшы з базара Разбойніка ў кошыку, яна ўзяла яго ў прыпол і расчапіла шчанюку пыску, зазірнула ў зяпу. Задаволена ўсміхнулася, што нёба ў шчанюка чорнае. «Са злога можна выгадаваць рахманага, а з рахманага — злога»,— сказала яна тады. Дала шчанюку пахлябтаць малака з бляшанкі, а калі той акругліўся, як мячык, узяла і вынесла на двор, пасадзіла ў будку, а дзірку прыкрыла лістом бляхі.

Мала-памалу Разбойнік асвойтаўся з новым сваім становішчам. Цемра яму надакучвала, і ён скугітаў і дзёрся аб сценкі будкі або абварочваў бляху. Тады знадворку бляху сталі падпіраць падпоркай. Асабліва рваўся шчанюк на волю тады, калі выходзіў хто-небудзь з хаты. Выпусціць жа яго магла толькі сама гаспадыня. Нават дарослы сын яе, Вадзім, які вучыўся на стаматолага, не меў улады над Разбойнікам. Яшчэ меншай распарадчыцай была Таня — яна вось ужо другі год кватаравала ў Антолі Аляксандраўны. А хлопцы-студэнты так часта мяняліся ў цеснай бакоўцы за кухняй, што Таня пазабывала і іхнія імёны.



Таня выйшла на двор, і Разбойнік заскугітаў, зашкробся на жывы крок. Дома, акрамя яе, нікога не было, і Таня выпусціла шчанюка. Ён кінуўся пад ногі. Завіляў хвастом-тарчком, каб дагадзіць за ласку, заскакаў на месцы. Яна пагладзіла яго, нямоцна пацягала за мяккія, бы замшавыя, вушы. А ён усё скакаў, мерыўся схапіць яе за нагу, тыцкаўся халодным носам у руку, пакуль Таня не прытупнула, не адагнала яго ад сябе. Шчанюк патрухаў да паркана. Там яму было не менш цікава. З хлява-мураванкі паўз паркан да самай брамы, а там — воля, лапік лужка над Свіслаччу,— быў адгароджаны праход для рознай жыўнасці.

Шчанюк пабег да прахода. Індычка з індычанятамі, падскакваючы на цыбатых нагах, адразу пайшлі да выхаду, а курыца-квактуха надзьмулася, распусціла крылы, пад якія сыпанулі жоўтыя кураняты...

Антоля Аляксандраўна зайшла на двор незаўважна для Тані. Заваждалася Таня з Разбойнікам, задумалася пра нешта сваё, як пачула: ляпнула брамка. Брамку Антоля Аляксандраўна штурханула, пэўна, нагой, і тая ляпнула, калі гаспадыня была ўжо на двары. У руках яна несла дзве карзіны.

— Што бо ты робіш? — незадаволена спытала яна ў Тані.

— З Разбойнікам гуляю,— адказала Таня і кінулася па шчанюка.

Злавіла яго, увапхнула ў будку, хоць Разбойнік і не хацеў туды, жаласна скуголіў. Таня прысланіла бляхай, паставіла падпорку. Следам за Антоляй Аляксандраўнай пайшла ў веранду. Было ніякавата. «Вось і пакінь дом на іх, сам — за дзверы, а яны — за заперы»,— падумалася Тані за гаспадыню. Таня ўжо добра ведала яе і амаль не сумнявалася, што Антоля Аляксандраўна можа так падумаць. У веранду зайшла, крыху зардзеўшыся з-за свайго самаўпраўства.

— Ёй ужо з хлопцамі гуляць пара, а не з Разбойнікам,— так, нібы ні да кога, сказала гаспадыня. Яна сядзела на табурэце, абмахвалася знятай з галавы хусцінкай.— Ці ёсць хто дома?

— Нікога...

— Хлопцы, мабыць, некуды паехалі. Сёння толькі і ехаць, гарачыня — продыху няма. Быццам лета ўжо.

Яна ўстала з табурэта, узяла абедзве карзіны, пачала распакоўваць.

Пры дзвярах збоку стаяла выварка памытай і выкручанай бялізны. Таня не паспела яе развесіць на двары, і цяпер, калі Антоля Аляксандраўна пачала распакоўваць карзіны, узялася за бялізну.

— Нашу, жаночую, развесь у агародзе. Астатнюю можаш у двары,— параіла гаспадыня.

Таня, нібы ладуючы бярэма дроў, паклала на сагнутую ў локці руку некалькі скруткаў і выйшла за дзверы. Накіравалася на агарод. Паўз плот тут раслі агрэст і парэчкі. Стаяла некалькі яблынь, а пад імі — грады. Грады былі ўжо зроблены. За другую вясну, што яна жыла тут, Таня ведала, што на іх расце. Цяпер амаль усюды расла радыска. Антоля Аляксандраўна сеяла расаду спачатку ў скрынках, што стаялі на верандзе, пакуль не ачахне зямля. Затым расаду пераносіла на ўскапаныя грады. Рабіла яна так амаль не першай на Серабранцы, дзе жыла, і з-за гэтага, мусіць, сяму-таму калола ў вочы. Асабліва суседцы, Тупікавай. З ёй Антоля Аляксандраўна даўно не ладзіла. Таня неаднойчы чула, як Тупікава папракала яе гаспадыню, што тая з ранняй вясны да самай восені кожную травіну пераганяе ў капейку.

Недалюблівала Тупікава Антолю Аляксандраўну. Не далюблівалі

яе і хлопцы-студэнты, якія знімалі пакой за дашчанай перагародкай побач з кухняй.

Таня не задумвалася, добрая гаспадыня ці кепская. Якая розніца, дзе жыць, абы ўжыцца. Гэта галоўнае. Пра гэта кожны раз напамінае бацька, калі яна прыязджае дамоў, гаворыць маці: «Глядзі, доню, шануй людзей. І цябе шанаваць будуць».

Таня і не ўяўляе сябе на іншай кватэры. Цяпер яна нават грошай не плаціць Антолі Аляксандраўне — шмат чаго з дому прывозіць бацька. На гэтым — уся і плата. Таня і спіць у пакоі гаспадыні. Там яе тумбачка з кнігамі. І сталуюцца яны разам. Сядзяць за адным сталом: Антоля Аляксандраўна, Вадзім і яна, Таня...

Размовы пра травіны ды капейкі — лепш у іх не ўнікаць. Такое гарадское жыццё. А яно шмат чым розніцца ад вясковага. Амаль за два гады яна шмат чаго зразумела. У душы Таня была задаволена нават, што бацька знайшоў ёй такую кватэру. Серабранка нагадвала вёску ў горадзе. Горад пакуль не чапаў яе. Ён забудоўваўся ў цэнтры ды выносіў свае мікраёны ў поле, на вольнае месца.

Зноў стукнула брамка. Таня зірнула з-за сцяны. Ішоў Вадзім. Ён убачыў яе, накіраваўся ў агарод. Нешта сказаць. «Ён не можа, каб не зачапіць»,— падумалася ёй. На зямлі ў тазіку было яшчэ ладна бялізны, адкуль Таня брала яе. А на шыі ў Тані вянком віселі прышчэпкі. Над разорай працягнулася вяроўка, напятая на калах. Таня не даставала вяроўкі, а таму раз-пораз перастаўляла табурэтку-трыножнік, станавілася на яе. Выцягвала над сабой рукі, вешала на вяроўку бялізну, прышчэпвала. А Вадзім усё стаяў і наглядаў за ёй.

— Ты што — бялізны ніколі не бачыў?

— Бачыў,— абыякава адказаў Вадзім,— а вось як ты развешваеш — не.

— Ну і глядзі,— узлавалася Таня.

— Ладна, молада-зелена. Лепш скажы: чаму цяпер пошты не пільнуеш, як раней?

— Так я і раней пільнавала.

— Ага, быццам я не заўважаў. Ад паштальёна — з рук у рукі. А цяпер вось іду — ляжыць пісьмо ў скрынцы. Ад каго, думаеш?

— З дому.

— Не хітруй. Ад таго, ад каго чакаеш.

— Ні ад каго я не чакаю.

— Ого, штосьці новае! А ад лётчыка ад свайго, ад таго, што хвасты самалётам заносіць, можа, не чакаеш?

— Можа, і чакаю, табе што?! Некаму трэба і хвасты заносіць, а некаму зубы рваць.

Вадзім весела засмяяўся. Ступіў да Тані — яна толькі што скокнула ў разору з табурэціка.

— Малайчына, Танька! Здорава ты мяне,— Вадзім паспрабаваў абняць яе.

— Адстань, а то мокрым хвастану, — замахнулася Таня, а дадала больш мірна: — Давай пісьмо.

— Толькі ўгавор: так ці не?

— Што — так ці не?

— Калі будзе так на тое, што я скажу — аддам пісьмо. Не — дык не.

— Мала што ты скажаш...

— Ну вось і дзявочая боязь. Я, можа, прыстойнае што прыдумаў, а ты...

— Добра, няхай будзе па-твойму.



— Трымай,— Вадзім працягнуў пісьмо і дадаў: — Сёння ў палацы танцы. Запрашаю партнёршай.

Далікатна сагнуў руку і падміргнуў Тані.

Таня паціснула плячыма.

Аднаго разу — ці не перад апошнім экзаменам за другі курс — Таня сядзела на верандзе, вучыла свае канспекты.

З хаты паклікала яе Антоля Аляксандраўна:

— Пайдзі сюды, Тацянка, памажы мне.

Антоля Аляксандраўна займалася перастаноўкай. Пярэдні пакойчык, у якім зімой была кухня, на лета вызвалялася. І яна са спальні кожны год перацягвала сюды ўсё лішняе. Спальня ад гэтага святлела, рабілася больш прасторнай.

І праўда, кухня — у верандзе, а пакойчык аставаўся сам па сабе. У горадзе гэта вялікая раскоша.

— Надумала я, Тацяна, вось што. Ты на канікулы едзеш дамоў, а для аднаго майго ложка месца і тут хопіць. Пушчу я на лета завочнікаў у нашу спальню. Ды вось, халера, ложак і шафа станавіцца не хочуць. Коратка. Зайдзі бо да хлопцаў у бакоўку, перагародку патрымай, а я адсюль пасуну. Я прымервала, трэба пасунуць як на тумбачку.

За перагародкай стаялі два ложкі. Паміж імі ў галавах — тумбачкі. Адамава, Дзімава, хлопцаў-студэнтаў, якія гэтую зіму кватаравалі ў Антолі Аляксандраўны.

Хлопцаў дома не было. Яны наогул з'яўляліся толькі нанач, а ўвесь час пасля лекцый праседжвалі ў чытальнях ды ў бібліятэках.

Плінтусы з абодвух бакоў перагародкі былі ўжо адарваны.

Таня ўзняла над сабой рукі і ўперлася ў аклееныя шпалерамі дошкі. З таго боку Антоля Аляксандраўна паддала плячом, і перагародка зарыгацела, паехала на Таню. Каля самага ложка ледзьве не прысціснула ёй ногі.

З сякерай і цвікамі ў руках зайшла Антоля Аляксандраўна.

— Ну, вось і ладна,— сказала яна і пачала прыбіваць плінтус.

Тумбачкі побач, як раней, не станавіліся. Адну з іх Таня перацягнула па праходзе між ложкаў у куток і паставіла ў нагах.

— Ці не цесна будзе хлопцам, Антоля Аляксандраўна? — нібы раячыся, спытала ў гаспадыні Таня і дадала: — Мабыць, пакрыўдзяцца, што без іх перастаноўку зрабілі.

— Пераначаваць не цесна. А крыўды? Гм, я не сонца, Таня, усіх не абагрэю і не абласкаю...

Назаўтра раніцай іх пакідаў Адам. На лета ён заставаўся працаваць у студэнцкім будаўнічым атрадзе на пракладцы газаправода. І так здарылася, што менавіта падчас перастановак Антолі Аляксандраўны хлопцу далі месца ў інтэрнаце.

Дома больш нікога не было, апроч Тані ды Адама. Адам быў папаходнаму з усімі сваімі рэчамі — мяккім чамаданам у руках.

— Усяго чакаў, толькі не гэтага,— паказаў ён на адсунутую перагародку.— Ну, Кляшчыха, папомніць яна мяне. І што б ёй учыніць на развітанне, га?

— Які ты злы, Адам! Яна ж гаспадыня.

— Хіба прас сапсаваць?

— Ну і дурань!

— Ха, розуму тут набралася! Гляджу, Таня, ты скора Вадзіму

падпяваць будзеш. Як гэта — бэца-а мэ-э му-чыць? — крыўляючы Вадзіма, смешна праспяваў ён.

— Пры чым тут Вадзім?

— А пры тым, што да цябе падбіраецца, як кот да мышы.

— Фу, скажаш,— нібы пакрыўдзілася Таня. Але дадала гарэзліва:

— Вадзім жа — не ты, ведае да каго падбірацца.

Адам змерыў яе насмешлівым позіркам і зноў, перадражніваючы Вадзіма, вымавіў па складах:

— Кра-ля! Ну, ды няхай. Прас ламаць не буду. Мажа, зноў з Вадзімам на танцы пойдзеце, то адпрасуйся... І вось што, Дзіма таксама тут не затрымаецца. Пакуль зайцам у мяне пажыве, а там asталюемся.

Маці — каб навучаць, бацька — каб ушчуваць.

У Платонавай жа сям'і рабілася гэта інакш, амаль ці не наадварот. Усяму галава быў Платон. Спачатку Платон, а Агапа пры ім. Што скажа гаспадар, тое і закон. І не пярэч — пустое. Угаворам яшчэ можна сяды-тады ўзяць Платона, дый то як яму пад каўтун.

Вырашыў не пускаць Таню, якая была дома на канікулах, у калгас на працу, і яна не хадзіла. Прыбірала ў хаце, збірала апад у садку. Кніжкі чытала. Пакуль не ўступілася маці.

— Хай бо, Платонка, наша Таня хоць на сена сходзіць,— аднаго разу пачала яна.— Людзям няма чаго адказаць. Пытаюць, чаму дома сядзіць.

— А быдта ты не ведаеш. Навука сушыць, хай адпачне за лета, а сена я і сам ураблю.

— Сорамна ж.

— Сорам не дым, вачэй не выесць.

— А я пайду,— азвалася Таня.— Хіба я ўломак які?

— Прайдзі, прайдзі, дачушка,— нібы пра ўжо вырашанае, весялей падтакнула маці.

Бацька насуплена змоўк. Нехаця, а, мабыць, пагадзіўся.

Маці, каб хутчэй скончыць гэту непрыемную размову, пакуль бацька не перадумаў і не паставіў усё на сваім, пачала пра іншае:

— Сустракаю гэта я сёння Кастынавых Вольгу. Пытае, чаму Таня да іх не заходзіць.

— А чаго ёй хадзіць туды? — злосна зірнуў на маці бацька.

— Ды так. Прайшла б, пагуляла,— памяркоўна зазначыла яна.

— Так нічога не бывае. Яшчэ ні села, ні пала, а ты ўжо закукавала. Хай навукі пільнуе.

Змоўчала маці. Не знайшлася што сказаць і Таня. Мінулым летам то яна заходзіла да Кастынавых, а цяпер бы нешта не пускала яе. Каб сорам, дык не. Летась было саромней, а і то заходзіла. Нешта бы падтаяла за год у Танінай душы.

А і сапраўды, чаго заходзіць? Падумаюць яшчэ, што набіваецца да Віктара, што і завочна яму праходу не дае. Яны ж перапісваюцца — і добра. Усё, што між імі,— між імі. Прычым тут радня...

Канікулы канчаліся. Трэба было збірацца назад у Мінск. Таня засумавала без сяброўак, без лекцый, без тых асаблівых абставін, да якіх яна прывыкла за два гады. Дома ж адчувала яна сябе бы лішняй, госцяй. І чым найхутчэй канчаецца часовае, няпэўнае, тым лепш.



Студэнты — што кнігаўкі. Яшчэ, здаецца, самы разгар лета, самая цяплынь, а птушкі адлятаюць, варта толькі падужэць крылам у маладых.

Канец канікулаў — пачатак новых клопатаў. І для бацькоў у першую чаргу.

— Быў у канторы, на суботу выпісаў машыну ў Мінск ехаць,— аднаго надвячорка сказаў бацька.— Яблыкаў трэба завезці, мяхоў колькі бульбы ранняй.

— Бульбы, мажа, пазней,— азвалася маці.

— Быдта не чула. Ранняй, кажу. Антоля Аляксандраўна на базары якую капейку абаб'е. І гуркоў навыбірайце.

Таня памагала маці збіраць вячэру. Насіла да стала талеркі, кубкі. Бацька сядзеў за сталом, спінай да акна. Уголас разважаў пра будучую паездку. Таня якраз падышла да яго. Зірнула ў акно. Ад нечаканасці з рук ажно не выпаў кубак, які яна ставіла перад бацькам. Той падняў вочы на Таню, а пасля за ёй перавёў позірк у акно.

Па двары да парога ішоў Вадзім.

Неўзабаве Вадзім зайшоў у сенцы. З сянец у хату было адчынена. Ён пратупаў да парога, пастукаў у вушак, пытаючы дазволу зайсці.

Бацька ўжо ўстаў з-за стала, ішоў яму насустрач.

— Дазвольце зайсці,— паўтарыў яшчэ раз Вадзім.

— А быдта не, заходзь, заходзь. Во — гэта госць! — запрашаў бацька.

— Ледзьве дапытаўся вас. Але хто шукае, той знаходзіць...

— Пэўна ж, пэўна...

Таня трохі збянтэжылася, пачырванела. Кіўнула Вадзіму, а сама — барзджэй за дзверы, на чыстую палавіну хаты, прынесці яму крэсла. Там было цёмна, і яна забавілася крышку больш, чым трэба, нібы шукаючы крэсла. А сама паднесла рукі да шчок і адчула, як яны загарэліся.

Адтуль і пачула матчына пытанне да Вадзіма:

— То як бо гэта, Вадзімка, да нас заблудзіліся?

— Можна сказаць, спецыяльна,— прамовіў Вадзім.— За лета ў горадзе перасох, пакуль нарэшце навуку сваю не скончыў, а сваякоў на сяле ў нас нікога. Вось хіба...

— То вы ўжо, Вадзімка, на сваім хлебе? — спытала Таніна маці.

— Ужо, цётка Агапа, на сваім,— адказаў Вадзім.

— Таня, дзе ты там? Нясі чалавеку сесці на чом,— пагукаў бацька.

Таня выйшла. Паставіла да стала крэсла. Вадзім паспрабаваў адсунуць яго.

— Ды не адсоўвайце, не адсоўвайце. Вячэра ж на стале,— запярэчыла маці.

— Ага, і праўда. Шчаслівы ты, Вадзім. За накрыты стол трапіў. Маці, прынясі нам чаго.

Маці зірнула на бацьку ў непаразуменні: здаецца ж, усё на стале.

— Быдта не ведаеш,— незадаволена сказаў бацька і сам пайшоў у камору.

— То хоць рукі спаласнуць трэба,— азваўся Вадзім. Зірнуў на Таню і ўсміхнуўся. Аднымі вачыма, але Таня злавіла гэтую ўсмешку.

Яна скаранька тармасянула ручнік з цвіка на вушаку, пайшла ў сенцы, запрашаючы за сабой Вадзіма. Там ён сам зняў з крука вядро з вадой, балазе з хаты было відно і ў сенцах, і яны пайшлі на двор.

На лета ў Дабрыні з'язджаліся студэнты. Зноў ажывалі лавачкі на вуліцах, зноў да світання чуліся песні і смех. Усё роўна, як у пасляваенныя гады, калі ў вёсцы шмат было моладзі. Амаль кожны вечар іграў гармонік. Музыку наймалі хлопцы па чарзе або ў складчыну. І зноў-такі студэнты, бо Петраку Ігнатаваму ды тым нямногім хлопцам, што заставаліся ў Дабрынях, наймаць музыку хапала і за зіму.

Танцы былі і ў той вечар. І Таня з Вадзімам пасля вячэры пайшлі на голас гармоніка.

Ён узяў яе пад руку. Яна дазволіла.

— Не чакала? — спытаў Вадзім.

— Ніколі б і не падумала,— шчыра прызналася яна.

— А ты падумай,— загадкава сказаў Вадзім.

Ёй было прыемна, што яна з гарадскім хлопцам. Што гэты хлопец прыехаў спецыяльна да яе. Прыгожы, самавіты. Крышачку боязна, праўда, будзе знаёміць яго з сяброўкамі ды з хлопцамі-дабрынёўцамі, якія цяпер на канікулах. А Вадзім захоча пазнаёміцца. Ён смелы. Ніякавата трохі і ад думкі, што кожны раз давядзецца тлумачыць, што ён сын гаспадыні, у якой яна кватаруе. Тлумачыць, бы апраўдвацца. Апраўдвацца? Перад кім, завошта? Хіба не можа хлопец прыехаць да яе? Хіба яна яго клікала? І на танцах жа танцуюць з тым, хто запросіць. У горадзе дык больш за ўсё, мабыць, і знаёмяцца на танцах.

Гэтыя супярэчлівыя думкі не пакідалі яе ўвесь вечар. А пад канец, калі яна танцавала з Вадзімам амаль ці не апошні танец, узгарэліся з новай сілай.

Аднекуль узяўся Кастынавых Лявон. Ён недзе круціўся тут і раней, як многія яго таварышы, яшчэ падшыванцы, але ўжо не зусім і дзеці. Круціўся тут, на вуліцы, а яна яго не заўважала. Заўважыла толькі тады, як Лявон сеў за бубен. Барабаншчык, мабыць, адлучыўся пакурыць, а ён — на яго месца. І так цяпер лупіў булавой па нацягнутай скуры бубна, што гэты стук гахаў ажно не ў грудзях.

Таня з Вадзімам былі блізка ад музыкаў. Яна зірнула на барабаншчыка: хто гэта так стараецца? — і сустрэлася позіркам з Лявонам. Позірк яго быў кароткі, крадком. Ён тут жа апусціў вочы, ляснуў булавой у верхнюю медную талерку, якую прыўзняў у левай руцэ, і яшчэ мацней, бы са злосці, пачаў лупіць па нацягнутай скуры. Але яна злавіла ягоны позірк. Настрой, які, здавалася, прыйшоў, зноў сапсаваўся.

Зусім яго даканала маці. Ужо дома, пасля танцаў.

Вадзім лёг спаць на ложку ў сенцах, а Таня на канапе на чыстай палавіне хаты. Бацька спаў на палку ў пярэдняй. Ён рана ўставаў, не хацеў будзіць Таню сваім груканнем.

Маці зачыніла дзверы ў сенцы. Патушыла агонь у лямпе. Прайшла да Тані. Трохі пастаяла моўчкі. У цемры над ёй сказала, больш спытала:

— А як жа, доню, з Віктарам будзе?

Таня змоўчала, не адказала нічога. Толькі адвярнулася да сцяны. Маці пайшла. А яна доўга не магла заснуць. Усё думала пра Вадзімаў прыезд, пра сённяшні вечар, які — яна адчувала — шмат чаго памяняў ці памяняе ў яе жыцці. Ёй вельмі захацелася назад, у Мінск.

І яны паехалі з Вадзімам на пару дзён раней, чым трэба было...

Вадзімавы сябры заходзілі да яго і раней. Больш хлопцы. Сядытады — дзяўчаты. Варта было забрахаць Разбойніку, як Вадзім спяшаўся на двор адчыняць брамку. Сустракаў гасцей.



Хлопцы, амаль усе, зайшоўшы ў хату, цалавалі руку Антолі Аляксандраўне. Дзяўчаты віталіся больш сціпла.

Праходзілі да Вадзіма. Адтуль чуліся іх бесклапотныя галасы, вясёлы смех. Там ішло інакшае ад Танінага жыццё. Яна заставалася па-за ім, недзе ўбаку, бы ў іншым свеце. Тое, іх жыццё, было галоўным, да якога імкнуцца людзі. Здавалася нават, што яны, Вадзім і яго сябры,— сярэдзіна, а жыццё — вакол іх, як круг вакол цэнтра.

Вадзімавы госці яе не заўважалі. Не заўважалі і хлопцаў-кватарантаў.

І вось пасля Вадзімавага прыезду ў Дабрыні прыадкрывалася для Тані тое жыццё. Яна прымала далёка не ўсё, але шмат на што глядзела па-іншаму.

З Віктарам яна перапісвалася цяпер рэдка. Амаль па днях угадвала, калі прыйдзе ад яго пісьмо. У душы недзе чакала, а сама бы нервавалася, бо зноў трэба неяк адказаць, нешта прыдумаць, а пісаць не было чаго. Ёй не хацелася, каб Вадзім убачыў, што яна піша пісьмо. Бо што ён падумае?! Не хацелася пісаць пра ўсё і Віктару, хоць у тым «усё» не было, калі разабрацца, нічога для яе абразлівага. Але Віктар мог бы пакрыўдзіцца.

І зноў — Вадзім, і зноў — Віктар... Злавалася на самую сябе. Трэба было хутчэй адпісваць, а рука не бралася за пяро. Так і цягнулася, пакуль Таня не ўспамінала, што неадпісаных Віктаравых пісьмаў сабралася два ці тры.

Выручаў паштамт. Тут заўсёды было людна. Тут спешна запаўняліся бланкі і паштоўкі, па-казённаму хутка адпраўляліся афіцыйныя пісьмы. Дзве вялікія скрыні, што стаялі па баках ад увахода, былі, мабыць, бяздонныя. У адну з іх і апускала Таня свае кароценькія адказы Віктару.

У Тасі, былой Вадзімавай аднакурсніцы па вучобе, быў дзень нараджэння. Адзначалі ў яе на кватэры.

Вадзім з Таняй крыху прыпазніліся, бо трэба было ехаць як не ў другі канец горада. Ды іх, мабыць, ужо і не чакалі — з расчыненых вокнаў на трэцім паверсе, дзе жыла Тася, даносілася музыка, мільгалі цені танцораў.

Каб пазнаць, хто там, яны адышлі ўглыб прасторнага двара, пад ліпы. Пасталі ў цяні насупраць вокнаў. Ярка асветленае было толькі сярэдняе акно.

Таня не асабліва спяшалася паднімацца на трэці паверх. Спазніліся, то, глядзі, яшчэ ў парозе паднясуць поўны бакал віна і — пі! Піць яна не ўмела і не хацела. Хоць пах віна ды тытуню, лёгкі, ледзьве ўлоўны пах,— вось як цяпер у Вадзіма,— яна любіла. Гэты пах нібы вызначаў для яе не нейкага там закіданага, а сапраўднага мужчыну.

Яна была ў белым лёгкім плацці і белых лодачках-шпільках. Дзве каштанавыя касы, што ападалі амаль да пояса, трымалі горда ўзнятай яе галаву.

Той, у акне, раптам павярнуўся. Таня ціхенька войкнула, баючыся, што яе, у белым, лёгка ўбачыць, памкнулася да камля ліпы.

— Не бойся, са святла ў цемры нічога не бачна. Трэба абвыкнуцца вачам,— супакоіў яе Вадзім.

Ён зняў з сябе пінжак і акрыў Таніны плечы. Прабег пальцамі па борціках пінжака зверху ўніз, бы мерачыся зашпіліць гузікі, ды так і не апусціў рук.

Каля самай шчакі Таня адчула яго дыханне — пах віна і цыгарэт. Нязлосна выслабанілася. Сказала:

— Хадзем.

Аддала пінжак.

Адчыніць на званок прыцокала па калідоры сама Таська. Шчоўкнула-шчабоўкнула — і вось яна, круглатварая пампушка, перад імі. Кароткая, пад хлопца, прычоска, вуалевая блузка і чырвоная спаднічка-парасончык выдавалі Таську куды маладзейшай. Як падлетка.

— Ха! — успляснула рукамі Таська.— Кожнай твары па пары.— Вочы яе неяк здзіўлена і, як падалося Тані, пакрыўджана акругліліся.— Ну, ды лепш позна, чым ніколі. Праходзьце.

Вадзім прапусціў наперад Таню. Зайшоў сам. Пачакаў, пакуль Таська зачыніць за імі дзверы.

— А гэта ад...— ён паказаў на сябе і на Таню,— з днём ангела.— Выняў з унутранай кішэні пінжака і падаў Тасьцы карабочак.

— Дзякуй, Вадзік, дзякуй,— і падставіла для пацалунка шчаку.

Адзначыць іх прыход сабраліся ўсе да стала. З ранейшых знаёмых, якія заходзілі да Вадзіма, Таня ведала Лету, або Віялету, і Жору. Былі яшчэ дзве дзяўчыны і двое хлопцаў. Трэці, у акулярах, трымаўся неяк асабняком. І выпіў ён не да дна. Гэтак, як і Таня. Але іх прымусілі: нягожа з новымі гасцямі ды за імянінніцу пакідаць зло! Хлопец нічога не сказаў, выпіў. Асіліла віно і Таня.

На магнітафоне паставілі танцавальную музыку, пайшлі танцаваць. Вадзім запрасіў Таню. Яна была ўдзячна яму, але сказала, што першую ён павінен быў запрасіць Таську, гаспадыню. Вадзім паціснуў руку: малайчына! Наступны танец ён танцаваў ужо з Таськай, а Таня прысела на канапу.

Збоч яе ў мяккім крэсле-качалцы сядзела — нага за нагу — Лета і курыла. За крэслам стаяў Жора і дурэў. Калі Лета нахілялася тварам уніз, ён затрымліваў крэсла-качалку і яна тады прытворна хапалася за білцы, каб не ўпасці. Пасля адводзіла руку з цыгарэтай назад, шукаючы Жору. Жора смяяўся.

Хлопец у акулярах адышоў да акна і стаў спінай да яго.

Танцы перапыніліся. Пайшла эстрадная музыка. Хлопцы пра нешта заспрачаліся.

— Старык Эйзенштэйн вынайшаў веласіпед,— даводзіў адзін.

— Ты так знаходзіш? Тады хто ж першы адкрыў адноснасць?

— Гм... Ва ўсякім выпадку, не Эйзенштэйн.

Не ўтрымаўся, ад акна падышоў да іх той, у акулярах.

— Эйнштэйн, паважаныя. А той, пра каго вы гаворыце, быў вялікім рэжысёрам.

— Ха-ха-ха! — засмяялася Лета,— згубілі адну ці дзве літары. Парадокс. Знайдзіце іх — і ўсё стане на месца.

Хлопец у акулярах зірнуў у яе бок. Бачна было: не залюбіў ён такога жарту. Мабыць, не залюбіў, бо неўзабаве, спаслаўшыся на позні час, развітаўся.

— Надзеў акуляры, дык, думае, што ён і разумны,— азваўся адзін з хлопцаў.

— Калгаснік,— пагардліва падтакнуў яму другі.

Амаль усе засмяяліся, акрамя Вадзіма. Нават Таська, гаспадыня, і тая ўхмыльнулася. А Таня пачырванела.

— Ну, вы, вучоныя! Памаўчалі б,— асек іх Вадзім, а Таня з нейкім дзёрзкім выклікам, абрадаваная Вадзімавай падтрымкай, выгукнула:

— Дык і я ж калгасніца!

Абодва «Эйзенштэйны» паціснулі плячыма, а незнаёмыя дзяўчаты зірнулі ў яе бок з цікавасцю.





Хоць выпілі віна яшчэ і раз і другі, настрой у Тані быў сапсаваны. Захацелася дамоў, на ціхую Серабранку.

Заўважыў яе маркотнасць і Вадзім. Па тэлефоне, які меўся ў Тасі на кватэры, ён заказаў таксі, і праз паўгадзіны яны паехалі.

Таксі Вадзім папрасіў спыніцца адразу за мостам. Тут, з адхону, збягала першая вулачка Серабранкі.

Горад спаў. Абапал вуліц свяцілі на масіўных чыгунных слупах белыя шары ліхтароў. У іх святле беглі ў рад абрэзаныя вясной дрэвы. Маладыя парасткі яшчэ не паспелі прыхаваць лісцем кіцы абсечаных галін, і дрэвы ў святле ліхтароў былі нібы сцятыя кулакі, выстаўленыя ўгару.

На Серабранцы цвілі каштаны. Белыя стаўбуны кветак сама браліся ў сілу.

Яны зайшлі ў хату ціха. Святла таксама не ўключалі, каб не па-

будзіць у бакоўцы хлопцаў. Кватаранты былі адны — Антоля Аляксандраўна яшчэ надоечы паехала да сястры ў Барысаў.

Таня адразу памкнулася ў пакой, дзе стаялі іх з Антоляй Аляксандраўнай ложкі. Але Вадзім утрымаў яе за руку, пацягнуў за сабой. Яна заўпарцілася. Не хацеў саступаць і ён. Узнікла валтузня. Маглі прачнуцца хлопцы. Як брыдка яны падумаюць?!

Таня пайшла за Вадзімам — ён зноў пацягнуў яе за руку.

У сваім пакоі Вадзім уключыў грыбок лямпы. Жоўтае колца святла разлілося па стале, паўмесяцам саслізнула на падлогу.

Таня села ў прыцененым кутку на канапе, куды ёй паказаў Вадзім.

Ён любіць яе. Яна даўно здагадваецца, бачыць, што — любіць. Ёй прыемна ад такой думкі.

Ёй зрабілася не страшна быць у яго пакоі. Гарыць настольная лямпа. Ціха, утульна, як ніколі. Чаго яна ўпарцілася зайсці сюды? Ёй жа самой уяўляўся такі вечар, калі яна і Вадзім застануцца адны.

І вось яны адны. Таня адкрывае для сябе Вадзіма бы з іншага боку. Пазірае на яго бы іншымі вачыма, чым бачыла яго дагэтуль. Ён не такі, якім здаваўся ёй неаднойчы пры яго маці, Антолі Аляксандраўне,— нібы баязлівым, нібы самотным. Калі прызнацца, то яна шкадавала Вадзіма з-за гэтага. А цяпер бачыць, што шкадаванне яе было зусім непатрэбным Вадзіму. Яно магло нават абразіць яго. Бо ён дужы і моцны сам. Проста ён паважае сваю маці, як кожны аддany сын. Таму і пагаджаецца з ёй заўсёды і ва ўсім, і слухаецца яе.

Разумны яе, Танін, Вадзім...

Недзе ў душы яна трохі засаромелася, што так блізка падумала раптам пра Вадзіма. Падумала, як пра свайго...

А чаго саромецца? Можа, няпраўда, што Вадзім і разумны і смелы?! Вунь як асадзіў тых, што спрачаліся пра Эйзенштэйна, маючы на ўвазе Эйнштэйна. А як зніякавелі тыя разумнікі, калі Вадзім заступіўся за «калгасніка»?!

Раптам ёй прыйшла новая думка, ад якой спачатку стала страшнавата. З нейкім злым выклікам падумала Таня пра Тасю і яе сяброvак. Пра тое, як яны абыходзілі яе сваёй кампаніяй. Абыходзілі, а Вадзім сёння, во цяпер, з ёю! І ніхто яму, акрамя Тані, не патрэбен. І ёй акрамя Вадзіма таксама не будзе больш блізкага чалавека. Ад сёння і назаўсёды. Ад сёння і назаўсёды ён будзе гаварыць ёй ласкавыя словы. Як цяпер! Будзе сядзець побач. Як цяпер! Трымаць яе рукі ў сваіх. Як цяпер! Цалаваць... Усё-ўсё будзе, як цяпер...

Раптам перагарэла лямпа ў настольным грыбку. А можа, Вадзім выключыў святло знарок — думаць пра гэта не хочацца. Блізка-блізка ад сябе яна чуе яго гарачае дыханне. Да знямогі п'яніць пах віна і тытуню, які ідзе ад Вадзіма. Той пах, што падабаецца ёй асабліва...

(Заканчэнне будзе)





● Марк СМАГАРОВІЧ



## Я жыву ў новым мікрараёне

Я жыву ў новым мікраараёне.
Дзень гарадскі тут раней настае.
Ранак пагодны. Стаю на балконе.
Першыя промні, свяціла,—мае.

Пазалацелі бярозак фантаны,
Новага дня адчуваецца ўздым—
На будаўніцтве прачнуліся краны:
Працу пачаць першым выпала ім.

Пахне хваёвы настой лесапарку,
Слаўнымі справамі поўніцца час—
Поўзае вожыкам электразварка,
Цягнецца к сонцу рабрысты каркас.

Дом засяляць пачалі навасёлы,
Мікраараён падабаецца ім.
А галубы, нібы тыя анёлы,
Кружацца ў небе над шчасцем людскім.

## Санцавей

Палае сонца шар.
Пачаўся новы дзень.
Зямлі вільготны твар
Працёр ручнік-прамень.

На дне рачулкі лінь
Купаецца ў вадзе.
Мой край! Такіх мясцін
Не бачыў я нідзе.

Сябе тут дзед стары
Адчуе маладым.

Спаўзае ўніз з гары
Кустоў зялёны дым.

Між птушак салавей
Тут першынство узяў.
Эх, месяц-санцавей,
Часіна дзіўных з'яў!

●

*Аляксею ПЫСІНУ*

Не спяшайся. Кроч сабе цамалу,
Як раней, не бойся круцізны.
Не жахайся. Гэта бляск крышталю,
А не проста колер сівізны.

Будзе май квітнець і будуць сцюжы,
Будзе ўздым і горычы няўдач.
Над табою ясны сокал кружыць,
А не чорны злыбедзень — крумкач.

●

Трымціць нахмураная шыра —
Сяброў гукаюць жураўлі,
Каб і яны ляцелі ў вырай,
Каб тут замерзнуць не маглі.

Завея хутка ўжо закруціць,
Завыюць лютыя вятры.
Не можа дзесьці ў вусці Друці
Узняцца журавель стары.

Між багны астравок-паляна—
Для жураўля, як родны дом,
Як для пілота-ветэрана —
Яго былы аэрадром.

● **Мар'ян ДУКСА**





## *Нарач спіць*

Гушкала чоўны з турыстамі-дзецьмі,
Чарот малаціла,
прачнуўшыся ў пяцЬ.
Чуеш?
У пушчы ўсхадзіліся ведзьмы...
Змрок наплывае.
Упору і спаць!
Адшліфавала — да бляску — каменне,
Абцалавала бераг і пляж,
Адпаласкала ніткі — праменне —
Запрацавалася, беднае...
Ляж!
Неба адразу масты залатыя
З колераў-сноў над табой навядзе.
І рыбакі да дзяўчат,
як святыя,
Пойдуць у Мядзел Стары па вадзе.
Ціха вяслуе дзяжурная поўня.
Дрэмле маторка.
Вясло не рыпіць.
З крыл кажана
апускаецца поўнач.
Не размаўляйце:
Возера спіць.

●

Сягаюць іскры, быццам спіцы.
Над рэчкай азалеў. Пара
Зноў задуменна прытуліцца
Шчакой да яснага кастра.
Цецерукі такуюць звычна.
І попел сыплецца з павек.
Я — самы што ні ёсць язычнік.
Я — першабытны чалавек.
Агню ружовага загадка.

Праз сон на полымя гляджу.
Як здань, самотная палатка
Стаіць на выпадак дажджу.
Не варухнецца ноч малая.
Трашчаць яловыя сукі.
Агонь гарыць, гарыць. Страляе.
І праз гады, і праз вякі.
І знічкі падаюць мяцежна,
Як слёзы ранніх капяжоў.
А месяц белы — бог начлежны—
Над галавою узышоў.

●

О, адчувальная прырода,
Так зменліва твая пагода!
І колер чорны, і зялёны
Прымаюць лісці і галіны.
Непазнавальная штодзённа,
Зусім другая штохвілінна.
Калі ў душу маю пяшчота
З тваім прыходам завітае —
Яснеюць дрэвы і балоты,
З-за хмары сонца вылятае.
І неба радасна люляе
Бярозы, гнёзды і праменні.
Ну а калі цябе губляю—
Як сполахі,
Кладуцца цені.
Маўкліва змрокі надыходзяць,
Вярш аліна чамусьці глухне.
Так пераверпецца ў прыродзе:
Усё павяне і пажухне...
І я крычу табе: спыніся
І пачакай мяне пад клёнам!
І я упрошваю: вярніся —
Хай будзе свет светла-зялёным...
Якія ж забіраеш скарбы,
Што чэзнуць галасы і фарбы?

●

Крыху лянівы і вясёлы,
На рукі, матылёк, прысядзь.
Перанагружаныя пчолы
Ля вуха зморана басяць.
Цвыркун пранізліва-сіпаты
Цымбаліць песню-мураву.
І на пучок мятліцы-мяты
Я апускаю галаву.
Дыханне — доўгая зацяжка,
Далоні вольныя ляжаць.
Упарта ўвішная мурашка
Цярэбіць джунглі-сенажаць.
На міг згубіцца, як пясчынка,
Што ўніз з-пад ветру ападзе.
Адчуць, як белая хмурынка
Паўзе па твары і вадзе.
Спазнаць шчаслівa да змяркання
Саюз свяшчэнны і жывы
Бясконцага суіснавання
Душы нябёсаў і травы.



● Алесь НАЎРОЦКІ



● Мал. В. ШАРАНГОВІЧА

# НЕКАЛЬКІ ЗГАДАК

АПАВЯДАННЕ

еларусь — зямля маіх продкаў, Палессе — мая бацькаўшчына. Два гады, з 1954 па 1956, я жыў у зусім другім кутку Беларусі, ля Міра.

На захадзе ад гэтага гарадка серабрыцца Уша, трохі далей — Сервеч. Недзе насярэдзіне між гэтымі рачулкамі, прытокамі Нёмана, узвышаецца валун.

Чаго толькі не пабачыў гэты трохмятровы кавалак Скандынавіі на сваім вяку! Бачыў ён нема разяўленых ад спалоху і здзіўлення — з доўгімі сківіцамі — маіх продкаў, што асцярожна падсоўваліся да хвоі, у якую толькі што грымнула з неба нешта сляпучае, вогненнае, тое, ад чаго пачалі чырвона трашчаць і абвугліваца сукі і галіны і што прыемна, калі стаяць зводдаль, апякала скуру.

Мінаюць тысячагоддзі, а валун камянее на адным і тым жа месцы, і чалавек, ідучы, апіраецца аб яго, скідваючы са сваіх плячэй то кошык з балотнай рудой, то рыбацкую сетку, то мяшок жыта.

Хто ведае, магчыма, які-небудзь князь і яго дружыннікі, вяртаючыся з паходу, раздзьмухвалі пры ім гарачае вуголле, смажылі медзвяжаціну, а пасля вячэры спалі, палажыўшы галовы на сёдлы. Ні валун, ні ландышы, што ўзышлі каля яго, не скажуць нам пра гэта.

Але вось некалькі згадак.

●

У Міндоўга, князя Вялікага княства Літоўскага, памерла жонка. Аліса, сястра нябожчыцы, прыехала на пахаванне.

Жрацы доўга і слёзна славілі княгіню ў малітвах, потым падняли яе на плечы, панеслі ў поле і апусцілі ў падпаленае ламачча, куды паляцелі сукенкі, падушкі і коўдры нябожчыцы, а таксама лапы мядзведзя, каб было ёй чым лезці на гару, дзе сядзіць бог і клікае на споведзь. Попел закапалі і насыпалі курган.

За памінальным сталом, дзе ўсе елі моўчкі і без нажоў і дзе жрэц спяваў малітву і кідаў пад стол яду, каб магла падсілкавацца і сястрына душа, Аліса два разы адчула, як гарачая рука Міндоўга апусцілася і пагладзіла яе калена... Прыгладжанае калена гарэла, нібы ашпаранае крапівою, і т а м у, вылезшы з-за стала, Аліса хацела загадаць адразу ж запрагаць коней, але фурман хроп ля бочкі з віном. Хроп ён і на другі, і на трэці дзень, і, калі ён, урэшце, прачнуўся і Аліса рашуча надзела на галаву чапец, Міндоўг загарадзіў ёй дарогу.

— Князь, мяне чакае муж... Пусціце мяне!.. Пусціце!...— спрабавала вырвацца Аліса з яго абдымкаў, прыглушана ўскрыкнула і аслабела...

Фурман выехаў адзін. За пазухаю ў яго ляжаў Алісін ліст.

Муж Алісы прачытаў тое, што напісала жонка, упалатнеў, падскочыў, нібы ўджалены гадзюкаю, кінжалам раскрамсаў Алісін партрэт і доўга грыз скуру на сваёй руцэ. Як?! Яго жонка, яго Аліса, і ненавідзіць яго?! Не хоча жыць з ім? Няўжо праўда? Але ж почырк яе... Толькі яна — і ніхто другі — магла напісаць гэты ліст.

1263 год, чэрвень.

Налівае Міндоўг віно ў пазалочаны тураў рог, чокаецца з новай жонкаю, гушкае на каленях яе. Хто асмеліцца пярэчыць яму, Міндоўгу? Яму, хто адбіў атакі татар ля Крутагор'я? Казыча Алісіну шыю Міндоўг мокрымі вусамі. Соладка яму пры думцы, што з вайны не ўсе вяртаюцца, што войска сваё паслаў ён аж за Дняпро і разам з войскам паслаў і Алісінага мужа.

— Пра што думаеш, Аліса мая? — пытае Міндоўг новую жонку.

— Сон сягоння я сніла,— адказвае Аліса.— І ў сне тым мужа свайго бачыла... З пальцаў мужавых нейкая кроў сцякала... Ох, не пеўнева кроў...

— А як ты думаеш, чыя б магла яна быць? — уздрыгнуў і голас, і рука Міндоўга, і віно пралілося з турава рога...

У гэты момант ад войска, якое паслаў Міндоўг за Дняпро, адстаў коннік... У яго, конніка, ёсць другі вораг, з кім яму трэба ваявацць... І коннік павярнуў каня ў процілеглы бок. Вузкая каранiстая дарога кідаецца пад конскія капыты, шастаюць аб сядло грабы і алешыны. Вось наперадзе імшэе дуб, які зросся з трох ствалоў. Коннік саскаквае з каня. Тром ствалам, як увасабленням трох галоўных багоў — Пяркуна, Патрымпоста, Поклюста,— ён шэпча клятву, сціскаючы меч. Ён, коннік, прынясе гэтым тром багам самую вялікую ахвяру, якую толькі можна прынесці. Прынясе ці сам будзе гэтай ахвяраю!





— Ох, не пеўнева кроў...— задумліва паўтарае Аліса.

— Давай прагонім віном твой сон,— адказвае Міндоўг і раптам ледзь не ўскрыквае: — Я забараняю табе сніць такія сны!

Імчыцца коннік... Зялёнае галлё хвошча яму па твары... Няўжо меч не хрупне па шыйных пазванках яго ворага? Няўжо? Нешта велізарнае, каменнае зачарнела наперадзе... Коннік спыніўся, саскочыў з сядла і прыпаў лбом да таго велізарнага і каменнага...

Г э т а  б ы ў  в а л у н.

●

Ліцвінка Бейрута некалі паклялася не выходзіць замуж і стала вайдзялоткаю (жрыцаю). Яна насіла паленцы свяшчэннага дуба і кідала іх у агонь, каб ён вечна гарэў у капішчы багіні Праўрымы. За храмам, у якім стаяла Праўрыма, пахлі смалою хваёвыя нетры.

Аднойчы несла Бейрута бярэмя дроў, а з-за дрэва высунулася чорная бародка хударлявага хлопца са стрэльбаю... Чорныя прыжмураныя вочы юнака прыпаяліся да яе — паленцы выпалі з рук Бейруты, балюча ўдарылі яе па назе... Як марыла потым яна, каб паленцы яшчэ хоць калі-небудзь выпалі і ўдарылі яе так...

Глыбокай поўначчу з трэскам разляцеліся дзверы ў храме. Незнаёмцы пры чорных масках уварваліся ў адпачывальню вайдзялотак. Пылалі паходні, тупалі сотні ног, жылістыя рукі таго хлопца падхапілі сонную Бейруту і панеслі яе за каменныя сцены ў лес...

Ах, якая ж яна, Бейрута, была дурненькая! Гэта ж так добра аддаць сябе ва ўладу гэтых рук, сядзець у Кейстута на каленях, ляжаць з ім на залатым дыване ў цяньку пад дубам, дзе ён скідвае сваю са-

рочку і адшпільвае пояс з кінжалам, ручка якога ўсыпана брыльянтамі... Гэта ж так пацешна падкідаць угору сынка Вітаўта...

Прайшлі годы. Літоўскім князем стаў Ягайла — пляменнік Кейстута. Свайго дзядзьку Ягайла прыкончыў залатым шнурком, сарваным з дзядзькавай адзежы, а Бейруціну радню перасаджаў на калы і палажыў на дубовыя плашкі пад вастрыё сякеры. Сама ж Бейрута паспела ўскочыць у фурманку і крыкнуць фурману:

— Паганяй!

Кастрычнік, 1382 год.

Двое коней пад ноканне фурмана бягуць па дарозе. На заднім сядзенні воза, на пругкім ахапку сена, сядзіць саракагадовая Бейрута і раз-пораз азіраецца. І здаецца ёй, што з-за тоўстага камля вось-вось выскачыць вузкалобы, з чорнымі доўгімі вусікамі і мядовымі вочкамі Ягайла, выскачыць, укаршуніцца ў яе і засліняўіць: «А ты ж была вайдзялоткаю? Ты ж давала клятву не выходзіць замуж? А ты знаеш, што робяць з тымі, хто парушае клятву?» Бейрута аж вочы зажмурвае, уявіўшы, як Ягайла хапае яе, зашывае ў скураны мяшок разам з камянямі, кошкаю, сабакам і змяёй, зашывае, прывозіць да Нёмана на двух чорных каровах і плёхае ў ваду.

Фурман, не драмі! Фурман, не шкадуй пугі і конскіх сцёгнаў! Драбней і драбней зататахкалі капыты, больш напорыста пабеглі асіны колеру таго шчарбатага ляза, што паднята над яе радней... Коні праскочылі забалочаную лагчыну... Пратарахцелі па ламаччы... Прашлэпалі па ручаі... Аб'ехалі кусты арэшніку...

Фурман, не драмі! Фурман, яшчэ раз страсяні лейцамі!

Цэлы дзень ляскаюць колы па карэннях... па карэннях... Здаецца, пагоні ніякае няма. Марудна паўзе на ўзвышак воз. Што там чарнее на ім?



— Пані, хай ачахнуць хоць трошкі коні,— просіць фурман.

Ну што ж, хай ачахнуць... Бейрута саскаквае з воза. Яе малітву слухае прыдарожны камень.

Г э т а  б ы ў  в а л у н.

●

Май, 1411 год.

Ідзе Андрэй з войска дадому, успамінае бацьку, што з раніцы да вечара прастойвае на каленях з долатам, абкіданы смалістымі стружкамі, а потым выдзяўбаныя і свежапрасмоленыя чаўны цягне да зарослага сітняком берагу, дзе гулліва ўсплёскваюць шчупакі. Ідзе Андрэй, і хочацца яму хутчэй дабрацца да тых стружак, да рыбацкіх сетак... Калі сцямнее і заквакаюць жабы, ён пераскочыць суседскі пляцень, падкіне сабаку хлебны мякіш, пачэша вуха яму і заложыць тры пальцы ў рот. На свіст яго шаргануцца дзверы, выбежыць гнуткая, як вербалозіна, Раіна. Пад плёскат вёслаў, седзячы ў чаўне, яна будзе, як і раней, сварыцца, бо ў яго, Андрэя, пацалункі шалёныя, па некалькі дзён не сходзяць сінякі на цвёрдых, як антонаўкі, дзявочых грудзях. Эх, а як будзе слухаць Раіна, калі ён раскажа ёй пра Грунвальдскае поле з узгоркамі, з адзінокімі дубамі, дзе на абочыне лесу, яшчэ добра не абсушаныя пасля начных бліскавіц, пасталі ў тры рады ратнікі з прывязанымі да кальчуг пучкамі саломы, пасталі плячо да плача, сціскаючы дзіды, сякеры, мячы, і між радамі прагарцаваў вялікі князь Вітаўт на кані, і харугвы, паслухмяныя яго загаду, пастроіліся клінам, і лепш узброеныя воіны выйшлі наперад... Як будзе слухаць Раіна, калі ён, Андрэй, раскажа, як насупраць іх на санцапёку, бліскаючы бранёю, з вышыні закаваных у латы коней, праз вузкія шчыліны надзетых на галовы жалезных гладышак на іх узіраліся рыцары, канечне, з салодкім прадчуваннем, што іхнія капыты ўтопчуць яго, Андрэеву галаву, разам з другімі галовамі ў чырвоную лужыну... Эх, Раіна, каб толькі ты бачыла, скажа, абдымаючы яе ў лодцы



Андрэй, каб толькі ты бачыла-чула, як затрубілі трубы, як усе заспявалі гімн, як бабахнулі нямецкія гарматы, як прасвісталі каменныя ядры і як пачалася неразбяруха — як затрашчалі і пачалі ламацца дзіды, як заляскалі мячы, як забразгалі сякеры — гром, скрыгат, енк... і як дрогнула было правае крыло нашага войска, і як пабеглі былі нашы ў балота, і як сам Вітаўт, збялелы, дарэмна размахваў перад уцекачамі мячом і крычаў... і як Смаленскія харугвы, што стаялі ў цэнтры...

Ідзе Андрэй... Хістаюцца сонечныя плямы і цені хвой на пяску. Ламаючы рагамі кусты белай чаромхі, збоку прабег лось, і Андрэй мацней сціснуў рагаціну на сваім плячы.

Хутка ён, Андрэй, будзе расказваць Раіне пра вечар, калі ўлёгся густы пыл бітвы і ў паветры стаяў пах крыві, якраз такі, які бывае, калі рэжуць кабана... пра ордэнскіх «братоў», што ў белых — з чорнымі крыжамі — плашчах падалі з плачам на калені... пра іхнія павозкі, з якіх ён, Андрэй, выкідваў ланцугі...

Ідзе Андрэй і спыняецца... За паваротам дарогі звіняць падвешаныя да дугаў бомы... Звіняць бліжэй і бліжэй...

Андрэй збочвае... Хай фаэтон праплывае міма... І раптам — бываюць жа нечаканасці на свеце! — знаёмы голас:

— Андрэй!

Фурман прытрымлівае лейцы. У фаэтоне, у вышытай сінімі васількамі суквенцы, Андрэй пазнае... Раіну і падбягае да яе. Адкуль ты? Куды? Чаго? Колькі ж гэта лет-зім мы з табою не бачыліся? Рая, а ты слова, што давала мне, помніш?

Андрэй заўважае слёзы на Раініных вачах.

— Можа, памёр хто?

— Не, ніхто...— замагільным голасам адказвае яна.

— Ну дык чаго ж ты?

Яе дрыжачы голас і тое, што яна паведаміла Андрэю, і слёзы—усё гэта адбылося ліхаманкава, нібы шыбануў хто Андрэя ў ваду.

— Як? Не можа быць! Цябе прадалі другому князю? — рагаціна выпала з рук Андрэя. Ён адчуў, што яго шыбанулі, звязаўшы рукі і ногі, і кругі разыходзяцца над галавой.

— Не суджана быць нам з табою, Андрэйка...

Фурман узмахнуў лейцамі, і воблака пылу пакацілася за коламі фаэтона.

За бярэзнікам замерлі бомы... Што рабіць? Зараз жа! Зараз жа павярнуць назад і ісці аж у Вільню! Аж да самога Вітаўта! Упасці перад ім, напомніць яму, што гэта яго, Андрэева, рагаціна выбіла з сядла ў часе бітвы аж самага вялікага магістра ордэна Ульрыха фон Юнгена... Не можа быць, каб Вітаўт...

Андрэй ударыў рагацінаю ў прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

●

Ліпень, 1560 год.

Чырвоныя языкі абвугліваюць сцены, клубы дыму выпаўзаюць з акон двухпавярховага дома, трашчыць полымя, грыміць і абвальваецца дах разам з кроквамі. Натоўп мужыкоў, сціскаючы сякеры, нажы, косы, усё яшчэ пазірае... Няўжо праз ахопленыя полымем дзверы не выскачыць сам гаспадар гэтага дома? Няўжо ён, у жоўтых, з залатымі шпорамі ботах, не ўпадзе перад іхнімі лапцямі на калені? Не будзе цалаваць аборы на іхніх лапцях? Абвалілася сцяна, і Даніла, адзін з мужыкоў, пабрыў па чыста падмеценай алеі, спыніўся перад статуяй жанчыны, якая, выйшаўшы з вады, выціралася ручніком... Даніла хацеў плюнуць,— цьфу, паскудства! — але нешта яго ўстрымала... Нешта ёкнула ў яго сярэдзіне... Статуя была падобна на яго жонку Марту... Жонка хадзіла ў панскі двор з даёнкаю, але чамусьці вярталася дадому з чыстымі, як сыр, рукамі і пахла нечым такім далікатным, чаго ён, Даніла, зроду не нюхаў. Чамусьці падаткі на іх двор паменшалі, і мужыкі пачалі з Данілы падсмейвацца. Няўжо праўда? Даніла пачаў сачыць за жонкаю. Аднойчы перад тым, як ісці даіць кароў, Марта палезла на вышкі, выцягнула з сена празрыстую, нібы вытканую з паветра, сарочку... Значыць, мужыкі казалі праўду...

Даніла трушком пабег па алеі, яшчэ раз рвануў дзверцы альтанкі — пуста... Няўжо ён не знойдзе ЯГО і не праткне віламі ЯМУ горла? За сябе. За жонку Марту. За ўсіх, хто сціскае сякеры і косы.

...Даніла ўлавіў: нешта як бы заварушылася і кашлянула ў густым маліннiку... Наставіўшы вілы, ён ступіў туды... І раптам белая кашуля ледзь не з-пад самых ног падскочыла і шмыганула ўбок. Ён! Пан! Хутка-хутка замільгалі, уцякаючы, жоўтыя — з залатымі шпорамі — боты... Ах, гад! Засвістаў у Данілавых вушах вецер, засцёбала па каленях бадылле... Вось-вось вастрыё яго віл увап'ецца ў белую кашулю з залатымі шлейкамі... Кашуля шмыгнула паўз дуб... Даніла таксама шмыгнуў паўз дуб... Кашуля затрашчала па вербалозніку... І Даніла — па вербалозніку... Кашуля прабегла па кладцы праз канаву... Кладка вузкая, зялёная... Даніла паслізнуўся і плёхнуўся ў гразь... Калі ён падняўся і азірнуўся, звінеў угары жаўранак і мелка дрыжала жылка над брывом... Прыглядаючыся, ці не шасне дзе-небудзь трава, ці не трэсне сучок, Даніла ступіў наўгад... Перад ім зноў шмарганулася



тая ж кашуля... «Уцячэ, гад!» Даніла шпурнуў наўздагон вілы... Яны прасвісталі паўз кашулю і ўторкнуліся ў грудок зямлі... І ў той жа міг вілы падхапіў пан і павярнуўся да Данілы... Зараз ужо трохзубая Данілава зброя была ў панскіх руках і была нацэлена на яго, і ён міжволі, бачачы налітыя крывёю панскія вочы, ступіў крок назад... назад... назад... Вілы як бы раздумвалі, што рабіць, і зрабілі крок на яго... на яго... на яго... на яго... Даніла рвануў наўцёкі... За яго спіною трашчала галлё, чуўся тупат панскіх ног, і ён адчуваў толькі, як вось-вось тры загноеныя зубы ўвап'юцца.. увап'юцца... ніжэй лапаткі... ніжэй лапаткі. Але, здаецца, тупат ног адстае ад яго спіны... адстае... Вось яго ўжо і не чутно...

Падгінаціся ад слабасці калені, Даніла, задыханы і ўспацелы, папраставаў на дарогу і прыпаў грудзямі да прыдарожнага каменя...

Гэта быў валун.

●

Верасень, 1649 год.

Аміля ўжо сабралася ў Мір, у замак да сваіх суседзяў, і перад дарогаю, чакаючы, калі ў пакой зойдзе сын і аб'явіць ехаць, прысела ў крэсла. Пяць гадзін хуткай язды з начлегам на паўдарозе трэба было нейк перагараць. Яна б, Аміля, нізавошта не думала пра паездку, але сын дзён пяць таму як вярнуўся з войска Януша Радзівіла, і яна не асмелілася сапсаваць яму святочны настрой. Не асмелілася, хоць ездзіць зараз небяспечна.

З люстра, апраўленага ў пазалочаную раму, Амілі падміргвае яе авальна-падпухлы твар, якому масаж і пудра яшчэ вяртаюць маладосць. Ах, як хутка ідуць гады! А ўсяго ж трыццаць гадоў таму яна была цвёрда ўпэўнена, што не будзе пудрыцца. Здаецца ж, зусім нядаўна гарэлі ў бронзавых кандэлябрах свечкі, блішчаў паркет, плавалі рознакаляровыя шары і яна, узгарачаная пасля мазуркі, выплывала на тэрасу і ныряла ў свежы вецер. Ёй была да спадобы тая цвёрдасць, з якой пад гукі музыкі ў белай пальчатцы далонь Юзафа — сябра яе мужа — лажылася ёй на плечы. Трыццаць гадоў таму чыста падмеценая алея з вязаў вывела Амілю і Юзафа да альтанкі, і яна, помніцца, тады падумала, што муж заўсёды ў такі час з паляўнічым рогам, падвешаным да пояса, з гайнёю сабак вяртаецца дадому паўз гэтую альтанку, і таму, калі Юзаф прапанаваў ёй зайсці і пасядзець у альтанцы, яна адчула, што між імі нешта павінна здарыцца, спалохалася і адмоўна пакруціла галавою. Як сутаргава сціснуў Юзаф галінку акацыі, аж з пальца яго, падрапанага вострым шыпам, капнула кроў. Перад развітаннем яна, Аміля, не вытрымала, падняла тую галінку і тым жа шыпам драпнула і свой палец. «Навошта вы так?» — папытаўся ён. «Хай не толькі вам баліць»,— адказала яна і, адчуваючы, як чырвань залівае ёй шчокі, запрасіла яго прыехаць паслязаўтра... Паслязаўтра! О, якое гэта было страшнае слова! Раней, калі муж са стрэльбаю і ў чобатах, скураныя халявы якіх ледзь не абцягвалі сцёгны, звесіўшыся з сядла, даваў перад ад'ездам ёй строгі наказ не забываць пра яго любімага сабаку, які нешта прыхворваў, яна, Аміля, толькі кусала вусны і выцірала вочы. Але зараз, думаючы пра тое паслязаўтра і адчуваючы ў цёплай пасцелі ля мужа зябкі халадок, яна сказала яму: «Ты знаеш, я хачу, каб у нас замест вешалак усюды былі ласіныя рогі». «Так і быць! Паслязаўтра за ласямі!» — нявесела сказаў муж. Сталася так, што муж неўзабаве памёр, а Аміля нарадзіла сына. Праз дваццаць гадоў, сустракаючы спасцярожлівы сынаў позірк, яна палахліва хавала ад яго партрэт Юзафа, але сын знайшоў партрэт, пазнаў сябе ў ім, здагадаўся пра ўсё і папытаўся ў яе пра тое, што змусіла яе пачырванець... Ах, як хутка ідуць гады!

Аміля яшчэ раз зірнулася ў люстра. Так бы, здаецца, усю сябе абкалола тымі шыпамі акацый, каб толькі на міг вярнуць Юзафа і альтанку.

— Мама, едзем! — у пакой зазірнуў яе сын, падпаясаны залатым слуцкім поясам з падвешанай на перавязі левай рукою. «Выліты Юзаф,— падумала яна. — Недзе там, у Міры, у замку панначка Ядзя чакае не дачакаецца яго... Так, так, гады ідуць... Трэба ехаць...»

Аміля паднялася.

Праз хвілін дваццаць па дарозе мякка каціласся каляска, і жоўтае бярозавае галлё плыло ім насустрач.

— Сынок, ты ж мне так і не расказаў, як было ў цябе з рукою? — папыталася Аміля.

— Ударыў адзін паўстанец,— адказаў сын.

На міг Юзаф-малодшы ўспомніў, як пасля бітвы пад Лоевым яны рассядлалі ў адной з вёсак узмыленых коней і ён зачыніўся ў пуні з маладой сялянкаю — і трэба ж такому здарыцца: яна не ўшанавала яго мужчынскае ласкі, пачала кусацца, крычаць, а потым узмахнула цэпам — і давялося пасля таго руку ўзяць на перавязь...

— Чым ударыў?

— Мячом,— нейк нясмела адказаў сын.

— Гэта ж болей года як цябе не было,— пачала прыпамінаць Аміля.

Каляска праскочыла па дрогкім мастку, трое мужыкоў агалілі кудлатыя галовы, і Аміля прызадумалася, ці змагла б яна есці, як ядуць яны, хлеб з сушанай гнілой дубовай кары і мякіны.

Уздоўж дарогі плыло зарослае асакою балота. Пад мяккае падрыгванне колаў мільгалі ўспаміны ў Юзафа-малодшага: вось ён з вогненным кулём саломы падпальвае стрэхі ў горадзе Тураве... вось ён з высачэзнай вежы замка ў Мазыры скідвае на абледзянелае каменне казацкага атамана Міхненку... вось у Бабруйску на завостраны кол пасадзілі казацкага атамана Паддубскага, і атаман, сабраўшы апошнія сілы, канаючы, плюнуў яму, Юзафу, у твар...

Уздоўж дарогі бяжыць то хвойнік, то бярэзнік...

— Зірні, мама, які вялікі камень пры дарозе!..

Аміля зірнула: трое мужыкоў, якія ж вельмі былі падобны на тых, што агалялі галовы, выскачылі з сякерамі з-за каменя.

— Стой! Прыехалі, паны! — грымнуў адзін з іх і тузануў дзверцу каляскі.

Гэты крык пачуў прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

●

Ідзе Паўночная вайна Расіі і Швецыі. Некалі шведы будуць разбіты, будзе прасечана акно ў Еўропу, і Пётр Першы ўскочыць на святочны, устаўлены віном стол і будзе танцаваць на ім і спяваць песні. Усё гэта будзе некалі, а зараз 1706 год, нізенькія і крывыя хаткі мястэчка Мір, заінелыя бароды і каўняры, рып палазоў па снезе, і Насця,

паціраючы то адну, то другую шчаку, пазірае ў снежнае поле, дзе роўным, у чатыры шарэнгі, строем адбіваюць цвёрды крок рускія салдаты і пакрыкваюць унтэр-афіцэры. Недалёка ад казармы строй салдатаў рассыпаецца. Нейкая сіла цягне Насцю ўзірацца ў іх зялёныя кафтаны, чорныя вуглаватыя капелюшы, у іх чорныя вусікі і доўгія валасы, што падаюць ледзь не на плечы. Аднойчы сіні драгун, што гарцаваў на кані, сарваў з пляча ружжо і прыцэліўся ў яе. Канечне, жарт, але яна войкнула і шмыгнула за вароты пад дружны салдацкі рогат. Прыадчыніўшы весніцы, калі смех аціх, Насця ўбачыла, як да драгуна падляцеў адзін з салдатаў са сціснутымі кулакамі... Насцін заступнік, хударлявы і стройны хлопец, на другі дзень пасля сутычкі падышоў да яе, папытаўся, як зваць і сам назваў сваё імя, потым паведаміў ёй, што ён дваранін і з цягам часу будзе унтэрам, але па загадзе цара ён спачатку павінен цягнуць лямку салдата. Пагаварыць Насці добра не ўдалося, бо з хаты высунулася яе маці і загадала ёй таўчы проса ў ступе. «Я ж натаўкла ўжо»,— заўпарцілася была Насця, але, убачыўшы, як маці прытопнула на яе нагою, паклыпала ў хату. Не, яна зусім не разумее маці... Чаму яна павінна асцерагацца гэтага двараніна? Хіба ён будзе шпагаю калоць не шведа, а яе? Ён жа такі прыветны, так ласкава паціскаў ёй далонь. Не, яна зусім не разумее маці...

Насця бачыць, як салдаты купкамі стаяць ля казармы, а вунь і той дваранін: ён таксама заўважае яе і вітае яе паднятай угору шпагаю... Вось ён падыходзіць да яе.

— Маці ваша дома? — пытаецца.

— Што, вам паклікаць яе? — з радаснай гатоўнасцю ўслужыць яму адказвае яна, і ён чамусьці хмурнее пасля яе адказу і зубамі шчыпле свой вус.

— Ды не...— ён пераміналецца з нагі на нагу.

Нейкі момант яны пазіраюць адно на аднаго і смяюцца. І Насця дазваляе яму расказваць пра сябе і дакранацца да свайго пляча, адчуваючы, як гэтага мала, безнадзейна мала, і што вось-вось высунецца з хаты маці і пакліча яе таўчы проса ў ступе...

Прайшло больш года. Бяздзетны шляхціц Зыгмусь, гарбаты і нізкі, расчырванелы ад чаркі, грыміць кулаком па стале — «У мяне зямлі — во!» — і лезе да Насці са сваімі слінявымі губамі, і Насця змушана цалавацца з ім. Нічога не паробіш, змушана.

Насціна маці таксама падвыпіла і ўсхліпнула:

— Не ўберагла я цябе, дачушка...

У калысцы, падвешанай да столі, заплакала Насціна малое...

28 верасня 1708 года. Рускія палкі ідуць у атаку на шведаў ля вёскі Лясной. Грымяць гарматы, трашчаць ружжы, ломяцца шпагі, акрываўленыя палашы і коннікі падаюць пад капыты... О, каб ведала Насця, хто мёртвым зваліўся з каня!..

Чапляецца павуцінне за крывавыя каліны абапал дарогі. Яна і Зыгмусь плятуцца па сцежцы. Ён добра пад чаркаю і ўпарта мямліць адно, што ён з ёю, Насцяю, будзе рабіць што захоча, і просіць яе, каб яна нахілілася да яго і падставіла яму свае губы. Насця азіраецца, ці няма паблізу каго з людзей, і нахіляецца... Нічога не зробіш, змушана, бо хто яе, акрамя Зыгмуся, возьме з дзіцём?..





— Ты не глядзі, што я малы такі. А я, можа, вышэй от за гэтага чорта... — гаворыць Зыгмусь і паказвае на прыдарожны камень.

Гэта быў валун.

●

Тоўсценькі і куцы — у зялёным мундзіры і чорным трохвугольным капелюшы — Напалеон, чалавек, якому амаль усе імператары і каралі Еўропы падстаўлялі свае аголеныя галовы і віскалі ад захаплення, калі ён патузваў іх за вушы, і лічылі знакам вышэйшай міласці, калі ён паблажліва паляпваў іх па спіне,— прыжмурыўся ў падзорную трубу: войска яго перапраўлялася на ўсходні бераг Нёмана.

10 ліпеня 1812 года непадалёку ля Міра ў зялёнае жыта ўбілася карова. Панскі пастух Мікалай кінуўся з дубчыкам следам. Аборка з яго лапця развязалася, зашлёгала па густой траве, заскакала па сцежцы, пераскочыла праз канаву. Аборка блыталася і вужылася следам, а хвастаты каровіны зад з адвіслым між ног поўным вымем узбрыкваў і адбягаўся.

У гэты міг грымнула тысяча галасоў. Проста на Мікалая ляцелі ўзнятыя шаблі, разяўленыя конскія морды і паласатыя грудзіны коннікаў...

Мікалай рвануўся, каб выбегчы з-пад тысяч капытоў, ад якіх задрыжала зямля... За нейкую патырчаку зачапілася аборка, і ён упаў...

Ён апрытомнеў, і яму захацелася агледзецца, дзе ён і што з ім. Кругом была нясцерпна балючая цемра, і ён раптам здагадаўся, што цемра была не ад таго, што стаяла ноч. Нешта слізкае, перамешанае з пяском ён адцёр са шчок і, усё яшчэ спадзеючыся на лепшае, асцярожна пальцамі дакрануўся да слізкіх, балючых і, мабыць, зусім пустых вачніц, ад якіх зараз пачыналася гэтая невысокая пякучая



ноч. І няўжо праўда, што зараз ён да самага скону павінен рукамі абмацваць сябе і тую велізарную, вогненную і чорную яму, у якой ён апынуўся?

Мікалай ступіў у гэтую яму... Першы крок... другі... трэці... Потым ён задзёр угару свой твар і прыслухаўся: награецца твар ад сонца ці не? Шчокі нагрэліся — значыць стаяў дзень. Дзень, якога ён не бачыць.

Чорная бездань, па якой ён пабрыў, то мякка шастала, то сцёбала па яго калашынах, то чвякала пад лапцямі, то зярніста і вусата тыкалася яму ў далоні. З чорнай вышыні ўсё тое, што было і тады, калі ён жыў у іншым свеце, ціўкала, шчабятала і срэбна пералівалася.

Нечакана ён зачапіўся за нешта і ўпаў. Што б гэта магло быць? Ён абмацаў... Грыва, капыты, сядло на спіне...

Ён брыў навобмацак і, спатыкаючыся, шмат разоў абмацваў то капыты, то сёдлы, то хвасты, то рукі, то шаблі... Недзе блізка нехта стагнаў... Далей адсюль! Далей!

Ён прыслухаўся: чуваць гаворка, смех, паасобныя выкрыкі. Але гаворка нетутэйшая, панская. Мікола неаднойчы разводзіў на палянцы вогнішчы і чуў панскую мову, нават ведаў з гэтае мовы слова «мерсі». Ён узрадаваўся: вось-вось да яго падбягуць паны. Што з табою, Мікола? Доктара хутчэй! Доктар яго абгледзіць, і тады...

Ён ужо чуе трэск падпаленага ламачча, панскія галасы і рогат... Закудахкала курыца, і нехта з тупатам прабег следам за тым кудахтаннем. Недзе мэкнула авечка. Ад свежага паху смажаніны, якую, відаць, елі, у Мікалая закружылася ў галаве. Панскія галасы нейк адразу ж змоўклі: значыць ён, Мікола, наблізіўся да панскага вогнішча так, што яго заўважылі і пазналі...

Зараз, зараз яго перавяжуць, напояць, накормяць...

І раптам яго штурханулі ў плечы, ён захістаўся і ледзь не ўпаў...



Вакол рагочуць? Што ж гэта такое? І чаму ён усюды натыкаецца на тыя ж вогнішчы з чужой гаворкаю? І чаму яго адусюль адштурхоўваюць?

— Божа мой, Мікола, ты? Што з табою? — пачуў ён раптам жончын голас. Мяккія жончыны рукі абвілі яго. Так, гэта яна. Вось нават ён абмацвае на шыі яе тыя маністы, што падарыла ёй некалі пані.

— Бяжым хутчэй адсюль! — жонка схапіла яго за руку, і яны пабеглі. Але адбегліся яны недалёка, ззаду затупалі нейчыя ногі, потым яго адпіхнулі, і ён толькі пачуў, як жонка адбівалася ад некага: «Пусціце мяне! Пусціце!» З растапыранымі рукамі ён кінуўся на невядомага ворага...

Апрытомнеў ён і пасля гэтага разу. Падняўся і пабрыў. Балючая чорная бездань стукалася аб яго то сукамі і карою дрэў, то абшаствала яго лістамі, то прыпякала ў лоб...

Ён стаяў з працягнутай рукою і маліў у гэтай бездані скарынку хлеба і глыток вады... Праз некалькі дзён, чуючы непадалёку панскую гаворку, ён, знясілены, апусціўся ля нечага цвёрдага, абмацаў яго і здагадаўся, што гэта камень.

Гэта быў валун.

●

Люты, 1942 год.

Сцяпан выйшаў на ўскрай бярэзніку, сунуў руку ў кішэню кажуха, саграючы цяплом далоні шурпатую паверхню «лімонкі». Ён ішоў якраз той сцежкаю, на якой летась валялася двое жывых шаснаццацігадовых партызанаў: іх накрылі сонных на хутары і, перш чым завезці і кінуць тут, паліцаі — па ўзросце бацькі тым дзецям — паскручвалі калючым дротам ім рукі і ногі, павыколвалі штыхамі ім вочы, паадразалі вушы і насы і павырэзвалі на спіне зоркі.



Сцяпан пастаяў, паазіраўся... Цішыня. Усё нібы вымерла. Вунь тая крайняя хата, у якую ён баіцца зараз зайсці. Пустуе яна ці не? Учора ж людзей ачапілі аўчаркамі, аўтаматчыкі пагналі на станцыю... Што, калі ён заявіцца ў гэтую хату, а да яго так і не кінецца на шыю пяцігадовы сын? Той сын, якога ён садзіў на плечы некалі даўным-даўно, садзіў і нёс праз увесь усеяны сінімі званочкамі луг... Пустуе хата ці не?

Клубы марознае пары вырываліся з рота, шчокі заходзіліся так, нібы з іх таркай злузвалі скуру.

Ён перавёў дыханне ля прыдарожнага каменя.

Гэта быў валун.

Стаіць валун, а паўз яго праходзяць і праходзяць людзі — то басаном, то пры лапцях, то пры чаравіках, то пры чобатах; пазіраюць, праходзячы паўз яго, то з-пад хусткі, то з-пад кепкі, то з-пад вушанкі; затрымліваюць на ім свае позіркі — хто на міг, хто на хвіліну, хто на болей; і ён, валун, чуе людскія гаворкі, уздыхі, шэпты, малітвы, клятвы, замовы, плач, смех...

Стаіць валун, а паўз яго праходзяць стагоддзі і тысячагоддзі. Стаіць? Хаця не... Па амаль кругавым шляху бяжыць ён разам з Зямлёю, каб аббегчы за год Сонца.

Як нешта адвечнае, узвышаецца валун, але калі падумаеш, што на тым месцы, дзе ўзвышаецца ён, было некалі мора, потым горы, потым зноў мора, потым зноў горы, потым зноў... зноў...— калі падумаеш пра ўсё гэта — адчуваеш, як мала адпушчана пражыць нават гэтаму валуну, як хутка нават ён растворыцца ў бязлітаснай бездані... Але калі тое будзе?



## ● Людміла ЗАБАЛОЦКАЯ





●

**Развітанне з жураўлямі,**
**Паўзабытае вясло...**
**З тонкіх рук я выпраўляю**
**Песню ў свет. У ноч — святло.**
**Зыркай поўняй, пахкай мятай**
**Зберагаю неўпрыкмет...**
**Тыя травы не прымяты,**
**Па якіх пайшла у свет.**
**І мяжой зімы і лета**
**Будзе стрэча між разлук.**
**З жураўлінай песняй гэтай**
**Я дамару, далюблю.**
**Вінавата—спапяліце,**
**Заблуджуся — не прыйду.**
**...П'ю ваду з тваёй крыніцы,**
**Чараўнічую ваду.**

●

**І паштоўкі белыя кружылі,**
**Замяталі лёгкія сляды,**
**Студзеняў завейныя сцяжыны**
**І дзяцінства светлыя гады.**
**Немагчыма ў раніцу спазніцца,**
**Ад купальскіх траў туга пячэ.**
**І паштоўка спозненая сніцца,**
**Сум тваіх дакорлівых вачэй.**

●

*Сцяпану ГАЎРУСЁВУ*

**Вераснёвых вогнішчаў стамлёнасць,**
**І прагуцца ў засені грыбы...**
**І лісты пажоўклыя пад клёнамі —**
**Як сляды асенняе журбы.**

Знікла пушча са сваімі сховамі,
І скалісты бераг растае...
Сінява бяссонная над бровамі,
Паглядзіш — і сілы нестае.
«Я — з дзяцінства. Я хлапчук маўклівы,
Бураломным веру дзівакам...»
...Да лістоты, як да рыжай грывы,
Цягнецца даверліва рука.

●

Ліўні залатыя цуруболяць,
Апраметна яхкаюць грамы.
Каля крэпасці, як ля амбона,
Пастаім, заціхлыя на міг.

Свецяцца натруджаныя хаты,
Замаўкаюць позняя драчы...
Ці былі ў давер'і вінаватымі,—
Слоў не хопіць.
Толькі памаўчы.
Разаб'юцца майскія грымоты,
І ў пякельнасць вогненных завей
За вясельны стол з тугой, самотай
Ты зусім другую пазавеш.
Праклянеш бязлітасна, жахліва
Вобраз мой і сціплыя радкі...
Разарваны вэлюм. Чуйны лівень,
Як твае слязінкі з-пад рукі.

● Яўген ВЕРАБЕЙ





## *Жаўранак*

Дзень у званы свае праб'е,
Начных агнёў патушыць спектры...
На ціхім ранішнім праспекце
Так не хапае мне цябе...
І раптам усплыве, як сон,
Бацькоўскі дом, калі шторанку
Я слухаў радасна на ганку
Твой пераліўны ціхі звон.
А ты спяваў бясконца мне
Пра калыханне на загонах,
Пра пералівы хваль зялёных,
Што вецер гнаў па збажыне.
І зараз, каб душу сагрэць,
Я не бяру з сабою песні,
Калі да ночы ў паднябессі
Гучыць тваіх званочкаў медзь.

●

Я, нават не верыцца,— дома!
О, як тут усё знаёма!
У радасным нейкім настроі
Я доўга хаджу па пакоі.
Не грэе пінжак унакідку —
І мама распальвае плітку.
Заўсёды ў такія хвіліны
Прыемна паслухаць навіны.
Бягу па ваду да студні,
А там ужо плешчацца лужына.
Скрыпіць жураўель прастуджана...
Пабульквае сок пад карою,
І з першага веснага месяца
Бярозы з сярэдзіны свецяцца
Святлом веснавога настрою.
Ці, можа, прамень вечаровы
Заблытаўся ў пражы шаўковай?
А побач вярба —
уся жоўтая,
Як поўня,
у сетцы вішнёвай.
Калі расцвіла? Толькі ўчора?
А снег навакол — як у копаці...
Глядзіш і не ведаеш: коцікі
Гудзяць на вярбе або пчолы....
Ды час, як зіма на зыходзе,—
Найбольшае свята ў прыродзе.

●

Я цябе не чакаў,
не прасіў цябе выйсці—
не таполі шукаў,
каб пакратаць іх лісце...
Летуценячы, сніў
баабабы і пальмы,
але сон мне маніў,
як туман прадсвітальны.
Я не ведаў, дзівак,
і не чуў я ніколі,
і не думаў, што так
пахне лісце таполі.
Непазнанае нас болей вабіць звычайна,
а што знаем — якраз
і з'яўляецца тайнай.

● Змітро БЯСПАЛЫ



● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# МІНІЯЦЮРЫ

●



Вастраверхія елкі стаялі густа: плячо ў плячо. Між елак — невялікая паляначка. Пасярэдзіне яе — куст арэшніку. Падумаў адразу, што ніхто яшчэ на ім не рваў арэхаў, бо праз ельнік цяжка пралезці да куста. Гляну ў угору — убачыў вавёрку. У пярэдніх лапках яна трымала некалькі арэхаў.

Заўважыла мяне. Перапалохалася, выпусціла арэхі і скокнула на елку, праляцеўшы добрых пяток метраў.

Падабраў арэхі. «Ці спелыя сарвала?» Раскалоў адзін арэх — поўны.

Што праўда, то праўда. Вавёрка зялёных арэхаў не рве. Гэтак толькі людзі робяць.

●

Пад разлапістай шырокай ялінаю мурашкі паставілі з вострым дахам круглы дом. Не адно дзесяцігоддзе яны надбудоўваюць паверх за паверхам. Дом іх расце і расце, узнімаецца ўсё вышэй і вышэй.

За метр ад мурашніка расце густы зялёны мох. Па ім мурашкам



хадзіць, што чалавеку прабірацца праз непраходныя джунглі. А на будоўлю ж трэба дастаўляць матэрыял. Як насіць яго, калі няма добрай дарогі?

Мурашкі не бедавалі: пачалі будаваць дарогу. Вырвалі мох, нібыта кусты выкарчавалі. Пасля ачышчаную ад моху паласу выклалі шыпулькамі. Ды не абы як, а шыпулька да шыпулькі ўпоперак дарогі. Атрымалася грэбля. Якраз такая, як людзі кладуць праз балота. Толькі мініяцюрная.

Кожнае лета я наведваю мураўіны дом. Заўсёды спыняюся каля грэблі.

Яна дагледжана. Як толькі з яліны ўпадзе на грэблю шыпулька, двое-трое мураўёў адразу яе прыбіраюць. Сцяблінку вецер кіне — таксама сцягнуць з дарогі, каб не перашкаджала хадзіць.

З вясны да восені на грэблі можна бачыць мураўіных дарожнікаў: яны даглядаюць сваю дарогу.

Калі мне даводзіцца ехаць па разбітай дарозе, на якой машыну ліхаманкава трасе, падкідвае, я заўсёды ўспамінаю дагледжаную мураўіную грэблю і працавітых яе дарожнікаў.

●



Колькі ні даводзілася бачыць дзятлава жытло — заўсёды яго дупло было на ўсход.

Чаму б гэтак?

Думаецца, што дзяцел будуе свой дом так, каб яго заўсёды вітала сонца.

●

Пачатак чэрвеня. Сонечны дзень. У маладых пасадках сасны — свята. На кожным дрэўцы стаяць жоўтыя свечкі. Гэта маладыя адросткі. Яны цвітуць. У сонечных промнях зіхацяць золатам.

Свята! Вялікае свята ў юных сосен. Яны святкуюць дзень нараджэння новых галінак.

●

Цёплая парная ноч агарнула лес. Дрэвы і кусты зніклі ў цемені. Дарога згубілася. Дрэнна ісці па ляснай сцяжынцы ў такі час: натыкаешся на дрэвы, на кусты, а голле сцёбае па твары. Перад сабою нічога не бачыш. Ступаеш, як у бездань. Там, дзе сцяжынка паварочвае, абавязкова саб'ешся з дарогі. Даводзіцца вяртацца назад, тупаць нагамі, шукаць утоптаны цвёрды грунт.

Але вось у густой цемені загараюцца агеньчыкі. Яны вісяць на сцяблінках, на травінках. Нібы зоркі пападалі з неба на зямлю і свецяцца ў траве. Гэта начныя ліхтарыкі-светлячкі. Іх шмат. А паміж гэтых цьмяных агнёў чорная паласа — па ёй і трэба ісці: на дарозе светлячкоў няма.

●



Прынёс з лесу гладыш суніц, паставіў у хаце. Доўга быў на двары, а калі вярнуўся ў хату, дык нібыта зноў трапіў на сунічную паляну—так пахла ў хаце.

●

Запрог свавольны вецер хмару ў вясёлку-дугу і коціць над палямі, лугамі, лясамі. Так імчыць, што чуваць грукат і відаць іскры. Нібыта калясніца коціцца па брукаванцы, бо вецер едзе з громам і маланкаю. Пырскі-кроплі ляцяць.

Глядзіш на гэтую калясніцу — і самому, як у дзяцінстве, хочацца дагнаць яе, пачапіцца ззаду і пракатацца з вецярком. Так, каб сэрца замірала і дыханне сцінала.

●

У маладых густых сасонніках з-пад ігліцы прарэзаліся малюпасенькія маслячкі. А ўзбоч лясных сцяжынак на цвёрдым утоптаным грунце каля белых бяроз выбіліся зялёныя шапачкі крохкіх сыраежак. Каля зялёных асін хваліліся чырванню сваіх шапак танканогія падасінавікі. Шэрыя абабкі хаваліся ў траве.

Пачалася грыбная пара.

●



Калі я падрэзаў баравічка і глянуў убок, ці яшчэ няма, то ўбачыў сем матрошак у чырвоных фартушках, вышытых белымі кружочкамі: перада мною ў траве ў адзін рад стаяла сем мухамораў: першы ўжо шапку разгарнуў і быў самы большы, другі — крыху меншы, трэці — яшчэ меншы, а сёмы — самы маленькі, толькі- толькі з зямлі выбіўся.

Учора быў у магазіне і бачыў сем матрошак.

Нейк радасна забілася сэрца.

●

Акрайчык месяца, нібы човен на хвалях, усю ноч плаваў у белых аблоках.

Не спалася і мне. Думалася пра жыццё, пра жыццёвыя хвалі.

І чалавек, як той човен, плыве, носяць яго хвалі ў акіяне жыцця. І прыплывае ён да свайго берагу.



● Надзея ЗВЕРАВА





## *Іванаў палац*

Умельства хітрае старое
Ад продкаў юныя бяруць:
І дрэва свежае, сырое
На зруб вясною не сякуць.
Чакаюць, покуль да карэння
Задрэмле ў снежнай цішыні
І сокі ўсе у глебу верне,
Што ўзяты з роднай глыбіні.
Каб сцюжа не даймала звонку,
Каб іней не палез нідзе,
Паўночным бокам тым сасонку
Цясляр налоўчаны кладзе.
Канёк над дахам зухаваты,
І стружка пах свой падае.
Дым вышыт з каміноў над хатай,
І ўжо сцяжынка да яе.
Стаіць здзяйсненне дум і працы,
Іван ды Мар'я там жывуць.
Жанкі Іванавым палацам
Хаціну новую завуць.

●

Абрыў дняпроўскі —
Быццам бы сцяна,
Ляжыць зямля ў касым сячэнні зрэзу.
Мой спадарожнік сведчыць, што яна
Тут не нясе ні медзі, ні жалеза.
І што зусім пустыя ўсе пласты:
Пясок. Суглінак. Нізкія кусты.
Гляджу і бачу зрокам я двайным:
Стагоддзі закапціў пажараў дым...
О, родная зямля, ў табе залёг
Хат спаленых сялянскіх
Вугалёк.

Пад кветкамі, якімі свет прапах,—
Лаўжы іржавых іншаземных шпаг,
Нямала куль і сталі бранявой
Вайны сусветнай першай і другой.
Пласты зямлі,
Гісторыі пласты —
Яны на зрэзе гэтым,
Як пасты,
Нясуць ад продкаў праз глыбокі след
Перасцярогу іх і запавет.

●

Мне пытанне зададзена,
Ты мяне правяраеш:
— Ну з чаго ты складзена
І ў каго вырастаеш?
Усміхнуся без гневу:
—Правярай, правярай...
Я змяніла, як Ева,
На пазнанне свой рай.
А таму і не ломкая,
Усім лазінкам сястра,
Бо задумана тонкаю
Ды з чыйгосьці рабра.
Хай чаўпуць: «Аднявесціцца...
Утаймуе сям'я».
Ў самым яблычным месяцы
Нарадзілася я.

●

Падарылі
сляпому
радугу —
Сем агнёў палалі вясной.
Называлі радугу радасцю,
Загадалі ісці па ёй.
І сагнулася радуга яркая
Між зямлёю і небам самім,
Невідушчы пастукваў палкаю —
Ці трывалы мост перад ім?
І разбіў неспазнаную радасць,
Вось асколкамі сыпане...
Падарылі
слямому
радугу,
Падарылі
табе
мяне.

Пераклаў з рускай мовы
**Аляксей ПЫСІН.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

● Іван КАЛЕСНІК
● Уладзімір ХАЧЫРАШВІЛІ
● Васіль СВЯТЛОЎ
● Іван КОЛАС
● Яўхім САДОЎСКІ
● Віктар ГОВАР
● Франц ВАЛАДЗЬКО
● Ісідар БАС
● Фёдар ЯФІМАЎ
● Уладзімір ЮРЭВІЧ
● Васіль ЗУЁНАК
● Мікалай ВАРАКСА
● Барыс РОЗЕН
● Мікола ЧАХОЎСКІ
● Аляксей СУЭЦІН
● Барыс АЛЕЙНІК





# СТАНАЎЛЕННЕ КОМПЛЕКСУ

**«З мэтай паскарэння росту вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі і павышэння яе эфектыўнасці забяспечыць будаўніцтва механізаваных жывёлагадоўчых ферм у калгасах і саўгасах, разгарнуць паблізу гарадоў будаўніцтва буйных дзяржаўных, калгасных і міжкалгасных комплексаў па вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі на прамысловай аснове...»**

**(З Дырэктыў XXIV з'езда КПСС).**

З першых гадоў Савецкай улады на падмогу хлебаробу прыходзяць машыны, механізмы. Ужо даўно сталёвыя коні вызвалілі мазолістыя далоні аратага. А цуд-камбайн разагнуў натруджаныя спіны жнеяў. Паступова адыходзіць у нябыт нялёгкая ручная праца на касьбе.

Цяпер сеюць, даглядаюць і ўбіраюць ураджай машынамі. Трактар, сеялка, камбайн — аснова механізацыі.

Комплексная механізацыя — гэта ява калгаснага паляводства, ява і блізкая будучыня грамадскай жывёлагадоўлі.

У рэспубліцы ўжо ёсць гаспадаркі, дзе ручная праца на фермах поўнасцю механізавана. Маладзечанскі раён не назавеш перадавым. Але ў многіх калгасах на змену звычайнай, можна сказаць, саматужнай механізацыі ўсё больш прыходзіць комплексная.

Калгас імя Дзяржынскага — адна з моцных гаспадарак Маладзечанскага раёна. Летась ураджай збожжа тут склаў 30—32 цэнтнеры з кожнага гектара. Валавы даход гаспадаркі — 1400 тысяч рублёў. Чысты прыбытак калгаса — 446 тысяч рублёў. І ўсё ж, нягледзячы на высокую ўраджайнасць, асноўная крыніца багацця калгаса — жывёлагадоўля. Восемдзесят працэнтаў ад усёй сумы чыстага прыбытку дала менавіта гэтая галіна. У калгасе механізаваны амаль усе працаёмкія работы: даенне, паенне, ачыстка стойлаў ад гною. Засталося яшчэ наладзіць справу з аўтаматызацыяй кармлення.





Пра тое, які эфект дае комплексная механізацыя ў жывёлагадоўлі, расказвае эканаміст калгаса Г. У. Башаркевіч.

— Пачынаючы з 1967 года мы займаемся механізацыяй жывёлагадоўчых працэсаў, — гаворыць Георгій Уладзіміравіч. — У нашай гаспадарцы налічваецца 785 галоў буйной рагатай жывёлы. Дойны статак — 550 кароў — трымаем на трох фермах. Лепш за ўсё, вядома, механізаваны гэтыя тыпавыя памяшканні. Маладняк даглядаем асобна. Тут, праўда, механізаваны толькі паенне і кармленне.

А ўвогуле — механізацыя далася нялёгка. На механізацыю мы затрацілі 54 тысячы рублёў.

— А як хутка апраўдае сябе гэта?

— Мяркуем, што затраты акупяцца за тры гады. Але ж варта ўлічыць і тое, што раней калгасны статак даглядалі 56 даярак і 19 цялятніц. Цяпер жа з дойным статкам спраўляюцца 44 даяркі, а на адкорме і гадоўлі маладняку — 15 цялятніц.

Вядома, што самыя дасканалыя механізмы не могуць абысціся без чалавечых рук. Машына толькі тады прынясе добрую карысць, калі трапіць ва ўмелыя рукі. Без людзей, тэхнічна адукаваных працаўнікоў, комплексная механізацыя не дасць жаданага выніку. І, пэўна, тут перш за ўсё павінна паказаць сябе моладзь.

Як жа абстаяць справы ў калгасе імя Дзяржынскага з механізатарскімі кадрамі? Вось што сказала намеснік сакратара камітэта камсамола Ларыса Гарошка:

— У нас 67 камсамольцаў. Сорак з іх — механізатары. Ужо другі год, як у нас дзейнічаюць свае курсы механізатараў. Са студзеня па красавік хлопцы і дзяўчаты вучыліся, а з надыходам палявых работ пачалі працаваць хто самастойна на машынах, а хто памочнікам трактарыста. Сталі добрымі механізатарамі Іван Давідовіч, Вячаслаў Сыракваш, Аляк-



Старшыня калгаса імя Дзяржынскага Рыгор Сафронавіч Пачуйка.



Ніна Іларыёнаўна Лешч, даярка з Брускоўшчыны, з унукам.

сандр Бурачонак. Памочнікамі камбайнераў працуюць дзяўчаты: Фаіна Луцкая, Тамара Баслык і Клаўдзя Пагуда.

— Моладзь працуе і на жывёлагадоўчых фермах,— гаворыць Ларыса і прапануе паглядзець ферму ў вёсцы Капачы.

Грузавік імчыць хутка. У твар б'е вільготны вецер — з раніцы прайшоў спорны дождж. На дарозе не дыміцца пыл. Ажыла, зазелянела пасля сухіх дзён канюшына. Ружовым дыванам яна зліваецца з краявідам.

Размаўляем з намеснікам старшыні калгаса Уладзімірам Іосіфавічам Гарошкам.

— У каровы ж, як вядома, малако на языку,— гаворыць Уладзімір Іосіфавіч.— Як накорміш, так і маеш. Аснова — кармы. Сёлета мы змагаемся за 35 цэнтнераў збожжавых, 235 — бульбы і 250 — буракоў з гектара. Думаем закласці не менш як тры тысячы тон сенажу. Гэта недзе па чатыры тоны на кожную карову. Будзем мець 200 тон вітамінізаванага сена.

Хвілін дзесяць язды — і вось яна, ферма. Тыпавы кароўнік на 200 галоў. Побач — памяшканне для маладняку, што на адкорме.

Будынак складзены са шлакаблочных матэрыялаў. Цешыць вока чысціня, парадак — унутры і звонку. У кармушках дзённая падкормка — толькі што скошаная канюшына.

— На ферме я дваццаць першы год працую,— гаворыць Марыя Лук'янаўна Яркевіч.— Дзіцем мяне сюды маці прывяла. Былое і ўспомніць цяжка. З рук мазалі не сыходзілі. Усё ўручную рабілі — і корм раздавалі, і ваду цягалі, і даілі. Цяпер не ферма, а палац. Грэх не любіць нашу працу.



Пасля дзесяцігодкі прыйшла на ферму Лёдзя Сідарэвіч.

Побач са старэйшымі даяркамі, ветэранамі жывёлагадоўлі Ганнай Пятроўнай Божка, Марыяй Захараўнай Шэмет і Марыяй Лук'янаўнай Яркевіч, на ферме працуюць нядаўнія выпускніцы школы — Святлана Сыракваш і Лёдзя Сідарэвіч. Пакуль што яны сумесна даглядаюць адну групу кароў. Міне час, дзяўчаты набудуць неабходны вопыт, і кожнай з іх даручаць самастойны ўчастак працы. Старэйшыя ж даяркі пры цяперашняй механізацыі неахвотна развітваюцца з фермай. І гэта зразумела.

Але як толькі старыя захочуць пайсці на адпачынак, іх заменіць надзейны рэзерв — тэхнічна адукаваная моладзь, яна заўсёды гатова працаваць на фермах.

Пакуль ішла размова, вярнуўся з пашы статак — каровы адна ў адну, бура-латвійскай пароды. Сытыя, чыстыя, ажно блішчаць.

Даенне заняло ўсяго нейкую гадзіну. За кожнай даяркай замацавана па 25—30 кароў. Для даення такой групы выдзяляецца па два апараты. Жанчыны добра асвоілі тэхніку.

На ферме малакаправод сістэмы «Даўгава». Гэтая ўстаноўка неблагая, але яе ўсё ж давялося ўдасканальваць, падганяць да ўстаноўкі «Імпульс», якая працуе больш надзейна і эфектыўна.

З нялёгкай работай па мадэрнізацыі ўстаноўкі справіліся самі калгас-

ныя спецыялісты на чале з механікам Чаславам Сіцько. Раней ён працаваў трактарыстам, затым, пасля арміі, сеў за руль аўтамашыны, завочна скончыў Гарадоцкі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі.

Да фермы пад'ехаў малакавоз. Яго справа — забраць з цыстэрны ахаладжанае малако. Добра, калі справіцца за адзін рэйс. А то давядзецца ехаць другі раз. Каровы ж даюць больш як па пудзе малака.

Для жывёлаводаў створаны добрыя ўмовы. Можна прыняць цёплы душ, у чырвоным кутку пачытаць свежую газету або часопіс.

Крыху адпачыўшы, даяркі пойдуць дадому. Ад фермы да вёскі разбягаецца некалькі сцежак. Летам яны пратоптаны па мурожнай траве, зімой — па сумётах. Гэтыя сцежкі — жыццёвыя дарогі. Па іх адны хадзілі і ходзяць дзесяткі гадоў, іншыя — толькі ступілі.

...Комплексная механізацыя жывёлагадоўчых ферм вымагае ад кожнай гаспадаркі росту іншых галін сельскагаспадарчай вытворчасці. Без тэхнічна адукаваных кадраў, без моцнай кармавой базы, без уласнага народзістага статку — яна немагчыма. Але ёсць праблемы, якія не пад сілу вырашыць на месцы. Пра іх гаворыць старшыня калгаса Рыгор Сафронавіч Пачуйка:

— Мы пакуль не можам поўнасцю механізаваць працэс кармлення, бо тэхналогія комплексу не распрацавана як след. Нам і цяпер прыходзяць праекты жывёлагадоўчых памяшканняў без уліку іх комплекснай механізацыі. Значыць, Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, эксперыментальныя станцыі адстаюць ад практыкі. Ды і будаўніцтва ж яшчэ вельмі дарагое. За сенажную траншэю на 200 галоў Міжкалгасбуд бярэ шэсць тысяч рублёў. А сваімі сіламі мы яе зробім за 800 рублёў. Ці, скажам, узвядзенне кароўніка на 200 галоў некалькі гадоў назад каштавала 63 тысячы рублёў, а цяпер Міжкалгасбуд за такую ж будоўлю бярэ ў тры разы даражэй. Мы, вядома, стараемся як мага больш рабіць самі. Але ж не ўсё нам пад сілу. Ого, колькі б маглі даць мы, калі б і нам больш давалі! Не хапае не толькі будматэрыялаў, але і мінеральных угнаенняў, прэпаратаў для хімпраполкі. Ад усяго гэтага залежыць і поспех комплекснай механізацыі ў жывёлагадоўлі...



**Калгас імя Дзяржынскага.** Злева направа: **намеснік сакратара камсамольскай арганізацыі калгаса Ларыса Гарошка, сакратар партарганізацыі Уладзімір Гарошка, сакратар камсамольскай арганізацыі Аляксей Лешчык, механік па працаёмкіх працэсах Часлаў Сіцько.**



**Старшыня калгаса імя Калініна Уладзімір Карнеевіч Майсіновіч і брыгадзір будаўнічай брыгады Іван Георгіевіч Мурза.**

Мы былі і ў суседнім калгасе імя Калініна. Старшыня праўлення Уладзімір Карнеевіч Майсіновіч не вельмі гаваркі, але глыбока дасведчаны чалавек. Ён — вопытны кіраўнік, шмат гадоў працуе ў сельскай гаспадарцы.

Гаварылі зноў жа пра комплексную механізацыю ў жывёлагадоўлі, наведалі ферму. І ў гутарцы, і пры аглядзе тыпавых памяшканняў натыкаліся на тыя ж вырашаныя і нявырашаныя пакуль праблемы, што і ў калгасе імя Дзяржынскага. Яны, гэтыя праблемы, вельмі надзённыя.

**Іван КАЛЕСНІК.**

Фота **У. Мяжэвіча.**

Клічуць дарогі... Практыканткі з пасажырскага цягніка «Беларусь».



Будучыя брыгадзіры-пуцейцы (злева направа) Мікалай Максімчык, Васіль Бордак, Уладзімір Дзедавікоў і Уладзімір Ратамскі на вытворчай практыцы.



# ТАКОЕ ІХ ЖЫЦЦЁ...

Першы рабочы хлеб, першы рабочы перакур... Міхась Раманоўскі і Міхась Шынгель толькі што скончылі вучылішча і прыйшлі на завод імя Мяснікова.



Звініць званок. Таропкія постаці вучняў слізгаюць у аўдыторыі. Чуваць словы:

— Вы цяпер дзе застаецеся?

— У цеплавозным.

— А ў нас СЦБ.

Праз хвіліну калідоры заміраюць, толькі за дзвярыма глухі шум — з настаўніцкай выходзяць выкладчыкі. Яшчэ хвіліна — і ўсталёўваецца поўная цішыня, якая рассартавала па групах без малога шэсцьсот выхаванцаў вучылішча—шэсцьсот характараў, шэсцьсот індывідуальнасцяў.

У аўдыторыях гараць электралямпы, гудуць трансфарматары, рэастаты, мільгаюць агеньчыкі на электрасхемах... «Баявыя лісткі» і «маланкі» гавораць пра паспяховасць. Двоечнікі ўдастойваюцца «персанальных» выпускаў — часта з фатаграфіямі, з карыкатурамі,— стрэлы крытыкі працінаюць іх наскрозь. Камітэт ЛКСМБ сурова папярэджвае: «Заслухаць на чарговым пасяджэнні камітэта камсамола персанальную справу вучня групы №...», і — «паслухай, браце, ты што сабе думаеш, што ў цябе з паспяховасцю робіцца?»

— А інакш нельга,— зазначае сакратар камітэта Міхаіл Зубоўскі.— Галоўнае ў нас вучоба, гэта ўсім вядома. Толькі не ўсе ведаюць, што адзін выпускнік вучылішча абыходзіцца дзяржаве ў даволі кругленькую суму — 2500 рублёў. Няхай гэта будзе памочнік машыніста цеплавоза, брыгадзір па рамонце і ўтрыманні чыгуначнай магістралі ці манцёр сігналізацыі, аўтаматызацыі і блакіроўкі...

Вучэбная праграма з кожным годам становіцца ўсё больш насычанай, бо павялічваецца паток інфармацыі і ўскладняюцца задачы чыгуначнага транспарту. Калектыў настаўнікаў і майстроў ГПТВ № 34, не шкадуючы сіл і працы, стараецца даць сваім выхаванцам і сучасныя тэарэтычныя веды і практычныя навыкі. Жыццё ў вучылішчы праходзіць у цесным кантакце з вытворчасцю. Высокая патрабавальнасць, якая прад'яўляецца да навучэнцаў з першага дня вучобы, згуртоўвае іх у дружны калектыў. Ужо сам адбор навучэнцаў у нейкай меры садзейнічае выяўленню здольнасцяў, умацаванню веры ў сваё прызванне. У вучылішчы дзесяткі груп — па 25—30 чалавек. І кожная мае свой выразны твар. А гэта бывае часам вельмі важна.

Памятаю 1965 год. Нас, групу памочнікаў машыністаў, адправілі на паязную практыку ў Ташкент. Мінскае цеплавознае дэпо тады толькі пачынала будавацца, і прыпіснога парка цеплавозаў у нас не было. Ездзілі на машынах серыі ТЭ-3. Спёка стаяла нясцерпная. Можна ўявіць сабе, як даводзілася жыхару сярэдняй паласы, які з беларускай вясны праз нейкія чатыры дні апынуўся ў сярэднеазіяцкім леце. Мы, практыканты, працавалі памочнікамі па выкліку — быў такі «блукаючы» графік: калі нарадчык захоча, тады і выклікае. А выклікалі праз кожныя 12 гадзін. Ішлі грузы ў Галодны стэп. Там пачыналася вялікае будаўніцтва. Па стэпе гулялі сухавеі. На ўсход ад Ташкента, паміж станцыямі Янгі-Юль і Янгі-Ер, была тады каранцінная зона. Ехалі з зачыненымі вентыляцыйнымі люкамі. У кабіне лакаматыўнай брыгады тэмпература пад 60 градусаў. Працавалі ў адных трусах, прагна глыталі з чайнікаў цёплую ваду, ад якой смага не знікала. А якая ж лазня была ў дызельных памяшканнях, калі трэба было праверыць, як працуюць агрэгаты секцый і прыборы!.. Толькі пераступіш парог дызельна-агрэгатнага пакоя, адразу як хто малатком па лбе стукае. Працавалі як у сне. Часта апякалі рукі — вельмі напальваўся дызель. А яшчэ ж трэба з неверагоднага дысанансу гукаў, народжаных агрэгатамі, вылучыць чужыя гукі, калі надарыцца ненармальнасць з тым ці іншым рухавіком. Цяжэй за ўсё было заўважыць няспраўнасць кампрэсараў. У звычайных умовах памацаў рукой цыліндры: гарачы — значыць не паступае вада пад кожух або змазка. Адключыў цыліндр — парадак. А тут паспрабуй дакраніся — умомант скура застанецца на цыліндрах. Прыязджаем на мяжу каранціннай зоны, на станцыю Янгі-Ер, і куляю вылятаем з цеплавозаў на насып, ляжым у цяньку, прагна глытаючы нізавы стэпавы ветрык, пакуль не запальваецца на выхадным светафоры зялёны агонь. Стэп у такія хвіліны здаецца зялёным беларускім хвойнікам. Хлопцы тады не думалі, што робяць нешта незвычайнае. Яны проста рабілі сваю справу. Вярталіся з паездкі, валіліся на ложак, каб праз дванаццаць гадзін устаць і — у новы рэйс.



Валеры Пазняк у вучылішчы першы год, толькі-толькі пачаў знаёміцца з цеплавознай гаспадаркай...



...а Уладзімір Паўлоўскі, хоць і нядаўна пераступіў парог дэпо, ужо лічыцца тут «спецам».

Жылі мы дружна, памагалі адзін аднаму, чым маглі. Эгаізм і хлусня ў нашым асяроддзі жорстка караліся, а нормаю была ўвага ў адносінах адзін да аднаго, дабрата, шчырасць і адкрытасць да таварыша. Хлопцы-ташкентцы дзівіліся нашай дружбе і паважалі «памочнікаў-беларусаў». Узначальваў групу майстар вытворчага навучання Пятро Сямёнавіч Калінка. Сам яшчэ дваццацісямігадовы хлопец, ён здолеў у цяжкіх умовах стварыць працаздольны калектыў і стаць яго душою.

Пра настаўнікаў трэба сказаць асобна. Многія з цяперашніх выкладчыкаў і майстроў на ўсё жыццё звязалі свой лёс з вучылішчам і ўвайшлі ў яго гісторыю. У 30-х гадах скончылі вучылішча і назаўсёды засталіся ў яго сценах заслужаны настаўнік рэспублікі Я. С. Біргер, зампаліт вучылішча А. Я. Вальфсон, заслужаны майстар рэспублікі В. А. Руды, майстар вытворчага навучання Л. А. Плаксаў. У 1941 годзе пад кіраўніцтвам майстроў і настаўнікаў група навучэнцаў вучылішча — 150 чалавек — пакінула палаючы Мінск, дайшла пеша да Барысава, адтуль поездам даехала да Бузулука і там працягвала вучобу. У 1945 годзе, пасля перамогі, вучылішча пераехала зноў у Мінск і было перайменавана ў ЧВ № 3. Пад гэтаю назваю яно заставалася да 1958 года, калі Міністэрства вышэйшай і спецыяльнай тэхнічнай сярэдняй адукацыі выдала загад аб перайменаванні ўсіх гарадскіх



Толькі што скончан рамонт электраабсталявання цеплавоза. Былы выхаванец вучылішча майстар Леанід Іванавіч Кароткі са сваімі памочнікамі — выпускнікамі Аляксандрам Капацэвічам і Віктарам Лысакоўскім.



Мар'ян Радзько сёлета стаў слесарам. Ён рамантуе вагоны.

◀ Памочнік машыніста Алесь Трошка перад адпраўленнем у дарогу.

спецыяльных тэхнічных навучальных устаноў у ГПТВ.

...Ідзе ў вучылішчы камсамольскі сход. Не так ужо важна ў дадзеным выпадку, пра што размова — пра паспяховасць ці пра тое, што сярод дваццаці груп 5-я група заняла апошняе месца, а 1-я — першае; важней за ўсё зацікаўленасць у агульнай справе, праяўленне актыўнасці.

Індывідуальнасці выявіліся даволі выразна, іх многа. Думка, як відаць, складаецца адна, агульная, і дыктуе яе не фантазія, а рэальнасць і неабходнасць: калектыў не можа цярпець двоечнікаў, бо на працу нельга пасылаць недавучку.

У вучылішчы юнак набывае не толькі спецыяльнасць. Ён вучыцца жыць, набывае рысы характару чалавека-стваральніка, чалавека-калектывіста. Гэта бясспрэчная ісціна, што ў калектыве фарміруецца светапогляд чалавека, выхоўваюцца яго лепшыя якасці, што спатрэбяцца яму, будучаму чыгуначніку, у якога павінна быць вельмі развіта пачуццё адказнасці за сваю працу...

...У пасажырскага цеплавоза ТЭП-60 абарвалася водная магістраль да левага турбакампрэсара. Можа, расхісталася мацаванне, можа, яшчэ што — разважаць не было часу. З-за паломкі цягнік стане на перагоне, і тады парушыцца графік руху паяздоў на ўсёй чыгуначнай магістралі. А вада б'е, як з брандспойта. Рамантаваць магістраль, не спыняючы дызель?.. Памочнік машыніста Саша Кароткі і практыкант ГПТВ № 34 Грыша Шэмет вырашылі — рамантаваць! І адрамантавалі. Цягнік прыйшоў да месца прызначэння па графіку. Здаецца, нічога гераічнага хлопцы не зрабілі, але не разгубіліся — прынялі самастойнае і правільнае рашэнне. Бо на карту ставілася рэч не менш важная — праца тысяч людзей на ўчастку.

Выпускнікоў цеплавознай групы ГПТВ № 34 высока цэняць у тых гарадах краіны, дзе ёсць лакаматыўныя дэпо з прыпісным паркам цеплавозаў. Сёлета, калі мінскае лакаматыўнае дэпо не змагло прыняць усіх выпускнікоў, частку з іх запрасілі дэпо Сібірскай магістралі, Сярэднеазіяцкай чыгункі і горад Ташкент, дзе яшчэ памятаюць першую групу беларускіх хлопцаў, у якіх любімымі словамі былі: «Цяжкавата, але нічога, праб'ёмся».

Так і жывуць хлопцы. Уласна кажучы, як і ўсе навучэнцы мінскіх вучылішчаў — усюды разам, заўсёды побач, аб'яднаныя аўдыторыяй і паходам, спартыўнай пляцоўкай і камсамольскім дыспутам...

**Уладзімір ХАЧЫРАШВІЛІ.**

Фота **В. Ждановіча.**

# ЗАЎТРА ЧЫГУНКІ

**Яшчэ не так даўно існавала думка, што чыгуначны транспарт не мае будучыні. Пабудаваныя ў эпоху малых хуткасцяў, чыгункі не маглі канкурыраваць з авіяцыйнымі лініямі. Рэкордная хуткасць на чыгунцы належыць пакуль што Францыі — 331 км/гадз.**

**За хуткасць даводзіцца расплачвацца дарагой цаной. Вучоныя падлічылі, што 55 працэнтаў энергіі лакаматыва траціцца на асноўнае супраціўленне, 35 — на супраціўленне на пад'ёмах, 5 — на пераадоленне супраціўлення на паваротах і апошнія 5 працэнтаў — на тармажэнне і аднаўленне хуткасці. Нават бяскрыўдны вагонны поручань патрабуе павелічэння магутнасці лакаматыва на 20 конскіх сіл, а масткі агляду на даху вагона — 28 конскіх сіл.**

**За сто пяцьдзесят гадоў існавання чыгунак правераны многія спосабы руху. Але хутчэй 280 км/гадз. нават на эксперыментальных участках існуючых ліній цягнік пакуль што імчацца не можа.**

**І ўсё ж барацьба за хуткасць на чыгунцы не заціхае. Нядаўна ў друку з'явілася паведамленне аб тым, што ў ліку іншых участкаў краіны на скорасны рух цягнікоў будзе пераведзена чыгуначная магістраль Масква — Брэст. Што ж зараз робіцца для гэтага?**

**Вось што расказаў нам начальнік тэхнічнага аддзела Упраўлення Беларускай чыгункі А. В. Косць.**

**— Ужо сёння, — сказаў Аляксей Васільевіч, — на асобных участках нашай чыгункі цягнікі ходзяць з хуткасцю 120, а іншы раз і 140 кіламетраў у гадзіну. У недалёкім будучым іх хуткасць узрасце да 160 кіламетраў. Але не думайце, што гэта робіцца лёгка. Прырост хуткасці нават на дзесяць кіламетраў патрабуе сур'ёзных выдаткаў. Можна спаслацца на японскі вопыт. На спецыяльнай лініі Токіо — Асака даўжынёй у 556 кіламетраў курсіруюць звышскорасныя цягнікі. Яны развіваюць хуткасць да 250 км/гадз. Але для гэтага спатрэбілася пабудаваць тры тысячы мастоў, 114 эстакад і 56 тунеляў. Мяркуюць, што затрачаныя сродкі акупяцца толькі праз дваццаць гадоў пры ўмове, што кожны год будзе перавозіцца не менш 30 мільёнаў пасажыраў.**

**На нашай чыгунцы, ды і ў краіне ў бліжэйшыя гады звышскорасны рух цягнікоў не атрымае шырокага распаўсюджання, бо многія магістралі не дазволяць развіваць высокія хуткасці. Перабудоўваць іх эканамічна нявыгадна. Але на асобных участках без асаблівых затрат можна арганізаваць даволі хуткі рух. Мы ўжо зараз рыхтуем лінію ад Оршы да Брэста для скоранага руху. У першую чаргу патрабуецца ўзмоцненая дарога. Укладваюцца бясстыкавыя рэйкі цяжкага тыпу. Уся магістраль павінна быць электрыфікавана. Толькі электравозы змогуць забяспечыць высокія хуткасці. Павысяцца хуткасці і грузавых цягнікоў да ста кіламетраў у гадзіну. Каб не затрымліваць рух скорасных цягнікоў, для іх, напэўна, спатрэбіцца пракласці трэцюю магістраль. Паступова адыходзяць у мінулае такія спецыяльнасці, як качагар, кандуктар, стрэлачнік. Іх работу будзе выконваць аўтаматыка. Ужо цяпер лічыльныя машыны плануюць у нас перавозкі і работу станцыі Мінск-Таварны. А ў хуткім будучым яны будуць планаваць сістэму работы ўсёй чыгункі. Усё гэта, вядома, будзе ўплываць на павышэнне хуткасцяў цягнікоў. А калі зазірнуць далей, то мне здаецца, што чыгуначны транспарт будзе рухацца пад зямлёй, у тунелях. Але гэта далёкая будучыня, пра якую можна толькі марыць.**

**...Далёкая будучыня! Калі прыйдзе яна? Праз дваццаць, трыццаць ці нават праз пяцьдзесят гадоў. Аднак мы можам ужо цяпер расказаць пра тое, што прапануюць вучоныя, інжынеры і канструктары чыгункі будучага.**

**Нядаўна на нашых магістралях з'явіўся незвычайны вагон-лабараторыя. У яго распрацоўцы ўдзельнічалі Усесаюзны навукова-даследчы інстытут вагонабудавання, канструктарскае бюро па авіяцыйнай тэхніцы А. С. Якаўлева і Калінінскі вагонабудаўнічы завод. На даху наперадзе вагона ўзвышаюцца спараныя турбарэактыўныя рухавікі. Вядома, што звычайны рухавік круціць колы, якія ідуць па рэйках і перасоўваюць цягнік. Але з павышэннем хуткасці сіла счаплення паміж цягніком і рэйкамі змяншаецца, а супраціўленне руху ўвесь час узрастае. Значыць, хуткасць на звычайных рэйках можна павялічыць толькі да пэўнай мяжы. Зусім інакш абстаіць справа пры выкарыстанні рэактыўных рухавікоў.**

**Гэты вагон-лабараторыя застаўлены вымяральнымі прыборамі, з дапамогай якіх даследчыкі даведваюцца пра многія таямніцы высокіх хуткасцяў.**

**Хуткасць — сімвал касмічнага веку — не дае спакою канструктарам. Яна ставіць перад імі сотні галаваломак. Лепшыя з цяперашніх формаў вагонаў ужо не задавальняюць інжынераў. Пры вялікіх хуткасцях узнікае моцная віб-**

рацыя. Чым хутчэй імчыцца цягнік, тым мацнейшы шум. Каб зменшыць яго, рэйкавыя шляхі кладуць на гумавыя ізалятары. Падлогу ў вагонах робяць суцэльнай з узмоцненай ізаляцыяй над цялежкамі. У абшыўку кузава ўкладваюць гукапаглынальныя валакністыя матэрыялы. З пенапласту робяцца дзверы, аконныя рамы, сцены, перагародкі. Шмат клопатаў даюць канструктарам тармазы. Пры хуткасці 120 км/гадз. тармазны шлях складае 1200 метраў. З павелічэннем хуткасці да 200 км/гадз. яго даўжыня падвойваецца. Таму чыгунныя калодкі на звышскорасных цягніках ненадзейныя. Зараз прымяняюцца дыскавыя тармазы, а таксама магнітна-рэйкавыя тармазы.

Нарастаючыя хуткасці робяць нашым ворагам нават паветра. Калі міма прамчыцца цягнік з хуткасцю 250 км/гадз. на адлегласці метра, вы адчуеце ўдар паветранай хвалі сілай у пяцьдзесят кілаграмаў.

Многія інжынеры і канструктары ўжо сёння працуюць на заўтрашні дзень чыгункі. Прапануюцца праекты цягнікоў з неверагоднымі пакуль што хуткасцямі. У Францыі прайшоў выпрабаванні незвычайны вагон на ўчастку даўжынёй у шэсць кіламетраў. Невялікі рэактыўны рухавік прамчаў яго па бетоннай пуцявой бэльцы з хуткасцю 480 км/гадз.

У Японіі распрацоўваюцца вагоны, пад днішчам якіх устаноўлены электрамагніты. Вадкі гелій абмывае катушкі і падтрымлівае іх у рабочым стане. Магутнае магнітнае поле стварае для вагона пад'ёмную сілу. Такія цягнікі, якія развіваюць хуткасць да 500 кіламетраў у гадзіну, мяркуюць пабудаваць праз дзесяць гадоў. Ужо распрацаваны праекты рэактыўных цягнікоў для руху ў тунелях, дзе яны змогуць пераадольваць гукавы бар'ер. Уздоўж магістралі праз роўныя інтэрвалы стаяць накіроўваючыя апоры з сістэмай ролікаў. Гэтыя вядучыя ролікі разганяюць цягнік да неабходнай хуткасці. Як толькі ён выйдзе за межы горада, уключаюцца турбарэактыўныя рухавікі. Мадэль такога цягніка пры выпрабаванні развіла хуткасць 1140 км/гадз. Затым дослед паўтарылі. Калі мадэль дасягнула хуткасці гуку, яна тут жа знікла ў вакуумным тунелі, дзе ўжо нішто не перашкаджала ёй развіць хуткасць да 2300 км/гадз.

Існуе праект, у якім прапанавана пракапаць тунель-хорду паміж Масквой і Ленінградам. Паколькі зямля круглая, то на першай частцы шляху ў тунелі рухавіком цягніка стала б зямное прыцягненне. Другую частку ён прайшоў бы па інерцыі, паступова замаруджваючы ход.

Між іншым, паміж Масквой і Ленінградам ужо ў бліжэйшым будучым памчацца цягнікі з хуткасцю 200 км/гадз. Японцы ўжо ездзяць з хуткасцю 230 км/гадз. Але яны пабудавалі спецыяльную чыгунку скораснага руху. Па звычайных жа лініях звышскорасныя цягнікі рухацца не могуць. Спецыяльны цягнік, які ствараюць рыжскія вагонабудаўнікі, будзе імчацца па звычайнай сталёвай магістралі з хуткасцю 200 км/гадз. Такіх цягнікоў яшчэ не было ў краіне. Ён складаецца з дванаццаці вагонаў і не мае электравоза. Вага рухавікоў размеркавана па восях усяго цягніка, таму значна змяншаецца нагрузка на рэйкі. Гэта спросціць праблему стварэння надзейных сістэм тармажэння. А яны пры вялікіх хуткасцях павінны быць асабліва эфектыўныя. Кожны вагон новага цягніка будзе мець тры віды тармазоў: дыскавыя, магнітарэйкавыя і электратармажэння.

Пуск скорасных ліній у штодзённую эксплуатацыю — вельмі складаная тэхнічная задача. Але ім належыць будучыня. Яна нараджаецца сёння, на нашых вачах. Можа, з'явяцца больш арыгінальныя праекты звышгукавых цягнікоў, якія ўвойдуць у жыццё людзей гэтак жа, як і звышгукавыя самалёты.

Васіль СВЯТЛОЎ.





Іван КОЛАС



Фота 1945 г.

# ЗА ГАДЗІНУ ДА СВІТАННЯ

## «ГЕНОСЕН ПАРТЫЗАНЕН»

У пачатку 1944 года кавалерысты 7-га корпуса генерала Канстанцінава, вызваліўшы горад Мазыр, пайшлі па лясных дарогах на Пінск. Нашу групу ваенных разведчыкаў, якая дзейнічала на захад ад Пінска, тэрмінова адклікалі ў Маскву.

У Маскве, у Цэнтральным штабе партызанскага руху, мяне прыняў палкоўнік Бялоў. У яго прасторным кабінеце вісела некалькі картаў з рознымі адзнакамі: дужкі, зігзагі, кружочкі і тлустыя стрэлкі, нацэленыя на захад. На тэрыторыі, яшчэ занятай ворагам, таксама адзнакі. Гэта партызанскія базы.

Пасля нядоўгай цёплай гутаркі Аляксандр Васільевіч падышоў з указкай да адной з карт.

— У Налібоцкай пушчы не бываў? — спытаўся ён у мяне.

— Не.

— Вось туды і накіруешся са сваёй групай. Наша камандаванне павінна ведаць аб праціўніку ў гэтым раёне ўсё да драбніц...

Мне з групай разведчыкаў прадстаяла зноў ляцець на самалёце ў тыл праціўніка і прыступіць да арганізацыі разведкі ў раёне Мінск — Дзяржынск — Баранавічы — Маладзечна — Вілейка — Ліда — Слонім.

З кабінета палкоўніка я выйшаў задаволены і крыху ўсхваляваны. У прыёмнай зусім нечакана сустрэў Галіну Храмушыну, перакладчыцу. Яна была ў новым абмундзіраванні. Шапка-вушанка рабіла яе круглы расчырванелы твар падобным на хлапечы. Мы абое былі здзіўлены: не бачыліся больш як год і, галоўнае, не разлічвалі на сустрэчу тут, у Маскве. Галіна сказала, што ў партызанскі штаб прыйшла з асобым даручэннем.

— Бачыш, я цяпер працую сярод палонных немцаў. Добрыя ёсць хлопцы. Многія просяцца ў партызаны. Так, іменна ў партызаны. І нацыянальны камітэт «Свабодная Германія» рашыў пайсці ім насустрач.— Галіна паказала мне запячатаны пакет.— Пачакай мяне тут...

Яна прайшла ў кабінет Бялова.

У першыя хвіліны гэта незвычайная навіна ніяк не ўкладвалася ў маёй галаве. Усялякія трапляліся сярод палонных немцаў. Некаторыя, як гебітскамісар Зустэль, добраахвотна згаджаліся з намі супрацоўнічаць. Але каб бачыць у іх сяброў і паплечнікаў у агульнай барацьбе? Не, да такога мы яшчэ не прывыклі...

У прыёмную заходзілі афіцэры, пыталіся пра нешта ў ад'ютанта, а я сядзеў на канапе і думаў. Паступова я прыходзіў да думкі аб тым, што і праўда ж: немцы, калі яны патрыёты сваёй радзімы, могуць прынесці вялікую карысць, змагаючыся ў шэрагах партызанаў.

Тут выйшла Галіна.

— Усё ў парадку,— сказала яна.— Просьба задаволена: разам з немцамі да партызанаў еду і я. Як табе гэта падабаецца?

— Куды вы накіроўваецеся? — збянтэжана спытаў я.

Праз некалькі хвілін даведваюся: аказваецца, разам з маёй разведгрупай.

А неўзабаве адбылося маё знаёмства з нямецкімі антыфашыстамі. Вось іх імёны: Хуга Барс, Карл Рынагель, Фелікс Шэфлер, Герберт Хенчке.

Сустрэча наша праходзіла ў адным з кабінетаў партызанскага штаба. За вокнамі — шум вялікага горада. Я ўзіраўся ў твары нямецкіх таварышаў, крыху збянтэжаныя, але шчырыя і адкрытыя. Пра што мы маглі гаварыць між сабой? Успаміналі родных, распытвалі адзін аднаго пра даваеннае жыццё. Нашы новыя

таварышы даўно ўжо не мелі вестак з дому і вельмі бедавалі.

Вельмі ахвотна падтрымліваў гутарку Фелікс Шэфлер, моцны, рослы, крыху сутулаваты. Калі ён гаварыў, то ўвесь ажыўляўся. У яго былі доўгія моцныя рукі і рухавы, выразны твар з шэрымі, крыху пукатымі вачыма.

Тэмпераментна ўдзельнічаў у гутарцы Карл Рынагель. А самы маўклівы быў Герберт Хенчке. Знешне ён выдаваў спакойным, але па доўгіх паўзах у размове, па нахмураных брывах адчувалася, што ён хвалюецца, хоча сказаць нешта важнае, але не адважваецца.

— Таварыш капітан,— сказаў ён нарэшце, звяртаючыся да мяне,— калі ж мы паляцім у партызанскую зону?..

Усе аціхлі. Дык вось што хвалявала Герберта. Цярплівасць, аднак!..

— Хутка,— сказаў я. Але і сам добра не ведаў, калі будзе вылет, таму перавёў размову на іншае: — У тыле будзе цяжка, кожную хвіліну давядзецца рызыкаваць жыццём. Ці думалі пра гэта?..

Загаварыў Фелікс. Відаць было, што пра гэта ён думаў многа і пытанне гэта для яго вырашана канчаткова.

— Германія Гітлера,— пачаў ён,— гэта не мая Германія. Што ж, крыві нямецкай пральецца яшчэ шмат. Але яна будзе праліта за новы, справядлівы мір.

— Памятаеце Іспанію 1937 года, таварыш капітан? — нечакана спытаў у мяне Хуга Барс.— Супраць генерала Франка поплеч з іспанцамі змагаліся французы, венгры, немцы, румыны, рускія... Інтэрнацыянал! Яны змагаліся не толькі за свабодную Іспанію, змагаліся таксама супраць сіл сусветнай рэакцыі.

Ад Хуга я, прызнацца, не чакаў такіх прамоў. А ён працягваў:

— У Расіі ў грамадзянскую вайну брат забіваў брата. Я ведаю пра гэта з кніжак. Што паробіш: барацьба! Барацьба двух светаў...

Калі мы прызямліліся за лініяй фронту, нас сустрэлі ў лесе партызаны. Штаб злучэння быў папярэджаны, што разам з намі ляцяць нямецкія таварышы.

Перажываючы, як і ўсе, радасць сустрэчы, я аднак не забыўся пра свой абавязак камандзіра групы і рашыў праверыць, ці ўсе тут. Карл, бачу, цалуецца з барадатым шыракаплечым партызанам. Герберт нешта расказвае групе барадачоў, што абступіла яго. Усміхаецца Хуга Барс, Карл Рынагель таксама гутарыць з кімсьці, праўда, больш жэстамі. Між партызанаў Галіна, Змітро Сцянько, Іван Сядоў, Аляксей Казлоў. Не бачна штосьці Шэфлера. Дзе ж ён? Я ўзняў трывогу.

Партызаны адразу рассыпаліся па лесе. Пачаліся пошукі. Неўзабаве Фелікса знайшлі недалёка ад паляны. Ён стагнаў.

— Нічога, браток, і так бывае,— данёсся да мяне густы барытон нашага доктара.— Давядзецца крыху пацярпець...

Фелікс моцна ударыў нагу, і доктар ужо аказваў яму першую дапамогу. Нехта свяціў яму кішэнным ліхтарыкам.

— Ах, я няшчасны,— скардзіўся Фелікс,— нічога не паспеў зрабіць і ўжо стаў баластам!

— Нічога, браток, яшчэ паспееш, паваюеш,— супакойваў яго Федзя Дановіч, адзін з камандзіраў.

Парашут Фелікса, аказваецца, зачапіўся за сасну і павіс у паветры. Ухапіўшыся адной рукой за сук, другой Фелікс выняў нож і адрэзаў стропы. Але сук раптам абламаўся, і парашутыст зляцеў з дрэва. Фелікса перавязалі і на санях адвезлі ў партызанскі шпіталь.

...Ноч стаяла цёплая. Камандзір брыгады Міхаіл Грыбанаў і камісар Іван Казак прывялі нас у сваю зямлянку. Лямпагазнічка са снараднай гільзы свяціла цьмяна. У зямлянцы было цесна. У цэнтры ўвагі гаспадароў, вядома ж, былі нашы нямецкія таварышы. Камісар расказаў аб апошніх аперацыях брыгады. Узарвалі эшалон з боепрыпасамі, чыгуначны мост; перарэзана сувязь паміж Маладзечнам і Баранавічамі, знішчана рота эсэсаўцаў.

Галіна перакладала ўсё на нямецкую мову.

Ноччу мы адправіліся ў цэнтральны лагер, дзе знаходзіўся камандзір злучэння баранавіцкіх партызанаў Платон. Гэта імя добра было вядома гітлераўцам.

Укормленыя коні хутка прабеглі дваццаць пяць кіламетраў. Мы спыніліся ў густым сасняку на схіле пагорка, дзе размяшчаўся штаб злучэння. Калі мы ўвайшлі ў зямлянку, нас сустрэў генерал з зоркай Героя Савецкага Саюза. Гэта і быў таварыш Платон.

— Ухваляю ваша рашэнне змагацца супраць нашага агульнага ворага — нацызму,— звярнуўся Платон да нямецкіх таварышаў.— Але мне хацелася б пачуць ад вас, што іменна вы маеце намер рабіць — узрываць, хадзіць у засады, у разведку?..

— Мы хочам быць у адным страі з партызанамі, там, дзе небяспечна,— адказаў Хуга.

— Добра,— кіўнуў галавою Платон.— Пашлю я вас, скажам, у вёску разграміць камендатуру. Не сумняваюся, вы выканаеце заданне. А калі загінеце? Пытаюся, ці вялікую карысць прынесяце вы?

Немцы ўважліва слухалі.

— Думаю, што вельмі малую,— працягваў камандзір злучэння.— Цяпер нямецкія салдаты пачынаюць разумець, што Гітлер іх падмануў. Вось я і лічу, што вам цяпер самае што ваяваць не кулямі, а лістоўкамі. Расказвайце сваім суайчыннікам пра шкоднасць нацысцкай палітыкі і бязглуздыя мэты вайны, заклікайце іх пераходзіць на наш бок. Дарэчы, нядаўна мы захапілі нямецкую перасоўную друкарню. Ёсць дзе рыхтаваць лістоўкі. Як, згода?

— Разумная прапанова,— адказалі немцы дружна.

— Вось і добра. Размяшчайцеся ў зямлянцы і прыступайце да задання.

Назаўтра Хуга, Герберт і Карл прыступілі да мантажу друкарні. Ім дапамагаў Міхаіл Дубко, які да вайны працаваў наборшчыкам. На шчасце, станок, шрыфты аказаліся ў парадку, і спатрэбілася ўсяго два дні, каб сабраць друкарню.

Але якім чынам распаўсюджваць лістоўкі сярод нямецкіх салдат? Лягчэй за ўсё, вядома, раскідваць іх з самалёта. Ды, па-першае, самалёта ў нас не было, а, па-другое, у часцях, якія нясуць гарнізонную службу, гэты спосаб звычайна не даваў жаданага эфекту. Рашылі: трэба самім пранікаць у гарнізоны.

Першым падаўся на заданне Фелікс. Нага яго ўжо загаілася, і ён толькі крыху накульгваў. Шлях яго ляжаў у горад і чыгуначны вузел Баранавічы.

Да паходу Фелікс рыхтаваўся вельмі старанна. Яго забяспечылі патрэбнымі дакументамі, планам горада. Фелікс быў вельмі спакойны, нібы не адчуваў, што яго там на кожным кроку чакала небяспека.

— Як самаадчуванне? — пацікавіўся ў Фелікса камандзір злучэння.

— Выдатна, таварыш генерал,— адказаў Фелікс.— Толькі дайце мне пару гранат. Калі што якое, то жывым не здамся...

У Фелікса быў пісталет, атрымаў ён і гранаты — не будуць лішнія. Ён быў у сваёй фельдфебельскай форме і выглядаў запраўскім ваякам. Калі ўсё было гатова, Фелікс падаў мне невялікі пакунак і сказаў:

— Таварыш капітан, тут пісьмы з дому, фота жонкі, дзяцей. Калі загіну, то потым перашліце жонцы. Напішыце, што сумленна служыў новай Германіі.

Мы моцна абняліся. Фелікс і суправаджаючы яго Змітро Сцянько накіраваліся ў дарогу.

Да Навагрудка дайшлі без прыгод. Але на абыходзе, на адной з дарог, да іх прычапіўся мужчына ў паліто з каракулевым каўняром. З Феліксам ён было загаварыў па-нямецку, але той адразу спыніў яго:

— Гаварыце па-руску!

Незнаёмы скасавурыўся на Змітра, але, пачуўшы ад фельдфебеля, што гэта яго прыяцель, працягваў:

— У доме лесніка хаваецца ранены партызан. Вельмі добра, што я вас сустрэў. Калі зараз пайсці, можна спаймаць, бо камендатура далёка, а ён можа выслізнуць...

— Ну, што ж, вядзі...

Калі яны паглыбіліся ў лес, Змітро намацаў рукаятку пісталета, але Фелікс апярэдзіў — садануў здрадніку ў спіну нож.

Ля возера Свіцязь, на хутары, спыніліся ў знаёмага селяніна. Той здзівіўся, убачыўшы Змітра з нямецкім фельдфебелем, і першыя хвіліны не ведаў, як сябе паводзіць, пра што гаварыць.

— Што, Макаравіч, спалохаўся? — усміхаючыся, спытаў Змітро.— А Фелікс і сапраўды немец!

— Няўжо?

— Праўда,— пацвердзіў сам Фелікс.

Макаравіч зразумеў, што яго не разыгрываюць.

— Дык як жа гэта? Немец і раптам... партызан?..

Фелікс усміхнуўся:

— Фашысты вашы і мае ворагі.

У Баранавічы Фелікс і Змітро прыйшлі на другі дзень увечары. Змітро застаўся на кватэры ў сувязнога, а Фелікс адразу накіраваўся ў горад. Да світанку ён бліскуча выканаў задачу — лістоўкі віселі ўсюды, асабліва шмат іх было ў цэнтры горада і каля вакзала. Раніцаю немцы перапалохаліся.

У адзінаццаць гадзін раніцы Фелікс пачуў, як па радыё перадавалі на нямецкай і рускай мовах: у горад пранік рускі партызан, пераапрануты ў нямецкую форму. Хто затрымае партызана — атрымае ўзнагароду — пяць тысяч нямецкіх марак.

А віноўнік перапалоху Фелікс у гэты час знаходзіўся між нямецкіх салдат. Гаваркі, аматар пажартаваць, ён хутка заводзіў знаёмствы, здабываў патрэбныя для партызан звесткі. Апрача свайго задання, Фелікс паспеў пераканаць двух салдат перайсці на бок партызанаў.

Калі змяркалася, Фелікс, Змітро і двое салдат выбраліся з Баранавічаў.

Праз дзень пасля вяртання Фелікса мы адправілі ў дарогу Карла. Яму прадстаяла зрабіць такое ж нялёгкае падарожжа ў Маладзечна.

### «РЭГУЛІРОЎШЧЫК»

Надвор'е стаяла цудоўнае, і мы размясціліся каля зямлянкі. Рыхтавалі чарговую лістоўку. Хенчке, Шэфлер і Барс пісалі тэкст, а Карл і перайшоўшы яшчэ ў 1942 годзе да партызан Жорж Кранаўэр завіхаліся ля станка. У настроі нашых нямецкіх сяброў не-не ды і прамільгне сум. Я разумею прычыну: гінулі сотні тысяч іх суайчыннікаў, а ў імя чаго? Як пераканаць нямецкіх салдат, каб складалі зброю?

Падышоў Змітро Сцянько і паведаміў, што атрыманы важныя звесткі: немцы эвакуіруюць тылы. Фелікс аж падскочыў з месца, вочы яго заблішчалі.

— Таварыш капітан,— звярнуўся ён да мяне,— дазвольце заўтра на заданне! Я прывяду цэлы полк.

— Цэлы полк? Якім жа чынам?

Яго план здаўся нам разумным, хаця і быў рызыкоўны. Але што ж за вайна без рызыкі?

Мы тут жа разам пачалі распрацоўваць дэталі аперацыі. На наступны дзень у адзінаццаць гадзін вечара наша група дасягнула скрыжавання на шашы Мінск — Баранавічы і Мінск — Нясвіж. Два атрады замаскіраваліся недалёка ў кустах, а Фелікс заняў пост рэгуліроўшчыка. Са сховішча я бачыў яго адзінокую фігуру ў касцы, якая блішчала на месяцавым святле.

Каля дзвюх гадзін ночы пачуўся трэск матацыклаў. Яны хутка набліжаліся, цьмяна пабліскваючы маскіровачнымі агнямі. Яшчэ хвіліна, і Фелікс жэзлам спыніў іх. Пагаварыў з пярэднімі матацыклістамі, і калона рушыла далей. Потым Фелікс расказваў, што матацыклісты былі вельмі задаволеныя сустрэчай. Яшчэ праз паўгадзіны пачуўся тупат мноства ног...

Калі да скрыжавання падышла паходная застава, Фелікс падняў руку, прадставіўся і строга спытаў:

— Дзе камандзір?

Хутка падышоў і сам камандзір. Полк, у якім налічвалася не больш чатырохсот салдат, спыніўся, Фелікс чотка адказыраў і далажыў абстаноўку:

— Дарога перарэзана буйнымі сіламі праціўніка. Загадана следаваць у абыход, вось па гэтай дарозе...

— Праклянцце! — вылаяўся фашыст, але тут жа аддаў распараджэнне, і полк, звярнуўшы на прасёлкавую дарогу, падаўся проста ў партызанскую зону. Нашы атрады рухаліся паралельна, нічым не выдаючы сваёй прысутнасці. Але ледзь толькі полк паглыбіўся ў лес, як наперадзе калоны зноў паявіўся Фелікс. Ён узняў руку і гучна загаварыў:

— Дарагія суайчыннікі, сябры! Прашу выслухаць мяне спакойна, без панікі і без страху. Я прыйшоў да вас, каб выратаваць вас ад немінучай смерці, захаваць вашы жыцці для вашых бацькоў і мацярок, для жонак і дзяцей...

Спачатку збянтэжаны камандзір палка рашыў, што гэта нейкі баламут і схапіўся за пісталет:

— Расстраляю!

У гэты момант да яго падышлі ў форме нямецкіх салдат Карл, Хуга, Хенчке і Жорж Кранаўэр. Яны засланілі Фелікса, і той працягваў прамову:

— Вы бачыце, сябры, мы ўсе сапраўдныя немцы. Але мы не хочам праліваць кроў за фюрара і таму перайшлі на бок савецкіх партызанаў...

— Дзе мы знаходзімся? — спытаў нехта з салдат.

— Вы знаходзіцеся ў партызанаў,— растлумачыў Хуга.— І я, былы салдат, гарантую вашу бяспеку.

У гэты час са сховішчаў выйшлі партызаны. Салдаты папужаліся, але, убачыўшы, што «страшныя рускія» настроены прыязна, супакоіліся, пачалі складваць у кучу аўтаматы, гранаты, нажы, ручныя кулямёты. Тут жа Хуга, Карл і астатнія немцы-партызаны пачалі раздаваць салдатам лістоўкі.

Без адзінага стрэлу здаўся ўвесь полк. Калі пра гэта далажылі Платону, ён тут жа распарадзіўся накарміць салдат і падабраць месца для лагера. Тады ж у лагеры быў створаны камітэт, які ўзначалілі Фелікс, Хенчке, Хуга.

У другі раз адбыўся такі выпадак. Наша група разведчыкаў суправаджала нямецкіх таварышаў у Дзяржынск, кіламетраў за трыццаць ад базы. У дарозе мы спыніліся на ўзлессі, каля хутара, рашылі дачакацца тут, калі сцямнее. Але як толькі мы наблізіліся да крайняй хаты, пачуліся стрэлы.

— Кладзіся! — крыкнуў я.

Побач са мной лёг Фелікс Шэфлер. Аўтаматнай чаргой у яго збіла з галавы шапку.

— Таварыш капітан,— звярнуўся да мяне адзін з разведчыкаў,— прапаную па адным перабегчы ў дом і адтуль ударыць па гадах!..

Маё маўчанне ён, відаць, прыняў як згоду і папоўз наперад.

— Назад! — спыніў я яго. Мы ж яшчэ не ведалі, колькі там праціўнікаў. Але тут адбылося нечаканае. Шэфлер у форме нямецкага лейтэнанта ўзняўся на ўвесь рост і па-нямецку гнеўна закрычаў:

— У каго страляеце, сволачы! Спыніць агонь!

Узняліся Хуга і Карл.

Страляніна спынілася.

— Хто камандзір? — строга спытаў Шэфлер.— Да мяне!..

З-за кустоў паказалася адна, потым другая, трэцяя фігуры. Паліцэйскія. Іх было не менш дваццаці чалавек.

— Агонь!— падаў я каманду.

Паліцэйскія ад нечаканасці разгубіліся, а нам толькі гэта і трэба было. Застрачылі аўтаматы.

— Ур-ра!..

Паліцэйскія кінуліся наўцёкі.

Калі ўсё сціхла, мы дзякавалі Шэфлеру за кемлівасць і смеласць.

### «ІНСПЕКТАР» ФЮРАРА

У пачатку чэрвеня 1944 года мы з групай партызанаў перабазіраваліся ў лагер атрада, якім камандаваў Фёдар Дановіч. З намі быў і Хуга Барс. Яму трэба было пайсці ў Любчу, дзе сканцэнтраваліся немцы і паліцэйскія.

Прабрацца ў Любчу вельмі цяжка,— гаварыў Дановіч.— Нашы хлопцы пераправяць яго цераз Нёман, а далей ён сам пойдзе...

Хуга апрануў мундзір лейтэнанта і, паглядзеўшыся ў асколак люстэрка, засмяяўся:

— Інспектар самога фюрара!..

— Фюрара, як фюрара, а Баранавіцкага ўпраўлення паліцыі — якраз,— падтрымаў жарт Дановіч.

Пераправа цераз раку прайшла ўдала. Барс спачатку ішоў хмызнякамі ўздоўж берагу, затым павярнуў да старога графскага маёнтка. Да Любчы ён падышоў апоўначы. Абышоўшы пасёлак з усходу, ён выбраўся на вузкакалейку, якая звязвала Любчу з Навагрудкам. Вось і станцыя. У накуранай пачакальні сядзела некалькі барадатых мужчын. Калі Барс увайшоў, яны ўсталі.

— Дзе начальнік? — спытаў ён па-нямецку.

— Не разумею,— адказаў адзін з барадачоў. У гэты час адчыніліся дзверы, і ў пачакальню ўбег сухарлявы чалавек.

— Я начальнік станцыі, пан афіцэр,— з цяжкасцю падбіраючы нямецкія словы, сказаў ён.

— Што ж не сустракаеце?

— Няма сувязі, пан афіцэр! Пачуў вашу размову...

— Прозвішча?

— Паліцэйскі Адамчык.

— Пройдзем у ваш кабінет.

У брудным пакойчыку Адамчык расказаў «пану афіцэру», дзе знаходзіцца паліцэйскі ўчастак, дзе размяшчаюцца немцы. Карацей кажучы, разведчык выведаў усё, што трэба было, а затым загадаў:

— Вядзіце мяне да начальніка паліцыі. Я інспектар з Баранавічаў.

— З задавальненнем, пан афіцэр.

# З АЛЬБОМА ПАРТЫЗАНА

**Гераічная партызанская эпапея знайшла адлюстраванне ў мастацкай і мемуарнай літаратуры, у драматургіі, на сцэне, у кіно і іншых відах мастацтва. А ці захавала для гісторыі гераіку партызанскай барацьбы і паўсядзённы быт народных мсціўцаў дакументальная фатаграфія? На жаль, вельмі бедна. Амаль няма партызанскіх здымкаў. І гэта ў першую чаргу датычыць самага складанага пачатковага перыяду партызанскай вайны. Сярод народных мсціўцаў Беларусі былі людзі, якія валодалі майстэрствам фатаграфавання, але ў іх не мелася на «ўзбраенні» неабходнай здымачнай апаратуры, плёнкі, паперы, хімікатаў.**

**Інакш склаліся абставіны ў Налібоцкай пушчы. Сюды з Латвіі, са старажытнага гарадка Ліепая, прыйшоў у партызанскую брыгаду імя В. П. Чкалава малады настаўнік мясцовай школы Якаў Акунёў, які з юнацкіх гадоў захапляўся фатаграфіяй. Ён меў фотаапарат. Якаву Акунёву давялося пражыць сярод партызанаў да самага прыходу Савецкай Арміі. Разам з аўтаматам партызан насіў за плячыма зброю, якая ўсё бачыць,—фотаапарат. Але не заўсёды ўдавалася карыстацца ім. То не хапала плёнкі, то не было паперы, хімікатаў. Дапамагалі разведчыкі. Яны хутчэй за іншых маглі здабыць усё. А калі не было ні плёнкі, ні паперы, Якаў**

Баранавіцкае партызанскае злучэнне. Сядзяць (злева направа): Міхаіл Грыбанаў — камандзір брыгады імя Чкалава, Васіль Чарнышоў (Платон) — камандзір злучэння, Іван Казан — камісар брыгады імя Чкалава. Стаяць: Фёдар Сурганаў — упаўнаважаны ЦК КПБ і Міхаіл Армянінаў — намеснік камандзіра злучэння.



Яны выйшлі на двор. Адамчык, павесіўшы на плячо вінтоўку, пайшоў спачатку агародамі, затым па вуліцы, да цэнтра Любчы.

Бліснуў праменьчык ліхтарыка, і вартавы, убачыўшы Адамчыка і афіцэра, ціха вымавіў:

— *Праходзьце.*

У доўгім калідоры цьмяна гарэла лямпа-газоўка, у пірамідах стаялі вінтоўкі і аўтаматы. Пачуўшы крокі, з бакоўкі выскачыў намеснік начальніка паліцыі. На хаду паправіў кабуру, выцягнуўся, ляснуўшы абцасамі, прадставіўся:

— Старшы паліцэйскі Бабенка. Чым магу быць карысны, пан лейтэнант?

— Чаму каля станцыі няма заставы? — злосна спытаў Барс.

— Адну хвіліначку, пан лейтэнант, я паклічу перакладчыка. Да іх падышоў стары. Барс паўтарыў пытанне.

— Заставы, пан лейтэнант, у нас выстаўлены на беразе ракі і на заходняй ускраіне,— растлумачыў Бабенка.— Дзейнічаем згодна інструкцыі камандзіра атрада СС.

У кабінеце Барс паглядзеў спісы паліцэйскіх, пацікавіўся, ці спраўна нясуць яны службу.

— Скажыце Бабенку,— звярнуўся ён да перакладчыка,— каб выдзеліў пятнаццаць паліцэйскіх. Яны будуць суправаджаць мяне да Карэлічаў. Патрэбны падводы...

Яшчэ ў лагеры мы дамовіліся з Барсам, што ён будзе вяртацца ў вызначаны час. Калі з паліцэйскімі ці эсэсаўцамі, то па дарозе Любча — Карэлічы, калі ж адзін, то па старой дарозе, берагам ракі.

На світанні група Сердзюка была ўжо ля дарогі. Вось з-за павароткі паказаліся фурманкі. Сярдзюк перадаў па ланцужку каманду:

— Падрыхтавацца!

На пярэдняй фурманцы ехаў Барс з двума паліцэйскімі. Убачыўшы партызанаў, ён падаў знак спыніцца.

— Што будзем рабіць, пан лейтэнант? — спытаў Бабенка.

— Зоймемся невялікай трэніроўкай. Пастройце паліцэйскіх.

Усе пасталі ў строй. Барс скамандаваў:

— Кладзіце зброю на фурманкі!

Бабенка першы ступіў да падводы.

— Станавіся! — крыкнуў Барс.

У гэты момант з кустоў выйшлі партызаны.

Не пачулася ніводнага стрэлу.

## ШЛЯХ НА ВАРШАВУ

«Сёння ў нас вялікі дзень: доўга мы рыхтаваліся і вось цяпер рушылі наперад. Вы, напэўна, ужо ведаеце пра гэта з газет. Калі поспех будзе развіты і далей, то ўсю Беларусь удасца вызваліць за некалькі тыдняў. Блізка канец вайны...»

Гэтае пісьмо бацькам я напісаў 23 чэрвеня 1944 года, а крыху больш як праз месяц мы ўжо былі ў Польшчы. Злева ад нас сумесна з Войскам Польскім наступалі нашы часці.

Гітлераўцы спрабавалі адарвацца ад перадавых савецкіх дывізій, узрывалі масты на дарогах, ярасна контратакавалі, але, не вытрымліваючы нашых удараў, уцякалі. Наступаючы, нашы войскі не давалі ім ні аднаго дня перадышкі.

Авіядэсантная часць, дзе мы служылі, пасля Беластоцкай аперацыі атрымала загад перабазіравацца на новы палявы аэрадром. Шлях на Варшаву быў для нашых войск нялёгкім. У раёне Седлеца савецкія часці сутыкнуліся са свежай танкавай дывізіяй гітлераўцаў. 31 ліпеня, нягледзячы на ярасныя контратакі праціўніка, савецкія войскі вызвалілі Мінск-Мазавецкі, горад у сарака кіламетрах на ўсход ад Варшавы. На поўдзень ад Варшавы ў той жа дзень нашы часці ўзялі Отвацк на Вісле, а на паўночны захад ад Варшавы — Воламін і Радзімін, у дваццаці — дваццаці пяці кіламетрах ад польскай сталіцы.

Але гітлераўскае камандаванне ўвяло ў бой новыя рэзервы. На Варшаўскім фронце з'явіліся «Германн Герынг», «Вікінг» і іншыя адборныя дывізіі. Нашы войскі былі стомлены няспыннымі баямі і пераходамі — ззаду засталося больш як чатырыста кіламетраў. Да таго ж нашы камунікацыі, на якіх да фронту падыходзілі рэзервы і баявая тэхніка, былі вельмі расцягнуты, а гітлераўцы на подступах да Варшавы апіраліся на загадзя створаныя абарончыя збудаванні. Кожная атака патрабавала ад савецкіх камандзіраў сур'ёзнай, дасканалай падрыхтоўкі. Асабліва зацяжныя і ўпартыя баі разгарнуліся на падыходзе да Віслы. У гітлераўскіх контратаках, якія падтрымліваліся магутным артылерыйскім агнём і налётамі бамбардзіроўшчыкаў, удзельнічала адначасова па 100—120 танкаў і па некалькі палкоў пяхоты. Не лічачыся з велізарнымі стратамі, ішлі адна за другой хвалі фашыстаў. Па дзесяць — дваццаць атак за дзень прадпрымаў праціўнік, але ўсе яны разбіваліся аб стойкасць нашых войск.

Пад Седлецам мы сустрэліся з адной з часцей Войска Польскага. Гэта была часць, якая заслужыла добрую славу ў многіх баях. Некаторыя з палякаў, самыя гарачыя і нецярплівыя, спадзяваліся на тое, што савецкім войскам удасца ўзяць Варшаву з ходу. Іншыя, больш асцярожныя і разважлівыя, лічылі, што Вісла — шырокая і быстрая рака, яе левы бераг высокі і зручны для абароны, дамы-каменіцы на варшаўскіх набярэжных ператвораны ў магутны ланцуг апорных пунктаў і, зразумела, што гітлераўцы будуць зубамі трымацца за Віслу, апошні вялікі водны рубеж аж да самага Одэра.

Палякі шмат гаварылі пра сваю Варшаву — пра яе прыгажосць, старыя вуліцы і паркі, пра даўнія рэвалюцыйныя традыцыі, пра вясёлую варшаўскую моладзь, пра шакаладную фабрыку Ведля...

Воіны Войска Польскага ўжо бачылі свае гарады і сёлы ў руінах, бачылі Майданек, але калі гаворка заходзіла пра Варшаву, яны як бы забывалі ўсё. Яны проста не маглі ўявіць сабе яе інакш, як горадам, напоўненым жыццём.

Пасля ўзяцця Мінска-Мазавецкага многія мае таварышы з суседняй польскай часці прыгадвалі нават расклад даваенных мясцовых цягнікоў у Варшаву, называлі прамежкавыя станцыі... Гэта было ў самым канцы ліпеня. А праз два дні прыйшла нечаканая вестка: «1 жніўня Варшава паўстала». Спачатку ніхто не паверыў. Аднак вестка хутка пацвердзілася. Што гэта азначае? Няўжо гітлераўцы кінулі на правы бераг усе наяўныя сілы і настолькі аслабілі свой варшаўскі гарнізон, што з ім маглі справіцца невялікія атрады паўстанцаў?.. Гэта было ўжо занадта неверагодна. Нашы ж лётчыкі, што рабілі штодзень па некалькі баявых вылетаў, дакладвалі, што ў Варшаве вялікае скопішча тылавых часцей, спецыяльных і дапаможных войск праціўніка, многа зенітных атрадаў і цяжкой артылерыі. Падцягваліся новыя танкавыя злучэнні гітлераўцаў.

На што ж маглі разлічваць паўстанцы, завязваючы бой з рэгулярнымі войскамі, узброенымі ўсімі відамі зброі? І не які-небудзь скарацечны бой, у якім выкарыстоўваюцца галоўныя перавагі партызанаў — раптоўнасць нападу, няўлоўнасць, а зацяжное пазіцыйнае змаганне. Ніколі і нідзе не было такога гераічнага, арганізаванага і масавага партызанскага руху, як у нашай краіне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Але нават у нас партызаны не бралі на сябе такой задачы, як захоп вялікага горада толькі сваімі сіламі.

Чаму арганізатары паўстання не ўзгаднілі свае дзеянні са стратэгічнымі планамі Савецкай Арміі, чаму не пажадалі дачакацца нашага выхаду на Віслу? Тады

**Акунёў сумаваў, што ўпускае столькі каштоўных жыццёвых кадраў. Але вось зноў пачыналася баявая аперацыя, і партызаны памяталі, што для Яшы-фатографа трэба абавязкова пашукаць у фашысцкім гарнізоне плёнку і паперу. Нярэдка рызыкуючы жыццём, яны знаходзілі ў разгромленым штабе тое, што патрэбна было для партызанскай фоталабараторыі. І Якаў Акунёў адпраўляўся ў «падарожжа» па Налібоцкай пушчы...**

**Якаў Акунёў здымаў баявыя эпізоды. Ён і сам часта ўдзельнічаў у баях, фатаграфаваў герояў, адлюстроўваў на плёнцы жыццё партызанаў.**



Партызанская сям'я.

**І цяпер, праз гады, нельга без хвалявання глядзець на гэтыя ўнікальныя здымкі. Многіх з людзей, якіх фатаграфаваў партызан, ужо няма ў жывых. А фатаграфіі гэтыя з'яўляюцца маўклівымі сведкамі далёкіх, але незабыўных дзён.**

**У Налібоцкай пушчы Я. Акунёў блізка пасябраваў з нямецкім антыфашыстам Хуга Барсам, які добраахвотна перайшоў на бок Савецкай Арміі.**



Хуга Барс і Якаў Акунёў. 1944 г.

паўстанне сапраўды магло б мець сэнс. Раптоўны ўдар з тылу, выклікаўшы замяшанне ў ворага, аблягчыў бы нам фарсіраванне Віслы. Але цяпер?.. Цяпер паўстанне было яўнай безразважнасцю.

3-га жніўня на поўдзень ад Сандаміра савецкія войскі фарсіравалі Віслу і захапілі вялікі плацдарм на заходнім беразе. Праціўнік спрабаваў аднавіць тут ранейшае становішча. На поўнач ад Варшавы гітлераўцы стрымлівалі нашы часці, якія ўступілі ва Усходнюю Прусію. Магчыма, у сувязі з паўстаннем яны вымушаны будуць паслабіць абарону на варшаўскім напрамку?

Не, усюды прыкмячалася з'яўленне новых гітлераўскіх часцей. Але зняты яны былі не з іншых участкаў савецка-германскага фронту, а перакінуты з Францыі і Італіі.

9-га жніўня нашы наземныя войскі пры падтрымцы вялікіх злучэнняў авіяцыі аднавілі наступленне і вызвалілі дзесяткі населеных пунктаў. Але баі зноў прынялі ўпарты, зацяжны характар. Толькі праз месяц, 12-га верасня, перадавым падраздзяленням удалося падысці ўшчыльную да Прагі — правабярэжнага раёна Варшавы — і завязаць там вулічныя баі. 14 верасня Прага была вызвалена. Гітлераўцы адступілі на поўнач, уздоўж Віслы, узарваўшы масты паміж Прагай і Варшавай.

Часці Войска Польскага, фарсіраваўшы Віслу, дасягнулі Чарнякоўскай і Загорскай вуліц Варшавы. Нягледзячы на падтрымку, якую аказвалі савецкія войскі, расшырыць вузкі прыбярэжны плацдарм і злучыцца з паўстанцамі ім не ўдалося: 23 верасня плацдарм быў ліквідаваны.

На цэнтральным участку гітлераўцы ўвялі ў бой штрафныя батальёны. Іх абарона апіралася тут, на поўнач ад Прагі, у міжрэччы Буг — Нараў — Вісла, на ўмацаваны раён Молдзін. Нашым дывізіям і часцям Войска Польскага ўдалося фарсіраваць Віслу на поўдзень ад Варшавы і прасунуцца ў кірунку на чыгуначную станцыю Варка. Але і тут, дайшоўшы да ракі Піліца, яны вымушаны былі акапацца і, нягледзячы на паўторныя атакі, не змаглі прасунуцца далей.

Фронт спыніўся зноў...

Мне давялося быць у адваяваных раёнах Варшавы — Празе, Отвацку, Гарволіне — і ўсюды я назіраў напружаную работу. Сапёры ладзілі дарогі, пераракбляді масты і масткі, каб па іх маглі прайсці гарматы і танкі. У лясах і пушчах не засталося, здавалася, і метра неперакапанай зямлі: усюды зямлянкі, сховішчы для машын, склады.

На ўсход ад Варшавы ішло хуткае канцэнтраванне пяхоты і спецыяльных часцей. Прыбывалі новыя савецкія злучэнні, нашы польскія суседзі таксама атрымалі зноў сфарміраваныя дывізіі. Відаць было ўсюды — рыхтаваўся ўдар такой сілы, каб за кароткі тэрмін вызваліць Варшаву і не даць фашыстам здзейсніць іх план «зоны пустыні» на пакідаемай імі тэрыторыі.

А тым часам гітлераўцы ўзрывалі і палілі Варшаву.

Пакуль наша часць прыводзіла ў баявую гатоўнасць машыны, начныя лёгкія бамбардзіроўшчыкі суседняй часці кожную ноч лятапі ў Варшаву і скідвалі паўстанцам з гранічна малой вышыні зброю, боепрыпасы, прадукты і медыкаменты. Усё гэта трапляла куды трэба — лётчыкі ведалі, дзе размешчаны атрады паўстанцаў. Днём нашы знішчальнікі патрулявалі над Варшавай, не дапускаючы да яе «фоке-вульфы» і «месершміты». Але гэта мала супакойвала нас. Усе думалі аб трагічным лёсе Варшавы.

## ЗА ГАДЗІНУ ДА СВІТАННЯ

З таго часу, як пачалося паўстанне, у самой Варшаве чулася бязладная страляніна. Яна не спынялася ні днём, ні ноччу. У розных месцах палалі пажары. Паўстанцы былі падзелены на некалькі разрозненых, акружаных праціўнікам груп. Для таго, каб выявіць абстаноўку, у Варшаву была закінута група ваенных разведчыкаў. Гэтая група знікла бясследна. Не адгукнулася на пазыўную і група, што была паслана ў палаючы горад. Якраз тады я і быў выкліканы ў штаб 1-га Беларускага фронту. Прынялі мяне член Ваеннага Савета генерал-лейтэнант Цялегін і камандуючы фронтам маршал Ракасоўскі.

— Вы, *па ўсёй верагоднасці*, чыталі пра тое, што ў Варшаве ўзнята паўстанне? — спытаў у мяне Ракасоўскі.

— Чытаў, таварыш камандуючы.

— Дык вось...— Ракасоўскі пачаў тлумачыць, якое адказнае заданне даручаецца мне.

Заўтра я павінен быў дэсаніравацца ў *палаючую* Варшаву, *арганізаваць там* разведку, звязацца з камандаваннем Арміі Людовай і дазнацца, у чым маюць патрэбу паўстанцы. Суправаджаць мяне павінен быў радыст Змітро Сцянько.

Немцы вялі зенітны агонь па нашым самалёце з варшаўскіх ускраін. Толькі цэнтр горада маўчаў. У вянку гарматных водбліскаў ён здаваўся глыбокай чорнай ямай. Дыяметр яе быў не такі ўжо вялікі...

*Пілот узняў руку. Гэта мне.* Змагаючыся з шалёным ветрам, я выбраўся на плоскасць. Унізе кварталы, занятыя паўстанцамі, густа дыміліся. Мясцінамі паблісквала полымя. Вось гэта, напэўна, мост Панятоўскага. А гэта Маршалкаўская.

У тую секунду, калі зямля стала не*вынасна блізка, калі замільгалі* перад вачамі сцены разбураных шматпавярховых дамоў, пілот рэзка ўзмахнуў рукою: «Пайшоў!».

Часта ўспамінаю я гэты скачок, але да гэтага часу не магу пазбавіцца ад уражання, што парашут раскрыўся якраз у той момант, калі я прызямліўся,— з та*кой малой вышыні я скокнуў.*

Ад моцнага ўдару пацямнела ў вачах. Знясіленай рукой я абмацаў галаву, грудзі. Левая рука, налітая аж па плячо гарачынёю і цяжарам, наогул не дзейні*чала. Я паспрабаваў сагнуць ногі.* Яны апруцянелі, але ўсё ж слухаліся. Вакол цемра. У цемені — нейкія іскры...

Непадалёк пачуўся шорах шчэбеню.

— Тутай, Стэфан, тутай! Бач — спадохран! *

У мяне адлягло на сэрцы: палякі. Так, але якія?

З'явіліся новыя людзі. Бачу: у двух кроках ад мяне польскі афіцэр.

— Вы рускі? — спытаў ён.

Я хацеў адказаць, але не змог. Моцна быў кантужаны.

— Так і ёсць, рускі! — пачуўся звонкі юначы голас.— Цікава, Юзэф, як ён сюды трапіў? Можа... з падбітага самалёта?

Я прыўзняў галаву і ўбачыў шэрыя ў досвітным змроку твары палякаў. Нехта дапамог мне ўстаць. Я адчуў *боль* у левай назе, яна падкошвалася. Левая рука была выкручана і прыпухла. Давялося яе падвязаць. Беражліва падтрымліваючы мяне, паўстанцы падаліся ўніз па скалечанай лесвіцы. Мне пашанцавала: упаў я, аказваецца, на разбуранае гарышча шостага паверха.

*Калі мы сышлі на два паверхі ніжэй*, Юзэф спыніўся і скрозь пралом у сцяне паказаў на руіны суседняга будынка:

— Гітлераўцы!

Аб цэглу зашчоўкалі кулі. Давялося крыху перачакаць. Я скарыстаў момант і спытаў пра Змітра Сцянько. Юзэф вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў рускую гаворку. Дагэтуль я ўвесь час маўчаў, і ён ужо пачаў сумнявацца: ці разумею я яго? Юзэф паабяцаў тэрмінова сабраць групу на пошукі другога рускага лётчыка. Мы выйшлі на вуліцу і падаліся ў сутарэнне.

Так я трапіў да варшаўскіх паўстанцаў.

---

* Парашут (польск.).



---



Разведчыца Галіна Храмушына з партызанамі.

Часам Хуга, які таксама захапляўся фатаграфіяй, памагаў свайму таварышу: падказваў тэмы, прадчуваючы, што надыдзе час і гэтыя здымкі набудуць «неацэнную каштоўнасць».

Калекцыя партызанскіх фатаграфій захавалася ў Хуга Барса, цяпер супрацоўніка праўлення таварыства германа-савецкай дружбы. Ад яго мы атрымалі частку здымкаў.

Не забываюцца партызанскія сцежкі, не старэе баявая дружба.

Яўхім САДОЎСКІ.



Сустрэча праз 25 гадоў у горадзе Дзяржынску. Злева направа: Фелікс Шэфнер, Іван Колас, Герберт Хенчке.



Раніца 29 чэрвеня. Дэлегаты Пятага з'езда пісьменнікаў СССР накіроўваюцца ў Крэмль.

# V З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ СССР

**Чатыры дні, з 29 чэрвеня па 2 ліпеня, у Вялікім Крамлёўскім палацы ішоў Пяты з'езд пісьменнікаў СССР. Дэлегаты з'езда — майстры шматнацыянальнай савецкай літаратуры — зацікаўлена гаварылі аб шляхах далейшага развіцця літаратуры, аб яе праблемах і задачах на будучае, якія вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда КПСС. З'езд выпрацаваў важныя дакументы, якія сведчаць аб няўхільным імкненні майстроў мастацкага слова служыць інтарэсам савецкага народа, справе міру і сацыялізма.**

**З'езд выбраў праўленне Саюза пісьменнікаў СССР і рэвізійную камісію. На арганізацыйным пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў СССР выбран К. А. Федзін, першым сакратаром праўлення — Г. М. Маркаў.**

**На здымках, якія для нашага часопіса зрабіў Уладзімір Савасцьянаў,— некалькі эпізодаў з працоўных будняў з'езда.**





Перад пачаткам работы з'езда прыемна сустрэцца з даўнімі сябрамі. Максім Танк (злева) гутарыць з перакладчыкам Якавам Хелемскім і паэтам Маркам Лісянскім.



Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка сустрэўся на з'ездзе з паэтамі Кайсынам Куліевым (злева) і Мустаем Керымам (справа).

У зале пасяджэнняў беларускія пісьменнікі (злева направа) Аляксей Кулакоўскі, Уладзімір Дубоўка, Міхась Калачынскі.





**Сакратар ЦК КП Беларусі А. Т. Кузьмін і Іван Шамякін.**

**Янка Брыль і Алена Васілевіч уважліва слухаюць прамоўцаў.**

●

**На трыбуне Яўген Еўтушэнка.**





**На з'ездзе прысутнічала шмат замежных гасцей. Кубінскі паэт Нікалас Гільен з Мікалаем Ціханавым** (справа) **і Львом Ашаніным.**



**Аляксей Суркоў з англійскім паэтам Джэймсам Олдрыджам.**

**У Георгіеўскай зале сустрэліся даўнія сябры.** (Злева направа) **Міхаіл Львоў, Сямён Данілаў, Павел Кавалёў, Юры Збанацкі, Давід Кагульцінаў, Іван Мележ, Міхась Калачынскі, Пімен Панчанка.**






## 1971

### ВЕРАСЕНЬ

**4**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) П. Д. Дудо, беларускага пісьменніка. Памёр у 1958 г.

**5**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) В. Ф. Вольскага (Зэйдэля), беларускага пісьменніка.

**13—17**

50 гадоў назад (1921) працаваў III з'езд Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

**22**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) В. І. Пансевіча-Каляды, доктара хімічных навук, прафесара Беларускага політэхнічнага інстытута.

**25**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) У. Г. Фінкеля, літаратуразнаўцы. Памёр у 1957 г.

**ВЕРАСЕНЬ**

40 гадоў назад (1931) у Мінску адкрылася Усесаюзная пастаянная будаўнічая выстаўка.



Дудо П. Д.



Вольскі В. Ф.



Фінкель У. Г.





# КРОСНЫ ПЯЮЦЬ



Неглюбка — гэта аказалася далёка. Аўтобус доўга бег па чорным асфальце з Веткі на Свяцілавічы, потым павярнуў направа, у жоўтыя пяскі, і пайшоў па ўхабінах старых дзюпаў, зарослых рэдкімі сасновымі ляскамі. Дарога кружыла, ламалася, падала ў нізіны. Станавілася глушэй, пустэльней...

І ўсё ж была яшчэ раніца, калі мы прыехалі ў Неглюбку. Ідзём усцяж гэтакіх жа, як у Ветцы, чорных драўляных дамоў, упрыгожаных дэкаратыўнымі ліштвамі, і здаецца, што гэтыя дамы стаяць недзе на краі зямлі...

Пра Неглюбку людзі чулі ў Мінску, Маскве і, можа, у Парыжы, гэтак жа, як і мы, падоўгу стоячы на выстаўках ля даўжэзных шырокіх ручнікоў, якія нечым нагадваюць цяжкія фактурныя аплеччы і сакосы. Вось мы і прыехалі сюды даведацца: як гэта атрымліваецца, адкуль Неглюбка чэрпае прыгажосць?

Дзень абяцаў быць пагодлівым. Сонца прыпякала з самае раніцы, маленькія белыя хмурынкі лёгка плылі ў празрыстым яркім блакіце. Патупаўшы ў цэнтры, дзе нас высадзіў аўтобус,— тут размяшчаецца кантора саўгаса, пошта, магазін, сталовая і іншыя службы,— нічога ні ў кога не пытаючы, мы вырашылі, што трэба падавацца на ўскраіну, у самую «глуш», і папляліся сыпучымі пяскамі туды, дзе стаялі купкамі высокія дрэвы, пад якімі туліліся хаты.

Вёска была пустая, відаць, усе былі на рабоце, трапілася нам насустрач толькі адна кабета ў дзіўным уборы: на галаву ў яе было надзета нешта незразумелае з вострымі вугламі, а зверху завязана хустка.

— Ледзь адвучыў,— расказваў нам вечарам дырэктар саўгаса.— Дзеўка як дзеўка, а выйдзе замуж — глядзіш, назаўтра ж клабук гэты насуне на галаву і ходзіць. Цяпер рэдка ў каго сустрэнеш.

Ускраіна аказалася болей утульная, чым астатняя частка сяла: дамы стаялі гусцей, ля кожнага — акуратны частакол, лавачка. На адной з такіх лавачак, у цяні высокага дрэва, сядзела некалькі жанчын, тут жа таўкліся дзеці. Павітаўшыся, мы папыталіся, ці не ведаюць яны, хто тут тчэ прыгожыя ручнікі.

— А ўсе *ткуць*. І ва ўсіх — *прыгожыя*,— адказалі яны.

— А хто б нам мог паказаць свае ручнікі?

— Я магу,— сказала адна жанчына,— калі гэта вам трэба.— І павяла ў свой дом, які быў побач,— нядаўна пабудаваны, з вялікімі вокнамі, жоўтымі сценамі, вялізнай печчу, яшчэ не пабеленай, і шырачэннымі смалістымі маснічынамі. Агледзеўшыся, мы ўбачылі, ці, лепш сказаць, пачалі разумець самае цудоўнае ў гэтай хаце, у якім, магчыма, таіўся адказ на тую загадку, якую загадвалі нам выстаўкі. Па белым падзоры высокага, з гарою падушак, кустодзіеўскага ложка плылі ў адзін рад чырвоныя качачкі... Такое здаралася бачыць толькі ў дзяцінстве. Не-

верагодна. Скачок на трыццаць гадоў назад, праз аглушальны свіст авіялайнераў, напружаную цішыню атамных рэактараў, праз бітком набітыя велізарныя нервовыя гарадскія аўтобусы.

А яны плылі, *ярка-чырвоныя*, над бурштынавымі масніцамі, спакойна, вечна, у прасторы вялікага чыстага дома, і адчувалася ўся гармонія гэтага чалавечага жылля. Гэты вялізны ложак проста не мог бы стаяць не ля гэтай вялікай печы, на вузкіх пафарбаваных масніцах і не мог бы жыць без гэтага роўнага рада ярка-чырвоных, вогненных качак.

Ручнікі — выставачныя! — віселі на сваіх звычайных месцах. Там, на выстаўках, сярод соцень, тысяч рэчаў, сабраныя разам, на адну сцяну, яны «гучаць» як магутны паліфанічны акорд, праз меру гучна і ненатуральна. Наладжвальнікі выставак далі ім другое жыццё, якое нібыта імкнецца ісці навыперадкі з сучаснымі рытмамі, як мілая даваенная «Кацюша» ў французскім «Казачку».

А яны ж — іншыя! На фоне жоўтых з бярвення сцен цяжкія ручнікі «цяклі» ўрачыста і плаўна. Гэта быў нібыта ўваход у храм, велічны партал, такі ж важны і значны, як і ўсё ў тым доме. Уласна кажучы, гэта былі ўжо не ручнікі, яны ніколі не прызначаліся для такога ўжывання. У іх была іншая служба — болей значная і ўзнёслая. Яны сталі большыя, цяжэйшыя. Іх прызначэнне не давала праявіцца крыклівай пярэстасці фарбаў. Вось адкуль ідзе іх высакародная стрыманасць, амаль скульптурная адчувальнасць рэльефу. Захаванне менавіта такога разумення прыгажосці, выпрацаванага стагоддзямі, садзейнічала таму, што старажытнае мастацтва сялянскага інтэр'ера захавалася ў сваёй унутранай першапачатковай чысціні.

Мы выйшлі на вуліцу, на сонца. Жанчына неяк будзённа, нібыта для прасушкі, вешала на частакол ручнікі і посцілкі, каб іх можна было сфатаграфаваць. Іх была цэлая куча — і бабуліных, і сваіх, і даччыных. І яны не былі аднолькавыя — яны мяняліся разам з часам. У даччыных ручніках з'явіліся новыя матывы. Нас спачатку збянтэжыла, што дачка скарыстала папугайчыкаў і ружачкі — гэта ў нашым друку даўно залічана ў мяшчанства. Але дзіва-дзіўнае — гэта былі і тыя, і не тыя папугайчыкі. Усё расстаўлялася, усё рабілася тут па-асабліваму, па-неглюбску, надзялялася неглюбскімі фарбамі, неглюбскім маштабам і рэльефнасцю, авявалася сур'ёзным, якое дае сапраўднае жыццё, пачуццём наіўнасці.

Потым басаногая дзяўчына павяла нас у другую хату, у трэцюю, і мы ўсё здымалі на каляровую плёнку, дзівячыся бясконцай разнастайнасці гарманічных узораў, таму адзінаму, светламу, цэласнаму мастацкаму светаадчуванню, якое аб'ядноўвае ўсё гэта ў адно паняцце — «неглюбскія ручнікі».

●

На нашай зямлі ён расце здавён даўно. Першыя пасяленцы, выкарчаваўшы лес, кінулі ў зямлю цёмныя бліскучыя зярняты, і ён узышоў, *яркі, светла-зялёны*, а калі зацвіў — стаў падобны на блакітнае возера. З таго часу ён ніколі не пакідаў нашу зямлю. Ішлі войны, шумелі сялянскія паўстанні, сеяліся дажджы, ласкава грэла сонца, а ён зелянеў, мякка гайдаючыся пад ветрам. Яго звалі ласкава — лянок. Пра яго спявалі песні і складалі танцы, з ім быў звязаны цэлы цыкл цяжкіх, але і прыемных сялянскіх работ. Дзяўчаты палолі яго, калі ён быў яшчэ невялікі — ён павінен быць чысты; потым яго церабілі, вязалі ў снапы, малацілі, мачылі, слалі, церлі, трапалі. Кастрычнік — беларускі месяц — указвае на той час, калі з-пад павецяў у асенняй звонкай прахалодзе ляцела па ветры кастра. А потым часалі грэбенем мяккую, як дзіцячыя валасы, кудзелю, і ў доўгія зімовыя вечары дзяўчаты сходзіліся на вячоркі — з верацёнамі, самапрадкамі. Тыднямі выводзіліся найтанчэйшыя ніткі на наміткі, на карункі, а з абдзірак — на зрэбнае. Прыходзілі хлопцы. У нізкай хаце яны былі магутныя, як дубы. Лён і каханне былі побач. Дзявочыя рукі пралі, ткалі, вышывалі прыданае — цэлы куфар. І калі доўга не было жаніха — ваяваў, ганяў плыты ці валіў лес,— дзяўчына адчыняла свой куфар і перабірала сваё багацце: посцілкі, ручнікі, сувоі палатна, андаракі, паясы, хусткі і, наглядзеўшыся на ўсё гэта, наплакаўшыся, зноў садзілася за кросны ці брала ў рукі іголку.

І ўсё ж надыходзіў час вяселля. Прыходзіла тая хвіліна, калі дужыя хлопцы, крэкчучы і пасмейваючыся, падымалі цяжкі куфар. Яна ганарылася гэтым. Не, не столькі ганарылася яна сваім багаццем, колькі тым, што ўсё ў яе зроблена, як у людзей, што і яна, як і яе маці, змагла ўсё гэта зрабіць, а, магчыма, штонішто і прыгажэйшае, чым маці. І дзяўчаткі, якія яшчэ нічога не разумелі, але таўкліся тут жа, у шумлівым вясельным бязладдзі, зайздросцілі ёй, якая напрала, наткала, навышывала цэлы гэты вялізны куфар, пад якім аж асеў воз.

Так было з веку ў век — гэта нястомнае вечнае творчае спаборніцтва, гэтая вечная шліфоўка, удасканальванне ткацкага майстэрства, так нараджалася тая незвычайная музыка беларускіх тканых і вышываных рэчаў, якія сёння здзіўляюць свет.

●

Каб прааналізаваць тое лепшае, што створана беларускімі ткачыхамі, спатрэбілася б цэлая манаграфія. Таму мы возьмем толькі адну лінію беларускага мастацкага ткацтва — дываны.

У народнай творчасці дываны займа-







юць значнае месца і ў кожным раёне маюць самабытныя рысы. Яны вылучаюцца тонкай гармоніяй колераў, багатым мастацкім кампазіцыйным ладам, разнастайнасцю структуры. Здзіўляе багацце і невычарпальнасць творчай фантазіі ткачых: яны беспамылкова выбіраюць лініі і рытм малюнка, жыва ўспрымаюць формы прыроды, перадаючы прадметны свет проста, абагульнена і ў той жа час гранічна выразна, з вялікім мастацкім чуццём.

Магчыма, самым галоўным у беларускіх дыванах, тым, што больш за ўсё ўражвае, з'яўляецца іх дэкор, арнаментальны лад. Мы не ўмаляем значэння каларыстычнага, структурнага рашэння, але першае, што ўражвае чалавека ў нашых дыванах,— гэта багацце, вытанчанасць і своеасаблівасць іх арнаментыкі. Урачыстыя і значныя прамавугольныя зломы ліній. Велічныя вольныя крываліненйныя рухі, выгібы стылізаваных сцяблін. Вось сухаватыя «абстрактныя» формы, вось— жывыя, сакавітыя, поўныя дынамікі.

Як такое дасягаецца?

Гэта цяжка растлумачыць, як музыку.

Дыван Ганны Міраповіч з Гомельскай вобласці. Чорны фон шчыльна засаджаны радамі ружовых, блакітных, жоўтых, аранжавых, фіялетавых кветак і замкнёны каймой, на якой вытканы стракозы. Ярка-чырвоныя іх крылы пераклікаюцца з кветкамі фону, а зялёныя, прыгожа выгнутыя тулавы — аднолькавыя па колеры са сцяблінамі і лістамі. Стракозы быццам бы кружацца ў імклівым маляўнічым карагодзе. Ткачыха знаходзіць прыгожы выгіб іх крылляў, а вольную прастору, якая ўтварылася пры гэтым, запаўняе невялікімі залацістымі разеткамі. Злучаны элементы, здавалася б, розныя па форме і структуры — спакойнае вясновае цвіценне сенажаці і дынаміка руху чырванакрылай стракозы. І гэта ўтварае гучны каляровы акорд, стварае яркі эмацыянальны вобраз.

Незвычайная кампазіцыя дывана «Васількі» Людвігі Заяц з Гродзенскай вобласці. На чорным фоне размешчаны невялікія яркія кветкі — жоўтыя, ружовыя, блакітныя — на доўгіх галінках з буйным лісцем. Дыван акаймоўвае двайная кайма: знешняя, традыцыйная, з галінкамі, і ўнутраная, шырэйшая, на якой вытканы ружовыя васількі ў выглядзе ўсечаных разетак на зялёных сцяблінах. Паміж імі такія ж кветкі, як і на фоне дывана.

Казачна прыгожыя снежна-белыя гусі-лебедзі складаюць аснову кампазіцыі дывана Людмілы Курловіч з Брэсцкай вобласці. Птушкі размешчаны па парах уздоўж ніжняй і верхняй каймы і «замкнёны» ў зялёныя вянкі. Пасярэдзіне дывана таксама вянкі з невялікіх стылізаваных кветак. Белыя птушкі, вянкі, кайма з кветак запаўняюць усю плоскасць, пакідаючы толькі невялікія ўчасткі чорнага фону.

Добра спалучаюцца з элементамі геаметрычнага і расліннага арнаменту малюнкі жывёлін, птушак у дыванах Марыі Пракапчук з Брэсцкай вобласці.

У дыване «Павы» птушкі з пышнымі хвастамі па рагах змешчаны побач з ромбамі, унутры якіх — разеткі. Шырокая кайма са складаным дэкарыраваннем заканчвае кампазіцыю. Строгі чорна-белы колер надае дывану ўрачыстую прыгажосць.

Чым болей узіраешся ў народнае тканне, тым больш здзіўляешся і захапляешся ім. Справа не толькі ў разнастайнасці арнаментальна-дэкаратыўных кампазіцый, невычарпальных па фантазіі. Самае галоўнае — ў цэласнасці, гарманічнасці гэтых кампазіцый. Што б ні ўзялі народныя майстры — матыў раслінны ці геаметрычны, ніткі льняныя ці воўну, колеры яркія, кантрасныя альбо пастэльныя,— яны з вялікім мастацкім тактам знаходзяць адзіна правільнае рашэнне. Вось што здзіўляе — высокі ўзровень мастацкага майстэрства, і прытым — масавы ўзровень, калі ў вёсцы, як, напрыклад, у Неглюбцы — ва ўсіх прыгожыя ручнікі, ва ўсіх — выставачныя! Нават, магчыма, і ў тых жанчын, якім і не хапае вялікага мастацкага чуцця.

Гэта дзіўна, але загадкі тут няма. Далучэнне да мастацкага рамяства пачынаецца з ранняга дзяцінства. Авалоданне навыкам ідзе паступова, непрыкметна, дзіця спачатку гуляе каля маці, потым памагае ёй. Засвойваюцца тэхнічныя навыкі, традыцыйныя прыёмы, развіваецца

мастацкае бачанне, здаровае народнае разуменне прыгажосці.

Мастацтва кампазіцыі перадавалася з пакалення ў пакаленне, шліфавалася стагоддзямі, удасканальвалася ўменне збіраць у адно цэлае, здавалася б, несумяшчальныя, не звязаныя сюжэтна рэчы, якія раптам набываюць унутраную цэласнасць, закончанасць. Суседнічаць можа што хочаш: стылізаваныя дрэвы, вазоны з кветкамі, званочкі, макі, ружы, ліліі, пчолы, матылькі, пеўні, гусі, лебедзі, зайцы. І ў гэтых фантастычных спалучэннях, як у дзіцячых малюнках, якія хоць і наіўныя самі па сабе, але дакладна схопліваюць сутнасць з'явы, аб'ядноўваючы разрознены свет, ужо не маюць значэння правільныя суадносіны прадметаў па велічыні, іх рэальная афарбоўка, натуралістычная форма. Гусі-лебедзі ў дыване Людмілы Курловіч гэткія ж па велічыні, як і кветкі, а пчала ў Ганны Пракапчук такая ж, як і птушкі. Майстар стварае свой маляўнічы свет, дзе ўсё падпарадкавана каларыту, гармоніі фарбаў. Дзякуючы каляровай мэтазгоднасці стылізаваныя птушкі, жывёлы, расліны становяцца элементамі арнаменту. Адсюль — зялёныя і аранжавыя коні, ружовыя васількі, чырванакрылыя стракозы, дрэвы з сінімі лістамі.

У адзінстве з дэкорам, каляровым ладам задумваецца структура і фактура дывана. Тоўстыя ніткі утку, напрыклад, могуць утварыць буйны арнаментальны малюнак, вялікія лакальныя каляровыя плямы, якія структурна кантрастуюць са шчыльнай асновай фону. Узор набывае рэльефнасць, хоць само рашэнне плоскаснае. Лёгкая варсістасць ваўняных нітак узмацняе светацені, стварае адчуванне руху.

Дэкор часта ствараецца складаным перапляценнем рознакаляровых нітак. Тут сустракаецца і рэльефны малюнак, і гладкі — перакрыжаваныя лініі, якія ўтвараюць вялікія і малыя, «клеткі», «акенцы», «гнёзды», «кругі».

На адных і тых жа кроснах ткуць і звычайнае палатно, і мастацкае. Дадатковыя ніты і дошчачкі дазваляюць ствараць малюнкі ад простай «елачкі» і «акенца» да самых складаных кампазіцый.

Дывановыя арнаментальныя тканіны, створаныя ў так званай габеленавай тэхніцы, часта двухбаковыя, ткуцца ў дзве ніткі, але пры гэтым выкарыстоўваецца некалькі чаўнакоў з ніткамі рознага колеру. Гэты спосаб дае магчымасць выткаць не толькі геаметрычны малюнак, але і складаныя кампазіцыі, пейзаж, сюжэтныя сцэны з малюнкамі жывёлін, людзей.

●

Своеасаблівая стылізацыя прадметнага свету, умоўная трактоўка формы і колеру зыходзіць не толькі ад тэхнічнай неабходнасці. Гэты прыём «остранения» прадмета дазваляе востра, свежа, па-новаму ўспрымаць яго. Натуралістычная кветка, птушка, прывычныя для нашага вока, не спынілі б нашай увагі, бо часта бачанае, закансерваванае часам, перастае абуджаць у нас цікавасць. Народны майстар новым, здзіўленым позіркам глядзіць на свет, адкрываючы яго як бы нанова. Ён разбурае звыклую форму і, узіраючыся ў сутнасць прадмета, з'явы, здзіўляецца і адкрывае яго нам. Вось тут і з'яўляецца пчала, роўная па велічыні птушцы.

Кветкі мудрагеліста выгінаюцца, ператвараюцца ў фантастычныя завіткі, захоўваючы ў той жа час намёк на жывыя формы прыроды. Майстар знаходзіць прыгажосць там, дзе яна перастала ўспрымацца. Яго высокае мастацтва будзіць жыццесцвярджальныя пачуцці, дае сапраўдную эстэтычную асалоду.

Гэтая эстэтычная функцыя ў народным ткацтве невыпадковая. Яна вынікае з самога прызначэння дывана ў сялянскім інтэр'еры. Уявіце сабе хату, дзе ярка расцвітаюць букеты кветак на насценных дыванах, посцілках, падзорах, ручніках. Гэта не толькі дэкаратыўнае аздабленне, але і своеасаблівыя мастацкія кампазіцыі, прызначаныя для таго, каб іх разглядваць. Таму яны маюць і элементы займальнасці. У вырашэнні такіх кампазіцый народныя майстры ўзнімаюцца іншы раз да сюжэтна-фантастычнага абагульнення навакольнага свету.

У насценным дыване Лілі Сідаровіч з Мінскай вобласці — цэлая аповесць пра родную прыроду, пра жыццё, пра людзей. Тут злучаны ў адно цэлае тонка прыкмечаныя сцэны з сельскага жыцця, побыту і казачныя сюжэты, яркая шматфарбнасць прыроды. Фон дывана па дыяганалі дзеліцца каляровымі лініямі, якія ўтвараюць падобныя да ромба фігуры. У кожнай такой фігуры — свой малюнак. Мы бачым жанчыну з парасонам, жанчын, якія сядзяць перад букетамі кветак, спатканне закаханых і г. д.

Кампазіцыя каймы-фрыза разгортваецца справа налева. У правым рагу — коннік, уперадзе яго — селянін з лапатай і кабета з віламі. Яны гоняць вялізнага шэрага ваўка, які спыніўся і дабрадушна павярнуў галаву да гледача. Уперадзе ваўка ідзе каза, потым зноў мужчынская і жаночая фігуры, потым — гусь, качка, певень, мядзведзь, дом з кветнікам. Кампазіцыя замыкаецца сустрэчным рухам конніка. Вышываючы людзей, жывёлін, птушак, мастачка імкнецца не толькі да знешняга падабенства, але і да таго, каб перадаць характар руху, звычкі жывёлін, птушак.

Цікава, што рашаючы сюжэтна-апавядальныя сцэны, народныя майстры ўмела ўкампаноўваюць іх у арнаментыку дывана. Яны, напрыклад, замыкаюць асобныя сюжэтныя сцэнкі ў прамавугольнік, ромб,







круг — своеасаблівую рамку. Гэтыя геаметрычныя фігуры добра спалучаюцца па колеры і з'яўляюцца элементамі агульнай кампазіцыі, часткай дэкору.

Мы закранулі толькі некаторыя пытанні, якія датычаць традыцыйнага беларускага народнага ткацтва. Гэта — зусім мала даследаваная галіна. Музеі, Дамы народнай творчасці і навукова-даследчыя інстытуты сабралі яшчэ мала ўзораў. Недастаткова яшчэ вывучана гісторыя развіцця традыцыйнага ткацтва, мы мала ведаем пра тое, як ішло развіццё яго стылістычных напрамкаў.

Грамадская і навуковая цікавасць, якая абудзілася цяпер да народнай творчасці, невыпадковая. Тут скандэнсаваны велізарны мастацкі вопыт народа, які выкрышталізаваўся ў класічна ясныя і закончаныя формы. Вывучэнне гэтага мастацтва мае велізарнае значэнне не толькі для разумення гісторыі духоўнай і мастацкай культуры нашага народа, але і для нашага духоўнага мастацкага развіцця. З гэтай скарбніцы можна чэрпаць тэмы, вобразы, формы, дэкор, кампазіцыйныя ідэі, каларыт. Скарбніца невычарпальная. Гэта база для далейшага развіцця і прафесійнага, і народнага мастацтва. Сёння мы яшчэ не ацанілі яе ў поўнай меры і спрабуем іншы раз намацаць шляхі ў будучыню чыста эмпірычна, не бачачы ў традыцыйным неабходных асноў. А яны ёсць. Трэба навучыцца разумець іх і калі гэта патрэбна — умела трансфармаваць. Навізна і сучаснасць у творах прыкладнога мастацтва, як паказвае вопыт, часцей за ўсё грунтуюцца не на адыходзе ад традыцыйнага, а на звароце да яго.

Віктар ГОВАР,
Франц ВАЛАДЗЬКО.

● Ісідар БАС

# ЭЦЮДЫ ПРА ВУЧОНЫХ

## ДАСЛЕДЧЫК ЗАМЕЖНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У 1908 годзе грамадскасць Віцебска адзначала стагоддзе з дня заснавання першай у горадзе гімназіі.

У сувязі з гэтым мясцовыя «Губернские ведомости» змясцілі артыкул, з якога між іншым можна было даведацца, што ў свой час гімназію закончылі такія вядомыя вучоныя — беларусы па паходжанні,— як Л. Шапялевіч і К. Касовіч. Пра іх аўтар артыкула гаварыў з вялікай павагай і ганарыўся тым, што яны атрымалі сярэднюю адукацыю ў родным яму горадзе.

Прозвішча Шапялевіча мне добра знаёма. Яшчэ да вайны я пазнаёміўся з такімі яго даследаваннямі, як «Дон-Кіхот» і «Гісторыка-літаратурныя эцюды», у якіх даследавалася творчасць Шэкспіра, Бакачыо, Гётэ, Пятраркі і іншых зарубежных пісьменнікаў.

Паводле звестак, якія змешчаны ў кнізе «Гісторыка-філалагічны факультэт Харкаўскага ўніверсітэта за першыя сто год яго існавання» (Харкаў, 1908 г.), Леў Юльянавіч Шапялевіч нарадзіўся ў 1863 годзе ў Віцебску. Бацька яго служыў павятовым суддзёй. Памёр ён, калі сыну было дванаццаць гадоў.

Займаўся будучы літаратуразнаўца ў віцебскай гімназіі. Скончыўшы яе, стаў студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Харкаўскага ўніверсітэта і тут праз некалькі гадоў атрымаў залаты медаль за сачыненне «Жукоўскі і рамантызм».

Ва ўніверсітэце выкладаў тады вядомы даследчык зарубежнай літаратуры прафесар А. І. Кірпічнікаў — аўтар многіх прац, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі навук. Ён заўважыў схільнасць Шапялевіча да навуковай працы, і калі яго запрасілі загадваць кафедрай у Новарасійскім універсітэце, ён узяў з сабой і здольнага юнака. А яшчэ праз два гады, калі Шапялевіч атрымаў універсітэцкі дыплом, Кірпічнікаў пакінуў яго пры кафедры, каб рыхтаваць да навуковай работы.

Былы вучань віцебскай гімназіі два гады слухаў лекцыі ў Венскім, Мюнхенскім і Рымскім універсітэтах. Вярнуўшыся ў 1889 годзе на радзіму, ён пачаў выкладаць у Харкаўскім універсітэце курс усеагульнай літаратуры.

Доктарскую дысертацыю Леў Юльянавіч абараніў, калі яму было трыццаць тры гады. Тады ж быў зацверджаны і на пасадзе прафесара. Некалькі разоў ён ездзіў у Францыю, Італію, Германію, а




ў 1903 годзе быў дэлегатам Міжнароднага з'езда гісторыкаў у Рыме. Аб гэтых сваіх паездках Шапялевіч напісаў цікавыя нарысы, надрукаваныя пазней у «Харьковских ведомостях». Па іх можна меркаваць, што аўтар быў здольны і да мастацкай творчасці.

Л. Шапялевічу належаць многія даследаванні па зарубежнай літаратуры. Акрамя названых вышэй, ён напісаў і такія працы, як «Гюі дэ Мапасан» (1892 г.), «Фауст» Гётэ» (1900 г.), «Нарысы па гісторыі старажытнай літаратуры» (1890 г.), «Нашы сучаснікі. Гісторыка-літаратурны нарыс» (1899 г.), «Агляд зарубежнай літаратуры» (1892 г.) і многія іншыя. Тагачасная літаратурная крытыка станоўча ацаніла кнігі Шапялевіча. Калі, напрыклад, з друку выйшлі «Эцюды пра Дантэ», адзін з рэцэнзентаў пісаў:

«Аўтар — малады вучоны, упершыню выступае з вялікай працай (некалькі малых работ па гісторыі літаратуры былі надрукаваны раней асобнымі брашурамі і ў часопісе «Атэнеум»). Ён заявіў пра сябе як асцярожны і сур'ёзны даследчык. Мы з нецярпеннем чакаем працягу «Эцюдаў аб Дантэ» і спадзяёмся, што п. Шапялевіч, нягледзячы на ўсю складанасць задачы, якая яму прадстаіць, давядзе з поспехам пачатае з навуковай сціпласцю да канца».

«Эцюды» Шапялевіча пра Гергарда Гаўптмана былі перакладзены на нямецкую мову і выдадзены ў Германіі.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў у Расіі яшчэ мала выходзіла даследаванняў па зарубежнай літаратуры. Л. Шапялевіч не без падставы ў прадмове да сваёй кнігі «Жыццё Сервантэса і яго творы» пісаў, што ў рускай літаратуры, напрыклад, няма колькі-небудзь значнай і цэласнай біяграфіі іспанскага пісьменніка. «Нельга не лічыць гэта вялікім недахопам,— пісаў ён,— калі звярнуць увагу на значную папулярнасць сярод чытацкай публікі «Дон-Кіхота».

Не было больш-менш грунтоўных даследаванняў і пра такіх пісьменнікаў, як Гётэ, Шэкспір, Мапасан. У гэтых умовах працы Л. Шапялевіча, хоць у іх і пераважаў біяграфічны метад, былі вельмі патрэбнымі і карыснымі. Імі карысталіся студэнты вышэйшых навучальных устаноў і ўсе тыя, хто цікавіўся зарубежнай літаратурай. На кнігі Шапялевіча спасылаліся і даследчыкі.

Шапялевіч быў першы з беларусаў, хто стаў вядомым у свой час даследчыкам зарубежнай літаратуры.

Жывучы ў Харкаве, Леў Юльянавіч не забываў і пра родную Беларусь. Не адзін раз прыязджаў ён у Віцебск, дзе сустракаўся са сваякамі і сябрамі юнацкіх гадоў. Шапялевіч — адзін з ініцыятараў стварэння Віцебскага краязнаўчага музея. Ён два гады вёў археалагічныя раскопкі на сваёй роднай Віцебшчыне, пра што расказаў у брашуры «Вытрымкі са справаздачы ардынарнага прафесара Харкаўскага ўніверсітэта Л. Ю. Лазарэвіча-Шапялевіча аб экскурсіях і раскопках, якія праводзіліся ў Віцебскай губерні па даручэнні імператарскай Археалагічнай камісіі». «Некаторыя знаходкі,— гаворыцца ў прадмове,— зробленыя мною ў мінулым і ў гэтым годзе, міжволі наводзяць на думку, што губерня, шматабяцаючая ў будучым у сэнсе знаходак старажытнасці, змагла б знайсці дастатковы матэрыял, каб заснаваць мясцовы, абласны музей краязнаўства».

Сам Шапялевіч знайшоў і перадаў віцьблянам такія цікавыя рэчы старажытных часоў, як каменныя малаток і долата, медны бранзалет, касцяное шыла, пацеркі і многае іншае.

Пра свае археалагічныя пошукі Леў Юльянавіч расказаў і на старонках «Витебских губернских ведомостей», пасля чаго атрымаў многа пісьмаў ад чытачоў, якія выказалі яму падзяку за яго працу. Простыя людзі пачалі самі рабіць археалагічныя пошукі, і даволі хутка ў Віцебску склалася цэлая калекцыя старажытных рэчаў. Потым яны экспанаваліся ў мясцовым музеі.

Памёр Л. Ю. Шапялевіч у 1909 годзе. Хоць большую частку свайго жыцця ён пражыў у Харкаве, яго радзімай назаўсёды засталася Беларусь.

## ПЕРШЫ САНСКРЫТОЛАГ РАСІІ

Вядомы рускі публіцыст, крытык і паэт К. С. Аксакаў, успамінаючы свае студэнцкія гады ў Маскоўскім універсітэце, пісаў, між іншым, наступнае:

«На першы курс паступілі да нас студэнты, прысланыя, здаецца, з віцебскай гімназіі: усе яны былі вельмі добра падрыхтаваныя. Я пазнаёміўся з усімі імі і быў з імі ў вельмі добрых адносінах. У ліку іх быў Касовіч. Ён добра ведаў мовы, якія патрабаваліся на ўніверсітэце, але філалагічная яго схільнасць яшчэ не вызначылася тады ясна. Ён быў нязграбны: яго гаворка, яго прыёмы былі арыгінальныя, хадзіў ён як быццам спатыкаючыся, гаварыў хутка, спяшаўся і часта замест аднаго слова прыводзіў некалькі сінонімаў. Аднойчы Герынг (прафесар нямецкай мовы — І. Б.) прымусіў яго перакладаць. Касовіч падышоў да кафедры і пачаў уголас, спехам перакладаць, імкнучыся перадаць нямецкія словы па-руску некалькімі сінонімамі. Я помню, як, перакладаючы нямецкае ziehen, Касовіч сказаў: «ідуць, цягнуцца, імкнуцца». Студэнты міжвольна смяяліся, але ўсім было ясна, што Касовіч слаўна ведае мову».

Успаміны Аксакава былі надрукаваны ў 1862 годзе. Каэтану Андрэевічу Касовічу ў гэты час ішоў сорак восьмы год.



Партрэт К. А. Касовіча. Малюнак Э. А. Дзмітрыева-Манава. 1840-я гады. Захоўваецца ў Траццякоўскай галерэі.

Ён выкладаў у Пецярбургскім універсітэце, з'яўляючыся прафесарам кафедры санскрыцкай мовы. Яго добра ведалі і паважалі ў навуковых колах як знаўцу старажытнай індыйскай літаратуры і, бадай, першага ў Расіі санскрытолага. «Санскрыцка-рускі слоўнік» Касовіча быў шырока вядомы сярод індолагаў і атрымаў высокую ацэнку ў друку.

«Сын свяшчэнніка, родам з Беларусі, праваслаўнага веравызнання»,— чытаем мы ў брашуры «К. А. Касовіч», выдадзенай у 1883 годзе у Пецярбурзе. І далей: «Яшчэ калі ён быў вучнем віцебскай гімназіі, К. А. Касовіч, галадаючы, жывучы ў холадзе на гарышчы — аб чым ён часта ўспамінаў у размовах з сябрамі — паказаў такое веданне лацінскай мовы, што звярнуў на сябе ўвагу і быў папячыцелем Беларускай вучэбнай акругі накіраваны ў Маскоўскі ўніверсітэт да заканчэння курса гімназіі».

Сапраўды, лінгвістычныя здольнасці ў Касовіча былі незвычайныя. Ён валодаў англійскай, італьянскай, грэчаскай, арабскай, лацінскай, стараяўрэйскай мовамі. Антычных пісьменнікаў ён ведаў настолькі, што мог гадзінамі чытаць іх творы на памяць. Аднойчы Каэтан Андрэевіч гасцяваў у С. П. Шавырова — вядомага гісторыка-славянафіла. Там, як піша сучаснік Касовіча, ён «чытаў на памяць усяго Гамера».

Нямала давялося зведаць вучню віцебскай гімназіі, перш чым навуковая сцежка прывяла яго да кафедры ў Пецярбургскім універсітэце. Тры гады пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта ён перабіваўся прыватнымі ўрокамі, бо іншай работы не было. Затым выкладаў грэчаскую мову ў цвярской гімназіі, дзе на яго глядзелі, як на дзівака, бо ён большую частку грошай траціў на кнігі. Нарэшце яму пашанцавала — начальства вучэбнай акругі заўважыла прагнага да навукі знаўцу грэчаскай і санскрыцкай моваў, і ён быў пераведзены ў Другую маскоўскую гімназію.

Санскрытам Каэтан Касовіч авалодаў самастойна. Падручнікаў па гэтай мове ў Расіі ў той час не было, і даводзілася выпісваць кнігі з-за мяжы. Яшчэ да паездкі ў Цвер яго часта можна было бачыць ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, дзе ён гадзінамі сядзеў, схіліўшыся над старажытнымі індыйскімі кнігамі. У 1844 годзе Касовіч упершыню ў Расіі надрукаваў перакладзены ім «Сунд і Уперсунд» — урывак са славутага індыйскага народнага эпасу «Махабхарата». Праз два гады ён апублікаваў вельмі цікавую і значную ў навуковых адносінах працу— «Рэлігійныя і палітычныя ідэі старажытных індыйцаў».

І вось цяпер, зноў апынуўшыся ў Маскве, Касовіч яшчэ з большай упартасцю і настойлівасцю ўзяўся за любімую справу — санскрыт, індыйскі эпас. Работа яго захапляла. Ёй ён аддаваў амаль увесь вольны ад заняткаў час. Сябры жартавалі: «Застанешся бабылём, Каэтан!» Яны памыліліся, Касовіч ажаніўся, але тады, калі ўжо стаў вядомым санскрытолагам і споўнілася яму шэсцьдзесят дзевяць гадоў.

Тое, што Каэтан Касовіч вырашыў, гаворачы яго словамі, «ахвяраваць з радасцю і свядома многімі гадамі жыцця», каб дасканала вывучыць санскрыцкую мову, не з'яўлялася нейкай выпадковасцю. У той час у Расіі назіралася цікавасць да Індыі, яе народаў, культуры. Яшчэ у 1811 годзе ў Пецярбурзе выйшла невялічкая брашура пад назвай «Аб падабенстве санскрыцкай мовы з рускай», аўтарам якой быў вядомы лінгвіст Ф. Адэлунг. Затым у Расіі з'яўляюцца пераклады са старажытнаіндыйскіх паэм «Рамаяна» і «Махабхарата», вельмі прыхільна сустрэтыя аматарамі паэзіі. А ў 1836 годзе ў Пецярбург быў запрошаны нямецкі вучоны Ленц, каб прачытаць ва ўніверсітэце лекцыю аб санскрыцкай мове. На першай лекцыі, як паведамляе адзін з часопісаў, прысутнічала «шматлікая публіка, што абяцае значны поспех» санскрыту.

Пачаўшы «самастойна разбіраць дзіўную грамату», Касовіч захапіўся санскрытам, старажытным эпасам і ў будучым стаў вучоным, вядомым у гэтай галіне індалогіі.

У міністэрстве асветы да маладога даследчыка-беларуса з разначынцаў адносіліся недаверліва, пагардліва. Калі ў 1847 годзе ён папрасіў камандзіраваць яго з навуковай мэтай за мяжу, яму ў гэтым адмовілі. Тагачасны рэктар Пецярбургскага ўніверсітэта, паэт і крытык Пятро Андрэевіч Плятнёў пісаў у сувязі з гэтым Касовічу:

«З пісьма Шавырова мне ўжо вядомы ўсе падрабязнасці пра вас, дарагі сябар Каэтан Андрэевіч, і адмова міністра, а таксама прапанова факультэта аб адкрыцці кафедры параўнальнай філалогіі... Вы ўжо столькі зрабілі ў жыцці сваім для навукі, што, зразумела, павінны стаяць вышэй усялякага самавольства пабочнага. Заслугі вашы, вашы добрыя якасці, вашы надзеі і ўзнагароды вашы — у вас самім: яны ні зменшаны ні зняты нічым быць не могуць. Што ў вас моцны характар, я ніколі не сумняваюся; без яго не з'явілася б нічога з таго, што папярэднічала сучаснаму становішчу вашаму... Працягвайце працаваць з любасцю да навукі, як да гэтага часу рабілі».

У маі 1848 года Плятнёў зноў звяртаецца да Каэтана Андрэевіча: «Вы яшчэ ніяк не можаце прывыкнуць пераносіць раўнадушна розныя няўдачы... А ці не пажадана будзе вам пачуць, што без асабістай карысці людзі гэтыя нагою не варухнуць, хоць бы згарэлі ўсе кафедры на свеце...»

Каэтан Касовіч працягваў упарта працаваць. Яму дапамагала ў гэтым маральная падтрымка сяброў і добрых знаёмых, у прыватнасці Вісарыёна Рыгоравіча Бялінскага. Апошні пісаў у заметцы «Літаратурныя навіны», надрукаванай у 1839 годзе ў часопісе «Московский наблюдатель»: «...Касовіч, малады чалавек, які нядаўна закончыў курс у Маскоўскім універсітэце, будучы страсным элліністам, унушыў некальkім выдатным студэнтам у Маскве карысную думку скласці вучэбны слоўнік старагрэчаскай мовы. Слоўнік гэты зараз друкуецца, і, паводле водгукаў знаўцаў справы, праца Касовіча заслугоўвае пэўнай увагі і ўдзячнасці».

З Бялінскім Касовіч быў знаёмы асабіста. Праўда, калі малады віцяблянін паступіў ва ўніверсітэт, Бялінскага ўжо адтуль выключылі. Але апошні сустракаўся са студэнтам з Віцебшчыны Савічам, які пазнаёміў Вісарыёна Рыгоравіча з членамі студэнцкага тайнага польскага літаратурнага таварыства, куды ўваходзіў і Каэтан Касовіч. Акрамя таго, Касовіч, як і Бялінскі, уваходзіў у вядомы гурток Станкевіча.

Разам з Бялінскім Каэтан Андрэевіч летам 1835 года рыхтаваў для паступлення ва ўніверсітэт К. Д. Кавеліна — пазней вядомага гісторыка.

У перыяд свайго студэнцтва Касовіч, бясспрэчна, ведаў аб ідэйна-палітычных поглядах Бялінскага, і яго збіраліся нават прыцягнуць да судовага следства па справе віцябляніна Заблоцкага, які распаўсюджваў антыцарысцкія вершы, але потым абмежаваліся «ўнушэннем». Як і астатнія члены тайнага польскага літаратурнага таварыства, Касовіч выступаў супраць нацыянальнага прыгнёту, самадзяржаўя і дэспатызму. Апазіцыйнае асяроддзе, у якім ён знаходзіўся, сувязь з прагрэсіўнай дваранскай і дэмакратычна-разначыннай моладдзю ўплывалі на Касовіча, хоць пазней ён быў звязаны са славянафіламі і прытрымліваўся больш памяркоўных поглядаў.

Калі міністэрства асветы адмовіла Касовічу выехаць з навуковай мэтай за мяжу, дык, напэўна, там успомнілі і яго «непахвальныя паводзіны» ва ўніверсітэце, які ён скончыў у жніўні 1836 года са ступенню кандыдата славесных навук. Тое ж міністэрства рашуча запярэчыла, калі Касовіч выказаў жаданне застацца пры ўніверсітэце, каб «атрымаць вышэйшую навуковую ступень».

У маскоўскі перыяд свайго жыцця Каэтан Андрэевіч пераклаў на рускую мову індыйскую казку «Сказанне аб Від'ягары Джымутавагану», да якой напісаў прадмову—першую ў Расіі навуковую працу пра гэты твор, «Аповесць Самадзевы-Бгаты», драму «Крышны-Місры» («Радасць светлай думкі»). Апошні свой пераклад, які вучоны называе «першай цэльнай працай санскрыцкай пісьменнасці, перанесенай на рускую глебу», ён прысвяціў Мікалаю Міхайлавічу Языкову. Вядомы рускі паэт, па словах Касовіча, многа чым дапамог яму.

Выдаў Каэтан Андрэевіч у сваім перакладзе і «Элементарную граматыку грэчаскай мовы» Кюнера, якая, дарэчы, вытрымала чатыры выданні. Ім зроблены і шматлікія іншыя пераклады з грэчаскай і лацінскай моваў, што давала магчымасць тагачаснаму чытачу шырэй пазнаёміцца з антычнай культурай і літаратурай.

Выехаць у замежную навуковую камандзіроўку Касовіч змог толькі пасля пераезду ў 1850 годзе з Масквы ў Пецярбург, дзе пачаў працаваць у публічнай бібліятэцы — спачатку старшым рэдактарам навуковых прац, а затым загадчыкам аддзела ўсходніх кніг. Яму даручылі «разабраць» у Брытанскім музеі ў Лондане «рукапісы бібліятэкі, напісаныя на розных індыйскіх гаворках, чаго ніхто з рускіх арыенталістаў у той час зрабіць не змог». Вучоны пазнаёміўся з вядомымі англійскімі індолагамі, сабраў падрабязныя звесткі пра Брытанскі музей, прачытаў тыя помнікі старажытнай індыйскай літаратуры, якіх тады не было ў Расіі.

Англійскія індолагі лічыліся лепшымі ў свеце. Многія з іх неаднойчы наведалі гэту краіну, працяглы час жылі там, з'яўляліся знаўцамі бенгалі, хіндустані і іншых моваў. Але і яны нямала здзіўлены былі тым, што вучоны госць дасканала валодае санскрытам. Пройдзе некаторы час, і працы Касовіча стануць вядомымі не толькі ў Англіі, але і ў мно-



## БЕЛАРУСКІЯ ДЫВАНЫ

Посцілкі. З выстаўкі народнай творчасці БССР, прысвечанай 100-годдзю У. І. Леніна.

Дыван. Выткала Алена Блыш з вёскі Баброўнікі Свіслацкага раёна.



Фота В. Ждановіча і З. Пазняка.



Так ткуць слуцкія паясы.

Дарожка. Выткала Паўліна ФІЛІПЕНКА з вёскі Гарбовічы Касцюковіцкага раёна.

НЕГЛЮБСКІЯ РУЧНІКІ.





гіх іншых краінах свету. Былы вучань Віцебскай гімназіі стане правадзейным членам Парыжскага азіяцкага таварыства, Нямецкага ўсходняга таварыства і іншых. «Касовіч быў шырока вядомы, як вучоны, у Еўропе»— піша аб ім даследчык-усходазнаўца.

У Пецярбургскай публічнай бібліятэцы Каэтан Андрэевіч працаваў да апошніх гадоў свайго жыцця. Ён многае зрабіў, каб папоўніць бібліятэчную калекцыю помнікаў індыйскай літаратуры. Ім складзены шэраг каштоўных крытыка-бібліяграфічных прац. А ў 1854 годзе Касовіч, па прапанове Расійскай Акадэміі навук, пачаў складаць «Санскрыцка-рускі слоўнік», які друкаваўся ў акадэмічных «Ведомостях» і выйшаў асобным выданнем у 1856 годзе. У «Ведомостях» быў змешчаны і яго артыкул аб «Багават-Гіту».

Каэтану Касовічу належаць і такія працы, выдадзеныя асобна ў 1853—1860 гадах, як «Філалагічныя пошукі», «Дзве публічныя лекцыі аб санскрыцкім эпасе». Двойчы друкаваў ён свой пераклад «Наль і Дамаянці». Як падкрэсліваў В. Бялінскі, гэтая аповесць старажытнай індыйскай літаратуры мела «важнае значэнне гістарычнага факта жыцця вялікага племені».

Дзякуючы Касовічу рускі чытач пазнаёміўся і з іншымі мастацкімі помнікамі, у тым ліку і з яго перакладам «Легенды пра паляўнічага і цара галубоў».

Пасля пераезду ў Пецярбург Каэтан Андрэевіч пачаў настойліва хадайнічаць аб адкрыцці пры ўніверсітэце кафедры санскрыцкай мовы. Плятнёў і іншыя прадстаўнікі літаратурнай і навуковай грамадскасці актыўна падтрымалі яго. Такая кафедра была створана ў 1859 годзе. Першым прафесарам санскрыцкай мовы ў Пецярбургскім універсітэце стаў беларус Касовіч.

«Санскрыцкая мова,— гаварыў ён у сваёй уступнай лекцыі, якая адбылася 24 верасня таго ж 1859 года,— з'яўляецца ўзорам мовы с самымі поўнымі формамі і самай дасканалай будовай. Ужо адно — ведаць такую мову, якая ўяўляе сабой узор дасканаласці чалавечага слова, не можа быць справай пабочнай і не вартай працы».

Дасканаласць чалавечага слова... Гэта гучала ў той час і як глыбокае спачуванне да барацьбы індыйцаў супраць англійскіх каланізатараў за свабоду сваёй радзімы. Вось ужо два гады, як па ўсёй Індыі палыхаў агонь народнага паўстання, якое знайшло жывы водгук і ў Расіі. Праўда, рэакцыйныя колы спачувалі англічанам, але прагрэсіўная грамадскасць, асабліва рэвалюцыйныя дэмакраты, лічылі барацьбу індыйскага народа справядлівай, бо, як пісаў М. Дабралюбаў у артыкуле «Погляд на гісторыю і сучаснае становішча Ост-Індыі», народ там «пакутуе ад празмернага падатку, які паглынае ўвесь яго набытак... жыве ў глінянай хацінцы, замест вопраткі мае некалькі шматкоў на целе». Па словах Дабралюбава, у Індыі «становішча земляроба было жудасным», у той час як Англія атрымлівала велізарныя прыбыткі.

Ва ўніверсітэце Касовіч выкладаў і курс індыйскай літаратуры, а ў 1860 годзе ён прачытаў у Пецярбурзе дзве публічныя лекцыі па старажытнаіндыйскім эпасе. Яны, па словах чалавека, які на іх прысутнічаў, былі «выслуханы публікай з вялікім задавальненнем».

Гэтыя лекцыі, як, зрэшты, і ўся навуковая і перакладчыцкая дзейнасць Каэтана Андрэевіча, прыцягвалі ўвагу грамадскасці Расіі да таго, што адбывалася тады ў Індыі, садзейнічалі развіццю сяброўства паміж абодвума вялікімі народамі.

Каэтан Касовіч быў выдатным знаўцам і персідскай мовы. У Пецярбургскім універсітэце ён выкладаў таксама і зенцкую мову. Рознабаковасць яго філалагічнага дыяпазону была адзначана Харкаўскім універсітэтам, вучоны савет якога аднагалосна «ўзвёў» Касовіча ў дактары параўнальнага мовазнаўства.

Памёр Каэтан Андрэевіч у студзені 1883 года.

«Смерць застала яго за кніжкаю»,— гаворыцца ў адным з некралогаў. Іх, дарэчы, было змешчана ў тагачасным перыядычным друку многа. Пра Касовіча пісалі, што ён разам з П. Пятровым і Р. Ленцам з'яўляўся «першым насаджальнікам у Расіі вывучэння санскрыцкай мовы», што Каэтан Андрэевіч быў вялікім знаўцам старажытнаіндыйскага эпасу і пакінуў пасля сябе каштоўныя навуковыя працы.

«З самых маладых гадоў у ім гарэла любоў да чалавечага слова,— пісаў аб Касовічу вядомы вучоны-арыенталіст С. Альдэнбург,— яму заўсёды хацелася ўвайсці ў душу мовы... Тыя, каму даводзілася займацца пад яго кіраўніцтвам, зразумела, добра помняць яго майстэрскія пераклады і тую патрабавальнасць, якую ён прад'яўляў да ўсякай рускай перадачы іншамоўнага тэксту».

Памяці Каэтана Касовіча было прысвечана пасяджэнне Усходняга аддзялення Рускай археалагічнай камісіі, правадзейным членам якой ён з'яўляўся. Даклад аб памёршым вучоным зрабіў А. Гаркаві. У тым жа 1883 годзе даклад гэты выйшаў асобнай брашурай. У ім навуковая і перакладчыцкая дзейнасць Каэтана Андрэевіча ацэньваецца як выдатная з'ява ў гісторыі айчыннай арыенталістыкі. Асабліва падкрэслена роля Касовіча ў развіцці санскрыталогіі ў Расіі.

Многія працы вучонага-беларуса не страцілі сваёй навуковай вартасці і ў наш час. На іх спасылаюцца ў сваіх даследаваннях і сучасныя савецкія арыенталісты. Аўтар артыкула «Стагоддзе Віцебскай губернскай гімназіі», на які мы спасылаліся вышэй, меў поўную рацыю ганарыцца сваім земляком Каэтанам Андрэевічам Касовічам — выдатным знаўцам санскрыту, адным са стваральнікаў рускай школы ў індалогіі.

## ВЫСАКАРОДНАЯ ПРАФЕСІЯ

У тым жа артыкуле «Губернских ведомостей» сярод выпускнікоў Віцебскай класічнай гімназіі былі названы таксама прозвішчы С. Чыр'ева і А. Чачота. Іх, шчыра кажучы, я пачуў упершыню. Даведачная і іншая літаратура, да якой я звярнуўся, сведчыла, што Сяргей Іванавіч Чыр'еў быў вядомы ў свой час вучоны-фізіёлаг, Атон Антонавіч Чачот — таксама вядомы прафесар псіхіятрыі і судовай медыцыны. Першы з іх нарадзіўся ў Віцебску, другі — на Міншчыне, абодва — беларусы. Падумалася яшчэ раз: мала мы ведаем пра тых людзей з Белай Русі, імёны якіх засталіся ў гісторыі айчыннай навукі.

...Кастрычнік 1888 года. Фізіялагічная аўдыторыя Кіеўскага ўніверсітэта. Народу — няма дзе яблыку ўпасці. Сярод прысутных — студэнты, прафесары, выкладчыкі і сам міністр народнай асветы, які вырашыў «аказаць гонар» сваёй прысутнасцю вядомаму ў медыцынскім свеце прафесару Сяргею Іванавічу Чыр'еву, што ў той дзень чытаў лекцыю пра славутага ўрача старажытнай Грэцыі Гіпакрата. Імя Сяргея Іванавіча заўсёды прыцягвала да сябе ўвагу — ці было яно надрукавана на афішы аб чарговай лекцыі ці на вокладцы кнігі. Сяргей Іванавіч вось ужо каторы год аддаваў усе свае сілы і веды самай высакароднай прафесіі — урача. Яму ішоў толькі трыццаць восьмы год, але яго ўжо добра ведалі ў медыцынскіх колах Расіі. «Уводзіны ў курс фізіялогіі чалавека», «Фізіялогія чалавека»— гэтымі яго кнігамі карысталіся як падручнікамі ў вышэйшых навучальных установах. Сяргею Іванавічу належалі таксама грунтоўныя даследаванні: «Аб каардынацыі руху ў жывёл», «Фізічная статыстыка крыві», «Залежнасць сардэчнага рытму ад змянення ўнутрысасудзістага ціску крыві». За апошнюю працу яму была прысуджана (у няпоўных дваццаць сем гадоў) навуковая ступень доктара медыцыны. Такое нячаста здаралася нават у сценах Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі.

Сяргей Іванавіч Чыр'еў не адразу знайшоў сваё навуковае прызванне. Закончыўшы Віцебскую гімназію (і адначасова каморніцка-таксатарскія класы), ён паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. На таленавітага беларуса ўскладалі вялікія надзеі, і ён пасля заканчэння ўніверсітэта быў пакінуты пры кафедры для падрыхтоўкі да прафесуры. Але яго вабіла іншае — і ў 1872 годзе ён другі раз стаў студэнтам, паступіўшы ў Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію.

І там былы віцебскі гімназіст паказаў незвычайныя здольнасці. Яго залічылі адначасова аспірантам кафедры фізіялогіі, а калі быў атрыманы, нарэшце, дыплом урача, яго накіравалі на некалькі гадоў за мяжу. Сяргей Іванавіч праходзіць, як бы цяпер сказалі, стажыроўку ў лепшых клініках нервовых захворванняў Германіі, Францыі, Англіі, Аўстрыі, знаёміцца з многімі вядомымі фізіёлагамі Еўропы. Пісьмы, якія атрымлівалі ад яго бацькі — яны па-ранейшаму жылі ў Віцебску,— сведчаць, які працавіты быў Чыр'еў.

Людзі, якія добра ведалі Сяргея Іванавіча, успамінаюць, што аж да самай сваёй смерці (1915 год) яму не даводзілася дзе-небудзь адпачываць. Толькі ад-




СИМПАТИЧЕСКАГО НЕРВА У ЧЕЛОВѢКА

нойчы ён выбраўся ў падарожжа па Іспаніі. Было гэта летам 1894 года. Свае ўражанне ён перадаў у невялічкай кніжцы пад назвай «Бой быкоў у Мадрыдзе», выдадзенай у Кіеве ў 1895 годзе. Напісана яна, дарэчы, з добрым густам, проста і цікава.

Сяргею Іванавічу не спадабаўся бой быкоў. «Аўтар гэтых радкоў,— піша ён,— прывык бачыць смерць жывёлы — зразумела, толькі не ў такой варварскай абстаноўцы і не такую пакутлівую,— але і то ледзь змог дасядзець да канца «спектакля» і быў рады, нарэшце, вырвацца з гэтага прытону смерці, з нейкай злосцю супраць «эспадас» і супраць публікі».

Вярнуўшыся пасля навуковай камандзіроўкі ў Расію, Чыр'еў становіцца прафесарам Мікалаеўскага ваеннага шпіталю ў Пецярбурзе. З друку выходзіць шэраг яго прац: «Новая гіпотэза фарбаадчувальнасці», «Курс лекцый па фізіялогіі», «Агульная мышачная і нервовая фізіялогія» і іншыя. Многія гады ён працуе прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта, і яго імя ўпамінаецца ва «Украінскай савецкай энцыклапедыі», толькі там памылкова сцвярджаецца, што Чыр'еў нарадзіўся ў Саратаве.

Сяргей Іванавіч Чыр'еў нямала зрабіў для развіцця ўрачэбнай справы на Украіне. Яго вучнямі былі вядомыя ў свой час украінскія медыкі О. Леантовіч і Ф. Яноўскі.

Яшчэ меней, чым пра Чыр'ева, нам вядома пра другога беларускага вучонага — Атона Антонавіча Чачота, які таксама закончыў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбурзе. Нарадзіўся ён на Міншчыне ў 1842 годзе. Закончыўшы віцебскую гімназію, паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт і правучыўся там амаль чатыры гады. Затым, як сведчыць яго сучаснік, «У Чачота з'явілася жаданне больш паглыблена вывучаць псіхалогію, у сувязі з чым ён у 1863 годзе перайшоў на чацвёрты курс Медыка-хірургічнай акадэміі». Закончыў яе праз два гады з узнагародай — «Дыпломам на сярэбраны медаль».

«Пра Чачота быў вельмі высокай думкі С. П. Боткін»,— гаворыцца ў кніжцы «Дваццаціпяцігоддзе дзейнасці ўрачоў, якія закончылі курс у імператарскай медыка-хірургічнай акадэміі ў 1865 годзе». Сур'ёзны, працавіты, ён карыстаўся павагай і іншых прафесараў, што выкладалі ў Акадэміі. У яе сценах Атон Антонавіч «вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны», прадставіўшы даследаванне — «Аб гальванізацыі сімпатычнага нерва ў чалавека і аб тэрапеўтычным яе значэнні», якое выйшла ў 1876 годзе асобнай кніжкай. Пройдзе некаторы час, і маладога вучонага запросяць выкладаць нервовыя і псіхічныя захворванні ў той жа медыцынскай акадэміі. Яго імя стане вядомым, а працамі яго «Да пытання аб аглядзе хворых з мэтай устанаўлення над імі апекі», «Да развіцця догляду псіхічна хворых» і іншымі будуць шырока карыстацца спецыялісты-псіхіятры і ўрачы судовай медыцыны.

Выкладаў Чачот і на жаночых медыцынскіх курсах у Пецярбурзе, актыўна садзейнічаючы распаўсюджванню ў Расіі медыцынскай адукацыі сярод жанчын.

Атону Антонавічу давялося дзесяць гадоў працаваць урачом на Пуцілаўскім заводзе, дзе ў той час было каля трох тысяч рабочых. «Яму прыходзілася,— гаворыць пра Чачота адзін з даследчыкаў развіцця медыцынскай адукацыі ў Расіі,— быць адзіным урачом на ўсю Лігаўскую воласць у час эпідэмій воспы і халеры. Доўга помнілі сяляне гэтай воласці невысокага, простага ў абыходжанні чалавека, які выратаваў ад смерці многіх людзей».

А. Чачот узначальваў Таварыства пецярбургскіх урачоў, быў членам Таварыства псіхіятраў, а таксама прымаў актыўны ўдзел у многіх вучоных камісіях, у тым ліку і ў камісіі, якая была арганізавана з мэтай падрыхтоўкі першага з'езда псіхіятраў Расіі. На гэтым з'ездзе, які адбыўся ў Маскве ў 1884 годзе, Чачот зрабіў навуковы даклад, які потым быў надрукаваны ў «Працах» з'езда.

З друку выйшаў другі том «Беларускай савецкай энцыклапедыі». Хутка з'явяцца і іншыя тамы. Трэба, на нашу думку, папоўніць энцыклапедычны слоўнік, уключыўшы туды і імёны вучоных-беларусаў Л. Шапялевіча, К. Касовіча, С. Чыр'ева і А. Чачота.








**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ. МІЛАВІЦА.**
Выдавецтва «Беларусь»,
Мінск, 1971.

# ПРАЗ ВЕРШЫ — ДА ПАЭЗІІ

У выдавецтве «Беларусь» выйшла ў свет другая кніга вершаў Міколы Федзюковіча «Мілавіца». Першая кніга «Зямля — магніт» (1968) падкупляла шчырым жаданнем маладога паэта пісаць вершы, чытаць іх людзям, дарыць каханай. Было ў ёй шмат свежых, але вельмі далёкіх адно ад другога слоў, нявыказаных пачуццяў, запальчывых наскокаў, неаформленых думак, гучных слоў. Першы радок першага верша, якім адкрываўся зборнік, гучаў так:

Ад пажару аблокі, як сцены,
крышыліся.

Калі б гаворка ішла пра сімвалічны ваенны пажар — гэта яшчэ зразумець можна, але ў вершы («Балада пра бусло») расказвалася пра тое, як гарыць вясковая хата, і якім чынам пры гэтым маглі крышыцца воблакі — невядома. Далей у тым жа вершы аўтар, які нарадзіўся ў 1943 годзе, піша: «Мы жылі ў зямлянках, мы ў бога не верылі, мы насілі кашулі навырост», і зноў жа незразумела: калі гаворка ідзе пра чатырохпяцігадовае дзіця, дык пры чым тут нявер'е ці вера ў бога? Сказана так, для прыгожага слоўца.

Падобных прыкладаў можна было б прывесці шмат, і для раўнавагі можна было б знайсці добрыя радкі і строфы, якія сведчаць пра несумненныя паэтычныя здольнасці маладога аўтара, але справа не ў гэтым: у вершы «Зямля — магніт» адчувалася, што М. Федзюковіч яшчэ слаба валодае словам, і адсюль ідзе хісткасць яго паэтычных пабудоў.

І вось — «Мілавіца», слаўная назва для кнігі вершаў. Зацікаўлены чытач адразу сам сабе адзначыць: тры гады дарэмна не прайшлі для паэта. Калі меркаваць па тым, што адразу кідаецца ў вочы — па фармальным удасканаленні,— то тут можна толькі парадавацца: верш у Федзюковіча набыў выразныя, ясныя контуры, афарміўся, узмужнеў. Замест паэтычнай расплыўчатасці і невыразнасці слова паявілася разумная, лагічная думка, хоць у асобных выпадках сэнс яшчэ патрабуе прасвятлення («Балада пра агонь», «Дзве зары»); усё радзей звяртаецца паэт за эфемернай дапамогай да славутай «лесвічкі», якая, скажам шчыра, вершам многіх маладых паэтаў проста не патрэбна. М. Федзюковіч на сваім вопыце пераканаўся ў тым, што для яго простыя, скажам, ямб —

Цяпер напеў адзін злучае
І сум і радасць. Час бяжыць...
Так, час бяжыць... Бывай! Чакаю...
Чакаю — значыць буду жыць.—

больш арганічны, чым розныя расхістаныя памеры, і, магчыма, першай перамогай паэта над сабой з'яўляецца адмаўленне ад абавязковага следавання за модай.

Якое ж, паставім цяпер пытанне, напаўненне вершаў?

Адгорнем вокладку кнігі і будзем чытаць верш за вершам. Першы верш — «Світанне на Волзе». Прашу чытача паверыць без цытавання, што нічога новага ён не ўносіць у Ленініяну і нічога не запісвае ў актыў самога паэта, таму што складаецца з адных агульных слоў.

І ў вершы «Сэрца Рыхарда Зорге» няма нічога такога, чаго б чытач не ведаў. Адносіны самога паэта да подзвігу легендарнага разведчыка ўкладваюцца ў рамкі той думкі, што паэту трэба было б узяць яго сабе за ўзор.

Далей—«Калісьці тут, на хутары, буяў гарод». Цяпер гарода няма, і паэт адчувае віну перад ім. Вельмі модная, але зусім не новая пастаноўка пытання, у вырашэнне якога паэт не ўнёс сваёй асабістай навізны.

У «Баладзе пра агонь» рэальны змест сімвала «агонь» схаваны так глыбока, што чытач, які ўвогуле разумее задуму паэта, не ведае, што ж менавіта ён мае на ўвазе, калі гаворыць пра злы лёс пасаджанага ў нейкае падзямелле агню,

якi i там прадаўжае заставацца агнём, а потым, у выніку шчаслівага збегу абставін, запальвае падобныя да сябе агні ў вачах шматлюднага лірычнага героя і тым выклікае нейкі выбух:

...і мы
пайшлі адкрыта
на прарыў зімы,
каменні выбухалі,
як гранаты,
і вось прыціх
і быццам бы заглох
суладны хор гарластых супастатаў,
што балявалі на плячах эпох.

Гэты верш нельга назваць алегорыяй, бо ў алегорыі прадмет разважанняў хоць і не называецца, але ўсім зразумела, пра што ідзе гаворка. Тут жа мы нават прыблізна не ўяўляем, пра што ідзе гаворка, і таму не можам падзяліць ні паэтаву нянавісць, ні любоў.

«Жывыя цені» — гэта верш пра ахвяры Хатыні. Цяпер гэта вечная для беларускай паэзіі тэма. Хатыніяна, як можна яе назваць, будзе папаўняцца ўсё новымі і новымі творамі. Фактычны матэрыял, праўда, можна лічыць вычарпаным, але паэзія будзе выказваць пачуцці, якія нараджаюцца ў душы, а яны не могуць не быць пачуццямі смутку і гневу. На жаль, М. Федзюковіч не знайшоў у сваім вершы слоў, якія належалі б яму асабіста, ён паўтарыў многіх і многіх: у свядомасці лірычнага героя жывуць цені тых, хто загінуў, яны просяць адпомсціць. Што паэт думае і адчувае так—гэтаму верыш. Але хіба хто-небудзь думае інакш?

«Франтавікі». За кухлем піва сустрэліся былыя франтавікі. Даецца іх славесны партрэт:

За кухлем пеніста-іскрыстым
і машыніст, і качагар
сядзяць, нібы парашутысты
ў чаканні новага скачка.

Вось тут і выяўляецца нерэальнасць рэальнага: хіба ў тых, хто сядзіць за кухлем піва, настрой і душэўны стан такія, якія бываюць у парашутыста перад скачком? Зразумела думка, якую хоча падкрэсліць паэт,— франтавікі гатовы да новых выпрабаванняў, але ад таго, як гэтая думка выказана, аддае псіхалагічнай няпраўдай. Пра рыфму «качагар — скачка» я ўжо не кажу.

У вершы «Да брата Славіка» расказваецца пра цяжкае пасляваеннае дзяцінства. Яго недахоп толькі ў тым, што ён паўтарае сказанае многімі іншымі паэтамі, крыху старэйшымі за Федзюковіча. Акрамя таго, дзіўна чытаць вось такое:

Я вінаваты, вінаваты,
што два гады ад роду меў,
што не было ў нас цёплай хаты,
што ўмелі гаварыць гарматы,
а я, бязбацькавіч, не ўмеў...

Я вінаваты, што матуля
так рана пачала сівець,
калі фашысцкай масці (?) куля
ёй засланіла (?) белы свет.

Калі хочаце, у містычным плане гэта нават правільна, ва ўсякім разе пачуццё віны ўласціва паэту; але калі глядзець на сказанае з рэальнага пункту погляду, то ў паэта няма ніякіх падстаў вінаваціць сябе ў тым, што адбывалася ў свеце, калі яму было два гады. Што ж да апошніх двух радкоў, то думка ў іх выказана вельмі неахайна і нязграбна.

У пісьме з горада Н. паэт сілаю ўяўлення пераносіцца ў нейкі фантастычны горад, «сталіцу сноў мажорных». Мы настройваемся на незвычайнае: дзе гэты горад, які ён? Але паэт нам нічога не гаворыць, акрамя агульных слоў:

Усе жывуць тут мірна і суладна —
ні лаянкі,
ні здрады —
анічога...
Нібыта на якой другой планеце.

«Мілавіца» — зноў выдумка, якая стала ўжо агульным месцам у паэзіі: ляцім у заралёце, але сваімі думкамі, пачуццямі, сімпатыямі — на Зямлі, мілай і абжытай. На жаль, не М. Федзюковічу пашанцавала выказаць гэтую думку першаму.

На гэтым спынімся і зробім некаторыя вывады. Як відаць з усяго сказанага, у аснове большасці вершаў М. Федзюковіча ляжыць вымысел. Ён, вядома, навеяны рэчаіснасцю, адштурхоўваецца ад яе, але, адштурхнуўшыся ад зямлі, паэт лунае над ёю, і сапраўднай карціны жыцця пры такім палёце, вядома, не атрымоўваецца.

Яшчэ раз прашу чытача паверыць: я не ставіў сваёй мэтай напісаць «разгромную» рэцэнзію на другую кнігу маладога паэта. «Граміць»—справа ў такой ступені лёгкая, у якой і малапачэсная. Куды важней другое: паспрабаваць высветліць, чаму несумненны талент рэалізуецца вельмі павольна, чаму пры добрым уменні пісаць атрымоўваецца так мала добрых вершаў і чаму наогул маладыя паэты неахвотна пішуць рэалістычныя вершы.

Прычына, мне здаецца, тут у тым, што ў многіх маладых паэтаў, і ў тым ліку ў М. Федзюковіча, няма нейкай пэўнай жыццёвай праграмы, сваіх адносінаў да жыцця, няма нечага такога,— не ў паэзіі, а ў самім жыцці,— што было б асяродкам іх чалавечых, а не толькі паэтычных інтарэсаў, што нараджала б альбо велізарную любоў, альбо велізарную нянавісць і што хацелася б абараніць або знішчыць нават цаною свайго жыцця. Якім бы талентам ні валодаў паэт, навучыўшыся рыфмаваць, ён павінен выпрацаваць этычныя адносіны да рэчаіснасці, маральна яе асэнсаваць, і толькі тады ў яго паявяцца зачаткі эстэтычнай праграмы. Без ясна і страсна выражаных адносін да надзённых праблем жыцця ўдала пабудаваны радок і страфа — яшчэ не паэзія, бо яны не валодаюць эстэтычнымі вартасцямі і не ўздзейнічаюць на псіхалогію чытача.

У творчасці М. Федзюковіча гэта праяўляецца, на мой погляд, наступным чынам: няма болей бязмежнай паводкі слоў, яна ўвайшла ў рэчышча, набыла пэўнасць, як плынь, але, з другога боку, плынь гэтая яшчэ не сустракаецца з «плацінамі» жыццёвых праблем і ў значнай меры працуе ўхаластую.

Але калі ў гэтым, галоўным М. Федзюковіч нагадвае многіх сваіх аднагодкаў у паэзіі, то ёсць адна галіна чалавечых адносін, дзе ён мацнейшы за іх. Гэта яго любоўная лірыка. Паэт поўны ёю, і ўсе стадыі развіцця найтанчэйшага пачуцця — да самай вышэйшай,— усю трапяткую дыялектыку кахання ён паказвае дакладна і праўдзіва. Нельга пры гэтым сказаць, што паэт карыстаецца нейкімі асаблівымі словамі, якіх няма ў іншых паэтаў, але ў яго вершах пра каханне ёсць адна няўлоўная якасць: ім верыш, у іх угадваюцца сапраўдныя страсці, якія поўняць душу маладога лірычнага героя. У гэтым, па сутнасці, заключаецца вечная загадка паэзіі: тым жа словам, часта нават пастаўленым у тым жа парадку, у адным выпадку — верыш, у другім—не. Відаць, у першым выпадку радкі прасякнуты праўдаю перажывання, іх насычае эмоцыя, тады як у другім —закранаецца толькі думка.

М. Федзюковіч адкрыты і смелы ў любоўнай лірыцы, хоць нідзе не пераступае пачуцця меры.

І плач,
і вокліч акрылёны,
і блаславенне,
і праклёны,
ва ўсім —
нізрынуты кантраст.

(гэта словазлучэнне — далёка не самае патрэбнае)

Саюз вады і першых промняў,
і далячынь —
я так запомніў
той міг,
што ўвекавечыў нас.
(«Імгненне»)

Лірычная, любоўная тэма моцна адчувалася і ў першым зборніку М. Федзюковіча, так што можна гаварыць пра пэўную накіраванасць яго паэтычнага таленту. У апошні час талент такога характару сустракаецца рэдка, а гэта выклікае да жыцця творчасць асадаўскага напрамку, якая моцна дзейнічае на падлеткаў, але паэзіі супрацьпаказана.

М. Федзюковіч абяцае быць і нядрэнным пейзажыстам. У кнізе ёсць некалькі вершаў, дзе пяро аб'ядноўваецца з пэндзлем і нараджаюцца мяккія, зрокавыя карціны прыроды. Вось «Дзень лета».

І вось яна, чаканая пара,—
натхнення патаемная часіна:
ліст ясеня трапеча ў небе сінім
і падае ў ваду сярод двара;
мой ціхі цень у лужыне дрыжыць,
шчабеча засяроджанае птаства...

У вершы «Магніт зямлі» пейзаж зліты ў адно цэлае з настроем і душэўным станам героя, які мае перавагу над «чыстым» неачалавечаным пейзажам. Верш, на маю думку, не прадуманы да канца, рыхлаваты, асабісты пачатак у ім пад канец раствараецца ва ўсеагульным, але пры ўсім тым тут дадзена цэласная карціна лета:

Ах, травень — ліпень!
Пяты дзень на стозе,
як на Парнасе,
з віламі стаю...
На досвітку
расплюшчу вочы ледзьве:
убачу дзве далоні,
а на іх —
лясной малінай
палымнее лета,
грымлівае,
маланкавае лета —
пара надзей
і клопатаў маіх.

Нядрэнна зроблена і «Мелодыя зімы», калі вызваліць рэчавую «фактуру» зімовага пейзажу ад супастаўлення яго з аркушам чыстай паперы, на якім зараз з'яўляцца вершаваныя радкі — зноў пра творчасць, гэта надакучае,— то атрымаецца добра адчувальны, з халадком марозіку, пейзаж:

Вастрэе зрок,
гучнее крок,
калі сціхае
цыркат вераб'іны.
І паступова наплывае змрок
на белы аркуш
снегавой раўніны...
Вось лініі напружаных радкоў
у ранішняй прасторы павісаюць,—
як струны тэлеграфных правадоў,
звіняць высока
ўсцяж дарогі саннай.

Па праўдзе кажучы, названых вершаў было б зусім дастаткова для так званай «станоўчай» рэцэнзіі. Але выстаўленне адзнак вершам па пяцібальнай сістэме — не самая важная задача рэцэнзента. Куды важней у меру свайго разумення жыцця і паэзіі вызначыць у кнізе «працэнт жыццёвасці», і калі ён невысокі — пасеяць у свядомасці паэта думку пра неабходнасць глыбокага вывучэння, засваення і пераадолення непадатлівага, але такога прываблівага матэрыялу, якім поўны свет, што акружае нас.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**




**Дзмітры БУГАЁЎ. ШМАТГРАННАСЦЬ.**
**Літаратурна-крытычныя артыкулы і рэцэнзіі.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.**

# ДАСЛЕДУЮЦЦА ПОШУКІ СТЫЛЮ

Шматграннасць. Гэта як бы наддарожная зорка, што свеціць нязгасна кожнаму мастаку слова, кіруючы яго на найбольш поўнае, усебаковае адлюстраванне ўбачанага, пачутага, перажытага. І крытыку, які ахоплены не менш важным імкненнем убачыць праўду жыцця з усіх бакоў яе выяўлення словам.

Назваўшы кнігу літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій такім ёмістым словам «Шматграннасць», адзін з самых актыўных крытыкаў Дзмітры Бугаёў скіраваў свой пафас на раскрыццё эстэтычнага дыяпазону беларускай літаратуры нашых дзён. Жанрава-тэматычнае і стылёвае багацце творчых здабыткаў пісьменнікаў самых розных пакаленняў і складае змест кнігі.

Не ўсё ўдалося крытыку. Шкада, што побач з грунтоўным даследаваннем лірычных апавяданняў Янкі Брыля і цыкла аповесцяў Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце», высвятленнем прычын папулярнасці твораў Васіля Быкава аб Вялікай Айчыннай вайне і імкненнем разабрацца ў сапраўдных вартасцях аповесці Барыса Сачанкі «Апошнія і першыя» ды вызначыць характэрнае ў творчасці Міхася Стральцова ўключаны ў кнігу і звычайныя пераказы твораў Барыса Мікуліча, Васіля Каваля, Міколы Лобана... Шматграннасць зместу і формы твораў, што трапілі ў поле зроку крытыка, вымагалі ад яго большай патрабавальнасці да невычэрпных магчымасцяў крытычных жанраў. Аднак жа зборнік Д. Бугаёва, хоць у ім ёсць і недахопы, і агрэхі, цешыць. Цешыць перш за ўсё тым, што на яго старонках — жывая думка, жывое гарэнне, рэальныя здабыткі, галоўным чынам, апошніх гадоў, сённяшнія праблемы.

Скіраванасць агульных пошукаў крытыка, інтанацыя, у якой ідзе размова, увесь пафас кнігі вызначаюцца ўзятымі за эпіграф словамі ўкраінскага паэта Віталя Кароціча: «Трэба жыць у літаратуры, верачы ў тое, што заўтра яна будзе чысцейшая і разумнейшая за сённяшнюю. Інакш не варта было б пісаць».

І сапраўды, калі чытаеш рэцэнзію «Пятро Шапятовіч і яго аднагодкі», у якой увогуле становўча ацэньваецца кніга Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце», адчуваеш клопат крытыка пра заўтрашні дзень нашай літаратуры. Аўтар рэцэнзіі палемізуе з тымі, хто папракае І. Шамякіна за аўтабіяграфізм, і на пераканаўчых прыкладах даводзіць, што іменна гэтая здаровая аснова аповесцяў — уласна перажытае — дае «тую дакладнасць псіхалагічных характарыстык, якая складае адну з самых моцных якасцяў кнігі (калі мець на ўвазе першую і трэцюю аповесці) і робіць яе герояў жывымі людзьмі».

Кінутае як бы мімаходзь, у дужках — «калі мець на ўвазе першую і трэцюю аповесці», сведчыць пра імкненне аўтара да прынцыповай гаворкі. Д. Бугаёў з усіх пяці аповесцяў, якія складаюць кнігу, вылучае дзве — «Непаўторную вясну» і «Агонь і снег». Першая аповесць адметная натуральнасцю ў развіцці характараў галоўных герояў, тонкай паэтычнасцю і «траха не коласаўскай дакладнасцю і бляскам». Аповесць жа «Агонь і снег» крытыкам вылучаецца сярод астатніх за тое, што пісьменнік «мужна піша праўду, якой бы жахлівай і непрыемнай яна ні была». Выкрыццё пісьменнікам прыстасаванца, кар'ерыста Кідалы расцэньваецца крытыкам як адкрыццё ў беларускай мастацкай прозе аб Вялікай Айчыннай вайне чалавечага тыпа, выхапленага з жыцця і паказанага «ва ўсёй сваёй злавеснай непрыгляднасці». Аповесць «Агонь і снег» каштоўная тым, што ў ёй пісьменніку «ўдалося вельмі добра паказаць, як савецкія людзі пераадольвалі свае слабасці, мабілізоўвалі ўсе душэўныя сілы на барацьбу з фашызмам». Адсюль, як заключае крытык, і ўнутраная дынаміка сюжэта, і рух характараў большасці герояў.

Разглядаючы кнігу аповесцяў у адзінстве зместу і формы, крытык слушна папракае І. Шамякіна за тое, што яго майстэрскае ўменне весці напружаны сюжэт часта ў аповесці «Пошукі сустрэчы» становіцца сваёй процілегласцю, «калі не характары герояў даследуюцца пры дапамозе драматычнага сюжэта, а сам сюжэт фактычна становіцца галоўным для пісьменніка, падпарадкоўвае сабе ўсё ў творы і таму перастае быць сродкам раскрыцця характараў дзеючых асоб». Д. Бугаёва цяжка абвінаваціць у апалагетызацыі. Ён не баіцца сказаць аўтару праўду ў вочы, не зважаючы на тое, слухае гэтую праўду пісьменнік ці не. Для крытыка галоўнае — навучыць чытача адрозніваць добрае ад благога. Шкада, што, закрануўшы аповесць «Мост», вельмі прынцыповую ў агульным цыкле «Трывожнае шчасце», крытык так і не выявіў сваіх адносін да яе. Нават пакінуў адкрытым пытанне пра мастацкую завершанасць усёй кнігі, выказаўшы спадзяванне, «што аўтар яшчэ працягне хвалюючае апавяданне пра Пятра Шапятовіча і яго сяброў».

Больш паслядоўна Д. Бугаёў выглядае ў рэцэнзіі «Яшчэ адзін рахунак фашызму і вайне». Даючы ўвогуле высокую ацэнку аповесці Барыса Сачанкі «Апошнія і першыя», назваўшы яе «адным з лепшых твораў пісьменніка», крытык не абмінае тых яе недахопаў, якія становяцца ў апошні час наогул характэрнымі для пісьменніка. Гэта — саступанне на шлях стылізацыі, празмернай літаратурнасці, умоўнасці, што зніжаюць жывое гучанне твора, яго мастацкую пераканаўчасць. Свой закід крытык аргументуе аналізам Сачанкавага ўмення «даволі тонка і трапна перадаваць самыя складаныя рухі дзіцячай душы», якое парушаецца часам залішне глыбакадумнымі развагамі хлопчыка, іх філасофскай прэтэнцыёзнасцю, стылізаванымі кленічамі, урачыстай танальнасцю выказванняў. Разам з тым Д. Бугаёў заўважае і тое новае, што было не вядома раней у Сачанку як пісьменніку-аналітыку, прыхільніку бесстаронняй манеры апавядання, — зварот да адкрыта пачуццёвай, узвышанай прозы. Заўважае, каб зрабіць абагульненне: «яркія і квяцістыя эмацыянальныя пасажы алегарычных уставак, стылізаваных пад узвышаны фальклорны лад, выглядаюць як новае слова пісьменніка, пашыраюць і ўзбагачаюць яго мастацкую палітру, робяць яе больш разнастайнай і шматграннай». Але, сказаўшы «а», трэба было гаварыць і далей — ці арганічна гэта для пісьменніка? Тым больш, што ў кнізе «Шматграннасць» Д. Бугаёў выявіў уменне выказваць адкрыта і бескампрамісна свае эстэтычныя погляды, жаданне суадносіць праўду жыцця з праўдай мастацтва, імкненне крытычна асэнсаваць назапашаны літаратурай і асобнымі аўтарамі творчы вопыт.

Артыкул «Шматфарбны паэтычны свет» прысвечаны даследаванню навелістычнага майстэрства Янкі Брыля, «для якога літаратурная справа з'яўляецца высокім служэннем свайму грамадзянскаму абавязку, свайму чалавечаму і пісьменніцкаму прызванню». Характэрства лірычнай прозы Брыля крытык прасочвае на этапных апавяданнях («Марыля», «Галя», «Маці», «Надпіс на зрубе», «Сцежка-дарожка», «Пад гоман вогнішча», «Глядзіце на траву», цыкл «Ты мой найлепшы друг» і інш.), імкнучыся чытаць іх «з глыбіні», ісці ад слова, якое ў Брыля асабліва высока вартае. «Янка Брыль умее пісаць да здзіўлення ярка, ёміста і так скандэнсавана, што адна кароткая фраза, адзін трапны штрых у яго часта замяняюць доўгае апісанне або цэлы малюнак»,— заўважае аўтар артыкула. І з гэтым вывадам пагаджаешся, бо ён падрыхтаваны ўдумлівым аналізам моўнага майстэрства пісьменніка.

Цікавыя назіранні крытыка над апавяданнямі Янкі Брыля, у якіх паказана жыццё партызанаў і насельніцтва на часова акупіраванай ворагам беларускай зямлі. «Брыль піша пра вайну,— заўважае Д. Бугаёў,— без позы, хадульнасці, натуральна і проста, але вельмі глыбока і праўдзіва паказвае подзвіг народа ў барацьбе з фашызмам». Апавяданне «Сцежка-дарожка» дае крытыку падставы зрабіць вывад пра тое, што Брылю ўдалося выявіць вялікую сілу чалавечага духу, якая была ў тым, што падчас акупацыі людзі «захоўвалі здольнасць радавацца чалавечай радасцю». Гэта вельмі важная асаблівасць народнай псіхалогіі «адзначана не адным Брылём, але і ім — таксама».

Калі суаднесці ідэйна-тэматычны змест твораў, што трапілі ў поле зроку крытыка, з назвай кнігі «Шматграннасць», дык адпаведнасці не атрымаецца. Д. Бугаёў часцей спыняе сваю ўвагу на пісьменніках, якія больш пішуць пра вайну, і на творах аб вайне. Гэта, безумоўна, звужае агульную карціну беларускай літаратуры на сучасным этапе яе развіцця. Праўда, у кнізе ёсць і рэцэнзіі пра творы на гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы (Б. Мікуліч, М. Лобан), аб жыцці паслякастрычніцкай беларускай вёскі (В. Каваль), аб трывогах і думах сучасніка (Г. Бураўкін). Аднак напісаны яны з менш адчувальнай зацікаўленасцю да прадмета гаворкі, што і робіць іх радавымі бібліяграфічнымі анатацыямі, дзе пераказ зместу, ідэйна-тэматычныя характарыстыкі вобразаў і звычайныя рэкамендацыі, што ў творы ўдалося, а што не, не дазваляюць гаварыць аб шматграннасці стылю і жанрава-выяўленчых магчымасцях крытыка.

Бібліяграфія — малодшая сястра крытыкі. Але гэта не азначае, што яна можа задавальняцца стандартнай газетнай аднастайнасцю. Крытыку, які ўмее цаніць логіку меркаванняў, глыбіню пранікнення ў задуму пісьменніка, валодае адчуваннем часу і эстэтычным густам, не варта было ў кнізе апускацца да ўзроўню рэкамендацыйнай бібліяграфіі. А калі такая рэкамендацыя і выйшла з-пад пяра

на старонкі перыёдыкі, можа, і трэба было гэтым абмежавацца.

Барыс Мікуліч — цікавая і маладаследаваная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры. І гэта накладвала на аўтара артыкула «Станаўленне мастака» асаблівую адказнасць як на першаадкрывальніка забытых ці напаўзабытых твораў, якія таму, што «з'яўляюцца ў поўным сэнсе помнікам сваёй эпохі», і даюць падставы для ідэйна-эстэтычнага аналізу. Але глыбінны разгляд падменен у артыкуле празмерным цытаваннем твораў і надта ж ужо агульнымі высновамі, для якіх у крытыка як бы і слоў не хапае. Ці не таму сустракаеш выразы-штампы, накшталт: «мастацкая тканіна радзее, становіцца сухаватай»(!), «нядрэнна ўвасоблена ў вобразе», «сустракаюцца нядрэнныя дэталі» і г. д.

Нават такі маштабны твор, як трылогія Міколы Лобана «Шэметы», не разварушвае крытыка на пошукі арыгінальнага падыходу пры рэцэнзаванні аднаго з раманаў трылогіі. Сацыяльныя тэндэнцыі і эстэтычныя вартасці рамана «На парозе будучыні» даюць магчымасць весці праблемную гаворку, а не абмяжоўвацца паўтарэннем поглядаў Лобана на прынцып гістарычнага рамана ці агульнымі характарыстыкамі галоўных і эпізадычных персанажаў твора ды заўвагамі пад заслону пра выяўленчыя магчымасці пісьменніка ў паказе вясковага і гарадскога жыцця. Дэкларацыйна, не падмацавана ніводным прыкладам выглядае вывад крытыка аб тым, што «больш агульна значыма, але затое і бядней, бясколерней пачынае гучаць фраза ў Лобана, калі ён ад вясковага побыту пераходзіць да апісання іншых жыццёвых сфер, якія ў самой нашай мове не маюць такой багатай і тонкай стылістычнай сістэмы, як сфера бытавая». Апрыёрны вывад цяжка ўзяць на веру, бо ён не адпавядае сапраўднасці. Мова наша даўно ўжо выйшла з пялёнак, з бытавой абмежаванасці і мае багатыя магчымасці для выразнага выяўлення самых шырокіх сфераў жыцця ў яго гістарычных і сённяшніх праявах.

Што гэта так, сведчыць рэцэнзія «Таленавітае і аднастайнае», дзе крытык, як бы забыўшыся на сваю ранейшую пазіцыю, адзначае ў кнізе апавяданняў Міхася Стральцова «Сена на асфальце» тыя якасці, якія сцвярджаюць неабмежаваныя стылёвыя магчымасці сучаснай беларускай мовы. Асабліва гэта прыкметна ў апавяданні «Свет Іванавіч, былы донжуан», дзе паказан чалавек гарадскога асяроддзя і не абы-які, а былы студэнт, былы рабочы і былы донжуан, або, як характарызуе яго крытык,— «па сутнасці, інтэлектуал без сапраўднай інтэлектуальнасці». Каб «вылепіць» такі вобраз словам, магчымасці апошняга павінны быць неабмежаваныя. Ды яны такія і ёсць. Бо, як зазначае Д. Бугаёў, у гэтым апавяданні прываблівае «і даверлівая інтанацыя сяброўскай гутаркі, што вызначае асноўны апавядальны тон твора, і трапнасць моўных характарыстык». І яшчэ: «Пісьменнік добра адчувае слова, яго выяўленча-пластычныя і эмацыянальныя магчымасці, звычайна з густам дакладна перадае пачуцці людзей».

Аўтар зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій, калі не зважаць на асобныя супярэчлівыя мясціны, паказаў стылёвую шматграннасць сучаснай беларускай прозы. Аналізуючы кнігу апавядальніка Міхася Стральцова «Сена на асфальце», крытык трымаецца пэўна вызначанай задачы — разабрацца ў асаблівасцях стылю пісьменніка. Ён заглыбляецца ў ідэйна-эстэтычныя вартасці кожнага з разгледжаных апавяданняў і прыходзіць да правільнай высновы пра індывідуальнасць таленту іх аўтара: «Амаль без фабулы, без апоры на колькінебудзь значны ланцуг падзей Міхась Стральцоў можа напісаць вельмі прыстойную і па-свойму змястоўную рэч, так дакладна перадае ён пераходы, адценні, нюансы пачуццяў і думак, тонкія рухі чалавечай душы». Тое самае — вызначэнне творчай індывідуальнасці — турбуе крытыка і пры разглядзе кнігі апавяданняў Івана Чыгрынава «Самы шчаслівы чалавек». І робіць ён гэта не толькі з абавязку даследчыка, а і дзеля таго, каб абараніць маладога празаіка ад неабгрунтаваных дакораў, нібыта ён прыхільнік тэорыі факта.

Пра Васіля Быкава і яго аповесці напісана шмат. Але Д. Бугаёў заўважае яшчэ і не заўважанае і па-свойму гаворыць пра ўжо адзначанае ў таленце пісьменніка. Крытык не аднойчы акцэнтуе ўвагу на тым, што В. Быкава менш за ўсё цікавіць «знешні» сюжэт, бо галоўнае для яго — пісаць бязлітасна, глыбока і ўдумліва «ўглядацца ў кожны душэўны рух сваіх герояў, нічога не ўтойваючы, нічога не прыхарошваючы». Аўтар артыкула прыходзіць да яшчэ глыбейшага абагульнення аб тым, «што адна шырыня ахопу падзей, якой бы важнай яна ні была, не можа замяніць паглыбленага адлюстравання псіхалогіі воіна, псіхалогіі самога подзвігу». Гэтая думка канкрэтызуецца крытыкам і пры разглядзе дылогіі Алеся Адамовіча «Партызаны», дзе асабісты вопыт пісьменніка памагае «аўтару паказаць сваіх герояў «знутры», праз глыбокае раскрыццё псіхалогіі... перш за ўсё радавых удзельнікаў падпольнага і партызанскага руху». Такое бескампраміснае адстойванне крытыкам сваіх пазіцый сведчыць пра імкненне да прынцыповай размовы, да высвятлення аб'ектыўнай ісціны, да вытлумачэння таго, як мастак узнаўляе ў творы вялікую праўду жыцця, як ён пры гэтым застаецца творча індывідуальнай асобай.



Крытэрыі якасці ў Д. Бугаёва даволі высокія, і там, дзе ён імі карыстаецца ў спалучэнні ідэйнага і эстэтычнага аналізу твора, вынікі цудоўныя. Тое, што ў новай кнізе крытык заняўся пошукамі пісьменнікам свайго стылю, адпаведнага тэме, выводзіць гэтую кнігу ў разрад тых, якія адносяцца да «рухомай эстэтыкі». Аўтар зборніка «Шматграннасць» яшчэ раз пацвердзіў, што метад сацыялістычнага рэалізму дае найшырэйшыя магчымасці стылёва-жанравага ўзбагачэння літаратуры.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**





**МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА МІНСКА-МАЛАДЗЕЧАНСКІХ ГАВОРАК.**

**Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1970.**

# З КРЫНІЦ ЖЫВАТВОРНЫХ

Не будучы філолагам-навукоўцам, не стану замахвацца на ўсебаковую і грунтоўную іх атэстацыю. Адно хочацца — падзяліцца радасцю, што трымаю іх сёння на сваім стале,— гэтыя сціплыя кніжачкі.

Карпатлівая і нястомная праца па збіранні скарбаў народных гаворак пачалася ў нас даўно. Аднак пэўны час была яна трывала занядбана, бо даследчыцкія сілы займелі тады пільную патрэбу — трактаваць адну неаспрэчную і заканадаўчую працу ў галіне мовазнаўства.

Дні тыя прайшлі. І, як вясною ластаўка за ластаўкай, пачалі з'яўляцца кнігі, якіх даўно чакалі і наша філалагічная навука, і наогул усе, каму не абыякавы шляхі развіцця і лёс роднага слова.

Дыялекталагічных выданняў набралася ўжо ладная сямейка. І ў ёй — «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак», праца найбольш блізкая аўтару гэтых радкоў па прычынах землякаскасці.

Падрыхтаваны слоўнік стараннямі кафедры беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Менавіта стараннямі, бо задача, якую ставілі перад сабою і збіральнікі, і ўкладальнікі, была не з лёгкіх — не паўтарацца, не чапаць таго лексічнага матэрыялу, што ўжо зафіксаваны, добра вядомы па іншых выданнях і навуковых крыніцах. Як заўважаецца ў прадмове, «тут змешчаны словы, якія адсутнічаюць у беларуска-рускім слоўніку». Выключэнне зроблена толькі для лексікі абласной і гутарковай, бо, зразумела, «Матэрыялы...» без такога «паўтарэння» былі б свядома збеднены.

І ўсё ж — не паўтарацца! А гэта значыць — не толькі фіксаваць, але і мэтанакіравана адкрываць. Дыялекталагічныя пошукі павінны рабіцца з пэўнай перспектывай. Сапраўды, хіба не ўзбагачэнне мовы, не яе будучыня — запаветная мэта ўсіх навукова-філалагічных захадаў і старанняў?

У гэтым сэнсе ў аўтараў слоўніка была цвёрда вызначаная і паслядоўная канцэпцыя. А стратэгія пошуку скіроўвалася ў двух напрамках. Адзін з іх вёў даследчыкаў да тых лексічных пластоў, што звязаны з адлюстраваннем з'яў, якія адышлі або адыходзяць з жыцця і побыту. Лішнім будзе даказваць неабходнасць беражлівага вывучэння гэтага слоўнага багацця: у ім — гісторыя нашай мовы, і тут усё па-гаспадарску павінна быць засведчана і ўладкавана. І ўсё ж асноўным для дыялектолага з'яўляецца, бадай, другі напрамак.

Карпатлівая занатоўка мясцовых гаворак, навуковае стаўленне да жывога моўнага працэсу, да кожнага слова — ці не тут магістральны шлях узбагачэння літаратурнай мовы, папаўнення яе лексічных пластоў. Спашлёмся хаця б на вельмі дагледжаны палетак — на бытавую лексіку. Аказваецца, і тут яшчэ мове нашага пісьменства не шкодзіць падвучыцца ў мовы вуснай, дыялектнай. Сапраўды, падзівіцеся, якія дыяменты ззяюць са старонак слоўніка...

Паспрабуем для пачатку выказаць адну просьбу. Па-руску яна прагучала б прыкладна так: «Покажите товар лицом». А па-беларуску? Акадэмічны перакладны слоўнік рэкамендуе звярнуцца да прадаўца з такімі словамі: «Пакажыце тавар лепшым бокам...» Ці не праўда — грувасцкая і штучная фраза. А вось у вёсцы Халмоўка Барысаўскага раёна гавораць: «На добрыцу гэта матэрыя вельмі ж прыгожая» (тут і далей напісанне даецца без перадачы арфаэпічных адценняў, пазначаных аўтарамі.— **В. З.**). «Добрыца», «На добрыцу» — лепш, здаецца, не скажаш. А «наизнанку»? Перакладны слоўнік абмяжоўваецца адным — «навыварат». Што ж, так яно і павінна быць, асабліва, калі гутарка ідзе аб вопратцы. Ад сябе дадам, што ў маёй вёсцы на Халопеншчыне ў такіх выпадках гавораць яшчэ: «нарубцы». А калі, скажам, маецца на ўвазе «изнанка» матэрыі? Руска-беларускі слоўнік перакладае: «выварат, спод, адваротны бок...» А зноў у той жа Холмаўцы ёсць яшчэ слоўца — «знайніца». Якому ж аддаць перавагу? Асабіста я выбраў бы апошняе.

Пералік падобных слоў карціць доўжыць і доўжыць. Паслухайце, як загамоняць розныя куткі цэнтральнай Беларусі,— што гэта за фарбы, што за музыка!

Вёска Мільчы Вілейскага раёна: прытачкам (урыўкамі) — «Прытачкам кросны выткала»; Савані Стаўбцоўскага раёна: нерадзь (дробныя ягады) — «Выбіраць надаела нерадзь гэту»; пачакальня (пакой для наведвальнікаў у бальніцы) — «Мяне не пусцілі, пасядзеў у пачакальні», упал (спякота) — «О-о-ха-ха! Які упал, жара, пёк, хай бог крые»; Дукора Пухавіцкага раёна: вылюдняць (стаць такім, як іншыя людзі) — «А цяпер, глядзі ты, вылюдняла»; Цялякава Узденскага раёна: злагада (згода) — «У злагадзе жылі»; шчодрая на таленты Мікалаеўшчына дае слова-вобраз: сінюк (малады шчупак) — «От на днях я сінюкоў злавіў, то з дваццаць было»; дабітны (настойлівы чалавек, які заўсёды дабіваецца свайго) — «У іхнім родзе ўсе дабітныя. Гэты дык да міністэрства дапяў, але свайго дабіўся»; Бобр Крупскага раёна: вырач (балота) — «Хутка ў нас на вырачы асушальныя работы пачнуцца».— Дарэчы, гэта наўздзіў багатае слова: вырач — месца, якога выракліся людзі. Магчыма, аўтарам так і трэба было б яго тлумачыць, бо па ўсім бачна, што «вырач» толькі ў дадзеным кантэксце раўназначна слову «балота». А ўвогуле ж можа быць вырач і ў іншых, зусім не багністых, месцах.

Пэўна б, і не мелася патрэбы запыняць увагу на гэтым выпадку, калі б ён быў адзіны. На жаль, аўтарскія тлумачэнні сэнсу слоў, не заўсёды дакладныя і пераканальныя, уступаюць у супярэчнасць з тэкставымі ілюстрацыямі. Для прыкладу: «няймаверны» тлумачыцца як «неспагадлівы», хоць у кантэксце зусім недвухсэнсава выступае этымалогія гэтага слова: «Якія вы **няймаверныя,** ён кажа, што хворы, а вы **не верыце** (падкрэслена мною— **В. З.**)». Ясна, што «няймаверны» — той, хто не мае веры, не верыць. У другім выпадку, пэўна ж, не «заліўны луг» (або не толькі «заліўны луг») разумеў пад словам «аржаўка» чалавек, калі гаварыў: «На аржаўцы вада стаіць ржавая такая»... Проста не змаглі аўтары адшукаць дакладнае тлумачэнне. А тут жа, уласна кажучы, усё ляжыць на паверхні: аржаўкі — мясціны, дзе ад балотнай руды ржа выступае...

Часам прыватная назва, утвораная паводле адной якой-небудзь прыкметы, пераносіцца аўтарамі на ўсё паняцце: слова «сціркі» пазначаецца як «карты», а ці ж трэба даводзіць, што сэнс яго намнога вузейшы («сціркі» — «сцёртыя карты»,— толькі і ўсяго): «Будзем у сціркі гуляць? Учора новыя купілі...» А то вось яшчэ слова з абсягамі вузейшымі робіцца раўназначным другому — значна шырэйшаму па сэнсе: «абходлы — дабраякасны(?)». Гаворка вядзецца пра насенне, і відавочна, што «абходлы» значыць «добры на ўсходжасць».

Незразумела, чаму яўным жарганізмам аўтары даюць «прапіску» — без асобага на тое тлумачэння ці спецыяльных паметак — у сям'і дыялектных слоў: абарваць (раздабыць), абфікляваць (абвесці вакол пальца), змазаць (украсці)...

І ўсё ж не будзем канчаць гэты водгук заўвагамі.

Добрая кніжка. І завяршаецца яна добра — раздзельчыкам з прыказак, прымавак і фразеалагічных спалучэнняў. Не дзеля цытавання, а проста каб яшчэ раз парадавацца — вось якая яна, наша мова! — дазвольце паўтарыць некаторыя: «Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны смяецца, дзе ў багатага дзяецца». «Баба і карова — шоферу страх». «Да чужога рота не зробіш вароты». «Рэдзька горка, але ядуць, замужам кепска, але йдуць». «Нялюбага не паложыш, а любага не падымеш...»

...Адзін за адным, як разведчыкі, выходзяць у свет зборнікі народнай лексікі. І хочацца ўбачыць за імі кагорту важкіх тамоў слоўніка жывой беларускай мовы.

**Васіль ЗУЁНАК.**



# ШКОЛА ЗЛАЧЫНЦАЎ

«Вайна не выпадковасць, не «грэх», як думаюць хрысціянскія папы..., а непазбежная ступень капіталізму, гэткая ж законная форма капіталістычнага жыцця, як і мір»,— пісаў У. І. Ленін у сваім артыкуле «Становішча і задачы сацыялістычнага Інтэрнацыянала».

Увесь ход гісторыі поўнасцю пацвердзіў і пацвярджае гэтыя ленінскія словы. За чвэрць стагоддзя, што мінула пасля другой сусветнай вайны, не было ніводнага года, каб якая-небудзь капіталістычная дзяржава не вяла агрэсіўнай вайны. Агрэсія ЗША ў Карэі... Васьмігадовая вайна Францыі супраць Алжыра. Цяпер у агні палае Індакітайскі паўвостраў, гарматныя стрэлы скаланаюць Блізкі Усход...

Міралюбівыя сілы свету павінны быць напагатове, няўхільна змагацца супраць імперыялізму, выкрываць агрэсараў. У авангардзе змагароў за мір ідзе сёння моладзь. Па закліку Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі юнакі і дзяўчаты згуртоўваюць свае шэрагі ў масавай, сусветнай кампаніі «Юнацтва абвінавачвае імперыялізм».

## ХТО КАМАНДУЕ, ХТО ПАДПАРАДКОЎВАЕЦЦА?

Буржуазная армія як зброя ажыццяўлення палітыкі пануючага класа патрабуе і класавага характару пабудовы. Асноўнымі праваднікамі палітыкі і ідэалогіі буржуазіі ў арміі з'яўляюцца афіцэры і генералы. Яны вярбуюцца са «сваёй» сацыяльнай базы, і «праца» іх добра аплачваецца.

Вяршыняй жа афіцэрскай кар'еры выхадца з рабочых і фермераў з'яўляецца чын капітана. Членам «падрыўных арганізацый» — г. зн. усім, чыя ідэалогія адрозніваецца ад афіцыйнай, буржуазнай, і нават іх сваякам, афіцэрскае званне наогул не можа прысвойвацца. Невыпадкова англійскі друк характарызуе афіцэраў і генералаў як «замкнёную касту з усталяванымі ўяўленнямі аб вышэйшым, дадзеным ад бога становішчы».

Асноўная маса арміі — радавыя і малодшыя камандзіры — вярбуецца з дзяцей служачых, рабочых, фермераў. Прафесійная армія камплектуецца ў асноўным «добраахвотнікамі» — платнымі наймітамі. Лічыцца, што, завербаваўшы людзей на працяглы тэрмін (у Англіі, напрыклад, ад 3 да 22 гадоў), лягчэй адарваць іх ад народа і пасля адпаведнай «апрацоўкі» — выкарыстоўваць у антынародных мэтах. Пры гэтым дачасна звольніцца са службы ашуканыя «добраахвотнікі» практычна не могуць, так як велічыня «выкупу» ад службы неймаверна высокая.

Што ж вымушае моладзь у капіталістычных краінах «добраахвотна» ісці ў армію?

Галоўная прычына, вядома,— няўпэўненасць у заўтрашнім дні, беспрацоўе. У ЗША яно ахоплівае 17 працэнтаў маладых людзей ва ўзросце да 20 гадоў. А служба ў арміі гарантуе пастаянны высокі заробак, які тым больш высокі, чым больш працяглы тэрмін вярбоўкі. Сваё ўздзеянне аказвае і рэклама «рамантыкі» ваеннай службы, магчымасцяў пабываць у розных краінах. І, нарэшце, спецыяльныя метады псіхалагічнай апрацоўкі. Як падкрэслівае часопіс «Армі куатэрлі», «армія павінна быць акружана арэолам добраўладкаванасці, павагі і важнасці выконваемай ёю ролі. Калі такі падыход падмацоўваецца адпаведнай рэкламаю грашовага ўтрымання, кватэрных умоў, прывабнасці ваеннай формы і падтрымкі грамадскасці, чалавек любога складу не зможа ўстаяць».

Усё большая непапулярнасць арміі,

выкліканая яе антынароднай накіраванасцю, змяншае плынь «добраахвотнікаў». Адпаведна ўсё большая колькасць салдатаў прыцягваецца да службы сілком.

Але праўда ўсё больш настойліва прабіваецца скрозь заслоны рэкламных праспектаў. Нездарма ж кіраўнік Чыкагскага цэнтра па наборы ў армію заявіў: «Ніхто не хоча ісці ў армію. Кожны робіць усё, каб пазбегнуць прызыву. Некаторыя з'яўляюцца... з юрыстамі, сваімі начальнікамі, заключаюць паспешлівыя шлюбы, каб не трапіць у армію, прыносяць фальшывыя медыцынскія даведкі ад урачоў».

Аднак для фарміравання найбольш адказных радоў войск—флоту, авіяцыі—«добраахвотнікаў» хапае. «Найбольш надзейныя» з іх—прычым толькі англасаксонскага паходжання—накіроўваюцца ў марскую пяхоту, гэты першы жандарскі эшалон арміі ЗША.

Значна больш складаная, чым камплектацыя арміі, з'яўляецца мэта—выхаваць з салдата вернага слугу капіталізму. Для яе дасягнення буржуазная дзяржава выкарыстоўвае велізарны вопыт вядзення класавай барацьбы і ўвесь арсенал сродкаў эканамічнага ўціску і ідэалагічнай апрацоўкі. Гісторыя пацвярджае, што імперыялістам у значнай меры гэта ўдаецца. Так, абдураная нямецкая моладзь была саўдзельнікам страшэнных злачынстваў фашызму супроць чалавецтва ў другой сусветнай вайне. Дзеці амерыканскіх інжынераў, рабочых, фермераў труцяць газамі насельніцтва, знішчаюць ядахімікатамі пасевы і ўсё жывое ў В'етнаме.

«Тэарэтычную базу» пад практыку падрыхтоўкі салдатаў да злачынстваў падводзіць амерыканскі філосаф Г. Меджад: «Трэба ўзяць у рукі моладзь да таго, як яна дасягнула інтэлектуальнай сталасці і здольнасці крытычна мысліць. Грамадства, якое не можа забяспечыць лаяльнасць моладзі, не здольнае выжыць». Англійскі часопіс «Армі куатэрлі» дадае: даармейская апрацоўка моладзі зводзіцца да таго, «каб лепш падрыхтаваць чалавечы матэрыял, каб з яго лепш было вылепіць сапраўдных салдатаў».

## АД КАЛЫСКІ ДА КАЗАРМЫ

Ідэалагічная апрацоўка будучых салдатаў пачынаецца змалку і ажыццяўляецца шляхам бесперапыннага ўздзеяння ў пажаданым кірунку на пачуцці, жаданні чалавека, яго мысленне і свядомасць, шляхам заахвочвання прыватнаўласніцкіх звычак і жывёльных інстынктаў. Пры гэтым прывіваецца рэакцыйная ідэалогія, буржуазныя ідэі, мараль, узор жыцця. Выхоўваецца дух індывідуалізму, бо афіцыйныя жыццёвыя ідэалы маюць на мэце галоўным чынам задавальненне ўласнага эгаізму і ўжо ва ўсіх выпадках не звязаны з інтарэсамі эксплуатуемых класаў. Паралельна выхоўваецца садызм.

Адно з першых слоў, з якімі сустракаецца дзіця ў жыцці,—грошы. Казка, тэлевізар, часопіс... Усё прасякнута духам долара, яго ўсемагутнасцю. Грошы атаясамліваюцца з дабром, прыгажосцю, усімі жыццёвымі дабротамі.

«Дзяўчаткі! Нашто толькі ўздыхаць аб рэчах, якія вам хочацца мець? Рабіце грошы самі! Гэта лёгка, хутка—і ўсяго толькі! Пасля школы, па суботах, вы можаце зрабіць 25, 50, 100 і больш долараў...»—гаворыць вытрымка з дзіцячага часопіса. Бацькі часта плацяць дзецям за прыбіранне кватэры, мыццё посуду. Дзеці бяруць плату са сваіх таварышаў за пазычаную рэч, скупляюць, перапрадаюць і... накапліваюць. Нават лічыць вучацца на цацачных доларах. На тэхнічнай выстаўцы пад тоўстым шклом экспанат: мільён долараў рознымі купюрамі.

Член гарадскога школьнага савета Нью-Йорка Допсі афіцыйна прапанаваў увесці ў школьныя праграмы элементарных школ гульню ў карты, якая, на яго думку, «больш садзейнічае развіццю кемлівасці, дзелавога духу і практычнай ініцыятывы, чым усе падручнікі арыфметыкі».

У Англіі на традыцыйных «кірмашах весялосці» сучасныя аўтаматы для азартных гульняў выцясняюць арэлі, каруселі і іншыя «нямодныя» атракцыёны. Існуюць аб'яднанні гульцоў ва ўніверсітэтах і нават у школах. У 6—9-х класах школ Заходняй Вірджыніі вучням прапануецца рашыць наступную задачу па арыфметыцы: «Як зрабіць грошы для падарожжа? Як наладзіць свае справы?» і г. д.

«Уменне рабіць грошы апраўдвае ўсё астатняе». «Грошы купляюць свабоду», «Кожны, хто гаворыць, што яго не цікавяць грошы,—бязглузды!»—такія тэмы школьных сачыненняў.

Каўбоі, рабункі, забойствы, секс, садызм. Такое начынне папулярных тэлеперадач, кінафільмаў, кніг. Доктар Далас Сміт, супрацоўнік сістэмы педагагічных перадач, пісаў: «...формула «малады чалавек і труп» найбольш тыповая для амерыканскіх тэлевізійных перадач».

Усё гэта робіцца не толькі з камерцыйных меркаванняў. Ухваленне культу сілы, даступнасць усяго для дужага, спрытнага, прадпрымальнага павінна, на думку буржуазных ідэолагаў, укараняць у свядомасць юных думку аб залежнасці асабістага дабрабыту не ад класавай прыналежнасці, сацыяльнага ладу, а ад асабістых якасцяў, умення валодаць зброяй. І яшчэ аб тым, што «выбраным»—усё дазволена...

А побач—свабодны продаж «з дастаўкай на дом» баявой зброі. У Заходнім Берліне кастэт каштуе менш ня шэсць марак, свінцовая пальчатка—1,5, пісталет з патронамі—30 марак, 395—кулямёт. У ЗША вінтоўка з аптычным прыцэлам (з такой, дарэчы, быў забіты прэзідэнт Кенэдзі) каштуе каля 20 долараў. У 43 з 50 штатаў для набыцця зброі не патрабуецца ніякага дазволу.

Пад прапаведзь індывідуалізму, як спосабу адцягнуць увагу чалавека ад актуальных грамадскіх праблем, падводзіцца адпаведная «тэарэтычная база». Вось «салідная формула» буржуазнага псіхааналітыка В. Штэнкеля: «Жаданне загінуць за справядлівую справу—ёсць адзнака чалавека нясталага; адзнака сталага чалавека—жаданне жыць дзеля сябе».

«Прамысловасць прамывання мазгоў» выдае сваю прадукцыю ўдзень і ўначы. «Спажыванне» яе ў школах абавязковае. Газета «Чыкага трыбюн» расказвае, як пачаліся заняткі па «Праграме вывучэння камунізма» ў няпоўнай сярэдняй школе горада Матун. Пасля званка з урока дзверы ў класе аказаліся на запоры. Голас у рэпрадуктары аб'явіў, што «Злучаныя Штаты Амерыкі акупаваны камуністычнымі войскамі», і загадаў школьнікам прайсці ў актавую залу, каб прысутнічаць «на пакаранні дырэктара школы і загадчыка вучэбнай часткай».

Ілюстрацыямі да падручніка па гэтай праграме служыць старая хата з іканастасам, якая выдаецца як тыповае сучаснае жыллё Расіі, дарэвалюцыйны Хітроў рынак—як «калгасны рынак у Маскве» і г. д.

У штаце Алабама ўсе вучні абавязаны насіць на шыі тугаплаўкі апазнавальны жэтон—ён дапаможа пасля нападу рускіх апазнаць труп... Як крыж на шыі веруючага павінен, на думку царквы, штохвілінна напамінаць пра бога, так жэтон—пра «дзікуноў-камуністаў».

Паўтораны на ўсе лады ілжывы тэзіс пра «камуністычную небяспеку» служыць не толькі рэкламай для гандляроў атамнымі сховішчамі, але і для ўнушэння думкі аб неабходнасці першымі напасці на сацыялістычныя краіны.

## ХЛОПЕЦ ПАВІНЕН СЛУХАЦЦА



«Салдатаў падмануць цяжэй, чым раўнівую жонку»,—заявіў генерал Уіпер, былы начальнік штаба войскаў ЗША. Праўда аб антыгуманных мэтах і задачах арміі пранікае ў салдацкае асяроддзе скрозь усе сеткі дэмагогіі пра «абарону свабоднага свету з надкласавай арміяй». Гэта аднак не збівае з панталыку «гаспадароў». «Пры адсутнасці ў войска канцэпцыі яе можа замяніць дысцыпліна»,—вучыў былы саветнік амерыканскага прэзідэнта Кісінгер.

Асновай дысцыпліны з'яўляецца муштра і боязь перад пакараннем, якое ў выніку класавай нянавісці афіцэраў і генералаў да салдатаў набывае ў імперыялістычных арміях характар здзекаў, прыніжэння чалавечай годнасці.

Вось амерыканская «практыка»: «Дык вось, сучыя дзеці, забудзьцеся з гэтае пары, што вы людзі. Вы—баязлівыя ўблюдкі... Вы сысункі! Ёлупы! Самыя смярдзючыя жывёліны ў свеце, д'яблавы вырадкі... Цяпер ваша душа належыць богу, а цела мне!»—гэта сяржант сустракае навабранцаў. («Баявы заклік» Л. Юрыса).

«У мэтах дысцыплінарнага ўздзеяння» некаторыя камандзіры прымушалі падначаленых падбіраць ежу з цэментавай падлогі»,—сведчыць часопіс «Аўр нэйві».

Армія ФРГ культывуе традыцыі гітлярызму. У 2-м вучэбным палку ВПС (г. Пінеберг) у канцылярыях вісяць плакаты: «Чалавек пачынаецца толькі з лейтэнанта». Адзін з такіх «чалавекаў»—лейтэнант Цышке, урываючыся ўначы ў казармы, абліваў салдатаў з пажарнага крана халоднай вадой, прымушаючы «скакаць жабамі» па лесвіцы. Камандзір 9-й роты гэтага ж палка ўначы кінуў у казарму дымавую шашку і даў чаргу з аўтамата халастымі патронамі. 20 салдатаў трапілі ў шпіталь...

Любімы здзек над матросамі ў ВМФ бундэсвера—«маскарад». Матросаў на працягу некалькіх гадзін запар прымушаюць на марозе апранацца і распранацца...

Паколькі грошы з'яўляюцца важнейшым стымулам ваеннай службы, штрафы таксама ўваходзяць у арсенал мер пакарання. Так, амерыканскі маёр можа пазбавіць салдата палавіны грашовага ўтрымання тэрмінам да 2-х месяцаў, а ў Англіі і ФРГ—усяго месячнага акладу.

Адносіны да салдатаў на гаўптвахтах і ў турмах вытанчана здзеклівыя. Іх б'юць, падоўгу трымаюць у настолькі малых казематах, дзе немагчыма нават сядзець. Па сведчанні часопіса міністэрства абароны ЗША «Армі,

нэйві, эйр форс джорнел», «ад самагубства ўзброеныя сілы штогод трацяць людзей больш, чым ад усіх хваробаў, уключаючы рак і сардэчныя захворванні».

Вядома, у дапамогу прамому фізічнаму ўціску асобы дзейнічае і апарат ідэалагічнага разлажэння. Гэтаму спрыяе маральны надлом, з якім прыходзіць хлопец у армію. У часе службы працягваецца вывучэнне курса «антыкамунізму». «Найбольш удалыя адказы ў духу халоднай вайны»,—па сведчанні «Армі таймс»,— ацэньваюцца не па пяцібальнай сістэме. Зусім не! Проста выдаецца пяці-дзесяцідоларавая прэмія...

І наогул, даармейская і армейская падрыхтоўка юнакоў адрозніваюцца вялікай «ашчаднасцю традыцый». Узяць хаця б кіно, кнігі. Вось рэклама рэкамендаванага ваенным міністэрствам ЗША кінафільма «Шчыт для забойства». «Гэта самы жахлівы, люты і непрыкрыта заганны фільм, які вы калі-небудзь бачылі. Калі вы будзеце глядзець яго, у вас валасы стануць дыбам на галаве ад жаху». А перадавы артыкул амерыканскага бюлетэня «Кіл» вучыць: «Чалавек — гэта забівальны арганізм. Ён павінен забіваць, каб захаваць сябе! Белы чалавек! Узнімі свой смяртэльны меч! Забівай сваіх ворагаў! Забівай! Забівай! Забівай!»

Як здорава гэта пераклікаецца з выдадзенай у ФРГ кнігай Рудэля «Насуперак усяму». «Вайна,— вучыць кніга,— цікавейшая з прыгод. Якая асалода разбураць і глядзець на руіны... Вайна — гэта свайго роду спорт: забіваць людзей трэба з веданнем справы і без усялякіх лішніх хваляванняў.

Вайна — гэта рамяство... І нечага пытацца аб яе прычынах, мэтах, канчатковым зыходзе...».

У ваенных падручніках пішуць: «Забойства ў часе вайны гэта чыста тэхнічная справа... праціўніка трэба разглядаць не як чалавека, а як простую мішэнь».

Ім падтакваюць філосафы: «поўнасцю можна зразумець салдата, калі пасля цяжкага бою ён адчувае, што можна распараджацца лёсам і ўласнасцю былога свайго ворага».

Сам амерыканскі епіскап Спелман, благаслаўляючы забойцаў у Паўднёвым В'етнаме, апранае салдацкую гімнасцёрку.

Ваенная псіхалогія — праз настаўленне ЗША А-360-81—дае рэкамендацыі афіцэру: «Калі вы скажаце салдату, што яму неабходна навучыцца страляць для таго, каб выйграць будучую бітву, ён застанецца безуважным. Але напомніце яму, што калі ён не зможа забіць варожага салдата, то той напэўна заб'е яго, і стралковая падрыхтоўка адразу набудзе для яго значэнне».

Пастаўлены на навуковую аснову садызм не толькі робіць з салдата паслухмяны аўтамат у руках пануючага класа, але прывучае да жорсткасці, робіць з яго забойцу-садыста.

«Аднойчы,— піша амерыканскі «добраахвотнік» з Паўднёвага В'етнама,— да нас прывезлі жывую партызанку, не ведаю дакладна, магчыма, яна была проста сялянка. Лейтэнант Брынг загадаў абмазаць яе цела свіным тлушчам, а затым на яе спусцілі аўчарку. Сабака рваў цела сваёй ахвяры, лілася кроў, дзяўчына жахліва крычала... Лейтэнант Брынг сам удзельнічаў у катаваннях, наносячы ахвяры ўдары нагамі і кінжалам. Гэтакім жа спосабам былі забіты яшчэ дзевяць жанчын. Многім з іх успаролі жываты».

Капіталізм, і асабліва яго міжнародны аплот у асобе ЗША, праводзіць сваю знешнюю і ўнутраную палітыку, апіраючыся на ўзброеныя сілы. Касцяком гэтых сіл з'яўляюцца афіцэры і генералы — выхадцы з пануючых класаў. Асноўная маса гэтых сіл — уведзеная ў зман і падкупленая моладзь, якая вымуштравана і выхавана на буржуазных ідэалах. Імперыялістычныя арміі ўзброены сучаснай зброяй і маюць вопыт яе выкарыстання не толькі на палігонах, але і ў баявых аперацыях супраць народаў Карэі, Конга, Анголы, В'етнама. Спецыяльныя метады апрацоўкі салдат робяць іх паслухмянай зброяй у руках манапалістычнага капіталу. Так, у дакладзе 180 амерыканскіх вучоных, якія працавалі над праблемай «псіхалагічнай рэакцыі чалавека на вайну», прыведзены цікавы прыклад: пастаяннае нагнятанне атмасферы вайны ў перыяд падрыхтоўкі да агрэсіі супраць Кубы прывяло да таго, што «асабовы склад гатоў быў рынуцца ў бой, толькі б пазбавіцца псіхічнага напружання».

Альфай і амегай падрыхтоўкі буржуазнай арміі з'яўляецца антыкамунізм. Капіталізм рыхтуецца да агрэсіўнага, бязлітаснага нападу на сацыялістычныя дзяржавы. Што стрымлівае яго? Толькі магутнасць узброеных сіл сацыялістычных дзяржаў. Толькі магутнасць СССР, адзінства савецкага народа, яго вернасць КПСС і гатоўнасць кожнага савецкага чалавека стаць на абарону заваёў Вялікага Кастрычніка.

**Мікалай ВАРАКСА.**



# КРОПЛЯ ВАДЫ

Вада патрэбна ўсім — людзям і жывёле, фабрыкам і заводам, электрастанцыям і цеплавозам, трактарам і аўтамабілям.

За суткі авечка спажывае 10—15 літраў вады, карова — 100—125 літраў. Трактару неабходна 150 літраў вады. А колькі яе «выпіваюць» штодзённа расліны! Нават для палiўкі кветнікаў і газонаў у садах і парках патрэбна да трох літраў вады на адзін квадратны метр.

У нашай краіне ўступілі ў строй тысячы фабрык, заводаў, камбінатаў. Эканамісты падлічылі, што прамысловыя прадпрыемствы «выпіваюць» за адну секунду... цэлую Волгу. І тут няма нічога дзіўнага. Для вытворчасці толькі адной тоны нікелю патрэбна 800—850 тон вады, адной тоны соды — 250—300 тон, адной тоны капрону — 5000 тон.

Расход вады на аднаго гарадскога жыхара складае ў суткі ад 20 да 60 літраў, прыкладна ў 3—4 разы больш, чым на сяле.

Колькасць людзей на зямным шары штогод павялічваецца прыкладна на 60 мільёнаў. Дэмографы лічаць, што ў 2000-м годзе насельніцтва Зямлі падвоіцца і перавысіць шэсць мільярдаў.

А запасы прэснай вады ў рэках і азёрах не павялічваюцца. У Нью-Йорку жыхарам часта напамінаюць па тэлебачанні і радыё: «Эканомце ваду!» Гэтыя ж словы напісаны на паштовых марках. А ёсць такія краіны, якім даводзіцца прывозіць прэсную ваду. Так, невялікая дзяржава на Аравійскім паўвостраве — Кувейт, багатая нафтаю, яшчэ нядаўна купляла за мяжою штогод звыш аднаго мільёна кубаметраў прэснай вады.

## АДЗІН ПРАЦЭНТ

Паверхня нашай планеты на 71 працэнт пакрыта вадою. Але з гэтых вялізных водных рэсурсаў толькі адзін працэнт — прэсная вада. Да таго ж частка яе схавана глыбока ў зямлі. Нядаўна нашы вучоныя знайшлі ў Сахары на глыбіні каля трох кіламетраў велізарнае возера крыштальна чыстай халоднай вады.

А ці ж атмасферныя ападкі: дождж, снег — не крыніца для павелічэння запасаў прэснай вады? На жаль, больш як 70 працэнтаў атмасферных ападкаў вельмі хутка выпараецца.

Вучоныя прапануюць зрабіць пастаўшчыком прэснай вады Сусветны акіян. Але як пазбавіцца ад соляў, раствораных у марской вадзе? Іх жа там столькі, што калі б іх здабыць і рассыпаць раўнамерна па ўсёй нашай планеце, утварыўся б пласт таўшчынёю ў дзвесце метраў.

...Яшчэ старажытнагрэчаскі філосаф і прыродазнаўца Арыстоцель заўважыў, што пры кіпенні ў закрытай пасудзіне пáра салёнай вады прэсная. Пераганяючы і кандэнсуючы пару марской вады, ён упершыню аддзяліў ад яе соль.

Гісторыя не захавала звестак, ці былі ў Арыстоцеля паслядоўнікі. Да самага XVIII стагоддзя ніхто не рабіў спробы апрэсніць марскую ваду ў вялікіх колькасцях. Разам з харчам на марскія судны бралі бочкі з прэснай вадою. У Расіі ўпершыню сталі апрасняць марскую ваду ў прамысловых маштабах шляхам перагонкі ў 80-х гадах XVIII стагоддзя. У 1781 годзе ў Краснаводску, на беразе Каспійскага мора, быў пабудаваны невялікі апрасняльнік для атрымання прэснай вады для воінскай часці, што размяшчалася непадалёк ад горада. На гэтай установцы атрымлівалі ў суткі 67 кубаметраў вады. Кожныя тры дні апрасняльнік спынялі для ачысткі ад накіпу, які тоўстым пластам пакрываў трубы выпарніка. Саскрабаючы жалезнымі скрабкамі пласты солі, рабочыя нярэдка псавалі трубы, і прыстасаванне надоўга выходзіла са строю. Таму камандзір воінскай часці даў загад карыстацца вадою па строгай норме. Салдатам і рабочым выдавалі вясною і летам па 12 літраў вады, восенню і зімою — па 7 літраў, афіцэрам і чыноўнікам — па 15 літраў, а коням і рабочай жывёле — па 50 літраў апрэсненай вады ў суткі. Быў наладжаны дакладны ўлік расходу вады: кожны спажывец меў шнуравую кнігу з пячаткаю, куды штодзень запісвалі колькасць выданай вады.

Прайшло больш за сто гадоў, перш чым з'явіліся больш дасканалыя апрасняльнікі. У 1899 годзе ў Баку была наладжана дзевяцікорпусная дыстыляцыйная ўстаноўка. На ёй атрымлівалі ў 20 разоў больш апрэсненай вады, чым на краснаводскай. Яна давала ваду прыморскім раёнам горада.

За апошнія гады ў розных краінах пабудаваны буйныя апрасняльныя ўстаноўкі, якія працуюць па тэрмакампрэсійным метадзе. У паўднёвых і ўсходніх за-

сушлівых раёнах нашай краіны, дзе шмат цяпла, карыстаюцца для абяссольвання вады сонечнымі ўстаноўкамі. У грунце выкопваюць вялікія басейны, дно і сцены якіх бетануюць і пакрываюць чорнай фарбаю. Салёная вада ў такіх басейнах награецца сонцам і выпараецца. Каб злавіць пару і скандэнсаваць яе, басейны закрываюць шклянымі дахамі ці поліэтыленавай плёнкаю. Па баках даху знутры зроблены нахіленыя жалабы. У жалабах і накопліваецца прэсная вада, якая сцякае ў рэзервуары.

Пры апрасненні салёнай вады можа аказаць дапамогу і мароз.

Заўважыўшы, што марскі лёд прэсны, людзі Поўначы з даўняга часу пачалі здабываць прэсную ваду вымарожваннем. Салёную ваду намывалі ў выглядзе лёдавых узгоркаў, потым лёд сколвалі і кавалкі яго клалі ў вялікія гліняныя пасудзіны ці драўляныя бочкі. У залежнасці ад патрэбы лёд растаплівалі і атрымлівалі прэсную ваду, прыгодную для піцця і гаспадарчых патрэб.

## НАДЗЕЙНЫ САЮЗНІК

Яшчэ ў XIX стагоддзі хімікі, вывучаючы розныя солі, заўважылі, што іх малекулы складаюцца з дзвюх часцінак. Адна з іх зараджана дадатна, другая — адмоўна. У 80-х гадах мінулага стагоддзя вядомы шведскі вучоны Свантэ Арэніус зрабіў новае адкрыццё: калі якую-небудзь соль растварыць у вадзе, яе малекулы распадаюцца на свае часцінкі — дадатныя і адмоўныя. Такія часцінкі назвалі іонамі.

Што ж будзе з імі, калі праз салёную ваду прапусціць электрычны ток? Дадатна зараджаныя іоны павінны прыцягвацца да адмоўна зараджанага электрода — катода, а адмоўна зараджаныя часцінкі — да дадатна зараджанага электрода, анода. Значыць, электрычны ток дапаможа вылавіць усе часцінкі солі з вады, і яна стане прэснай. Спосаб апраснення вады з дапамогаю электрычнасці называецца электрадыялізам.

Для гэтага бярэцца вялікая ванна, якая падзелена перагародкамі (мембранамі) на вялікую колькасць камер. Мембраны прапускаюць толькі катыоны ці толькі аніоны. Звычайна перагародкі ставяць у ванне так, каб лік ячэек быў няцотны. Праз некалькі мінут пасля ўключэння такой установкі можна заўважыць, што ў няцотных ячэйках будзе збірацца прэсная вада, а ў цотных — салёная. Адбываецца быццам бы перапампоўванне соляў з адных камер у другія. На такой установцы можна апрэсніць 15—20 тысяч літраў вады ў гадзіну. Але гэты спосаб можна прымяняць толькі для абяссольвання падземнай вады, у якой мала соляў. Апрасняць марскую ваду нявыгадна, бо трэба шмат электраэнергіі.

## МАЛЕКУЛЯРНАЕ «СІТА»

Зрэжце кветку. Пакладзіце яе на стол. Праз некаторы час кветка завяне. Гэта адбываецца таму, што праз абалонкі кветак выпараецца вада і змяншаецца аб'ём кветкавага соку. Але як толькі мы апусцім кветку ў ваду, яна зноў ажыве. Праз абалонкі кветак, якія ўяўляюць сабою перапонкі, лёгка пранікае вада, але не пранікаюць рэчывы, раствораныя ў клетачным соку. Такім чынам, абалонка кветкі — гэта своеасаблівая мембрана, праз якую адбываецца аднабаковая дыфузія вады. Гэта з'ява называецца осмасам. Калі вада пранікае ў клеткі раслін, яна стварае ў іх так званы асматычны ціск, які расцягвае клеткі і падтрымлівае іх у напружаным стане.

Калі наліць у ванну, падзеленую такой напаўпранікальнай мембранай, салёную і прэсную ваду, малекулы вады будуць праходзіць праз мембрану ў ячэйку з салёнай вадою. Як і ў раслінных клетках, ціск з боку прэснай вады на мембрану будзе вышэйшы, чым з боку салёнай. Калі ў ячэйкі ванны наліць акіянскую ваду і чыстую дыстыляваную, то асматычны ціск будзе роўны 24 атмасферам.

А што будзе, калі з боку салёнай вады штучна стварыць ціск, які шмат перавышае асматычны? Тады малекулы вады павінны пранікаць праз мембрану ў адваротным напрамку, г. зн. з салёнай вады. Канцэнтрацыя соляў у адной ячэйцы будзе павялічвацца, а ў другой пачне накоплівацца прэсная вада. Такі спосаб апраснення вады называюць «метадам адваротнага осмасу» ці ўльтрафільтрацыяй.

Мембрана ў апрасняльных устаноўках, якія працуюць па гэтым прынцыпе, робіцца з порыстага пластыку, і поры яе крыху большыя за малекулы вады, але меншыя за малекулы соляў. Атрымліваецца, што мембрана — як быццам бы малекулярнае «сіта», якое прапускае ваду, але адвейвае солі.

У ЗША будуюцца такія ўстаноўкі для патрэб сельскай гаспадаркі. Яны даюць пяць кубаметраў прэснай вады ў суткі. У нас апрасняльныя ўстаноўкі такога тыпу сканструяваны з мембранамі з ацэтыл-цэлюлознай плёнкі. Выпрабаванні паказалі, што яны лепш за ўсё затрымліваюць іоны кальцыю і сульфатныя іоны. Таму гэтыя ўстаноўкі карысней прымяняць для апраснення падземнай саланаватай вады, якой так багаты Туркменія, Заходні і Паўночны Казахстан, Прыбалтыка.

## СМАГУ НАТАЛЯЕ... АТАМ

У Дырэктывах XXIII з'езда КПСС было запісана: «Паскорыць стварэнне новага буйнога раёна нафтагазаздабываючай прамысловасці на паўвостраве Мангышлак».

Каб паспяхова выканаць заданне партыі і ўрада, трэба было перш за ўсё забяспечыць рабочых і жыхароў горада Шаўчэнка прэснай вадою. На паўвостраве ж, акружаным Каспійскім морам, няма вады.

Было вырашана праверыць на месцы розныя спосабы абяссольвання вады. На ўскраіне горада пабудавалі невялікую доследную апрасняльную станцыю. Доследы паказалі, што для мясцовых умоў больш за ўсё падыходзіць перагонка. Але ж соляў у каспійскай вадзе шмат — 16 грамаў на літр! Калі яе выпарваць у звычайнай апрасняльнай устаноўцы, сценкі труб і катлоў будуць пакрывацца такім тоўстым накіпам, што прыйдзецца раз у два тыдні спыняць устаноўку для ачысткі.

Як жа пазбавіцца накіпу? Зрабілі аналіз. Выявілася, што накіп складаецца пераважна з вуглякіслых соляў (карбанаты магнію і кальцыю). У марскую ваду сталі дадаваць крэйду (карбанат кальцыю). Пры выпарэнні вады карбанаты пачынаюць паступова выпадаць у асадак. Крупінкі крэйды ў марской вадзе становяцца цэнтрамі крышталізацыі, і карбанаты асядаюць ужо не на сценках, а на гэтых крупінках.

Пазней пабудавалі больш буйную апрасняльную ўстаноўку, якая давала гораду 12 тысяч кубаметраў прэснай вады ў суткі. Але горад хутка расце. У бліжэйшыя гады спатрэбіцца ў суткі ўжо не 10—20, а 50—60 тысяч кубаметраў, а потым і яшчэ больш. Таму было вырашана пабудаваць новую магутную апрасняльную ўстаноўку, якая будзе даваць у суткі 150 тысяч кубаметраў прэснай вады. Такой колькасці хопіць нават тады, калі насельніцтва горада вырасце да 100 тысяч чалавек. Але для апраснення такой колькасці вады спатрэбілася б больш дзесятка эшалонаў вуглю. На Мангышлаку яго няма, а прывозіць здалёк нявыгадна. На дапамогу прыйшлі магутныя сілы атама.

●

Праблема забеспячэння чалавецтва прэснай вадою — адна з самых хвалюючых праблем сучаснасці. На яе вырашэнне накіраваны сілы вучоных і інжынераў усяго свету.

Геній чалавека знішчыць здань сусветнай смагі.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# ПЯРЭСТАЯ СУМЕСЬ

## НЕЗДАРМА ЁН ШВЕЙЦАРАЦ

**Сярод швейцарскіх гадзіннікаў ёсць шмат унікальных. Нядаўна да іх дадаўся яшчэ адзін. Ш. Хеб сабраў гадзіннік з шасці старых веласіпедаў, двух крэслаў і кухоннага гаршка. Адхіленне ў ходзе гэтага «механічнага калаўрота» — мінута ў суткі!**



## ПАД УЗДЗЕЯННЕМ ХОЛАДУ

**Ці ведаеце вы, што зімой адлегласць паміж Масквой і Ленінградам на 300 метраў карацейшая, чым летам? Ва ўсякім выпадку, менавіта на столькі пад уздзеяннем холаду скарачаюцца чыгуначныя рэйкі, якія звязваюць гэтыя два гарады. А зімой Эйфелева вежа на 15 сантыметраў ніжэйшая, чым у гарачы летні дзень. Таксама з-за холаду.**

## САМЫ ДАСКАНАЛЫ СЕЙСМОГРАФ

**Вадзяны жук адчувае сваімі валаскамі на паверхні вады хвалі вышынёй у чатыры стомільённых долі міліметра.**

**У звычайнага коніка орган слыху размешчаны на... назе. Ён дазваляе коніку ўспрымаць вібрацыі, амплітуда якіх складае палову дыяметра атама вадароду!**



### КОЛЬКІ КАШТУЕ ШТУЧНЫ МОЗГ

**Англійскі вучоны Грэй Уолтэр даказвае, што на сучасным этапе практычна немагчыма пабудаваць штучны чалавечы мозг. Для мадэлявання ўсяго толькі адной клеткі галаўнога мозгу патрэбны кубічны сантыметр прасторы пры ўмове найбольш магчымай мініяцюрызацыі. А для дзесяці мільярдаў нервовых клетак трэба стварыць аб'ём у паўмільёна кубаметраў. Да таго ж кошт такога штучнага мозгу быў бы фантастычным. Нават калі лічыць, што цана адной клеткі ўсяго толькі шылінг, увесь мозг абыдзецца ў паўмільярда фунтаў стэрлінгаў. А калі яшчэ паспрабаваць аднавіць і нервовыя клеткі, то атрымаецца сума з адзінкі і 18 нулёў (у фунтах стэрлінгаў). Да таго ж трэба дадаць кошт энергіі ў мільён кілават, якая неабходна для функцыяніравання такога мозгу. (Для параўнання скажам, што звычайнаму чалавечаму мозгу дастаткова энергіі ў 25 ват). Выдаткі на пабудову такой мадэлі паглынулі б гадавы бюджэт усёй Англіі, і ўсё ж яна не была б такой дасканалай, як чалавечы мозг.**



### ЗУБЫ АКУЛЫ



**Нямала каштоўных прыбораў назаўсёды засталося на дне мора пасля таго, як акулы перакусвалі трасы, на якіх гэтыя прыборы апускаліся ў глыбіню. Як жа даведацца, якую трывалаць павінны мець гэтыя трасы.**

**Паставілі эксперымент. Дзесяць дзён марылі голадам марскую драпежніцу, а пасля падсунулі ёй на стальным тросе дынамометр, у якім паміж алюмініевым цыліндрам і сталёвымі абоймамі былі змешчаны шарыкі з нержавеючай сталі. Усё гэта прыстасаванне зацягвала пластмасавая абалонка, якая з'яўлялася штучнай прыманкай.**

**Марская драпежніца, не «раздумваючы», учапілася ў прапанаваны ёй «пачастунак». Калі змералі глыбіню ўмяцін, то выявілася, што ціск зубоў акулы перавысіў 2 тыс. атмасфер — 2.460 кг на адзін квадратны сантыметр!**

### МОДЫ 2000 ГОДА

**Парыжскія краўцы сцвярджаюць, што к канцу стагоддзя тканіны касцюмаў будуць заменены алюмініевымі сплавамі. Яны будуць такімі мяккімі, што не змогуць параніць скуру. Адзіная складанасць будучых касцюмаў — замок. Іх, відаць, давядзецца скідаць і надзяваць з дапамогай спецыяльных механікаў.**





# ГОНАР СЦЯГА

Лета—гарачая пара для савецкіх спартсменаў. У Маскве адбыліся фінальныя спаборніцтвы V Спартакіяды народаў СССР. Тысячы лепшых з лепшых—самых моцных, самых хуткіх, самых спрытных—выйшлі на старты, каб змагацца за званне чэмпіёнаў, за пуцёўкі ў Мюнхен на XX Алімпійскія гульні. Уся краіна сачыла за выступленнямі атлетаў.

Сённяшняя размова пра лепшых спартсменаў нашай рэспублікі:



Бяжыць Іван Буракоў.

### «ПАДДАЙ, ВАНЯ!»

Ён невысокі, моцна складзены. Непаслухмяная пасма выгаралых на сонцы валасоў звісае на лоб. Размаўляючы, ён імкнецца закінуць іх назад: то рукой, то рэзкім рухам галавы.

У Мінску Іван Буракоў аказаўся выпадкова. Чакаючы поезда на Жлобін, дзе ён жыве і працуе, рашыў зайсці ў магазіны сталіцы.

Мы размаўляем, і я лаўлю сябе на думцы, што перада мною зусім не той чалавек, якога прывык бачыць на бегавой дарожцы. Там, на стадыёне, ён яршысты, злосны. Злосны па-спартыўнаму. Тут—спакойны і нейкі флегматычны. Зусім незразумела, як гэты чалавек можа перамагаць на бегавой дарожцы. І не ў спрынце, дзе трэба, як кажуць спартсмены, «згарэць» за адзін дзесятак секунд, а на дыстанцыі мужных—5.000 і 10.000 метраў...

Але паглядзіце ў табліцу рэкордаў рэспублікі. І на адной, і на другой стаерскіх дыстанцыях яму, а не каму-небудзь іншаму, належаць рэкорды. Вось ужо некалькі гадоў запар сельскі майстар спорту ўваходзіць у лік лепшых атлетаў краіны. У мінулым годзе ён быў чацвёртым.

Захапленне лёгкай атлетыкай прыйшло да яго даўно. Яшчэ ў школьныя гады выкладчык фізкультуры сярод іншых спартсменаў, якім трэба было выступаць у спаборніцтвах па кросе, назваў і яго прозвішча. Ваня бег не вельмі добра. І калі да фінішу засталося зусім няшмат, сябры не вытрымалі і выгукнулі: «Паддай, Ваня!». Ён і цяпер не памятае, адкуль узяліся тады сілы. І хоць не першым быў на фінішы, а бег палюбіў. Бадай, з таго часу ён і камандуе сабе, выходзячы на старты: «Паддай, Ваня!». І гэты выклік-загад надае сілы і рашучасці для перамогі.

Гэты загад гучыць і тады, калі ён выходзіць на трэніроўкі ў сваім родным горадзе. Спачатку спакваля, а пасля ўсё хутчэй і хутчэй адмярае шматкіламетровыя адрэзкі. Вось ужо ўскраіна Жлобіна: пералескі, палі. Здараецца, забяжыць аж за два дзесяткі кіламетраў. А пасля—назад. Не адчувае ног. Быццам нейкая машына штурхае наперад.

Стаміўся. Хочацца махнуць рукой на гэтую нялёгкую лёгкую атлетыку. Але на другі дзень зноў і зноў усё паўтараецца спачатку.

Колькі прабег кіламетраў, удзельнічаючы ў спаборніцтвах і рыхтуючыся да іх, не злічыць. Відаць, ужо не адзін раз змераў адлегласць ад Брэста да Уладзівастока. Галоўная перамога, аб якой марыць атлет, да якой

імкнецца амаль дзесятак гадоў,—наперадзе.

## ХТО РАСЦЯГНЕ ЛУК?

Калі мінчаніну Уладзіміру Булатаву, у той час аднаму з мацнейшых у краіне і свеце скакуну з шастом, уручылі за мяжою ў якасці ўзнагароды лук і стрэлы, ён нават разгубіўся. Што з імі рабіць?

Падзякаваў тады далікатным гаспадарам, а падарунак запакаваў у чамадан. Прыехаўшы дадому, аддаў узнагароду спартсменам таварыства «Спартак».

— Магчыма, знойдуцца энтузіясты, якія змогуць расцягнуць гэтую штуку, — сказаў тады.

І доўгі час зброя нашых старажытных продкаў хадзіла па руках. Вядома, вялікага майстэрства ніхто не прыдбаў. Але захапіліся новым відам спорту многія. Ужо не адзін, а дзесяткі лукаў, тысячы стрэл было закуплена для мінчан. Акрамя «Спартака», секцыі лучнікаў з'явіліся ў таварыствах «Дынама», «Чырвоны сцяг» і іншых.

Менавіта ў час станаўлення новага віду спорту сярод спартакаўцаў з'явіўся каржакаваты навічок—Канстанцін Сарока. Будучы скульптар руплівей, чым іншыя, пачаў «абходжваць» лук. Стральба ж толькі на першы погляд здаецца простай: расцягваць ціцву і пасылаць стрэлы ў цэль. Але паспрабуй зрабіць усё сам. Са ста стрэлаў бадай што ні адзін не акажацца ў мішэні. Тут, як і ў любой справе, ёсць свае таямніцы, і разгадаць іх можа толькі настойлівы.

Сапраўды, слаба расцягнеш ціціву—недалёт, не прыцэлішся як след—страла паляціць далёка ўбок. Каб умела трапляць у «дзесяткі», трэба ведаць балістыку, без памылак вызначаць сілу і напрамак ветру, улічваць яго на агнявым рубяжы. Але і гэтага мала для дасягнення высокіх вынікаў. Патрэбны (і гэта, бадай, галоўнае) спрыт, цвёрдая рука і пільнае вока, вялікая сіла волі. Сіла волі—каб не здрадзіла табе ўпэўненасць, калі першыя стрэлы мінуць цэнтр мішэні, калі хочацца прапусціць чарговую трэніроўку...

Той з мінчан, хто бываў у парку імя Горкага, не мог не заўважыць упартую постаць Канстанціна Сарокі—беларускага Робіна Гуда. На краі футбольнага поля ставіў ён мішэнь, адыходзіў і адну за другой пасылаў стрэлы ў «яблычка». Дзесяткі, сотні разоў паўтараў адно і тое ж. Гэта было падобна ўжо на фанатызм. Зрэшты, сябры і называлі яго не інакш, як фанатык.



**Канстанцін Сарока на агнявым рубяжы.**

Слава не абышла скульптара. Ён некалькі гадоў запар станавіўся чэмпіёнам рэспублікі, першым у Беларусі выканаў нарматыў майстра спорту. Зараз яго рэкорды надзвычай высокія. Страляючы на дыстанцыю 30 метраў, ён выбіў 340 ачкоў з 360 магчымых.

Сярод мацнейшых лучнікаў—мінскі скульптар Канстанцін Сарока. На Спартакіядзе ў Маскве ён заняў чацвёртае месца.

## «ХІБА ДЗЯВОЧАЯ ГЭТА СПРАВА?!»

Сярод пералескаў і бароў згубілася беларуская вёска з паэтычнай назвай Завішына. Летам тут раздолле грыбнікам і ягаднікам. Зімой лепшага месца для лыжных прагулак і знайсці нельга. Але вучаніца мясцовай школы Рая Зямніцкая ўвесь вольны час імкнулася правесці... ля канюшні. І не было для яе большай радасці, чым тая, калі строгія конюхі дазвалялі з'ездзіць вярхом на выган, паглядзець коней. Тады яна была на сёмым небе.



Маці, яна працавала заатэхнікам у саўгасе, угаворвала дачку кінуць гэтыя забавы.

— Хіба дзявочая гэта справа!—даймала яна Раю.—Нават хлапчукі не вельмі цягнуцца да коней.

— Таму што баяцца, мама!—хутка знаходзіла адказ Рая. І ў чарнявых вачах яе ззялі іскрынкі: глядзі, якая я смелая!

Калі скончыла дзесяцігодку, «сямейны савет» парашыў адправіць Раю ў Мінск. Па-першае, ад дому недалёка, па-другое, ад коней далей. І неўзабаве ў дружным дзявочым калектыве гадзіннікавага завода з'явілася новенькая. Невысокая, з банцікамі ў косах. Ледзь пазнаёмілася з сяброўкамі, як пачала разведку—ці ёсць дзенебудзь конная спартыўная школа? Здзіўленыя кантралёры толькі паціскалі плячыма...

І ўсё ж знайшла Рая такую школу! Прачытала ў газеце, што ў Ратамцы будуць спаборніцтвы коннікаў,—і адразу туды. Пасля спаборніцтваў доўга ўгаворвала трэнераў, каб залічылі яе ў групу.

Пачаліся трэніроўкі.

Рая аказалася здатнай вучаніцай. Тое, на што другія затрачвалі месяцы, ёй давалася за тыдзень. У руках дзяўчыны самыя ўпартыя коні рабіліся лагоднымі. Дзе ласкай, дзе цукрам (вялікая частка зарплаты трацілася на гэта), дзе лейцамі прымушала рабіць каня ўсё, што хацела. У Ратамцы нават пасмейваюцца, успамінаючы, як яна вучыла прыгажуна Неапаля браць перашкоду. Расставіць невысокія бар'еры і разам з няспрытнай жывёлінай пераскаквае іх. Неапаль хутка зразумеў, што за ўсякі спрытны скачок ён атрымае цукерку. І скакаў. Потым атрымліваў ласунак.

Праз год вучобы Рая стала першаразрадніцай. Яе залічылі ў школу майстрам-наезнікам. Цяпер настаўніца, якой споўніўся толькі 21 год, сама вучыць дзяцей, як ездзіць на кані. Вядома, яна ўдзельнічае ў спаборніцтвах.

Год Спартакіяды камсамолка запамятае назаўсёды. Выступаючы ў матчавай сустрэчы мацнейшых коннікаў Беларусі і Літвы, Рая Зямніцкая ўпершыню выканала нарматыў майстра спорту і заняла трэцяе месца. За спінаю засталося амаль два дзесяткі коннікаў-мужчын, сярод іх—некалькі майстроў спорту.

## ЯК НАВУЧЫЦЬ КАП'Ё ЛЯТАЦЬ?

Гэта быў незвычайны выпадак. На матч мацнейшых лёгкаатлетычных дзяржаў свету СССР—ЗША быў заяўлены 20-гадовы першаразраднік Мікалай Грабнёў. Сярод кідальнікаў кап'я ў нас у краіне нямала добрых спартсменаў, майстроў. Але выбар выпаў іменна на яго. Юнак паспяхова справіўся са сваёй задачай, заняўшы трэцяе месца.

Віцябляніна Мікалая Грабнёва лёс не абдзяліў сілай. Аднагодкі зайздросцілі яму. Трэнер лёгкаатлетаў Віцебскага ветэрынарнага інстытута, у мінулым чэмпіёнка Беларусі па штурханні ядра Ганна Петрачэнкава, адразу звярнула на гэта ўвагу. Пачаліся будзённыя дні трэніровак, часам аж да «сёмага поту».

Нарматыў першага разраду Мікалай выканаў лёгка. Пасля некалькіх трэніровак ён кінуў на спаборніцтвах сваё кап'ё за адзнаку першага разраду. Яшчэ год заняткаў—і юнак у зборнай камандзе краіны.

Матч з заакіянскімі лёгкаатлетамі даў многае. Пільнае вока «навічка» пад увагу брала ўсё. Здаецца, кожны рух чэмпіёнаў запомніў. А вынік у 78 метраў, які б даваў права на прысваенне звання майстра спорту, яшчэ не здолеў паказаць.

— Нічога, Коля, свайго мы даб'ёмся,—суцяшала трэнер.—Цяпер галоўнае—праца, праца і яшчэ раз праца. У спорце часта здараецца, што лепшы вынік прыходзіць не тады, калі яго чакаеш. Яго трэба наблізіць.

Што праўда, то праўда. У Алушце, дзе мацнейшыя сельскія лёгкаатлеты рэспублікі рыхтаваліся да фіналу сельскіх гульняў, кап'ё, нарэшце, праляцела 78 метраў. Праз некалькі дзён у той жа Алушце Мікалай выйграў званне чэмпіёна краіны сярод сельскіх спартсменаў. І зноў яго вынік быў вышэй нарматыву майстра спорту.

Цяпер у нас у рэспубліцы няма кідальніка кап'я, які б мог сапернічаць з Мікалаем у майстэрстве. Сёлета, у сярэдзіне мая, 22-гадовы атлет на рэспубліканскіх спаборніцтвах у Мінску амаль на 7 метраў апярэдзіў рэкардсмена БССР майстра спорту міжнароднага класа Міхаіла Гаралёва.

**Мікола ЧАХОЎСКІ.**

Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# ВУЧЫЦЕСЯ РАЗУМЕЦЬ ШАХМАТЫ

## ДВА РАКУРСЫ ТАКТЫКІ

Вядома мноства пазіцый, дзе стратэгічныя задумы як быццам бы адыходзяць на другі план, даючы галоўную ролю дзеянню, фарсіраванню падзей.

«Нябачнасць» плана рэльефна выступае тады, калі першаступенную ролю набывае **тактыка** — другі неад'емны кампанент працэсу барацьбы. Калі стратэгія дае шахматысту прынцыпы агульнага кіраўніцтва баявымі сіламі, то тактыка патрабуе канкрэтнага падыходу да вырашэння той ці іншай пазіцыі, максімальнага набліжэння да спецыфікі вядзення змагання. Як вобразна заўважыў М. Эйве, «стратэгія патрабуе роздуму, тактыка — праніклівага позірку».

## ДВА ПОГЛЯДЫ НА ТАКТЫКУ

У шахматнай літаратуры паняцце тактыкі нярэдка робіцца сінонімам той ці іншай камбінацыйнай ідэі. Так, напрыклад, майстар Г. Лісіцын у кнізе «Стратэгія і тактыка шахмат» называе асноўнымі элементамі тактыкі адкрыты шах, адкрыты напад і г. д., г. зн. элементы, якія, па сутнасці, належаць да элементаў камбінацыі. Магчыма, гэта і справядліва, паколькі якраз у камбінацыі, яе элементах тактыка набывае сваё найбольш выразнае выяўленне. Але ў больш шырокім сэнсе паняцце тактыкі ахоплівае літаральна **ўсе дзеянні** на шахматнай дошцы, пачынаючы ад самага простага элемента — ходу да самых складаных шматходавых камбінацый. З гэтага пункту гледжання партыя — непарыўны ланцуг дзеянняў, злучаных у адно ўзаемнымі задумамі партнёраў. Гэтыя задумы або пераважаюць над дзеяннем, або ў працэсе вострай гульні адступаюць на другі план.

Значыць, тактыка шахмат — гэта **майстэрства вядзення барацьбы.** Яно ўлічвае баявыя ўласцівасці і асаблівасці фігур і пешак, розныя віды іх узаемадзеяння паміж сабою. Задумы ператвараюцца ў дзеянне шляхам тактычных прыёмаў, аперацый.

Асноваю тактычнай аперацыі з'яўляецца **пагроза.** Пагроза можа быць рознай па сваім характары: пагроза каралю праціўніка, пагроза атрымання матэрыяльнай перавагі, пагроза стварэння ў непрыяцельскім лагеры слабых пунктаў, пагроза размену атакуючых фігур праціўніка і г. д. Па сваім змесце і стане пагрозы вельмі разнастайныя. Гэта падкрэслівае багацце тактычных ідэй.

Існуе вялікая колькасць розных тактычных прыёмаў, самым простым з якіх з'яўляецца, вядома, чарговы ход у партыі. Розныя падрывы і прарывы, удары і контрудары, размен важных фігур праціўніка і г. д.— усё гэта тактычныя прыёмы.

Наступны прыклад паказвае вялікую дзейснасць такіх тактычных прыёмаў, як падрыў і размен.



Б. Kpg1, Фd2, Ле4, Ле1, Kd5; пп. a2, b5, c4, f4, g3, h2 (11).
Ч. Kph7, Фg7, Лf7, Ле8, Cd7; пп. a4, b7, d6, e5, g6, h6 (11).

Заканчэнне. Пачатак гл. «Маладосць» №№ 3, 5 г. г.



У пазіцыі на дыяграме з партыі Горт — Унцыкер (Венецыя, 1969) пасля 28 хадоў белыя знаходзяць рашучы спосаб пераносу атакі на каралеўскі фланг, падрываючы пешачныя задумы чорных у цэнтры: 29. c5! Cf5, 30. Ле3 dc, 31. fe Ле6, 32. Фс3 b6, 33. Фс4 h5.

Нельга 33. ...Ла7 з-за 34. g4! Белыя зрабілі важны абмен сваёй пешкі «с» на пешку «е5» чорных, зрабіўшы тут моцны фарпост для атакі на каралеўскім флангзе.

34. Ф : a4 Лd7, 35. Фс4 Фf8, 36. Kf6+! Л : f6, 37. ef Ф : f6, 38. Ле8 Cd3, 39. Фg8+!, і белыя хутка і паспяхова рэалізавалі перавагу.

Адным з найбольш эфектыўных тактычных сродкаў з'яўляецца **манеўр.**

Што такое манеўр (роля яго нярэдка бывае знешне непрыкметная), можна бачыць на наступным прыкладзе з партыі Алёхін — Тараш (Мангейм, 1914).



Б. Kpg1, Фе1, Ла1, Лf1, Cc4, Kd2, Kf3; пп. a5, b4, c3, d5, e3, g2, h2 (14).
Ч. Kpe8, Фе7, Ла8, Лh8, Cc8, Kd7, Kf6; пп. a6, b7, d6, e4, f7, g6, h7 (14).

1. Kg5!

Здавалася б, што лепш было б накіраваць каня на поле d4, дзе ён быў бы адразу размешчаны вельмі актыўна. Але Алёхін не спяшаецца гэта рабіць. Белыя займаюць поле d4 толькі праз некалькі хадоў: конь робіць маршрут f3 — h3 — f4 — e2 — d4. Ідэя гэтага выдатнага манеўра ў тым, каб спачатку шляхам камбінацыйнай атакі на пункт e4 дамагчыся паслаблення пешачнай пазіцыі чорных і завяваць поле f5.

1. ...h6 (На 1. ...Ке5 вельмі моцна 2. Cb3 Cf5, 3. Ca4+ Kpf8, 4. Cc4), 2. Kh3 Фе5, 3. Лс1 Kg4, 4. Kf4! Конь белых працягвае свой шлях.

4. ...g5, 5. h3 Kgf6, 6. Ke2 K : b5, 7. C : d5 Ф : b5, 8. Kb4.

Манеўр завершаны. І тое, што конь белых урываецца на каралеўскі фланг праз поле f5, вырашае зыход барацьбы.

8. ...Фе5, 9. Кс4 Фd5, 10. Kf5! Kpf8, 11. Kf : d6, і белыя неўзабаве выйгралі.

Тактычныя прыёмы вельмі цяжка класіфікуюцца. Да гэтага часу даволі падрабязна сістэматызавана толькі майстэрства камбінацыі, хоць і тут яшчэ ёсць мноства недаследаваных праблем.

# НОВЫЯ ІМЁНЫ

Рэдакцыя атрымала шэраг шашачных кампазіцый ад нашых аўтараў. Найбольш удалыя з іх прапануем рашыць чытачам.

Супрацоўнік Адэскага шахматна-шашачнага клуба М. Станоўскі і студэнт 5-га курса фізічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Д. Сухарукаў — майстры спорту СССР па шашках. М. Іржаўскі, В. і А. Конанавы, А. Ляхоўскі — пачынаючыя шашачныя праблемісты. А. Пікулік больш вядомы як аўтар шахматных кампазіцый.

Д. Сухарукаў
(Мінск)



Заперці дамку
і дзве простыя

А. Пікулік
(в. Голацк Пухавіцкага р-на)



Выйгрыш

В. і А. Конанавы
(в. Студзёнка Бялыніцкага р-на)



Выйгрыш

М. Іржаўскі
(Савецкая Армія)



Выйгрыш

А. Ляхоўскі
(Савецкая Армія)



Выйгрыш

М. Станоўскі
(Адэса)



Выйгрыш

Падрыхтаваў майстар
спорту СССР
**Мікалай ГРУШЭЎСКІ.**



● Барыс АЛЕЙНІК




Рагаталі фізікі да слёз,
Дактароў усмешка брала лысых:
«У паэта? Грошы?
Жарт, нябось!
У паэта грошы заваліся?!»

Крытык, той праблему ахапіў
Вокам усёбачным і нядрэмным:
«Ну, калі авансам не прапіў,
То цяпер ужо — прап'е напэўна».

Рахаваў зняважліва касір,
Абывацель млеў:
«Жывуць жа, гады!»
А паэт, разгублены зусім,
Пачак скоса акідаў паглядам.

І даўгі ужо разнёс даўно,
І пазычыў крэўным аднадумам,
Толькі у кішэні ўсё адно
Рэшта муляла нязвыклай сумай.

І у галаў хлопцу узбрыло:
Для сям'і прыдбаць такое штосьці,
Каб яно і памяццю было,
Ды і жонка, зрэшт, не грызла косці.

Доўга ля вітрын паэт блукаў
У пошуках прыстойнага тавару.
Сам і не прыкмеціў, як дапяў
Да вірлівай мітусні базару.

Чырванелі кавуны да слёз,
Гарбузы качаліся ад смеху:
«У паэта? Грошы?!
Жарт, нябось!
Заваліся грошы?!
Во пацеха!»
Моўчкі між радоў хадзіў ён, дзе
Выхваляцца усяму ахвота...
Калі зірк — пад самым носам дзед,
У глухім куточку каля плота.

Ну, не дзед... Такі сабе дзядок.
Колькі лыжак, выструганых крута.
Звыкла абапёрся на кіёк,
Вусы звіслыя і самакрутка.

Надта будны з выгляду дзядок,
І тавар зусім някідкі, здэцца...



Толькі вось паэту той кіёк —
Чым,
хто знае? —
вельмі ўжо да сэрца.

На пажоўклым з часу кіялі
Выразаны дрэва ўзор нянаскі.
Што жывыя, пелі у галлі
Птушкі дзіўныя з ляснов казкі.

І гучэлі срэбна галасы,
І звінелі ў сэрцы ціхім рэхам...
— Чуеш, дзеду, ці не прадасі
Ты мне гэты вось кіёк з арэху?

— Чалавеча! — адказаў стары,—
Я б табе аддаў яго і дарам,
Але ён мне з даўняе пары —
Напамінак пра былую кару.

Быў і я шчаслівы калісь. Меў
І дамок, і любую жанчыну,
Покуль на дарозе не сустрэў
Гнуткую прыгожую ляшчыну.

Прыхамаць бывае горай зла...
Дзесяць год лягло ў малюнак гэты.
Гаспадарка, як вада, сплыла,
І пайшла к другому прэч кабета.

Чалавеча, за натхнення мёд
Заплаціў я дорага, прызнацца!..
Выняў тут паэт усё, што меў,
І паклаў да ног старому:
— Нацеl —

Неяк дзіўна ўвесь заззяў стары —
І як аглушыла хлопца громам:
— Калі так — без грошай забяры.
Штось, як гляну,— мы з табой...
знаёмы.

Рагаталі фізікі да слёз,
Дактары ўсміхаліся скептычна,
Як паэт кіёк дадому нёс
Паўз муры, па вуліцах сталічных.

...І астаўся, небарак, адзін
У пакоі, да шчымоты голым.
Толькі часам забягае сын
Да яго употай пасля школы.

Ціхі сум ступае на парог
І сядае у куточку, збоку.
І тады паэтава пяро
Выкрасае іскры дум высокіх.

І тады арэхавы кіёк
Вырастае у жывое дрэва,
І, ажыўшы, кожны ліст, сучок
Дзіва-птушкі асыпаюць спевам.

І выходзіць дрэва на балкон,
Быццам з лесу казачнага тога...
І аж хрыпне з крыку тэлефон:
— Што у вас там дзеецца, яй-богу?!



Цэлы горад стаў супроць акна.
Збіліся таксі, нібы авечкі.
Калі ласка, растлумачце нам.
Разумееце... ў дваццатым веку...—

Рагаталі фізікі да слёз,
Дактары усмешак не хавалі:
— У кватэры? Цэлы лес узрос?!
А, ў паэта!
Так бы і сказалі...

З украінскай пераклаў
П. ЛІПАЙ.

Мал. С. Волкава.



Усмешкі маладосці

# ШУРПАТЫЯ ДУМКІ

● Казалі: «Маўклівы, як сфінкс», а яму проста не было чаго казаць.

● Свята было на носе. Гэта прыкмячалася па насах асобных грамадзян.

● Нават працуючы на халадзільніку, здолеў пагрэць рукі.

● Прозвішча пісьменнік меў, а вось імя ў яго не было.

● Грамадскасць дарэмна спрабавала паставіць п'яніцу на ногі.

● Усё жыццё абіваў парогі... носам.

● Дакладчык за словам у кішэню не лез — усе паперкі былі перад ім на трыбуне.

● Насіў акуляры, каб не бачылі, што касавурыцца на ўсіх.

● Сярод народу пісьменнік бываў толькі на базары.

● Адкрыты чалавек — рэзаў праўду-матку на вачах.

● Так кончыўся марафонец — спіўся з дарогі.

● Помнік баязліўцу: ён сам скамянелы ад жаху.

● Слыху ў яго не было, але пад чужую дудку скакаў добра.

Мікола НОЖНІКАЎ.

# нашы аўтары

**БРОУКА Пятрусь** нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы на Ушаччыне. Аўтар зборнікаў паэзіі «Прамова фактамі», «Гады як шторм», «Цэхавыя будні», «Шляхамі баравымі», «Вясна Радзімы», «Насустрач сонцу», «У роднай хаце», «Сонечнымі днямі», «Дарогай жыцця», «А дні ідуць» і інш., а таксама рамана «Калі зліваюцца рэкі».
Пятрусь Броўка—народны паэт БССР, двойчы лаўрэат Дзяржаўнай і лаўрэат Ленінскай прэміі.

**ПАУЛАУ Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша Любанскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты, у «Чырвонай змене». Цяпер—адказны сакратар кінабюлетэня «На экранах Беларусі».
Аўтар зборнікаў паэзіі «Узлётная паласа», «Далягляд», «Светацені» і кніг прозы «Годы—нашы птушкі», «Пажарніца».

**СМАГАРОВІЧ Марк** нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Забалоцце Акцябрскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар паэтычных кніг «Мой таварыш», «На крыллях песні», «Каля кастра», «Маё выступленне», «Крокі», зборніка вершаў для дзяцей «Жураўліная труба».

**ДУКСА Мар'ян** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.
Працуе настаўнікам у Смаргонскім раёне.
Выдаў зборнік вершаў «Спатканне».

**НАУРОЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Давыдаўка Светлагорскага раёна. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працаваў урачом на Палессі, цяпер—урач хуткай дапамогі ў Мінску. Выдаў зборнікі паэзіі «Неба ўсміхаецца маланкаю», «Гарачы снег».

**ЗАБАЛОЦКАЯ Людміла** нарадзілася ў 1950 годзе ў г. Крычаве. Пасля заканчэння Крычаўскага медвучылішча працавала ў раённай бальніцы. Цяпер—студэнтка БДУ імя У. І. Леніна.

**ВЕРАБЕЙ Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Ліскі на Беласточчыне. Вучыўся ў інстытуце замежных моваў. Выдаў зборнік вершаў «Свежасць».

**БЯСПАЛЫ Змітро** нарадзіўся ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Вожык».
Аўтар кніжак «Лясныя хітруны» і «Сякера пад лаваю».

**ЗВЕРАВА Надзея** нарадзілася ў г. Кастраме. Скончыла педінстытут. Працуе ў рэдакцыі магілёўскай раённай газеты. Аўтар зборніка вершаў «Дзень добры».

**КОЛАС Іван** нарадзіўся ў Лельчыцах у 1923 годзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў ваенным разведчыкам у глыбокім варожым тыле—на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Германіі. Выконваў асабліва важныя заданні Савецкага камандавання.
Цяпер жыве і працуе ў Маскве. Аўтар дакументальных аповесцяў «Варшава в огне», «Рельсовая война в Полесье», «Дядя Клим», «Крушение операции «Винтер», «Прыжок в темноту».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 8**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОУСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕУСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-98-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 12820. Здадзена ў набор 28.VI.71 г. Падпісана да друку 27.VII.71 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 14905 экз. Зак. 334. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**
**Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



А. ХОМІЧ. Хлеб. Дрэва.